# ПОЛЫМЯ РЭВАЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

*КНІГА ЧАЦВЕРТАЯ*

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК—1936

*Уладзімер Хадыка*

# ПЯЦЬ ВЕРШАЎ

1.

На хвалях дзён, на ўздрыгах буры чорнай
Мінуўшы скрозь пяскоў падводных мель—
Праходзіць край хадою непакорнай,
Сталёвы волат, свету карабель.

Прасторна дыхаць грудзям акіяна,
Прывольна рэкам бегчы адусюль...
Пад здольнаю рукою капітана
Не згубіць шлях судно, не здрадзіць руль.

Расце зямля ў берагавых абрысах,
Ўстае з імглы, насустрач мчыць кругом.
Хай там яшчэ крывавы дождж не высах—
Туды мы заўтра з сонцам даплывём.

Хай грозіць шторм і точаць нож піраты,
Хай дзіка рогат чуць ліхой пары—
На бераг ступім мы праз смерць і страты,
Усіх акіянаў свету ўладары.

І вораг схоўні залатога груза
Не разаб'е, не зломіць тлом сваім...
Пяць маршалаў Савецкага Саюза
Найлепшая парука наша ў тым.

2.

Пазалацелі дрэвы. Восень
Сама ад бляску жмурыць вочы.
Па лету ў полі дні галосяць,
І хмелем кветак брэдзяць ночы.

Ўзмахнуўшы ў роспачы рукамі,
Яны імкнуць у сад пад ліпы
І доўга гутараць з вятрамі
Цераз уздыхі і усхліпы.

А ліп знядужаныя цені,
Свой лёс на волю здаўшы слотам,—
Стаяць у лужах па калені
І спяць, стуліўшыся над плотам.

— Напэўна дождж асенні горак...
І ў скутку дум, што слёзы родзіць,
Дарэмна мы шукаем гора—
Яно да сэрца не даходзіць.

І дол, дзе сад губляе лісце,
Не здрыганецца нашым плачам.
Нам варта толькі з хаты выйсці—
Як ўсё пад лад свой перайначым.

Мы ўспомнім дол, дзе куль імжакі
Мы ўсе умелі не баяцца...
Як цяжка там было нам плакаць,
Так лёгка зараз тут смяяцца.

І хай пад свістам непагоды
Цішэе сад і дрэва жоўкне,—
Для нас з табой вясна заўсёды,
Бо на душы вясна не змоўкне.

Бо знаем мы другую восень,
Каторай след у сэрцы вечан—
Акордам родных сугалоссяў
У першай песні чалавечай.

3.

Глядзі, якая перад намі
Гарыць і свеціць зорка...
За каляровымі гарамі
Чуваць твая гаворка.

Спыніўся час і ловіць рэха
Тваіх прыгожых думак.
Даліну вечар пераехаў,
Згубіў дарожны клумак.

Ўсе спадкі трапілі пад полаз
Нябачаных развалак...
Ты сілу слоў ўзяла на голас,
Вярнуцца вечар звала.

Ты рынула вясёлым бегам
Па вечаравы рэчы
І ўсе, абсыпаныя снегам,
Усклала мне на плечы.

Віла ты шчодрыя усмешкі,
Як мы двары міналі.
Табою дораныя снежкі
На мне усе расталі.

І мы, набегаўшыся ўдосталь
За вечарам бяскрайным,
У сумёт без страху селі проста—
Пачуць, што шэпча край нам...

І вось—магутны і нястрымны,
Ён нам махнуў рукою.
Яму зямля запела гімны,
Запелі мы з табою.

Ад цёмных хмар ў надземнай зоне
Не засталося следу.
Зусюль палкі на белых конях
На слова краю едуць.

На ўсіх сваіх вялікіх мовах
Ён аддае загады....
Не дрэвы ў вопратках зімовых—
У панцырах атрады.

Ідуць, гатовыя заўсёды,
Гартаваныя звеку.
Няма на свеце перашкоды
Байцу і чалавеку!..

Хай гэта сон, хай нам здалося—
І сон мы робім явай.
На дзень наш неба занялося,
Авеянае славай.

І ты ў маім прайшлася сэрцы
Усходняю зарою.
Клянуць балот апошніх чэрці
Агонь твайго настрою.

Над каляровымі снягамі
Звініць твая гаворка...
Глядзі—якая перад намі
Гарыць і свеціць зорка!..

4.

Яшчэ зіма зямлю трымае,
Даліна рэк закута ў лёд.
А з сіняй далі песні мая
У душы адзначылі прылёт.

І цэлымі хаджу я днямі,
Ў блакіт напружваючы зрок.
Гарыць румянымі агнямі
На сонцы кроў здаровых шчок.

Пачуццяў згушчаных прадвеснію
Такому загадзя я рад,
Усё залацей і ўсё пачэсней
Маёй радзімы далягляд.

У гэтай гордасці не звянеш,
Не страціш сіл, узнятых тут.
І дзіўна робіцца, як глянеш—
Што рвалі іх віхуры смут.

Што ў гэту шыр, хто мог прыходзіў
Пад кожны дах і кожны дом—
Бляяць хлуснёю аб народзе,
Малоць шляхетным языком.

5.

Старой зямлі адвечны сполах
Сплывае ў досвітным разліве.
І дні імчаць, нібы на колах,
Усё весялей, ўсё гаманлівей.

Ўсё больш агніста сонца свеціць,
Ўсё больш радней у даль дарога...
Ўсё больш і больш у нашым свеце
Здаровага і маладога.

Іржой цямніц разбітых страчан
Апошні пыл атрутнай гнілі.
Яшчэ такога свет не бачыў,
Каб мы жыццё мацней любілі.

Народнай радасцю абвіты
Ў шчаслівы дом праменны ганак...
Для нас і намі ўсё здабыта,
Для нас і намі збудавана.

І не варожба, не малітвы
Былі святлом вачам узнятым:
Нас край бярог на полі бітвы,
Нас край галубіў за варштатам.

І там, дзе з ім яшчэ учора
Палкі варожыя мы білі—
Ўзвялі пачэснай працы хорам,
Квятлівы сад мы насадзілі,

І на ўвесь свет разросся гоман,
Вясёлы гоман дрэва долі...
Мы чыстату яго нікому
Псаваць і брудзіць не дазволім.

Чырвоны цвет ад белай сцюжы
Сваім дыханнем мы сагрэем...
На варце кожны з нас адужаў—
Мы ў нашай працы не старэем.

Таму і думка не бянтэжыць,
Што маладосць прамчыць з званкамі
І галаву гады аснежаць—
Мы будзем сэрцам юнакамі.

Ішлі мы з чорнага балота,
Гнілі трупы вякоў усюды...
Няхай ад іх на нашых ботах
Яшчэ багата ліпне бруду—

Трубіць аб заўтрашнім паходзе
Другое шчасце будзе змене—
Прыходзіць, няснёнае ў народзе,
Наступнай славы пакаленне!

Прыходзь, гадуйся і выростай,
Займай нязломнаю хадою
Стагоддзяў новых аванпосты,
Здаровае і маладое!..

*Міхась Зарэцкі*

# НАЯ

*П'еса ў 3-х актах, 7-мі карцінах*

**АСОБЫ:**

**Якуб**—вандроўны цыган, 45 год.
**Зора**—яго жонка, 35 год.
**Андрэй**—іхны сын 17 год.
**Мар'яна**—маці Якуба, 70 год.
**Ная**—дзяўчынка-цыганка, 10 год.
**Юзік**—піонер, 12 год.
**Мікіта**—піонер, 13 год.
**Цётка Тацяна**—старшыня калгаса.
**Гарасім**—брыгадзір.
**Дзед Савасцей**—калгасны стораж.
**Таварыш Кунарскі**—прадстаўнік з горада.
Начальнік раённай міліцыі.
Калгаснікі, калгасніцы.

## АКТ ПЕРШЫ

### КАРЦІНА І.

Зжатае поле, пазастаўлянае снапамі ў бабках. У глыбіні сцэны—кусты. Белая месячная ноч. Пад аднэй бабкай сядзіць дзед Савасцей, каля яго—Юзік і Мікіта. Мікіта дрэмле, а Юзік расказвае дзеду казкі.

Юзік. А вось яшчэ, дзядулька, казка пра залатога птаха..: За гарамі, за даламі, за марамі, за лясамі; паміж небам і зямлёй жыў адзін стары садоўнік. А сад у яго быў, дык ай-яй-яй! Яблык розных, ігруш, сліў, усяго ўсякага... Каб гэта нам з Мікітам у той сад—Мікіта, чуеш? *(Мікіта нешта мыркае скрозь сон)*—дык мы-б не ведалі, што і рабіць. Дык вось... Быў такі вялікі сад... І вось унадзіўся лётаць у гэты сад залаты птах. Як толькі ноч, дык ён і тут. Вялізны такі, бліскучы, як агонь. Ня столькі з'есць, колькі дрэў папсуе, бо лісцё, вецце, суччa—усё гэта смылела ад яго... Цяпер ужо няма такіх птушак, а даўней былі. Праўда, дзядулька?

Савасцей. *(сур'ёзна)* Пэўна, што былі.

Юзік. І цмокі-ж, дзядулька, таксама былі?

Савасцей. І цмокі былі.

Юзік. І ведзьмы, і бабы-ягі...

Савасцей. А няўжо-ж.

Юзік. І кашчэі?

Савасцей. Былі і кашчэі.

Юзік. А чарцей, дык—уга! Усякага татунку...

Мікіта *(раптам пырскае і заходзіцца ад смеху: Юзік таксама смяецца).*

Савасцей. Ах вы, шэльмы! Дык гэта вы смяяцца з старога? Вось я вам задам... Пашлі жыта пільнаваць, пікеты няшчасныя!..

Юзік. Пойдзем. Мікіта, зробім абход *(ідуць направа, але праз момант Мікіта варочаецца.)*

Мікіта. А ведаеце, дзядулька,—вы зусім дарэмна на цыганоў наракалі, нібы яны каласы пазбскубвалі. Гэта зусім не яны.

Савасцей. А хто-ж па-твойму?

Мікіта. *(таямніча)*. Гэта, напэўна, залаты птах...

Савасцей. Ідзі ты, паскуда! *(Замахваецца на Мікіту, той, смяючыся, уцякае)*. Цьфу, блазнюкі! *(Дастае капшук, набівае люльку)*. Яны мне гавораць—не цыганы... Я цыганскую натуру ўжо ведаю, ого! Гэтулькі перабачыў іх на сваім вяку. Э, не! Мяне ўжо, мой даражэнькі, не ашукаеш, няпраўда! *(Кладзе капшук побач з сабой і пачынае, гучна цмокаючы, распальваць люльку. З бабкі паціху высоўваецца невялічкая рука і, ўзяўшы капшук, зноў хаваецца)*. Толькі раззяў рот, дык яны ў цябе з-пад самых рук... *(Грабае па зямлі, шукаючы капшука, няўцямна азіраецца навокал)*. Няйначай—піонеры падкраліся. Ах вы, падшывальцы! Чакайце-ж, зараз я вас спасцігну!.. *(Ідзе ў той бок, куды пабеглі хлопцы. Пасля невялічкай паўзы з бабкі вылазіць цыганка Ная. Яна асцярожліва азіраецца, потым выцягвае з бабкі поўна напханы мяшок і валачэ яго пад кусты)*.

Ная *(пераймаючы птушыны свіст)*. Ціў... Ціў...

(З кустоў выходзіць цыганка Зора)

Зора. Давай сюды, давай...

Ная. Вось дзядзьку табака—у старога скрала... з-пад самых рук...

Зора. А мая-ж ты любачка, мая ты красачка... Якая спрытная, якая разумная!... На табе, дзетухна, пустую торбу, паскубі яшчэ каласкоў...

Ная. Тут стораж ходзіць. І піонеры прышлі яму памагаць. Я ад іх у бабку была схавалася.

Зора. Маладзец, мая зязюлечка... Ну, ідзі скоранька!

Ная. Я баюся...

Зора. А ты зноў, калі што, у бабку схавайся. Ночка відная сёння, здалёку ўбачыш...

Ная. Я не пайду. Я не хачу.

Зора. Ідзі, даражэнькая! Ідзі, залаценькая!

Ная. Не хочу.

Зора *(злосна)*. А есці ты хочаш, шчанё праклятае? Хочаш, каб дзядзька зноў за цябе ўзяўся, га? Мала табе ўчора было? *(Ная моўчкі бярэ торбу і адыходзіць)*. Я буду чакаць цябе там, каля дарогі. Чуеш? *(Знікае ў кустах. Ная паціху ідзе налева. Праз нейкі час з правага боку паказваюцца Юзік і Мікіта—яны цішком крадуцца, хаваючыся за бабкамі і падаюцца налева, туды, куды пашла Ная. Паўза. Потым чуваць прарэзлівы крык Наі і галасы хлапцоў:—«Ага! Папалася!» «Стой не ўцячэш!» «Трымай яе!» Юзік і Мікіта выводзяць на сцэну Наю)*.

Мікіта. Дык вось ён які, гэты птах!

Юзік. Вось што... Я буду пільнаваць птаха, а ты бяжы, дзеда пашукай. Ну, хутчэй! *(Мікіта выбягае направа, Юзік вядзе Наю да бабкі.)* Сядай тут пакуль што. *(Абое сядаюць пад бабкай)*. Як цябе завуць? *(Ная маўчыць)*. Ты не хочаш са мной гаварыць? *(Ная маўчыць)*. А, у цябе напэўна няма языка! *(Ная энергічна паказвае яму язык)*. О, язык акуратны!

Ная. Мяне завуць—Ная.

Юзік. Ная? Нейкае недарэчнае імя—я такога ні разу не чуў. Вось таго хлопца, дык таксама—Мікітам завуць. Проста смех...

Ная. Мяне так празвалі, бо я малая. Ная—гэта во, пазногцік...

Юзік. Ага, пазногцік.... А мяне завуць—Юзік *(Паўза)*. Ты там, у цыганоў жывеш?

Ная. Я-ж цыганка, што ты не бачыш?

Юзік. Чаму не бачу? Чорная, як галавешка... Што ты ў іх робіш?

Ная. *(Ажывіўшыся)*. А я ўмею гадаць. Давай руку, пагадаю. *(Хапае Юзіка за руку і пачынае прыгаварваць грубым манатонным голасам)*. Жыццё тваё, мой галубок, як рэчка быстрая, як вада кіпучая. Стаіць у цябе на дарозе адна чарнявая, падсцерагае долю тваю несуверную. Беражыся, хлопча, чарнявае—праз яе будуць табе мукі сардэчныя, болі душэўныя... Чакаюць цябе, мой залаценькі, вялікія грошы, будзеш трымаць іх у руках і не спажывешся... Шчасце тваё багатае, ды кароткае. Будзеш мець восмера сыноў і адну дачку, адну красную, ясную, уцеху шчасную...

Юзік *(перш уважна слухае, потым вырывае руку)*. Годзе! Напляла няма ведама чаго... Дык ты гэтым займаешся? Нікчэмная прафесія! А яшчэ што ты робіш?

Ная. Скачу.

Юзік. Ну, скакаць, дык гэта кожны дурань патрапіць.

Ная. Я не так проста, я прыгожа скачу, розныя танцы. Мне за гэта многа-многа грошай даюць, іншы раз поўную шапку назбіраем.

Юзік. Што-ж ты робіш з гэтымі грашмі?

Ная. Як—што? Дзядзьку аддаю. Ого, паспрабуй схаваць ад яго хоць капейку! Нават ўсё аддасі і то ён чэпіцца, што мала сабралі.

Юзік. Дык ты зусім не скачы, калі ён гэткі.

Ная. Ага, не скач... Ён-жа прымушае! Калі-небудзь, дык проста ног пад сабой не чуеш, а ўсё скач, ды скач... пакуль зусім не павалішся.

Юзік. Ён цябе б'е?

Ная. Яшчэ як б'е! І бізуном, і кулакамі, і ўсяк... Я—здаровая, я ўсё магу вытрымаць. *(Горда)*. Учора, дык вунь якога гузака пасадзіў.... на вось, памацай!

Юзік *(мацае яе галаву)*. Ой-ёй! Які вялізны гузак! І ты гэта церпіш ўсё, га? Ты маўчыш?

Ная. Калі я пажалюся каму, дык ён заб'е мяне. Ты не ведаеш, які ён страшны.

Юзік. А бацькі ў цябе ёсць?

Ная. Уга, бацькоў і звання няма. Я-ж сірата, я ў іх змалку жыву. Яны мяне ўсё прымушаюць рабіць. Яны і сюды паслалі мяне. Я не хацела ісці, баялася..

Юзік. Якая ты няшчасная, Ная!

Ная. Я ўцяку калі-небудзь ад іх. У мяне ёсць брат недзе ў горадзе, я падслухала раз, як дзядзька з цёткай пра яго гаварылі. Я знайду яго.

Юзік. Ты ведаеш, дзе ён жыве?

Ная. Не, не ведаю. Я яго нават не помню зусім. Але я ўсёроўна пазнала-б яго. Ён, пэўна, прыгожы такі, вялікі, добры.... Ён нікому не дазволіць крыўдзіць мяне.

Юзік *(горача і рашуча)*. Мы паможам табе, Ная! Я пастаўлю пытанне ў сваім атрадзе, раскажу ўсё чыста пра цябе, пра тваё жыццё. Мы цябе вызвалім, не бойся!

Ная. Пусці мяне, Юзік! Я больш ніколі-ніколі не пайду красці!

Юзік *(у захапленні)*. Мы не дазволім, каб нейкія разбойнікі, нейкія бандыты здзекваліся так з чалавека! Мы не дапусцім такой звярынай эксплаатацыі!

(Уваходзяць дзед Савасцей і Мікіта)

Савасцей *(крычыць у тон Юзіку)*. Гэта яна і капшук мой з табакай украла! Ах ты, зладзюга! Ах ты, насенне чортава! Я табе пакажу, як добрых людзей ашукваць! *(Кідаецца да Наі, хоча яе біць)*.

Юзік *(заступае яму дарогу)*. Не чапайце, дзед! Няможна біць яе!

Савасцей. Як гэта няможна? Цыганёнка няможна? Пусці, шчанюк, а то і табе пападзе разам з ёй!

Юзік *(рашуча становіцца перад ім)*. Не пушчу! Біце мяне, калі хочаце, а яе не дазволю. Мікіта, сюды! *(Становяцца абодва перад Савасцеем, загароджваючы Наю. Дзед стараецца іх адпіхнуць. У час гэтае валтузяніны Ная ўцякае ў кусты)*.

Савасцей *(распіхаўшы, нарэшце, хлопцаў)*. Вось я табе!.. *(Азіраецца)*. Дзе-ж яна дзелася?

Мікіта. Лавіце яе! *(Кідаецца да кустоў)*.

Юзік. Стой! *(Хапае яго за руку, адводзіць у бок і гаворыць таямнічым, прачулым голасам)* Мікіта, братачка! Каб ты толькі бачыў, які на галаве ў яе страшэнны гузак!

## КАРЦІНА

Вуліца ў калгасе „Новая праца". Чыста, па святочнаму прыбрана. У цэнтры—вялікі новы дом, з якога чуваць водгалас музыкі і вясёлае гутаркі. З шумам і гоманам праходзіць гурток моладзі, уваходзіць у дом. Туды-ж з урачыста-важным выглядам ідуць некалькі сталых калгаснікаў. З левага боку паказваецца цыганка Зора. Яна праходзіць паўз дом, зазірае ў вокны.

Зора. Дажынкі спраўляюць. Сталы пастаўлены, на сталах—усяго-усякага. І бліны, і скваркі, і мяса... *(Прыцмокваючы языком, адыходзіць направа, але за вуглом дома спыняецца і пачынае поркацца ў сваіх клумках. На сцэну ўваходзіць Гарасім. Ён затрымлівае аднаго калгасніка, які ідзе ў дом).*

Гарасім. Пакліч там старшыню. Скажы, што дужа пільная і сакрэтная справа.

Калгаснік. Добра, скажу. *(Ідзе ў дом. Праз момант выходзіць Тацяна.)*

Тацяна. А, Гарасім! Ну, што ў цябе за справа такая сакрэтная?

Гарасім *(таямніча)*. На тэрыторыі нашага калгаса знаходзяцца злачынцы.

Тацяна. Што ты, Гарасім? Якія злачынцы?

Гарасім. Злосныя.

Тацяна. Хто-ж яны, гэтыя злосныя злачынцы?

Гарасім. Цыганы.

(Зора, стоячы за вуглом, насторожана прыслухоўваецца)

Тацяна. Што, ізноў у каго-небудзь курыцу ўкралі?

Гарасім. Толькі што званілі па тэлефону з калгаса «Чырвоныя зоры». У іх гэтымі днямі прапала пара коней. Падазрэнне на іх...

Тацяна. Ага, вось яно што... Ты яшчэ нікому аб гэтым не гаварыў?

Гарасім *(паказваючы жэстам, што ён умее маўчаць)*. Магіла...

Тацяна. Ну, і добра. Я зараз пазваню, куды трэба, праверу, а тым часам трэба неўзаметку прыгледзець за імі. Разумееш?

Гарасім. Чаму не разумею? Я ў гэтых справах сёе-тое кумекаю. Галоўнае, каб у іх ніякага падазрэння не было, што мы нешта ведаем. Правільна?

Тацяна. Так, так. Ну, я пайду. *(Выходзіць)*.

Гарасім *(сам сабе)*. Галоўнае, не траціць ні аднае хвіліны... *(Пазірае на дом, у якім спраўляюць дажынкі, і, хвіліну павагаўшыся, уваходзіць у дзверы. Праз сцэну паспешна цюпае дзед Савасцей)*.

Савасцей. Каб хаця не спазніцца, бо яны гатовы без мяне і баль увесь скончыць. Хто позна ходзіць, той сам сабе шкодзіць.

Зора *(выходзіць з-за вугла)*. Дзядзька, а дзядзька! Дай, галубок, ручку—пагадаю. Усю праўду скажу, усю долю тваю разгадаю. Што было, што будзе, чаго не было і не будзе—усё пазнаеш, родненькі, усё-чыста скажу табе. Дай ручку, золатка!

Савасцей. Аддай перш мой капшук з табакай, што плюгаўка твая на полі сцягнула.

Зора. Каб мне так сонца не ўбачыць, як я ніякага капшука ў

вочы не бачыла. Грэх, мой дарагі, на чэсных цыганоў усякае ліха ўзводзіць. Дай ручку, дай пагадаю. Дарма пагадаю, ні капейкі з цябе не вазьму. Хачу табе праўду сказаць.

Савасцей *(вагаючыся)*. Набрэшаш толькі. Я ўжо вашу цыганскую натуру знаю.

Зора. Да-душы, праўду скажу, каб я так з дзеткамі сваімі гаварыла. Калі скажу няпраўду—можаш сабе не паверыць. Век пражыла—не маніла, дык і табе не зманю.

Савасцей *(яшчэ больш вагаючыся, убок)*. Можа згадае, ці дасць праўленне прэмію за ўдарнае старажоўства? *(Сцеражліва азіраецца на вокны)*. Ну, толькі хутчэй: мне няма часу.

Зора *(гадае)*. Жыццё тваё, мой галубок, як рэчка быстрая, як вада кіпучая. Стаіць у цябе на дарозе адна чарнявая, падсцерагае долю тваю несуверную. Беражыся, дзядзька, чарнявае—праз яе будуць табе мукі сардэчныя, болі душэўныя...

Савасцей *(вырывае руку)*. Цьфу, цьфу! Халерыя! Толькі на дажынкі спазнюся праз гэту назолу... *(Узыходзіць на ганак, потым абарачваецца)*. Аддавай капшук, я табе кажу!

Зора. Мой даражэнькі! Што цыгану ў рукі папала, то прапала... Вынесі хлеба кавалачак, не пашкадуй—не сваё-ж гэта, калгаснае.

Савасцей. Як гэта—не сваё? А чыё-ж яно, калі не маё? Ды можа я першы чалавек тут у калгасе?

Зора. Вынесі хлеба кавалачак, скварку маленькую. Дай душу пацешыць, дзядзечка!

Савасцей *(навучальна)*. Калі хочаш з усімі есці, дык ідзі з усімі і працаваць, а няма чаго тут цыганіць. У калгасе цыганоў не палагаецца. *(Ідзе ў дом. На сцэну выходзяць Таццяна і Кунарскі)*.

Таццяна. Дык ты ўжо едзеш, Кунарскі, пакідаеш нас?

Кунарскі. А што мне тут рабіць? У вас такая цяпер работа пашла, што лепш і не трэба.

Таццяна. Выклікаюць?

Кунарскі. Другую тэлеграму ўжо атрымаў.

Таццяна. Ну што-ж... Дзякуй, што памог разварушыў нас троху.

Зора. Дзень добры, таварышы-галубочкі! З дажынкамі вас... Дай божа вам добрае ўдачы, каб усяго было—і сабе, і людзям, каб і нашага брата ласкай не абміналі.

Таццяна. Ізноў ты цягнешся тут! Няма табе занятку ніякага.

Зора. Дай руку, маладзічка прыгожая, дай пагадаю.

Кунарскі. Гэта, цётачка, не маладзічка, а таварыш старшыня калгаса.

Зора. Дай, таварыш старшыня, пагадаю. Пра калгас табе пагадаю, усю праўду скажу, начальніца. Ці будзе жыта радзіць, ці будзе жывёла весціся, ці будзе ў цябе лад і парадак.

Кунарскі *(смяючыся)*. Цётачка! Трэба табе змяніць прафесію: за варажбу ў нас працадзён не налічваюць.

Зора *(углядаецца ў Кунарскага)*. Дзядзечка! А ты-ж і сам цыганскага роду. Па вачах бачу, мой залацэнькі,—цыган, чысты цыган. Грэх табе здзекавацца з свайго чалавека.

Кунарскі. Хто з цябе здзекваецца, цётачка? Я-ж і сам, ба-

чыш, змяніў прафесію і дужа здаволены гэтым. Чаму-б і табе не ўзяцца за якую-небудзь карысную працу. Хоць бы ў калгас паступіць, парабіць разам з усімі?

Зора. Не ўжо, мой галубок, пражыўшы век адным хлебам, на другім толькі зубы паломіш... *(Да Тацяны)*. Не хочаш гадаць, начальніца? Ну, не хочаш—не трэба...

Тацяна *(строга)*. Ідзі, ідзі, грамадзянка! Тут ты не знойдзеш сабе спажывы, дарма толькі ногі пазбіваеш.

Зора. Ой, не будзь такая сярдзіта, мая красачка! Хто беднага цыгана не пашкадуе, таму і шчасця на веку не будзе. *(Адыходзіць, пільна азіраючыся на Кунарскага. За вуглом дома спыняецца, прыслухоўваецца)*.

Кунарскі. Недзе я бачыў гэту цыганку... *(Патужна стараецца ўспомніць)*. Дзе я мог яе бачыць?

Тацяна. Дык ты папраўдзе цыган? А я думала—жартуеш.

Кунарскі. Самы сапраўдны цыган. Некалі змалку таксама вось валачыўся з бандай, жыў у шатрах, на калёсах, жабраваў, цягнуў, калі дзе што дрэнна ляжала... *(Сядаюць на лаўку перад домам)*.

Тацяна. Ты прабачай, Кунарскі, але я проста скажу: нікчэмнае жыццё вашых цыганоў.

Кунарскі. Так, ты праўду кажаш—нікчэмнае жыццё. Нікчэмнае і няшчаснае, Тацяна. Усюды, ва ўсім свеце ганяюць іх, як праблудных сабак, за людзей не лічаць, забараняюць жыць у цэлых краінах, выдаюць супроць іх спецыяльныя законы. А яны—дурні—гатовы лепш здохнуць з голаду, чымся жыць сталым чалавечым жыццём.

Тацяна. Не, ня ўсюды, у нас ужо мала асталося такіх валацуг. Наша жыццё і іх на свой лад пераварочвае.

Кунарскі. А вось-жа пнуцца некаторыя і ў нашым жыцці знайсці сабе цёмную шчыліну. Бачыш ты яе! Яна ўжо гатова табе і пра калгас пагадаць! Яна, калі хочаш, вываражыць табе, ці выканаеш ты свой вытворчы план, ці пападзе твой калгас на чырвоную дошку! Эх, ты, праклятая цыганская доля!

Тацяна. Ну, а сам ты як з гэтай праклятай доляй расквітаўся?

Кунарскі. Гэта, Тацяна, страшная гісторыя! Восем год таму ўжо як яна здарылася. Мой бацька разам з сваімі сябрамі коньмі займаўся. Купляў, прадаваў, мяняў... ну, і яшчэ сяк-так прамышляў... разумееш? І вось неяк накрылі іх у аднэй вёсцы. Узбураныя сяляне напалі на табар і, пакуль падаспела міліцыя, зрабілі самі свой суд... У той дзень я згубіў усю сваю сям'ю...

Тацяна *(спачувальна)*. Адразу ўсіх?

Кунарскі. Не, праўда, не ўсіх... Асталася яшчэ маленькая сястрычка—двух год—але ўсё роўна, што і не было яе. Казалі, нібы падабралі яе нейкія цыганы і звезлі з сабой, але куды—няма ведама... Мне неяк удалося тады ўцячы і я пайшоў, куды вочы глядзяць. Трапіў у горад, паступіў на завод, троху вучыўся... Так вось і вырабіўся з бадзякі-цыгана на звычайнага грамадзяніна.

Тацяна. А як-жа сястра?

Кунарскі. Спрабаваў я потым шукаць яе, ездзіў, распытваў, не прапускаў ніводнага цыгана, але не знайшоў ніякага следу. *(Сум-*

*на).* Я вось выбраўся з гэтага бруду, а яна недзе гібее яшчэ, калечыць сваю маладую душу.

Таццяна. Ну, не тужы, Кунарскі, знойдзецца неяк. Пойдзем вось з намі дажынкі гуляць, павесялімся напаследак. Чуеш, якая там весялосць?

Кунарскі. Добра рабілі, дык добра і гуляюць. *(Ідуць у дом. На сцэну выходзяць Юзік і Мікіта).*

Мікіта. Юзік! Тут-жа сёння дажынкі спраўляюць. Можа і мы з табой паспрабуем ушыцца туды, га? Як ты мяркуеш? Мы-ж таксама жыта сцерагчы хадзілі.

Юзік *(усхвалёвана).* Важаты кажа, што атрад не мае права мяшацца у такія справы. Як гэта—не мае права? Якое тут права, калі дзяўчынку забіваюць зусім, калі абыходзяцца з ёй горш, як з жывёлай?

Мікіта *(сумна).* Мусіць малых не пускаюць туды. У калгасе і то няма роўнапраўя нашаму брату.

Юзік. Ён не разумее, якая яна няшчасная! Ён не бачыў, які на галаве ў яе страшэнны гузак!

Мікіта *(зазірае ў вакно).* Ой-ёй! Бліны са скваркамі. *(Уздыхнуўшы).* Ах, як-жа я люблю гэтыя бліны! Здаецца, еў-бы іх, еў бясконца...

Юзік. Мікіта! Ты друг мне ці не?

Мікіта. Ну, друг...

Юзік. Ты мне не здрадзіш у цяжкую хвіліну?

Мікіта. А што?

Юзік *(рашуча).* Я ўсёроўна павінен ратаваць Наю.

Мікіта. А можа пачакаеш троху? Пастанавілі-ж перадаць гэту справу ў сельсовет.

Юзік. Пакуль сельсовет разбярэ, дык цыгане з'едуць адсюль і тады—шукай ветра ў полі!

Мікіта. Ну, а што ты думаеш рабіць?

Юзік *(урачыста).* Мікіта! Дай мне шчырае піонерскае слова, што ты не адступішся, што ты да канца будзеш памагаць мне ў гэтай справе.

Мікіта *(таксама ўрачыста).* Шчырае піонерскае слова!

Юзік. Дык слухай цяпер. У Наі ў горадзе ёсць брат. Ад яе хаваюць гэта, але яна падслухала, як гаварылі пра гэта цыганы. Яна не помніць зусім гэтага брата, але кажа, што ўсёроўна пазнала-б яго, каб убачыла. Дык вось... мы падгаворым яе ўцячы з табара, завядзем яе ў горад і паможам ёй знайсці брата. Разумееш?

Мікіта. А ты прозвішча яго і адрас ведаеш?

Юзік. Не, не ведаю.

Мікіта А яна ведае?

Юзік. Дзе ты бачыў!

Мікіта. Ну, дык шукай ветра ў полі!

Юзік. Дурны ты! У горадзе ўсё можна знайсці, гэта-ж не ў лесе. Там ёсць такі адрасны стол, на якім усе жыхары папісаны. Або можна ў газету абвестку даць—я сам на свае вочы такую абвестку бачыў: «шукаю Сеню Бернара, рыжага з чорным ашыйнікам»...

Мікіта. Ну, што-ж, паспрабуй.

Юзік. А ты? Такое твае шчырае слова?

Мікіта (горда). Мікіта Шыцік слова сваё трымаць умее!

Юзік. Значыць, будзеш мне памагаць?

Мікіта. Лічу непатрэбным больш гаварыць аб гэтым.

Юзік. Дай руку!

Мікіта. Ну, пашлі! Трэба зараз-жа зрабіць дзве рэчы: па-першае, правесці аператыўную разведку і, па-другое, распрацаваць падрабязны план дзеянняў. Гайда, Мікіта!

Мікіта (ласа пазірае на вокны). А можа ўсётакі, Юзік, ушыемся, Га? Можа, часам, і не прагоняць?

Юзік. Кінь ты, Мікіта! Нам з табой трэба справай займацца, а брынды біць заўсёды паспеем! Хадзем! (Цягне яго за руку).

Мікіта (адыходзячы). Бліны са скваркамі... Ай-яй-яй-яй!.. (Пашлі. Момант сцэна пустая. Потым расчыняюцца дзверы дома і адтуль разам з бадзёрымі гукамі гармоні, з вясёлым гоманам, тлумам вырываецца цэлая плойма хлапцоў і дзяўчат. Яны купкамі рассыпаюцца па вуліцы перад домам, смяюцца, жартуюць, дзяўчаты запяваюць дажынкавую песню. Як праспявалі песню, гарманіст грае польку і некаторыя скачуць. Пад час танца нехта крычыць: «Цыганы! Цыганы ідуць!» Усе абарачваюцца, узіраюцца ў бок. Танцы і музыка спыняюцца. Адтуль, куды ўсе глядзяць, далятаюць гукі цымбал, якія паступова ўзмацняюцца. На сцэну ўваходзяць Андрэй і Ная).

Андрэй. Дзень добры, гаспадары-калгаснікі! З дажынкамі вас віншуем, з ураджаем багатым, з жыццём заможным. Можа пацешыць вас, людзі добрыя, нашымі песнямі, ды скокамі цыганскімі?

Галасы з натоўпу. Давай, давай! Калі ласка! Просім! (Андрэй сядае на лаўцы, бярэ некальні акордаў на цымбалах. Ная стаіць, прытуліўшыся да яго. Калгаснікі абступаюць іх шчыльным колам. Да іх далучаюцца Таццяна і Кунарскі, якія выходзяць з дома).

Андрэй. Праспяваю вам, таварышы, новую песню, яшчэ неспяваную, для вас спецыяльна складзеную, песню пра калгасны ўраджай. Вось паслухайце, калі ласка... (Грае на цымбалах і спявае).

Выйдзі, выйдзі ў чыста поле.
Паглядзі, чыё там жыта
Шэпча коласам налітым
Пра шчаслівую, пра долю?

Каго хочаш запытай—
То калгасны ураджай.

У чыіх садах так нізка
Пазгіналіся галіны
Пад гарой апортаў вінных
І антонавак сачыстых?

Каго хочаш запытай—
То калгасны ураджай.

Чыё стада там, ля рэчкі,
На зялёнай на аблоні?
У каго такія коні,
І каровы, і авечкі?

Кага хочаш запытай—
То калгасны ураджай.

Хто гасцей так сустракае?—
На стале кілбасы, скваркі,
А да скваркі будзе й чарка,
Бо ўжо звычка ў нас такая...

Каго хочаш запытай—
То калгасны ураджай.

(Кончыўшы спяваць, Андрэй устае, кланяецца. Усе пляскаюць у ладкі. Крычаць: „Брава!“ „Здорава!“ „Маладзец, цыган!“ „Праспявай яшчэ!“. Андрэй сядае і пачынае граць вясёлы танец. Ная выходзіць на сярэдзіну кола і скача. Усе з напружанай увагай сочаць за ёй, усе захапляюцца яе лёгкімі спрытнымі рухамі. Калі яна скончыла, выбухае цэлая бура воплескаў. Кунарскі, усхваляваны, падыходзіць да Наі, ласкава абнімае яе).

Кунарскі. Дзяўчынка! Скажы, як цябе завуць?

Ная. Мяне завуць Ная.

Кунарскі *(расчаравана)*. Ная... Ная... Нейкае дзіўнае імя... *(Пяшчотна гладзіць яе па галоўцы)*. Якая ты спрытная, Ная! Як ты прыгожа танцуеш! Табе вучыцца трэба, у балет паступіць... *(У гэты момант у натоўпе з'яўляецца Зора. Убачыўшы Наю з Кунарскім, яна кідаецца да іх і рэзка адцягвае Наю за руку)*.

Зора. Ну, чаго стала, раззявіўшы рот? Людзей не бачыла? Ідзі да хаты, паскудніца! *(Злосна штурхаючы, выводзіць яе са сцэны.)*

Кунарскі. Недзе так і сястрыца мая па свеце цягаецца... *(Памаўчаўшы)*. Эх, дай-тку і я ўспомню сваю старую цыганскую практыку. Зайграй, хлопча, што-небудзь вясёлае... Такое, ведаеш... самае весялейшае!..

Андрэй грае на цымбалах, Кунарскі скача, усе прысутныя дружна пляскаюць у ладкі).

*ЗАСЛОНА.*

## АКТ ДРУГІ

### КАРЦІНА III

Цыганскі табар на ўзлессі. У глыбіні сцэны—брудны шацёр, каля яго старыя калёсы з будай. Бліжэй да авансцэны раскладзен агонь, на ім старая Мар'яна варыць нешта ў вялікім казане. Побач з ёй Ная чысціць бульбу. Яна дужа змораная і ледзве стрымлівае дрымоту.

Мар'яна *(пяе)*:

Што мне гора,
Што бяда!—

Я цыганка малада!

Цір-бір-бом,
Цір-бір-бом..

Я цыганка малада!

Мне не трэба
Пышных шат,

Раззалочаных палат.

Цір-бір-бом,
Цір-бір-бом...

Раззалочаных палат...

Дзе шуміць
Зялёны бор,

Там бялее мой шацёр.

Цір-бір-бом,
Цір-бір-бом...

Там бялее мой шацёр.

Буйны вецер
З-пад дуброў

Сцеражэ маё дабро.

Цір-бір-бом...
Цір-бір-бом...

Сцеражэ маё дабро.

Цёмнай ноччу
У вышыні

Зоры паляць мне агні.

Цір-бір-бом,
Цір-бір-бом...

Зоры паляць мне агні,

Каб жылося
Весялей,

Мне спявае салавей.

Цір-бір-бом,
Цір-бір-бом...

Мне спявае салавей...

Каб яно спрахла, такое жыццё! Пяты дзень адну гэту нішчымную кашу з жыта варым. За цэлы тыдзень першы кошык бульбы накапалі, гультаі няшчасныя. Нібы і поля людзкога няма! Самі, ходзяць там, наласуюцца, а мне, старой, каб хто хоць панюхаць чаго прынёс...

Н а я. У мяне, бабулька, за цэлы дзень макавае расінкі ў роце не было. Я на нагах ледзве стаю з голаду.

М а р ' я н а. Скач весялей, дык у жываце будзе паўней. Не малая ўжо, можаш зарабіць сабе кавалак хлеба. Мы ў такія гады не толькі самі сябе, а і бацькоў сваіх кармілі... Эх, вось дзе было жыццё! Вось дзе была раскоша нашаму брату, цыгану! Як абложым, бывала, вёску якую—ратунку ад нас няма: той гандлюе, той варожыць, той проста зубы загаварвае, а мы, малыя, што пацукі—нік сюды, нік туды, тут хлеба схопіш, тут скварку зліжаш, тут яйцо з-пад курыцы выграбеш, а то дык і кураняці галоўку скруціш, ды пад паху. Вазамі здабычу адвозілі, во!.. Ну, праўда, білі часамі, добра білі, спраўна. Умелі тады

біць тыганоў. Цяпер што! *(Пагардліва).* Цябе дык ці адлупцавалі хоць раз як след, га?

Н а я *(прахапіўшыся з дрымоты).* Што, бабулька?

М а р ' я н а. Білі цябе, ці не?

Н а я. Толькі дзядзька з цёткай, ды вы часамі, бабулька.

М а р ' я н а. Гэта не лічыцца... А то дык спявала я дзяўчынкаю ў хоры ў цыганскім. У горадзе, у рэстаране... Агні ўсюды, бляск, ясната! Паны, як сонцы, сядзяць, на нас вачыма лыпаюць. Як заўважым катораго стараватага, лысага, міргнеш яму вокам—а вока чорнае-чорнае, ды як агонь,—плячуком павядзеш—во гэтак!—ды сама ўся павернешся паваю... *(Паказвае)* Цір-бір-бом, цір-бір-бом... Глядзіш—ідзе ўжо да цябе—князь які, граф, а можа і сам барон,— за ручку бярэ, у вочы глядзіць, ды й кажа: мармазэль!.. *(Здаволена смяецца)* Чуеш, ты? Мармазэль, а не то што... *(Мяшае ў казане).* Трэба ўжо мусіць бульбу засыпаць. Няма сала, дык хоць бульбай заправім. Давай сюды! Давай бульбу, Ная! *(Ная заснула. Мар'яна азіраецца на яе і раптам б'е яе лыжкай у лоб).* Ах ты, гадаўка, ах, ты шчанё паганае! Табе ночы няма ўжо? Змарылася дужа, дармаедка праклятая? *(Вырывае ў яе кошык з бульбай).* Пашла прэч, прыблуда! Пашла прэч з маіх вачэй! Не хочаш рабіць, дык і есці не будзеш! Не дам кашы, не дам ані лыжкі, і не чакай нават! Пашла прэч! *(Ная, хліпаючы, адыходзіць у бок і стаіць, прыхінуўшыся да дрэва. З куста, што расце недалёка ад гэтага дрэва, выторкваецца галава Юзіка. Ён строіць надзвычай выразныя міны, але Ная яго не бачыць. Тады ён шпуляе ў яе сухой галінкай. Яна, здрыгануўшыся, азіраецца і заўважае Юзіка. Той паказвае ёй знакамі, каб яна ішла за куст. Ная ідзе. Юзік таксама вылазіць з куста, і яны сустракаюцца.)*

Ю з і к. Ты мяне пазнаеш, Ная?

Н а я. Пазнаю.

Ю з і к. А як завуць мяне, помніш?

Н а я. Мікіта.

Ю з і к. Ну, што ты? Няўжо я падобны да Мікіты? Я-ж Юзік!

Н а я. Ага, Юзік.

Ю з і к. Чаго ты плакала?

Н а я. Бабулька мяне лыжкай у лоб трэснула і сказала, што кашы не дасць.

Ю з і к. Чорт яе бяры! Я на ўсякі выпадак узяў кавалак хлеба і сала. На вось, схавай пакуль што дзе-небудзь. *(Ная кладзе хлеб у запазуху, але кавалачак адламала, жуе.)* Слухай, Ная, што я табе скажу... Учора мы на атрадзе абмяркоўвалі пытанне аб табе. Я катэгарычна прапанаваў зараз-жа цябе адсюль забраць і пакуль што патрымаць пры атрадзе, а потым паслаць у школу, ці яшчэ там куды-небудзь...

Н а я. Мне ўчора нейкі дзядзька казаў, каб я ў балет паступіла.

Ю з і к. Добра, хай сабе і ў балет... Дык ведаеш, не прынялі мае прапазіцыі. Як я ні біўся—нічога не памагло. Кажуць, што мы не маем права гэта рабіць.

Н а я. Я ўсёроўна ўцяку адсюль, я больш не магу з імі жыць. Я пайду шукаць свайго брата.

Ю з і к. Маладзец, Ная! З цябе можа выйсці нядрэнная піо-

нерка. Дык вось што, слухай... Адна ты ніколі не знойдзеш яго. Ты нават да гораду не трапіш, бо дарогі не ведаеш. А станеш распытваць, дык цябе затрымаюць і прывядуць назад. Трэба, каб хтонебудзь пашоў з табой.

Ная. Хто-ж са мной пойдзе?

Юзік. Я.

Ная. Ты?

Юзік. Я.

Ная. А чаго ты пойдзеш?

Юзік. Як чаго? Цябе павяду. Я дарогу да горада, як свае пяць пальцаў, знаю. І там я ведаю, як трэба шукаць, калі адраса не маеш.

Ная *(недаверліва азірае яго.)*. А ты мяне не паддурыш? Можа за тыя каласы ў турму павядзеш? Дык гэта-ж я не сама...

Юзік. Каб хацеў, дык я-б тады не выпусціў цябе. Што я не разумею, чаго ты ішла ў гэтыя каласы?

Ная. Дык ты, Юзік, па-праўдзе хочаш ісці са мной?

Юзік. Я-ж табе сказаў.

Ная *(з даверлівай ласкай дакранаецца да яго рукі)*. Я табе Юзік, за гэта жалезную жабу скакучую падарую—летась на кірмашы ў кітайца сцягнула.

Юзік. Сама ты жаба... Ну, дык вось... Сёння к начы каб была гатова. Забяры ўсе свае манаткі, але каб не надта многа, бо будзе цяжка.

Ная. У мяне нічога няма.

Юзік. Нічога? Ну, яшчэ лепей. Як усе паснуць, устань ціханька і выйдзі сюды, дзе мы з табой цяпер стаім. Я буду тут чакаць... Сабак у вас няма?

Ная. Няма.

Юзік. Гэта самае лепшае. Дык не забудзешся?

Ная. Не.

Юзік. А можа праспіш?

Ная. Я цяпер зарання адасплюся, дык тады не засну.

Юзік. А калі да таго часу што-небудзь асаблівае здарыцца, дык ты выйдзі сюды і ціхенька свісні. Умееш свістаць?

Ная. Ого! *(Свішча, як птушка)* Ціў! Ціў!

Юзік. Бач ты, як здорава! Трэба будзе самому так павучыцца. Дык вось, як толькі свіснеш, да цябе выйдзе Мікіта—я яго пакуль што на варце пастаўлю—яму і скажаш усё, што трэба. Ён—свой. Ну, я пашоў!

Ная. Ідзі, а то вунь ужо й цётка мая сюды валачэцца.

Юзік. Не надта я спужаўся тваё цёткі! *(Хуценька хаваецца за куст. Ная ідзе праз сцэну і, сцеражліва абмінуўшы Мар'яну, залазіць пад воз. Уваходзіць Зора. Яна набліжаецца да агня і, нахіліўшыся над казаном, гучна цягне носам паветра. Мар'яна аичэрваецца на яе.)*

Мар'яна. Ноздры павыварачваеш, мая галубачка!

Зора. Перш табе нутро павыверне, мая зязюлечка!

Мар'яна. Ноздры павыварачваеш, мая галубачка!

Мар'яна. І ніхто-ж табе хрыбта дзе не зламаў, мая котачка!

Зора. Здохнеш ты раней за мяне, мая ласачка!

Мар'яна *(хапае галавешку)*. У-у-у, нягодніца! Я табе зараз...

Зора. Памалу, памалу! Не ты гадавала, не ты і біць будзеш. *(Ідзе да шатра)*.

Мар'яна. Спіць, не чапай! Сказаў пабудзіць, як каша зварыцца.

Зора. Будзе яму каша, будзе і крупеня... *(Зазірае ў шацёр)* Якуб! Якуб! *(З шатра чуваць санлівы рык)*. Якуб! Уставай! *(Раптам адскаквае—з шатра вылятае бот. Зора падыходзіць збоку да дзвярэй і зноў гукае)*. Якуб! Уставай. Навіны нядобрыя ёсць!

Мар'яна *(падыходзіць з другога боку)*. Якубка! Каша зварылася. *(З шатра зноў чуваць злосны рык і вылятае другі бот.)* Дзіцятка роднае! Як соладка спіць! Цалюткую ноч недзе прашвэндаўся.

Зора. Дашвэндаецца яшчэ, чаго добрага...

(З шатра вылазіць заспаны, ускудлычаны Якуб. Грозна пазірае на кабет—то на адну, то на другую).

Мар'яна. Каша, сынок, гатова.

Якуб *(да Зоры)*. Што прынесла, баба?

Зора. Нічога, гаспадар мой дарагі, не прынесла. І гадаць не хоча ніхто, і так ніхто не дае. Кажуць, што ў калгасе цыганоў не палагаецца.

Якуб *(строга глядзіць на яе)*. Ну, а так што?..

Зора. Глядзела ўсюды, мой галубок, выглядала. Пазамыкана ўсё, пахавана, ды й не падпускаюць блізка, не вераць нашаму брату. Курку адну ў цёмны завулак загнала была, дык і тая сабе нейкую дзірку ў шчыкеце агледзела. Чыстая бяда, мой саколік!

Якуб. І тыя скакуны нічога не наскакалі. Дрэнная, бацька, рахуба... *(Чухае патыліцу)*.

Зора. У калгасе свята сёння, дажынкі спраўляюць. Гуляюць, скачуць, пяюць. Бяседу якую сабралі, наб ты толькі бачыў! Бліноў напяклі, сала насмажылі, мяса ўсякага. Каб гэта нам...

Якуб. Цыц!

Мар'яна. Сама недзе нажралася там, каля дажынак круціўшыся, каб цябе так...

Якуб. Цыц! *(Вялічным жэстам абодвух рук паказвае на раскіданыя ў розныя бокі боты; жанчыны кідаюцца да іх і падаюць: адна—адзін, другая—другі. Якуб сядае на зямлю і абуваецца)*. Ніхто чужы не прыходзіў сюды?

Мар'яна. Нікогачка не было. Адна я над агнём гэтым крукам сядзела. Ці-ж яго ўварыш, гэта няшчасце? Божачка мілы! Калі ўжо давядзецца з'есці хоць разочак па людзку!

Якуб. Цыц!

Зора. Авой збедавалася, мамачка! Такая гаротніца, што і ў свеце не знойдзеш...

Якуб *(Устае да Зоры)*. І там, на вёсцы ніхто мяне не пытаў?

Зора. Не пытаў, мой галубок, ніхто не пытаў. *(Таямніча нахіляецца да яго)*. Але што я чула, што бачыла, Якуб, ты толькі паслухай... *(Знакам запрашае яго адыйсціся ў бок)*.

Якуб. Рыхтуй там, маці, абедаць. *(Адыходзіцца з Зорай)*.

Мар'яна *(ідучы да агня)*. Ад старой маці, як зладзеі, тояцца. Не будзе дабра, не будзе!

Якуб. Ну, што табе там сарока на хвасце прынесла?

Зора *(таямніча)*. Стаю я, мой саколік, на вуліцы, аж ідзе маладзіца і з ёй гарадзкі нейкі—малады, чарнявы...

Якуб. Ну?

Зора. Я—да яе: дай, кажу, пагадаю, маладзічка прыгожая. А ён кажа: гэта табе не маладзічка, а старшыня калгасу...

Якуб. Ну, а ты?..

Зора. Што-ж, я і калгасу магу пагадаць, абы ласка твая. Але гляджу я на мужчыну—цыган, да-душы—цыган. Загаварыла я з ім, дык ён і не выракаецца...

Якуб. Хто-ж ён такі?

Зора. Брат яе, Най... З гораду прыехаў сюды...

Якуб. Адкуль ты ведаеш?

Зора. А я адышлася, стала ціхенька за вуглом, ды й паслухала, аб чым яны гаманілі. Расказваў ён пра жыццё сваё цыганскае: і як коні кралі, і як білі іх, як уцёк ён, як сястру сваю па свеце шукаў— сказалі яму, што цыганы нейкія падабралі...

Якуб. Ён не бачыў яе?

Зора. Бачыў, мой галубок, і гаманіў з ёй. Чула я—казаў, што вучыцца ёй трэба, паступаць некуды.

Якуб. Пазнаў?

Зора. Дзе-ж ён пазнае—гэтулькі год... Ды я й не дала ім доўга гаманіць—як убачыла, што ён стаіць з ёй,—схапіла яе за руку, адцягнула прэч.

Якуб. Што ён тут робіць?

Зора. Хто яго ведае... Збіраецца ўжо ад'яжджаць, пэўна, сягоння паедзе назад, у горад.

Якуб. Га, дык і добра! Хай сабе едзе на здароўечка. Аб чым жа клопат? *(Хоча ісці)*.

Зора *(затрымлівае яго)*. Чакай, Якуб, гэта не ўсё.

Якуб. Ну, што яшчэ там у цябе?

Зора *(вельмі таемна)*. Пра коні гавораць.

Якуб *(ажывіўшыся)*. Хто пра коні гаворыць? Дзе пра коні гавораць?

Зора. Ой, будзе нам бяды з гэтымі коньмі. Казала я: не лезь ты ў гэтую хэўру, не чапайся з калгасным. Не паслухаў, галубок, майго разумнага слова...

Якуб. Цыц! Ты мяне вучыць яшчэ будзеш, га? Ты ўжо стала разумней за мяне? Волю пачула вялікую? *(Наступае на Зору, тая палахліва стуляецца)*. Гавары хутчэй, што пра коні казалі, ну?

Зора. Ой, бяда будзе, Якубка, бяда. На нас падазрэнне маюць, сочаць за намі ўжо, прыглядаюцца.

Якуб. Брэшаш, халера!

Зора. Каб я так дыхала! Званілі адтуль у тэлефон, наказвалі, каб глядзелі за намі...

Якуб. Ты што-ж мне, ведзьма, адразу гэтага не гаварыла? Што ты мне галаву зеліш цэлую гадзіну? *(Збянтэжана кідаецца па сцэне)*.

Мар'яна. Каша, сынок, прастыне, абедаць будзем.

Якуб. Я табе гэту кашу на галаву выверну, во што!

Мар'яна *(плаксіва)*. Божачка мілы! У мяне ўжо ўсе духі пацягнула—так есці хочацца...

Якуб. Дзе Андрэй?

Зора. Недзе тут быў. Я зараз гукну яго. *(Адыходзячы, убок.)* Ізноў, пэўна, каля калгаснае малатарні. Як толькі хвіліна вольная, дык і туды. Ой, дасць бацька, дасць! *(Пашла)*.

Якуб *(у хваляванні бегае па сцэне, потым спыняецца каля маткі, злосна крычыць)* Давай лыжку! *(Мар'яна дае яму лыжку і ён, прысеўшы над казаном, пачынае гучна хапліва цвякаць. Мар'яна таксама есць, асцярожна чэрпаючы кашу ў яго з-пад локця. На сцэну варочаецца Зора і з ёй Андрэй)*.

Зора *(ідучы, ціха Андрэю)*. Ты ўжо лагадней з ім, сынок, не спрачайся хаця. Сярдзіты ён дужа.

Якуб. Дзе цягаўся, нягоднік?

Андрэй. Тут быў, недалёчка.

Якуб. Зноў каля малатарні круціўся? *(Андрэй маўчыць)* Я табе пакручуся! Што табе—грошы там плацяць, ці што?

Андрэй. Ім патрэбен другі машыніст на змену, яны казалі, каб я станавіўся. Грошы будуць плаціць.

Якуб. Трасцу ты ў іх заробіш... Майстра такі знайшоўся!

Зора. Якубка! А можа хай бы сабе парабіў? І капейку-б якую прынёс, і сам-бы каля людзей пацёрся...

Якуб. Цыц!

Мар'яна. Ёй абы толькі насупроць. Сама ідзі, ды рабі, калі такая ахвотніца...

Якуб. Цыц! *(Кідае есці, устае, падыходзіць да Андрэя)*. Збірайся ў дарогу.

Андрэй. У якую дарогу?

Якуб. Рудое балота, што пад Арэхавым, ведаеш?

Андрэй. Ведаю.

Якуб. Там у зарасніку знойдзеш коні...

Андрэй *(рашуча)*. Я не пайду туды.

Якуб. Як гэта не пойдзеш?

Андрэй. Я ведаю, чые там коні. Я не хочу лезці ў гэту зладзейскую справу.

Якуб. У якую зладзейскую справу? Што ты вярзеш? Гэта коні мае! Я купіў іх у Арэхаве на кірмашы.

Андрэй. Гэта коні з калгасу «Чыровоныя зоры»! Я і пальцам не дакрануся да крадзеных коняй.

Якуб. Да крадзеных! Хто-ж гэта іх украў, ты мне скажы? Каго ты ўлавіў, што злодзеем называеш?

Андрэй. Ты ўкраў, ты! І мяне хочаш у зладзейства ўцягнуць! Нікуды я не пайду! Абрыдла мне гэта!

Якуб *(грозна)*. Дык ты так на бацьку, га? Дык гэта я табе—злодзей? Я табе—злодзей?

Андрэй *(горача)*. Так, злодзей, злодзей!

Зора. Андрэй, сыночак, што ты гаворыш!

Андрэй. Злодзей! Я гэта адкрыта кажу, я не баюся!

Якуб. Не баішся? Ах ты, шчанё праклятае! *(Шукае вачмі чым-бы ўдарыць сына, і, заўважыўшы на зямлі сякеру, хапае яе)*

У-у-у-, нягоднік! *(Замахваецца сякерай. Зора кідаецца да яго, трымае за руку).*

Зора. Якубка! Сына...

Якуб. Які гэта сын? Гэта не сын, а гадзюка паганая! Вон з маіх вачэй, паскуднік! Каб твайго духу-паху тут не было!

Андрэй. Не турбуйся! Хутчэй памру, чым вярнуся да гэтага сабачага жыцця! *(Адыходзіць).*

Якуб. Пусці, я яму галаву расшчаплю! *(Зора трымае яго. Ён цяжка аддыхваецца, потым адпіхае Зору, кідае сякеру вобземлю.)* Збірайце манаткі, зараз паедзем. Дзе каня падзелі?

Мар'яна. Тут, ля рэчкі пасецца.

Якуб. Давай аброць! *(Мар'яна дае аброць).* Каб мне як вокам мігнуць усё гатова было! *(Выхоздяць. Мар'яна з Зорай мятусяцца па сцэне, збіраючы раскіданыя рэчы, потым уваходзяць у шацёр. З-пад воза вылазіць Ная, яна перабягае цераз сцэну на ўмоўленае месца, за куст і свішча).*

Ная. Ціў! Ціў! *(Паўза).* Ціў! Ціў! *(Паўза)* Ціў! Ціў! *(Ніхто не адказвае. Ная разгублена ўзіраецца ў глыбіню леса.)*

## КАРЦІНА IV

Абстаноўка тая самая, што ў другой карціне. На лаўцы пад домам сядзіць п'януваты троху дзед Савасцей.

Савасцей *(пяе):*

—Кума мая, кумачка,  
Дзе жывеш?  
Чаму мяне у госцейкі  
Не завеш?  
— Ці ты, куме, розуму  
Пытаеш,  
Ці ты мае хатачкі  
Не знаеш?  
А вунь мая хатачка  
Ля вады,  
З высокага дзераўца—  
З лебяды...

(З дома выходзіць Мікіта. Ён важна сядае поплеч з Савасцеем).

Мікіта. Бліны былі, праўду сказаць, ніштаватыя. Драчонікі— яны найлепей са скваркамі, са смятанай я не надта люблю... Вы, дзядулька, дык пэўна і чарку нейкую на здароўечка перакулілі?

Савасцей. А табе не далі, шалахвост?

Мікіта. Мяне каб як прасілі, дык я не ўзяў-бы. Мне-ж няможна, я піонер. Гэта вам, беспартыйным, дык пі, колькі хочаш!

Савасцей. Хто гэта: я—беспартыйны! Які-ж я беспартыйны, калі я калгаснік?

Мікіта. Дык што? Калгаснікі бываюць беспартыйныя.

Савасцей. Не бываюць калгаснікі беспартыйныя. Беспартый-

ныя—гэта тыя, што сюды-туды, круць-верць... А мы ў адзін бок з комуністамі ідзём. Вось ты—піонер, а нічога не разумееш.

Мікіта. Чаму не разумею? Усё разумею, што трэба.

Савасцей. Многа ты разумееш! Беспартыйны... Хе-хе... Гэта табе, браце мой, не даўнейшае. Я можа цяпер першы чалавек у калгасе. Ты ведаеш, блазнюк, дзе я сягоння сядзеў? На самым куце! Ага! На куце сядзеў, во табе... З аднаго боку—старшыніха, з другога—таварыш Кунарскі, а перад носам—стос бліноў, во з гэтую пуню....

Мікіта. Я дык спазніўся троху, бо ў мяне былі надзвычайна важныя справы. Але і я яшчэ заспеў стос бліноў во з гэты свіран...

Савасцей. Разумееш ты... А за што мне такая павага, ты гэта ведаеш?

Мікіта. Бо вы ўжо стары, дзядулька, а старых у нас скрозь паважаюць.

Савасцей. Ат, які ўжо там дужа стары! Ці гэткія старыя бываюць? Вунь Карней, што на тым канцы жыў, за сотню быў пераехаў, а яшчэ на ўнукавым вяселлі лявоніху тупаў. Не за старасць павага мне, а за тое, што я самы большы тут пролетарыят, во за што... З малых дзён як пайшоў па наймах хадзіць, дык і састарыўся на чужым хлебе. А колькі папарабіў, а колькі гора зазнаў, ты й падумаць сабе не можаш.

Мікіта. Хіба ў вас, дзядулька, ніколі гаспадаркі не было?

Савасцей. Аднойчы было ў мяне восемдзесят кароў...

Мікіта. Ай-яй-яй! Гэта-ж цэлы маёнтак!

Савасцей. ... ды каровы ўсё здураныя, усе, як адна, у шкоду глядзяць. А падпаскам у мяне быў так разы ў два яшчэ меншы за цябе смаркач...

Мікіта. А-а, гэта вы, значыць, пастухом былі?

Савасцей. Не, архірэям... Я ўсім быў, чым толькі хочаш. Я й старцоў вадзіў, як малы быў, ну, дык і што там такое... А чаму я цяпер за стоража ў калгасе, ты гэта ведаеш?

Мікіта. Бо гэта лягчэйшая работа, і вам, як старому....

Савасцей. Старому-старому... чаўпеш няма ведама што! Я-б яшчэ якую хочаш работу мог справіць не горш за маладога, але-ж мяне па вялікаму даверанню на такі пост паставілі... на пост, разумееш, ці не? Гэта, браце мой, не абы што—калгаснае дабро пільнаваць. Не ўпільнуеш—і ўся наша праца прахам пашла. Лягчэйшая работа... Ого... Патупай вось так ноч-у-ноч, дык пазнаеш тады, ці лягчэйшая, ці не. Ад адных цыганоў...

Мікіта *(крычыць)*. Ой!

Савасцей. Што цябе там укусіла?

Мікіта *(ускочыў)*. Ой, цыганы!

Савасцей. Дзе цыганы?

Мікіта. А дзядулька, што я нарабіў! Гэта-ж мяне Юзік у разведку паслаў, а я з вамі розным тут глупствам займаюся. Прапаў я, прапаў! Бывайце здаровы!.. *(Пабег)*.

Савасцей. *(памаўчаўшы)*. Нішто сабе хлопцы растуць, але

вучыць іх трэба, ой, трэба вучыць! Зусім у палітыцы не разбіраюцца. *(Пяе):*

Кума мая, кумачка,
Дзе жывеш?
Чаму мяне ў госцейкі
Не завеш?

(З-за вугла дому выходзіць Андрэй. Ён з хвіліну стаіць у нерашучасці, потым, паважыўшыся, падыходзіць да дзеда).

Андрэй. Добры вечар, дзядулька!

Савасцей. Добры вечар!

Андрэй. Вы не ведаеце, дзе я магу знайсці старшыню калгаса?

Савасцей. А на што табе старшыня калгаса?

Андрэй. У мяне ёсць справа да яго.

Савасцей. Якая справа?

Андрэй *(у замяшанні).* Бачыце... мне да яго трэба... да старшыні...

Савасцей *(строга).* Ты кажы, у чым справа? А можа цябе, цыгана гэтакага, да старшыні і дапускаць не палагаецца? *(Андрэй муляецца).* Кажы, не бойся! Я-ж таксама не апошні чалавек тут у калгасе.

Андрэй. Бачыце... я—цыган...

Савасцей. Пэўна, што не мерыканец, сам бачу.

Андрэй. Мы стаім тут недалёчка, каля лесу.

Савасцей. Лепш, каб вы далёчка стаялі. Клопату мне ад вас поўная галава. *(Андрэй маўчыць).* Ну, чаго-ж ты маўчыш? Кажы далей!

Андрэй. Я хачу прасіцца да вас у калгас.

Савасцей. У калгас? Чаго?

Андрэй. Хачу рабіць разам з вамі, хачу тут асесці на сталае жыццё.

Савасцей. Рабіць? А што-ж ты будзеш рабіць? Ты які-такі майстра? На цымбалах іграеш?

Андрэй. На цымбалах іграю.

Савасцей. Хе-хе... у нас такой цымбальнай брыгады яшчэ не завялі.

Андрэй *(пачынае гарачыцца).* Я вам малатарню направіў. Мне самі казалі там, каб я стаў за машыніста.

Савасцей. А-а, дык ты па-праўдзе майстра? Чаму-ж ты адразу мне так не казаў? *(Строга).* Але слухай ты, я вашу цыганскую натуру знаю... Папрацуеш з тыдзень, а тады забрытаеш каня ды махні-драла?

Андрэй *(горача).* Я не злодзей! Я іду працаваць, а не красці!

Савасцей. А ты мне вось што, хлопча, скажы... Толькі так, па шчырасці, як за старым ражымам папу на споведзі гаварылі: *(Дапытліва ўзіраецца ў Андрэя).* Ты майго капшука там не бачыў?

Андрэй. Якога капшука?

Савасцей. Ды гэта-ж ваша скочка на полі ў мяне сцягнула.

Андрэй (*злосна*). Я ніякага капшука не бачыў. Што вы чэпіцеся да мяне? Што вам ад мяне трэба?

Савасцей. Ну, ну ўжо, ціха, ціха... Бачу, што не вінават. (*Сур'ёзна, зычліва*) А гэта добра надумаў, хлопча. Жыццё ў вас, у цыганоў, зусім адсталае. Толькі людзям назаляеце і больш нічога. Паступіш у калгас, дык чалавекам станеш хацяя. Я табе памагу, во што... Я сам пагавару з старшынём калгаса. Жанчына ў нас за старшыню, добры чалавек, няма чаго казаць. (*Пад час апошніх слоў на сцэну ўваходзіць Тацяна. Савасцей яе не заўважыў*).

Тацяна. Аб чым гэта вы, дзядзька Савасцей, са мной гаварыць збіраецеся?

Савасцей (*у замяшанні*). Так, так... Ага... Гэта вось хлопец, цыган....

Тацяна. А-а, майстар самавучка! Знаю, знаю... Ну, што, згодзен парабіць у нас пры малатарні, пакуль малацьбу скончым?

Андрэй. Таварыш старшыня! Я хачу назусім да вас у калгас паступіць. Я хачу тут жыць астацца.

Тацяна. Ого! як гэта ты раптам надумаў?

Андрэй. Я не магу больш так жыць... Я пасварыўся з бацькам і сказаў, што больш не вярнуся туды, да іх.

Тацяна. Што-ж гэта ў вас там за сварка такая? У чым не пагадзіліся? (*Андрэй маўчыць*) Ну, што-ж... Раз сур'ёзна, шчыра ідзеш да нас—калі ласка. Падавай заяву, мы разгледзім на пасяджэнні праўлення. А пакуль што станавіся на работу і працуй.

Савасцей. Ды глядзі, добра працуй! У нас, брат, усё па-ударнаму ідзе, не абы-як.

Тацяна. Правільна, дзядзька Савасцей! (*да Андрэя*) Кватэру ты маеш?

Андрэй. Я жыў там, у шатры.

Тацяна. Ну, кватэру мы знойдзем табе.

Савасцей. (*Да Андрэя*). Ты жанаты?

Андрэй. Ды не.

Савасцей. Дзяцей не маеш?

Андрэй. Што вы? Якіх дзяцей?

Савасцей. (*Да Тацяны*). Я магу яго нават да сябе ў падсуседы ўзяць. Хай пажыве, што-ж ты з ім зробіш....

Тацяна. Ну, вось і добра.

(Цераз сцэну перабягае дужа ўсхваляваны Мікіта)

Мікіта. Дзе гэта Юзік? Юзіка вы не бачылі?

Савасцей. У нас тут важнейшыя справы, чымся твайго Юзіка пільнаваць (*Мікіта пабег*).

Андрэй. (*да Тацяны, якая хоча ісці*). Таварыш старшыня! У мяне да вас яшчэ адна справа ёсць.

Тацяна. Якая?

Андрэй. Я хачу сам-на-сам з вамі пагаварыць.

Савасцей. Гаманіце сабе, гаманіце, а я пайду пагляджу—недзе

там моладзь гуляе, на тым канцы. Дык прыходзь начаваць, маю кватэру табе тут кожны пакажа. *(Адыходзіць напяваючы).*

Кума мая, кумачка,
Дзе жывеш?
Чаму мяне ў госцейкі
Не завеш?

Тацяна. Ну, дык што ў цябе за сакрэт такі?

Андрэй. Казалі, што ў калгасе «Чырвоныя зоры» коні прапалі.

Тацяна. Ну-ну?

Андрэй. Я ведаю, дзе гэтыя коні.

Тацяна. Ведаеш?

Андрэй. Пад Арэхавым ёсць Рудое балота. Там яны стаяць у зарасніку.

(Уваходзіць Кунарскі)

Тацяна. Добра. Пакуль што нікому пра гэта ні слова. Разумееш?

Андрэй. Разумею.

Кунарскі. А я ўжо хацеў паехаць, не развітаўшыся з табою. Цэлую гадзіну шукаю.

Тацяна. У нас тут цікавыя справы, таварыш Кунарскі. Вось бачыш—яшчэ адзін цыган мяняе прафесію. Кідае сваю сям'ю і ў калгас да нас ідзе.

Кунарскі. А, гэта-ж наш спявак і музыка! Маладзец, добра робіш. Ну, а як-жа сястрычка твая, хто ёй цяпер будзе падыгрываць?

Андрэй. Гэта не сястра мая.

Кунарскі. А хто?

Андрэй. Гэта зусім чужая. Яна ў нас толькі гадуецца.

Кунарскі. Што? Чужая?

Андрэй. Яе бацькоў забілі, дык яна круглай сіратой асталася. Кажуць, брат недзе ёсць, у яе, але бацька мой не хоча яе аддаваць, бо яна зарабляе добра.

Кунарскі. Слухай, ты... Як-жа гэта... Чаму-ж такое дзіўнае імя... Слухай, яе, здаецца, Ная завуць?

Андрэй. Гэта мы самі так празвалі. А імя яе—Аленка.

Кунарскі. Што? Аленка? Дзе-ж яна? Дзе тыя цыганы? Вядзі мяне да іх! *(Андрэй вагаецца)*. Ну, пойдзем, чаго ты стаіш?

Андрэй. Я сказаў, што хутчэй памру, чымся вярнуся туды.

Мікіта. Юзік! Дзе-ж гэта мне знайсці Юзіка?

Тацяна. Мікіта! Схадзі вось з таварышом Кунарскім, пакажы яму, дзе цыганы стаяць.

Мікіта *(ледзве не плача)*. Ага, цыганы, цыганы... Чаго-ж я і Юзіка шукаю? Паехалі некуды цыганы, змыліся з-пад самага носу. А цяпер—шукай ветра ў полі!

(Агульнае замяшанне).

*ЗАСЛОНА.*

# АКТ ТРЭЦІ

## КАРЦІНА V

**Невялічкая лясная палянка, абкружаная хмызняком, скрозь прагал, у якім відаць наперадзе кавалак сашы. Сярод паляны цыганка Зора раскладае агонь. Яна злосна дзьмухае, нахіліўшыся над грудком галля, але агонь не разгараецца. На сцэну ўваходзіць Н а я—яна цягне на сабе вялікую торбу.**

З о р а. Накапала? Пакажы! *(Ная баязліва падносіць да яе торбу, паказвае)*. І гэта твая бульба?

Н а я. Там чалавек нейкі па полі ішоў—я спужалася, уцякла.

З о р а. Чалавек, чалавек... А мы што—не людзі? Нам есці не трэба? Бяжы назбірай галля сушэйшага, ніяк агня не распаліць. *(Ная ідзе ў кусты. Зора сядзіць у задуменні, пахіліўшы галаву. Уваходзіць Якуб.)*

Я к у б. *(да Зоры.)* Ну? *(Зора маўчыць)*. Ну? *(Зора маўчыць)*. Аб чым думаеш, я пытаюся? Га?

З о р а. Ніхто маіх думак не знаў і не пазнае ніколі.

Я к у б. Мудрыць пачала? Разумнай дужа зрабілася? Чакай, я з цябе гэты розум выганю скора?

З о р а. Ты душу з мяне выгнаў, жыццё ў мяне адабраў! *(Горача)* Вярні мне майго сына, Якуб, куды ты прагнаў яго?

Я к у б. А, ты вунь аб чым? Нягодніка таго ўспомніла? Можа-б і сама пашла следам за ім?

**З о р а. Які ён нягоднік! Што ён зрабіў табе? За што ты ўз'еўся на яго, небараку?**

Я к у б. *(Грозна)*. Цыц! *(Уваходзіць Мар'яна)*.

М а р'я н а. Ёй ужо завяло галаву, закруціла—сама не ведае, чаго ёй трэба...

Я к у б. Цыц! *(Да Зоры)* Дзе Ная?

З о р а. Тут, недзе, у дровы пашла.

Я к у б. Пойдзеш з ёй зараз на вёску: народ тут прасцейшы, можа сёе-тое перападзе... А ты, маці, пільнуй тут, глядзі, каб усё было ў парадку.

М а р'я н а. Добра, сыночак, добра.

Я к у б. Я пэўна забаўлюся троху, нанач мяне не чакайце. *(Хоча ісці)*.

З о р а. Якуб, куды ты пойдзеш?

Я к у б. Куды трэба. Не твайго розуму справа.

З о р а *(затрымлівае яго)*. Якубка, не ідзі! Хай яны згараць тыя коні—бяда нам будзе толькі праз іх. Чуе мае сэрца, што будзе бяда...

Я к у б *(злосна)*. Ты мяне зноў вучыць узялася? Вось я цябе зараз павучу!.. *(Замахваецца на Зору, яна адскаквае ў бок)*.

М а р'я н а. Павучыць, дый добра павучыць яе трэба....

Я к у б. Цыц! *(Ідзе і ля кустоў сустракае Наю, якая нясе бярэмя галля)* У-у, шчанё!... *(Знікае ў кустах.)*

Н а я *(нясе галлё на сярэдзіну паляны)*. Цётачка, куды гэта дзядзька пашоў?

З о р а *(пахмура)*. На скрут галавы. *(Адыходзіць у бок. Ная бярэцца раскладваць агонь. Мар'яна ёй памагае.)*

Мар'яна. І чаго ён толькі глядзіць на яе? Што гэта за парадак такі пашоў? Бывала, мой стары, абы што-небудзь не так, не па-ягонаму, дык зараз за косы цябе, ды на зямлю, ды выспяткам, выспяткам. Бывала, месца жывога на табе не пакіне! А то-дык прывяжа да дрэва ды пугай, пугай... От-жа паскачаш тады, от-жа патанцуеш!.. *(Уздыхнуўшы)* Не, ужо не вернецца тое жыццё! Не тыя ўжо людзі пашлі. *(Уваходзіць Зора. У руках яе клумак)*. Ты куды гэта выбралася, мая галубачка? Куды гэта ты дабро валачэш?

Зора. Не тваё дабро, дык і не пытай.

Мар'яна. Не маё? Не маё? А хто-ж нажываў яго? Хто на яго гараваў?

Зора. Маўчы ты, я больш за цябе гаравала.

Мар'яна. Брэшаш, не ты, а я гаравала! *(Хапаецца за клумак)* Не дам! Не дам расцягваць! Не дам!

Зора. Адчапіся ты, ведзьма! *(вырывае клумак, Мар'яна валіцца на зямлю)*.

Мар'яна. *(седзячы на зямлі, румзае)*. Хай толькі прыдзе Якуб! Усё раскажу, усё чысценька. Не даруе табе гэтае, не даруе...

Зора. Скажы яму, што я да сына пашла. *(Хоча ісці)*.

Ная. Цётачка! Вазьміце мяне з сабой! Цётачка, любая, я таксама пайду.

Зора. Цябе яшчэ не хапала... Мне і аднэй няма куды дзецца.

Ная. Я пайду, цётачка. Я не хачу тут аставацца! *(Памыкаецца ісці следам за Зорай)*.

Зора *(сярдзіта)*. Адыйдзі ад мяне, нахаба! Вось я табе зараз... *(Знікае ў кустах)*.

Ная *(плачучы)*. Цётачка! Пачакайце! Вазьміце мяне!

Мар'яна *(устала з зямлі, плюе ў той бок, куды пашла Зора)*. Туды табе і дарога, нягодніца няшчасная! Пражывем і без цябе, без гэтакае цацы. *(Бярэ вядро і ідзе па ваду.)*

Ная *(скрозь слёзы)*. Што мне рабіць? Як мне знайсці той горад? Я не ведаю нават, у які бок трэба ісці. Каб Юзік быў... *(Кліча ў роспачы)* Юзік! Юзік!

(З кустоў раптам паказваецца галава Юзіка).

Юзік. Не бойся, Ная, я тут! *(Азіраецца на бакі, потым вылазіць з кустоў)*.

Ная *(спалоханая нечаканасцю.)* Гэта ты? Адкуль ты ўзяўся?

Юзік. А я разам з вамі ехаў на вашым возе. Ззаду, за будай падчапіўся, дык мяне і не заўважылі. Таму няёмка было, але-ж гэта не ў госці ехаць... Чаго ты плачаш, Ная?

Ная. Цётка пашла ад нас... На зусім... я прасілася з ёй, дык не ўзяла мяне... Я не ведаю, што мне рабіць?

Юзік. Эх, ты! А на мяне ўжо забылася? Думала—я цябе кіну так?

Ная. Я-ж не ведала, дзе ты.

Юзік. Ну, добра ўжо, румза малая... Збірайся, пойдзем, пакуль ніхто нас не бачыць.

Ная. А ты дарогу знаеш?

Юзік. Я дарогу? Я можа дваццаць раз сюды па дровы ездзіў, я ў гэтым лесе кожнае дрэўца ведаю. Нам толькі Рудое балота, каб да цямна перайсці, а там ужо дарога проста ў горад вядзе.

Ная. А ты не баішся?

Юзік. Каго гэта я буду баяцца?

Ная. Ваўкоў...

Юзік. Уга! Можа яны мяне больш баяцца, чым я іх.

Ная. Які смелы!

Юзік. А ты думала—што? Піонеры ўсе павінны быць смелыя... Ну, хутчэй! Апрані што-небудзь, каб не было сцюдзёна, ды і гайда!

Ная. Я зараз. *(Ідзе ў бок. Юзік ходзіць па сцэне, пільна пазіраючы праз кусты. Раптам заўважыў нешта, затурбаваўся).*

Юзік. Ная! Ная! хутчэй! *(Выходзіць Ная, апранутая ў даўгую, шырокую куртку.)* Вунь старая цягнецца сюды. Хутчэй пабяжым! *(Хапае Наю за руку і цягне ў бок, але каля самых кустоў спыняецца, абарачваецца і робіць развітальны знак рукой.)* Бывай, бабулька! Апошняе прывітанне табе ад піонера Юзіка і вольнае грамадзянкі Наі! Бывай *(Бягуць ў кусты. Сцэна з хвіліну пустая, потым з вядром вады ўваходзіць Мар'яна. Ставіць ваду, поркаецца каля агня і напявае.)*

Мар'яна.

Што мне гора,
Што бяда!
Я цыганка малада!

Цір-бір-бом,
Цір-бір-бом...

Я цыганка малада!
Мне не трэба
Пышных шат,
Раззалочаных палат.

Цір-бір-бом,
Цір-бір-бом...
Раззалочаных палат...

(Недзе чуваць аўтамабільны сігнал. Праз прагал у кустах відаць, як на сашы спыняецца аўтамабіль, з якога выходзіць чалавек. Праз момант на сцэне зьяўляецца Кунарскі).

Кунарскі. Дзе цыганы?

Мар'яна. А я, галубок мой, хіба не цыганка, ці што? Паваражыць можа хочаш, дык я не горш за тую нягодніцу ўмею. Дый ручку, саколік, дай, даражэнькі... Ці можа на карты хочаш, дык я і на карты магу...

Кунарскі. Дзе ваш гаспадар?

Мар'яна. Уга, запытаў! Хе-хе... Ці-ж цыган адну дарогу мае сабе? Сюды пашоў, адтуль прышоў, а дзе быў, куды хадзіў—і сам ён добра не ведае.

Кунарскі. Слухай, бабуля, у вас тут дзяўчынка гадуецца, вы яе Наяй завеце...

Мар'яна. Ага, Ная... Унучка мая. Родная ўнучка...

Кунарскі. Маніш! Нікая яна не ўнучка табе. Яна зусім чужая вам. Яна ў два гады сіратой асталася і вы ўзялі яе да сябе.

Мар'яна. А ты хто такі, мой галубок, што ўсё гэтак добра ведаеш?

Кунарскі. Я брат гэтай дзяўчынкі. Я ўжо восем год шукаю яе.

Мар'яна *(лісліва)*. Брат... Начальнік з гораду... Родненькі мой! *(Углядаецца ў яго)*. Падобны, каб я так здарова была,—падобны. Які прыгожы! Які зграбны!

Кунарскі *(нецярпліва)*. Дзе-ж яна? Гавары, дзе яна?

Мар'яна. Тут, тут у нас. Жыве з намі, як свая, родная. Гадуем яе, пестуем, даглядаем.

Кунарскі. Дзе-ж яна? Чаму яе няма тут?

Мар'яна. Зараз, зараз. Вось толькі што тут гуляла. Адбеглася некуды, мусіць. Зараз паклічам яе... Ная! Ная! Такая слаўная дзяўчынка, такая рахманая, ціхая... Дзе-ж яна дзелася? *(Гукае голасам)* На-я-а На-я-а *(Пауза)*.

Кунарскі *(гукае)* На-я-а! На-я-а!..

(З лесу даносіцца далёкае, заміраючае рэха.)

## КАРЦІНА VI

Ноч у глухім балоцвеным лесе. Непраходныя зараслі, паваленыя дрэвы, павывaрачваныя карчы. На сцэну з левага боку ціха ўваходзіць Юзік, вядучы за руку Наю.

Юзік. Хадзі, хадзі, Ная, не бойся! Я тут дарогу ведаю добра. Зараз пройдзем гэта балота, а там ужо—просты шлях.

Ная. Я баюся, Юзік. Тут дужа цёмна.

Юзік. Ну, дык што там такое,—хай сабе і цёмна. Ведама, ноч. Ноччу ўсё здаецца страшным, а тым часам усё такое-ж самае, як і ўдзень. Нічога асаблівага. Няўжо ты ніколі ноччу ў лесе не была?

Ная. Я аднаго разу нават на магільнік ноччу хадзіла. Шукала цётку і незаўважыла, як на самыя крыжы наскочыла. От, бегла тады, каб ты толькі ведаў. *(Чуваць як крычыць сава.)*. Юзік! Хто гэта крычыць?

Юзік. Во, дурная! Ці ты не ведаеш? Гэта-ж самая звычайная сава. Птушка такая—разумееш? Яна толькі пужае, а так не зачэпіць—яна людзей баіцца.

Ная *(кідаецца да Юзіка)*. Юзік! Воўк!

Юзік *(спалоханы)*. Дзе воўк? Дзе воўк?

Ная. Вунь, вунь ён, калматы, стаіць!

Юзік. Дзе стаіць?

Ная. Вунь!

Юзік. Выдумала! Там проста пень стаіць, які табе воўк! Ну, і палахлівыя гэтыя дзяўчаты. Чыстая бяда з імі... *(Спуджана)* Ой!

Ная. Чаго ты, Юзік?

Юзік. На корч на нейкі ўзбіўся. Такая дарога дрэнная, што проста рады няма.

Ная. Ну, пойдзем хутчэй, Юзік! Чаму мы не ідзем далей? Я нічога не бачу. Мне страшна...

Юзік. Мы збочылі трошку са сцежкі. Сюды трэба, налева... *(Ідзе налева і трапляе нагой у яму)* Ой, яма нейкая! Куды-ж гэта

мы забраліся? Трэба, мусіць, троху направа падацца! Ну, пэўна, што направа. Як гэта я раней не здагадаўся? *(Ідзе направа і ўпіраецца ў дрэва)* Дрэва нейкае, на самай дарозе стаіць...

Н а я. Пойдзем, Юзік, я боюся.

Ю з і к. Бачыш, Ная, я то дарогу ведаю добра, але тут нейкая сцежка такая, што ніяк яе не знайсці. Мы пашукаем, не бойся... памаленьку, вобмацкам...

Н а я. Пойдзем хутчэй, у мяне ногі баляць, я спаць хачу...

Ю з і к. Ну, вось, бачыш? Куды-ж ты пойдзеш, калі ў цябе ногі баляць? Я то дарогу знайду, але-ж як табе ісці, гэтак змарыўшыся? Ведаеш што, Ная? Давай пачакаем тут да рання. Ноч, цяпер зусім кароткая. Улетку ноч бывае куды карацей, чым дзень. Ужо зараз будзе відна. Сядзем во тут, пад дрэвам і будзем ціхенька сядзець. *(Сядаюць).* Ты прытуліся да мяне, дык будзе цяплей. Во, так... Спі, Ная, не бойся—я буду цябе пільнаваць. Ты спі...

Н а я. А калі—ваўкі?

Ю з і к. Што ты ўсё: ваўкі ды ваўкі... Чаго іх баяцца, ваўкоў? Яны нам нічога не зробяць, бо і мы ім нічога не робім. Яны не крануць, калі іх не зачэпіш. Ваўчочкі, яны такія... шэранькія... Ты бачыла на малюнку?

Н а я *(сонна)*. Не, не бачыла.

Ю з і к. Ная! Хочаш, я табе казку раскажу?

Н а я *(зусім засынаючы)*. Раскажы.

Ю з і к. Ну, слухай... У далёкай-далёкай краіне, там, дзе хвалюецца сіняе мора, дзе аж да самага неба ўздымаюцца высачэзныя горы, жыла адна малая дзяўчынка. У яе не было ні бацькі, ні маткі і яна гадавалася ў старога пастуха, які пасвіў стада авец, пераганяючы іх з аднэй верхавіны гары на другую. Дзяўчынка гэта таксама памагала яму. І вось, як споўнілася ёй дванаццаць год... *(У гэты момант чуваць у заросніку нейкі трэск. Юзік, перапалохана, зрываецца з месца).*

Н а я *(праснуўшыся)*. Што гэта? Дзе мы? Юзік, ты тут?

Ю з і к. Цсс. Нешта трэснула там... *(Пауза. Зноў чуваць трэск.)* Чуеш? *(Недзе недалёка порскае конь)* Конь!

Н а я. Ага, конь...

Ю з і к. Ты—во што... сядзі тут і не варушыся, а я зараз зраблю разведку.

Н а я. Юзік! Не кідай мяне адну!

Ю з і к *(строга)*. Слухай, што табе кажуць! Я зараз вярнуся... *(Асцярожна паўзе ў зараснік. Ная ціха хліпае, стрымліваючы плач. Праз момант Юзік варочаецца.)* Ная! Мы выратаваны! Тут у кустах нейкія два кані стаяць. Пэўна, хто-небудзь прывязаў, ды не знайшоў потым у цемры. Ты ездзіла калі верхам?

Н а я. Я нават наўскачкі магу ехаць і не звалюся!

Ю з і к. Ого! Ты ў мяне маладзец! Дык сядзем зараз на коней і пусцім іх, куды яны самі пойдуць. Жывёла заўсёды чуе, дзе яе хата. Яны нас выведуць на якую-небудзь дарогу, а там мы пабачым ужо, што рабіць... Ну, пашлі! Давай руку! *(Знікаюць у заросніку, адкуль чуваць, як яны валтузяцца з коньмі. На сцэну ўваходзіць купка*

*мужчын на чале з брыгадзірам Гарасімам, які трымае ў руцэ запалены ліхтар).*

Гарасім. Во гэта, здаецца, якраз тое самае месца і будзе... Ц-ссс... Чуеце? *(Чуваць тупат коней)* Павялі, зладзюгі! Чуеце?.. *(Момант усе прыслухваюцца. Тупат аддальваецца)* Ну, галубочкі, тут вы ўжо ў нашых руках! Хлопцы, за мной!..

## КАРЦІНА VII

Габінет начальніка раённай міліцыі. Начальнік міліцыі сядзіць за пісьмовым сталом, супроць яго Кунарскі.

Кунарскі. Я дагнаў іх на сашы, за некалькі вёрст ад Арэхава. Там была толькі адна старая цыганка, якая запэўняла мяне, што дзяўчынка ўвесь час была з ёй. Мы з шоферам абшукалі ўсю ваколіцу і не знайшлі нікога. Я ўпэўнены, што яны наўмысля хаваюць яе, бо ім нявыгадна яе аддаваць. Яны эксплаатуюць яе, як надзвычай здольную танцорку, і маюць з гэтага немалыя прыбыткі.

Начальнік міліцыі. Вы кажаце, што яны апошні час стаялі каля калгаса «Новая праца»?

Кунарскі. Так. Толькі ўчора яны раптоўна зняліся і выехалі адтуль.

Нач. міліцыі. Во што, таварыш Кунарскі, мы ўсё гэта зараз-жа высветлім. Сёння ўначы мы ліквідавалі банду канакрадаў і сярод іх ёсць адзін чалавек, які пэўна мае некаторае дачыненне да гэтае справы. *(Звоніць. Уваходзіць міліцыянер.)* Прывядзіце, калі ласка, сюды цыгана Якуба. *(Міліцыянер выходзіць і па невялічкай паўзе прыводзіць Якуба. Начальнік міліцыі зварачаецца да яго, паказваючы на Кунарскага).* Знаеце вы гэтага чалавека?

Якуб. Не, не знаю. Да-душы, не знаю, таварыш начальнік!

Нач. міліцыі *(да Кунарскага)*. А вы яго знаеце?

Кунарскі. Я, помню, сустракаў яго некалі. Ён таксама бачыў мяне.

Якуб. Каб я так свету не бачыў, як я цябе...

Кунарскі *(перапыняючы яго)*. Вы добра зналі майго бацьку. Ён таксама цыган быў, яго звалі—Кунарскі.

Якуб. Чакай, чакай... А братачка ты мой, а родненькі! Дык ці не ты гэта—Кунарскага сын? А як-жа вырас, а як-жа змяніўся! Век бы не пазнаў...

Нач. міліцыі. У вас жыве малая дзяўчынка, сястра таварыша Кунарскага...

Якуб. Ай-яй-яй! Каб-жа я знаў, каб я ведаў! Я-ж столькі часу шукаў цябе, увесь свет аб'ездзіў. Гэта-ж не жартачкі—брат з сястрой разлучыліся і не ведаюць, дзе адно, дзе другое... У нас яна, родненькі! Прытуліў я яе, сірацінку. Як родную дачку гадаваў. Нічога не шкадаваў для яе, ані-ні... Каб мне даў бог столькі...

Кунарскі. Дзе яна цяпер?

Якуб. Там, на сашы, пад Арэхавым, воз мой стаіць...

Кунарскі. Няпраўда! Я быў там учора і сёння раніцой—там нікога няма апроч старой бабулі.

Якуб. Таварышы даражэнькія! Да-душы, там. Усіх там пакінуў—і жонку, і матку, і сястрычку тваю. Можа на вёску куды адышліся?

Начміліцыі. Грамадзянін! Вы дарма хаваецеся і толькі заблытваеце справу. Скажыце проста: дзе вы дзелі гэту дзяўчынку?

Якуб. Святую праўду кажу, таварыш начальнік! Каб мне па гэтай праўдзе век свой пражыць! Каб мне ад родных сваіх такую праўду чуць, як вы ад мяне чуеце... *(У гэты момант за дзвярмі чуваць шум, галасы. Дзверы адчыняюцца, уваходзіць Гарасім і з ім некалькі калгаснікаў).*

Гарасім. Таварыш начальнік! Коні, што ў «Чырвоных зорах» прапалі былі, знайшліся. Мы іх сюды, да вас прывялі. Злавілі ў Рудым балоце, пад Арэхавым. Каб на адну хвіліну спаазніліся, усё-б прапала. Павялі ўжо іх некуды. Можна сказаць, з-пад самага носа ў нас выхапілі. Але мы-за імі, за імі, па свежаму следу і—хоп іх, даражэнькіх! Зладзеі таксама тут, таварыш начальнік—дазвольце прадставіць...

Нач. міл. Давайце іх сюды! *(Гарасім выходзіць і зараз-жа варочаецца, вядучы Юзіка і Наю).*

Гарасім. Вось яны! *(Кунарскі, убачыўшы Наю, робіць мімавольны рух да яе, але сунімаецца, і, стоячы ў баку, моўчкі назірае наступную сцэну).*

Нач. міл. Гэта зладзеі?

Гарасім. Так точна, таварыш начальнік! Пэўна, што гэта не самыя важныя, але таксама добрыя птушкі! Іх падаслалі, значыць каб перавялі коняй ў іншае месца. Яны адмаўляюцца, але вы не верце ім, таварыш начальнік! Зладзюганы самыя дасканалыя *(Паказваючы на Юзіка, пагардліва).* А яшчэ піонер, называецца...

Юзік. Дазвольце растлумачыць, таварыш начальнік!

Нач. міл. Ну, тлумач...

Юзік. Гэта ўсё чыстае непаразуменне...

Гарасім. Во-во...

Юзік. Мы ніякія не зладзеі...

Гарасім. Чуеце?

Юзік. Мы проста заблудзіліся ў Рудым балоце і зусім выпадкова натрапілі на гэтых коней. Мы селі на іх, каб яны вывелі нас на дарогу.

Нач. міл. А чаго вы ноччу хадзілі па Рудым балоце?

Гарасім. Ага? Ну-ну? Чаго?

Юзік. Гэта дзяўчынка ўцякла з цыганскага табару. Яна не магла там больш аставацца, бо з ёй абыходзіліся горш, як з жывёлай. Вось, паглядзіце, таварыш начальнік! *(Бярэ Наю за галаву і, падвёўшы да стала, нахіляе яе)* Бачыце, які страшэнны гузак?

Нач. міл. Куды-ж вы ішлі з ёй?

Юзік. Яна ішла ў горад шукаць свайго брата, а я вёў яе, бо я даў слова, што буду ёй памагаць... *(Заўважыў Кунарскага, які ў гэты момант падыходзіць да іх.)* Вось і таварыш Кунарскі скажа, што я не злодзей.

Кунарскі *(абнімае Наю).* Ты ішла ў горад шукаць свайго брата?

Ная. Я ўсёроўна знайду яго! Я не вярнуся назад...

Кунарскі. А ты не знаеш мяне, хто я такі?

Ная *(Доўга і пільна ўглядаецца ў яго, потым здагадліва ўсміхаецца)* Знаю. Гэта ты і ёсць мой брат. Я адразу пазнала. Я-ж казала, што ты прыгожы такі, вялікі, добры... Праўда, Юзік, я так казала?

Кунарскі. Сястрычка, любая! *(Лашчыць яе).*

Юзік. *(падыходзіць да Кунарскага і кратае яго за рукаў).* Таварыш Кунарскі! У мяне ёсць да вас адна надзвычай важная справа.

Кунарскі. Калі ласка. *(Адыходзіць з ім у бок).*

Юзік. Бачыце, таварыш Кунарскі... Я ўсю гэту справу закруціў без ведама нашага атрада. Маю прапазіцыю аб тым, каб атрад забраў Наю з табара, адхілілі. Тады я ўзяўся за гэта адзін, бо я даў слова, што выратую яе. Я вельмі прашу вас, таварыш Кунарскі, растлумачыць там нашым хлопцам, што я павінен быў так рабіць, што я павінен быў ратаваць гэту няшчасную дзяўчынку.

Кунарскі. Добра, добра, таварыш Юзік. У мяне тут машына, мы зараз усе разам пад'едзем да вас і ўрэгулюем гэтую справу. Можаш быць упэўнены, што ніхто не асудзіць піонера за тое, што ён—смелы, рашучы, што ён умее давесці да канца свой добры замер.

Юзік. Дзякую, таварыш Кунарскі. *(Падае Кунарскаму руку і той паціскае яе. У гэты момант з шумам расчыняюцца дзверы і ў пакой—страшэнна засопшыся, увесь у пыле,—убягае Мікіта. Ён бесцарамонна распіхае прысутных і падбягае проста да стала начальніка міліцыі.)*

Мікіта. Таварыш начальнік! Я маю да вас вельмі важную справу.

Юзік. Мікіта!

Мікіта. Юзік! Ты тут? *(Паказваючы на Наю, зусім збянтэжана)* І гэтая тут? Значыць, я ізноў спазніўся...

Юзік. А як ты трапіў сюды?

Мікіта. Ды ўсё з цыганамі гэтымі... Я-ж там, Юзік, такі вэрхал падняў у атрадзе! Важаты сам прызнаў, што няправільна выступаў супроць тваe прапазіцыі. Увесь атрад на ногі паставілі. Хлопцы пабеглі ўва ўсе бакі цыганоў даганяць... Ну, хто—куды, а я—у міліцыю.

Юзік. Пехатой?

Мікіта. Пехатой.

Юзік. І нішто сабе?

Мікіта *(аддыхваючыся).* Засопся, як трактар.

Юзік *(падаючы Мікіту руку).* Ну, дружа, прабач мяне...

Мікіта *(дужа здзіўлены).* Як прабач? За што?..

Юзік. Бачыш, Мікіта, я падумаў быў, што ты—свіння, што ты здрадзіў мне ў самую цяжкую хвіліну. Я памыліўся, Мікіта, прабач...

Мікіта *(горда).* Мікіта Шыцік слова сваё трымаць умее *(горача цісну́ць адзін аднаму рукі).*

*ЗАСЛОНА.*

*Мікола Хведаровіч*

# БАЛАДА

— Перадаць што мы ў асадзе,
Дзвесце шабель у брыгадзе.
А не прыдзе дапамога—
Спадзявацца нам на бога...

На каня. І толькі пыл
Заклубіўся хмарай к небу.
Тэлеграфныя слупы—
Па дарозе круціць пыл.

Конь спаткнуўся, закульгаў,
Ноздры рвуцца хрыпатою,
Пыл заблытаўся ў нагах,
Хмары ўжо над галавою.

Дзвесце шабель—адкажы!
А навокал—рубяжы.
Тут Махно, а там Пятлюра,
А ў гары рагоча бура.

Шпоры ў пеке і ў крыві,
І загад размок ад поту...
— Пападзешся,—каля плоту
Кулю стрэчную лаві!

Сэрца ў грудзях б'ецца глуха,
А навокал—сыпле скруха,
Гоніць хмары, круціць пыл,
І як здань слупы, слупы.

А далей за поўвярсты—
Перапоўзваюць кусты.
Зрок напружан: што там, што там?
А ж прамок халодным потам.

Запаліў хутчэй загад:
— Не, не возьмеш, белы гад!
Дыхавіца «Ваську» душыць,
Апускае «Васька» вушы.

Вецер дзьме з усіх бакоў:
— Не ўцячэш ад белякоў!
Спаласуе «бацька» скуру,
Сэрца выцягне Пятлюра.

І хутчэй ён, як мага,
З кабуры дастаў наган.
Дула ўставіў «Ваську» ў вуха,
Толькі стрэл пачуўся глуха.

Толькі ў хмарах рагаталі
Шэсць маланак, шэсць грамоў,
Толькі кулі засвісталі
З чатырох тады бакоў.

— За такую, брат, работу....

Бег ён полем, бег балотам,
Кроўю абліваўся, потам,
Рвалі твар яму кусты,
Прамінаў шляхі, масты.

Ледзь дапаў ён да поўстанка
Перайшоўшы рэчку ў брод...
Дзвесце шабель—як маланка
Рассякалі хмараў ход.

20-II-36 г.
Менск.

*Я. Чайкоўск*

# ПЕРШЫ ГОД

У вагоне цесна і душна. Адкінуўшыся к сцяне або прыгнуўшыся да рэчаў, дрэмлюць пасажыры, баязліва прытрымліваючы чамаданы і клумкі. Часам хто-небудзь прачынаецца, нязграбна абмацвае клумкі і, упэўніўшыся ў іх поўнай наяўнасці, зноў знясілена адкідаецца к сцяне, з задавальненнем чухае за пазухай, пазяхае і зноў пачынае драмаць.

Едкі махорачны дым і густы прыкры пах спацелых ног дурманіць галаву. Нарэшце, не вытрымаўшы, Луцкі адкінуў карзіну і, працікнуўшыся між мяшкоў і ног, адчыніў акно. Дыхнула холадам. Начная цемень паступова радзела, ператвараючыся ў шэрую ранішнюю муць. Светла-сіняя гладзь неба, рэдка ўкіданая цмянымі крупінкамі зорак, чырванела на ўсходзе. Чырвоная з жоўтаватым адценнем фарба прарэзвалася чорнымі складкамі, якія надавалі ўсяму небасхілу суровы, насуплены выгляд. Можна было падумаць, што вось нехта лінуў на сіні простор неба брудна-чырвонай фарбай і, каб хутчэй адчапіцца, нехаця размазаў яе даўно абломленым дзеркачом.

Рэзкі начны вецер няласкава перабіраў валасы, праціскаючыся за каўнер кожанкі. Як гэта яму ўдавалася, Луцкі, сціскаючыся ад холаду, шчыльна прыціскаў каўнер. Святлела. Вось складкі на ўсходзе расплыліся, памякчэлі і штучная суровасць раптам прарвалася, пырснуўшы радасцю сонечнага святла. Заблішчэла, засерабрылася раса на кусціках шэрай атавы, ад рэдкіх балотных хвоек працягнуліся доўгія чорныя цені. Апоены свежасцю рання, поезд бадзёра прагрымеў на мосце. Бліснула і сплыла назад сталёвая стужка ракі.

Людзі прачыналіся і, працёршы заспаныя вочы, марудна круцілі папяросы.

— Эй, Васіль, ці да Хвойнай далёка?—запытаў малады хлапец, звесіўшыся з трэцяй полкі.

— Не, недалёка, хвілін праз дваццаць прыедзем,—адказаў Луцкі і, абцягнуўшы рубашку, сеў на лаўку.

Вагон ажыў, заварушыўся. Адмыкалі чамаданы і карзіны, раскручвалі клумкі, папраўлялі вопратку.

— Вось, значыць, і скончылася вучоба,—гаварыў Сенін Піліп, старанна выціраючы свежы малады твар.—Што-ж паспрабуем настаўніцкага хлеба,—і ён, весела засмяяўшыся, засунуў ручнік у карзіну.

— Ды ўжо-ж—згадзіўся Луцкі,—толькі самі мы навучыліся малавата, ка гэтых пяціхвілінных.

— Ну, паложым, не пяціхвілінныя, а гадовыя педкурсы,—запярэчыў чарнявы хлапец, якога ўсе звалі Максімам.—Праўда, я не скажу, што курсы далі шмат, але ўсё-ж яны прайшлі не дарма.

— А кінь гаварыць,—рэзка абарвала рыжаватая ў вяснушках дзяўчына,—настаўнікі, нечага сказаць. Ды табе-ж яшчэ гадоў шаснаццаць не болей. Дзіцянё ты горкае, а не настаўнік. Думаеш, калі аднойчы забег у парыкмахерскую, ды абрыў пушок, то ўжо і чалавек сталы? Не, браце. Вось пападзеш у школу, то пазнаеш, што гэта за справа.

— Ну, ну ты закрыйся,—акрысіўся Максім,—бачыш мама знайшлася. Яна,—Максім звярнуўся да хлапцоў,—з Рыгорам добра не развіталася, дык яе цяпер не чапай. Не ў настроі.

Хлопцы засмяяліся, а Ніна—так звалі дзяўчыну,—адвярнулася да акна, лічачы спрэчку бескарыскай.

Аднак напамін аб развітанні закрануў не толькі Ніну. І Луцкі ўспомніў, што Іра прызначана ў далёкі раён і раптам адчуў тупы прыглушаны боль.

... У сталовай было шумна і весела. Маладыя хлопцы і дзяўчаты семнаццаці-восемнаццаці гадоў, будучыя настаўнікі, а пакуль курсанты, пелі, смяяліся, барабанілі лыжкамі, выказваючы нецярплівасць. Ад іншых не адставаў і Луцкі, які, наогул, лічыўся «актыўным».

— Вы, кажуць, матэматык вялікі,—пачуў ён раптам голас суседкі.

Васіль павярнуўся:

— Вы што, задачу хочаце? Калі ласка,—весела засяшыў ён, гарэзліва ўсміхаючыся.—Правільную трохгранную піраміду павярнулі вяршыняй уніз і апусцілі ў яе два шары, радыусы якіх вядомы. Шары дакранаюцца між сабой і да сценак піраміды. Вылічыць плоскі вугал пры вяршыні. Зразумела ўмова?—скончыў ён, упэўнены, што задачу так проста не развяжаш.

Дзяўчына задумалася.

— Так,—праз хвіліну адказала яна,—задача простая, але вуска яе не развяжаш. Вось я вам дам задачу чыста абедзеную. Добра?

І не чакаючы згоды, Іра сабрала лыжкі і пачала раскладаць іх на стале.

— Дык вось, патрэбна, пераклаўшы адну лыжку, ператварыць гэтую няроўнасць у роўнасць.

Луцкі зірнуў вышэй і ўбачыў, што вочы ў Іры сінія, сінія, а на лоб гарэзліва спускаюцца завіткі каштанавых валасоў. Ён пачырванеў і не развязаў задачы, хоць звычайна лёгка развязваў цяжэйшыя.

Пасля абеда Луцкага дагнаў таварыш:

— Адчапіся,—агрызнуўся Васіль і, не азіраючыся, накіраваўся ён,—бо лагарыфмы ў галаву не палезуць.

— Адчапіся,—агрызнуўся Васіль і, не азіраючыся, накіраваўся к рацэ.

Вось тут Луцкі і адчуў, што Іра яму дужа падабаецца. Спачатку

ён не згаджаўся з гэтым, адмаўляў, але ўрэшце павінен быў сам сабе прызнацца: Іра не так сабе дзяўчына, але нейкая асаблівая.

— Я захварэў—парашыў ён, пасля некаторых разваг.—Захварэў такой хваробай, якая перашкаджае вучыцца.

І Луцкі перастаў заходзіць у пакой, дзе жыла Іра, перастаў з ёй развязваць задачы і нават пры сустрэчах стараўся прайсці незаўважаным.

— Ты што-ж гэта не заходзіш да нас?—пытала Іра.

— Некалі ўсё неяк,—бурчэў Васіль, адчуваючы, што чырванее і не ведае, куды схаваць рукі.—Хай зайду калі-небудзь.

Астаўшыся адзін, ён прабаваў пераканацца, што Іра горшая за ўсіх дзяўчат, што ў яе і тое дрэнна і гэта не так, аднак нічога не атрымлівалася. І што цікава, дык гэта тое, што нават адмоўленае ў Іры яму падабалася. Усё, што было звязана з ёй набывала для яго асаблівы сэнс, блізкі і дарагі. Яе манера смяяцца, звонка і задорна, рух галавы, якім яна адкідала пасмы валасоў, налазіўшыя на лоб, захаплялі яго.

— Я пасваруся з ёй,—парашыў Васіль і пачаў рабіць ёй зусім несправядлівыя заўвагі, рэзка адзываючыся на кожнае слова.

Іру гэта моцна закранала і яна адмоўчвалася, прыкусіўшы губы. Але потым, забыўшыся на крыўду, зноў пачынала гутарку.

Аб сваіх адносінах да Іры Васіль нікому не гаварыў, мяркуючы, што ўсё хутка неяк абыйдзецца. Аднак пачуццё не праходзіла. Аднойчы ён, нават, верш напісаў, дзе ўспаміналіся і сінь вачэй і завіткі валасоў. Верш гэты яму падабаўся і ён некалькі разоў з усмешкай яго прачытаў, але потым запаліў лісток і, пачакаўшы пакуль загасне попел, выкінуў за акно.

Некалькі разоў ён памыкаўся расказаць ёй аб сваім пачуцці, але ўсякі раз перамагаў сябе і адганяў навязчывую думку.

Нарэшце падышоў канец вучобы і іх разаслалі ў розныя бакі (а можна было прасіцца ў адзін раён).

На вечары падводзілі вынікі работы. Калі пачаліся скокі, да Луцкага падышла Іра.

— Слухай, Васіль, давай патанцуем напаследак.

— Танцаваць?—нерашуча перапытаў Васіль, адчуваючы што яму адразу стала горача.—Не, гэта ў мяне не атрымаецца.

І ён, не азіраючыся, выбег на двор.

— А ўсё-ж я дрэнна зрабіў,—разважаў цяпер Луцкі, азіраючы Ніну.—Нікому гэта непатрэбна.

... Паравоз, цяжка сапучы, ўзнімаўся на гару.

* * *

У калідоры цэлы атрад курэй пад началам чорнага з белымі кроплямі пеўня заўзята змагаўся з пасыпаным на падлозе збожжам, капаўняючы калідор роўнамерным стукам. Пры з'яўленні Луцкага куры замітусіліся і шпарка кінуліся да акна. Відаць, пачуўшы крык з-за дзвярэй высунуўся спачатку мясісты твар, а потым і ўся грузная постаць жанчыны ў сіняй сукенцы, закрытай спераду брудным фартухом.

— Мне трэба бачыць загадчыка,—сказаў Луцкі павітаўшыся.—Я прызначан да вас настаўнікам.

— А, настаўнік прыехаў,—пачуўся раптам мужчынскі голас недзе збоку.—Заходзьце сюды.

Луцкі павярнуўся і праз адчыненыя дзверы ўбачыў дужага пажылога чалавека, які, закасаўшы рукавы чорнай рубахі і трымаючы ў зубах папяросу, старанна здзіраў шкуру з вялікага барана, прывешанага да столі. Пры кожным штуршку галава барана хісталася на надрэзанай шыі і з яе сцякалі кроплі цёмна-чырвонай крыві. Вялікія лужыны крыві на падлозе, вялікія ночвы з вантробамі і безліч розных дзежачак надавалі кухні надзвычай непрытульны выгляд. Паветра было настолькі цяжкае, што Луцкі ледзь трываў.

Чалавек, з папяросай у зубах, адарваўся ад работы, выцер локцем спацелы твар і звярнуўся да Луцкага.

— Будзем знаёмы. Рыгор Пілпавіч Вусаў. Звычайна загадчык школы, а цяпер вось, воляй жонкі, разнік,—прагаварыў ён магутным басам.—Вы яшчэ нежанаты?

— Не,—замяўся Луцкі.

— Ну то і ніколі не жаніцеся, бо гэта самая прапашчая справа,—параіў Рыгор Піліпавіч.—Адзін яўрэйскі пісьменнік праўду казаў, што жонка гэта зубны боль, які вечна не дае спакою—пілiць і пілiць, як піла тупая. Асабліва вось мая на гэта здатна і не прывядзі ты госпадзі.—Вусаў кіўнуў на стаяўшую ў дзвярах кабету.

— Вось ты ўжо ў мяне маладзец,—агрызнулася тая.—Не слухайце гэтага старога бабніка,—заспяшыла яна.—Гэта ён толькі так гаворыць, а сам ажаніўся вунь у шаснаццаць гадоў.

Гутарка пачынала Луцкаму надакучаць і ён паспяшыў перайсці да справы:

— Гэта ўсё так, але вось дзе мне спыніцца?—запытаў ён.

— А вось тут у гэтым пакоі разам з другім маладым настаўнікам,—паказаў Вусаў.—Маня,—звярнуўся ён да жонкі,—адамкні дзверы.

Хутка Луцкі разам з Абрамам Вайсманам рэзалі дошкі і майстравалі козлы, якія прызначаліся для замены ложка. Ачэсваючы ножкі, Абрам—так звалі другога настаўніка, маладога рухавага хлапца—апявядаў.

— Я прыехаў пазаўчора таксама з аднагадовых і сёння цэлы дзень шукаў чалавека, які-б згадзіўся мяне карміць. Прызнацца, гэта справа не такая простая, але я табе дапамагу.

— Табе колькі год?—запытаў Луцкі.

— Шаснаццаць,—адказаў той.—А табе?

— Мне зараз будзе семнаццаць.

— Значыць аднагодкі.

— Так.

* * *

З самага ранку пачалі ў школу збірацца дзеці. Групкамі і ў адзіночку ўзбягалі яны на школьны двор і запаўнялі школу зво-

нам маладых, здаровых галасоў. Частка дзяцей зацягнулі любімую песню:

Нас республика призвала
Власть советов защищать.

Мы лакеям капитала
Не дадим торжествовать.

Частка дзяцей гуляла на двары. Спрытна лётаў мячык, кінуты вопытнай рукой, з гулам ляцела гладка выструганая палка, кінутая дзесяцігадовым хлапчуком, лепшым іграком у гарадкі.

— Ну, ідзем званіць,—устаў Рыгор Піліпавіч, апраўляючы плецены пояс з чырвонымі кутасамі.

Луцкага ахапіла незразумелае хваляванне. Ён сам добра разумеў, што нічога асаблівага няма, што ён стрэне ў трэцяй групе малых дзяцей, аднак, супроць волі, калені чуць-чуць дрыжалі і голас гучэў няўпэўнена.

— Пашлі.

Пры ўваходзе Луцкага, вучні ўсталі.

— Добры дзень,—пачуліся паасобныя галасы.

— Добры дзень,—адказаў Луцкі.—Сядайце.

Дзеці з цікавасцю разглядалі новага настаўніка, сочачы за кожным рухам. Некаторыя ціха пасмейваліся. Луцкі абапёрся рукамі на стол і чуць нахіліўся ўперад.

— Ну дык вось,—пачаў ён і раптам запнуўся, не ведаючы, як сказаць, дзеці ці таварышы і адчуваючы, што яму стала горача,—ну дык вось, вучні,—найшоў ён нарэшце патрэбнае слова,—мы пачынаем з вамі новы навучальны год.

— Але, пачынаем,—хіхікнуў ззаду без усякай прычыны хлапчук і прыгнуўся да лаўкі.

Гэты недарэчны смех адразу збянтэжыў Луцкага і ён яшчэ больш пачырванеў. На ілбе выступілі дробныя кроплі поту, а шчокі нервова тарганупіся.

— Таварышы вучні,—прагаварыў ён, крыху павысіўшы голас,—я патрабую, каб да маіх слоў адносіліся ўважліва, інакш будуць непаразуменні.

— Ого!—пачуўся ранейшы голас і хіхікнула ўжо некальні чалавек.

«Што за дысцыпліна»,—думаў Луцкі, адчуваючы, што пачынае нервавацца. Яму хацелася рэзка адзёрнуць зрыўшчыкаў дысцыпліны, але не ўпэўнены ў поспеху ён перасіліў сябе і моўчкі, кусаючы ніжнюю губу, сеў на крэсла.

— Зараз мы ўтворым запіс усіх вучняў па алфавіту,—загаварыў ён мякка.—Ну вось, як тваё прозвішча,—звярнуўся ён да сядзеўшага справа нястрыжанага хлапчука.

— Шырань, Рыгор Максімаў,—адказаў той устаючы.

— Не Шырань, а певень,—заўважылі ззаду.

Усе засмяяліся і пачалі весела пераглядацца, выказваючы заўвагі. Было ясна, што нешта не ладзіцца, што трэба штосьці рабіць. Пэўна, выгляд настаўніка, малады і збянтэжаны, не выклікае павагі.

— Што гэта за мянушкі такія,—накінуўся Луцкі на самага руха-

вага.—Вы-ж таварышы, і кожны мае сваё прозвішча. Глядзіце, каб больш гэтых мянушак не чуў. Які ён вам певень?

— Ну, бо певень,—гарэзліва падхапілі злева.—Ён вечна б'еццa і яго таму ўсе так завуць.

— Досыць!—загарэўся Васіль Сымонавіч—Што за расхлябанасць такая!

У класе настала мёртвая цішыня. Аднак, настаўнік усё-ж заўважыў, што крык не асабліва дзейнічае—частка вучняў здаволена ўсміхаліся.

Як знарок званка доўга не было і Луцкі, робячы выгляд, што не чуе заўваг з месц, спешна перапісваў вучняў.

— Як прозвішча?—звярнуўся ён да белагаловага хлапца, які больш за ўсіх парушаў парадак.

— Мелька Лявон.

— Бацька ёсць?

— Ёсць.

— Дзе ён працуе?

— Дзе-ж працуе,—перапытаў Мелька, шмаргануўшы носам,—у калгасе, брыгадзір першай брыгады,—і лічачы гутарку скончанай, сеў.

Нарэшце прагучэў даўночаканы званок і Луцкі спяшаючыся вышаў з класа.

— Ну, як бязвусыя педагогі?—смяючыся звярнуўся Вусаў.

— У мяне нішто,—пахваліўся Вайсман.

— А ў мяне не зусім. Штосьці дысцыпліна качае.

— Ты, браце, глядзі,—параіў Вусаў.—Дысцыпліну трэба з пачатку берагчы, бо калі ўпусціш, то потым не справішся. Глядзі,—яшчэ раз паўтарыў ён і накіраваўся на кватэру, адкуль даносіліся выкрыкі жонкі.

* * *

Дні шэрыя і цягучыя паўзлі адзін за адным, быццам ступені велізарнага маруднага экскалатара, размежаваныя чорнымі правaламі асенніх начэй. Звычайна першым прачынаўся Луцкі. Высунуўшы з-пад коўдры ўзлахмачаную галаву і зірнуўшы на шэрую постаць ветрака, што дзіўнай птушкай размахнуўся на ўзгорку за алешнікам, ён крычыць:

— Абраша! Ўставай, сынок! Пара! Ўставай, чуеш?

Вайсман лена варочаецца пад шэрай коўдрай, бурчыць, лаецца, а потым, раптоўна сабраўшы рашучасць, адкідвае коўдру і саскаквае на падлогу. Яго адразу абдае асеннім холадам неацепленай кватэры і, каб сагрэцца, ён кідаецца да Луцкага, сцягвае яго з пасцелі і пачынае валтузіць. Барацьба ідзе ўпартая. Ляцяць на падлогу сшыткі, кнігі, трашчаць і бурацца козлы, замяняючыя ложкі, раскідаецца па пакоі вопратка і абутак.

Охканне і сапенне запаўняюць пакой.

Луцкі дужэйшы за Вайсмана, але апошні надзвычай спрытна выкручваецца і таму поспехі іх у барацьбе амаль роўныя. Урэшце Луцкі хапае праціўніка ўпоперак і, сцягнуўшы разам з пасцеллю на падлогу, садзіцца верхам.

— Здаешся?

— Здаюся,—ледзь хрыпіць Вайсман, папраўляючы валасы, якія распаўзаюцца па чырвоным спацелым твары.

У пакой уваходзіць Вусаў. Ён яшчэ з сваёй кватэры чуў стук і дагадваўся аб яго прычынах.

— Эй, вы, хлапчукі,—крычыць ён з парогу,—ды я вас абодвых адзін палажу.

Ён павольна скідае пінжак, і, закасаўшы рукавы, хапае сваімі мускулістымі магутнымі ручышчамі абодвых хлапцоў разам з пасцеллю ды круціць іх у паветры.

— Што, хопіць?

— Хопіць, хопіць, Рыгор Піліпавіч,—крычаць спацеўшыя барацьбіты, выкручваючыся з магутных абдымкаў волата.

— То-та, хопіць,—задаволена смяецца Рыгор Піліпавіч.—Эх, вы, настаўнікі!

Хлопцы шпарка апранаюцца і, слізгаючыся па мокрай сцежцы, спяшаюць на снеданне.

Заняткі пачынаюцца тады, калі гатовы настаўнікі і збяруцца вучні. Праўда, у настаўніцкай вісяць «ходзікі», але кожны раз, калі позніцца снеданне, Рыгор Піліпавіч адганяе іх назад:

— Спяшае наш гадзіннік,—бурчыць ён пры гэтым,—трэба будзе маятнік падцягнуць.

Вучні збіраюцца рана і падымаюць страшэнны шум. З класаў нясуцца песні, свіст і проста дзікія крыкі. Толькі некаторыя вучні спакойна сядзяць, рыхтуючы ўголас урокі. Большасць-жа бегаюць па залі, дужаюцца і складаюць «кучку невялічку».

На брудной падлозе валтузіцца куча цел, вопраткі. Гучаць смех, выкрыкі і лаянка.

— Эй, кучка невялічка,—крычыць сухарлявы дужы Антось і штурхае таварышоў на кучу цел, што клубком рознакалёрнай вусені варушацца на падлозе. Антося таксама штурхаюць, але ён спрытна ўхіляецца. Яго сінія зрэбныя штаны і такая-ж рубашка мільгаюць з усіх бакоў.

Ад бесперапыннай беганіны і штурханіны падымаецца страшэнны пыл. Дыхаць цяжка. Пыл садзіцца на мэблю і сцены, пакрываючы іх шэрым налётам. Са сцен пыл сціраюць два разы ў год— к гадавіне Кастрычніка і к Першаму маю,—а таму пласт яго наводзіць на дрэнныя развагі. Адрывак паперы, на якім напісаны правілы ўнутранага распарадку, так залеплен пылам, што на ім толькі з напружаннем можна прачытаць: «Бегаць па калідоры і падымаць пыл катэгарычна забараняецца».

Такое становішча санітарыі ў школе адразу-ж абурыла Вайсмана і ён звярнуўся да загадчыка:

— Рыгор Піліпавіч, трэба нешта зрабіць з чыстатой, і з арганізацыяй перапынкаў, бо ў нас творыцца штосьці незвычайнае. Ні ў адной іншай школе няма такога беспарадку.

Вусаў зацягнуўся, выпусціў слуп сіняватага дыму і нехаця адказаў:

— А што ты зробіш? Я вось колькі разоў гаварыў тэхработніцы, каб яна кожны тыдзень мыла падлогу, а яна ўсёроўна мые адзін раз у два тыдні. Вось таму і пыл. А дзецям падурэць трэба.

На гэтым гутарка абарвалася. Вайсман бачыць, што ад Вусава больш нічога не даб'ешся і вырашае дзейнічаць сам з дапамогай Луцкага. Вусаў сам па сабе і не дрэнны чалавек, але прывык да гразі, і да школы адносіцца нядбайна. Шмат лепей ён адчувае сябе на грамадскай рабоце, якую выконвае ахвотна і акуратна.

Іншы раз у выходныя дні Вусаў выпівае не меней паўлітра (меншыя порцыі не дзейнічаюць на яго) і чуць хістаючыся заходзіць у пакой да настаўнікаў. Яго твар, заліты здаровай чырванню, чуць уздрыгвае, ніжэй апушчаюцца кончыкі светлых вусоў. Ён цяжка садзіцца на крэсла і скардзіцца:

— Педагагічная работа не па мне, браткі. Ну, які з мяне педагог? Я не магу штодзённа карпець над гэтай крапатлівай работай. Не магу! Мне-б шыр, размах! Вось кіну і паеду дзе-небудзь на будоўлю звычайным цесляром. Там я буду на сваім месцы.

Ён некаторы час маўчыць, азіраючы новую столь, а потым устае і, выцягнуўшыся на ўвесь багатырскі рост, раскінуўшы полы кажанкі, крычыць:

— Вось у дваццатым годзе я на сваім месцы быў. Бывала наляцім на які-небудзь белапольскі атрад, дык як мурашкі рассыплюцца. І ведаеце...—ён, не скончыўшы думкі, махае рукой і вывальваецца за дзверы.

— Лёг-бы ты, ды не смяшыў-бы людзей,—чуецца голас жонкі.

— Адчапіся.

У Луцкага і Вайсмана назбіралася цэлы шэраг пытанняў, якія патрэбна было разабраць. Тут было і плакаванне работы, і падрыхтоўка да ўрокаў, і шэраг метадычных непаразуменняў. Аднак ад Вусава чакаць дапамогі не прыходзілася, бо сам ён гэтым не займаўся.

— Планы гэта для начальства пішуць,—гаварыў ён звычайна.— Я і без планаў спраўлюся.

— Пойдзем калі-небудзь у сямігодку,—запрапанаваў Вайсман Луцкаму.

— Пойдзем.

* * *

Мутныя хмары мокрым клоччам плылі над аголенымі палеткамі ледзь не дакранаючыся да верхавін дрэў. З хмар кожную хвіліну пырскаў дробны назойлівы дождж, павялічваючы ўжо і так немалую гразь. І вось падзьмуў усходні вецер і разагнаў прыкрыя шэрае клочча. Мокрыя сцежкі заблішчэлі пад касымі праменнямі халоднага асенняга сонца. Стала адразу прастарней пад высокім купалам нябеснай сіні.

— Схаджу да Максіма,—парашыў Луцкі, канчаючы заняткі.—Папершае, прайдуся, а па-другое, праведаю таварыша.

Адпусціўшы вучняў і збегаўшы на абед, ён шпарка накіраваўся за вёску.

— Да Зацішша, дзе працаваў Максім, трэба было ісці кілометраў

пяць і, каб паспець да захаду сонца, Луцкі спяшыў. Сіратліва чарнела голае поле. Сярод ржэўніка назбіраліся кучы пажоўклага бярозавага лісця, на якім рознакалёрна блішчэлі кроплі вады. Хмызняк, пазбаўлены летняй прыгожасці, абсыхаў на сонцы. Вакол мёртвая цішыня. Адчувалася, як пад нагамі пругка рыпіць мокры пясок, раптоўна бялеючы пад націскам нагі. Ад таго, што вакол было ціха, што халоднае паветра рэзка шчыпала за вушы, што вакол усё блішчэла на сонцы, Луцкі адчуваў сябе весела і свабодна. Хацелася ісці і ісці бесперапынна па гэтым шчыльным намокшым пяску, упіваючыся свежасцю асенняга паветра.

З шыпеннем і хлюпаннем падляцеў грузавік і, раптам замоўкшы, пасунуўся па гразі. На кузаве, залепленым гразёю, відаць быў надпіс: «С-с Большэвік».

— Сядай, падвязу,—высунуўся з кабінкі знаёмы шофер.

Луцкі, неахвотна адарваўшыся ад сваіх разважанняў, усеўся з ім.

— Газуй,—кінуў ён.

Зразу ўпэўнена загрукатаў матор. Рэзка рыпнулі шасцярні каробкі хуткасцей. Аўтамабіль рвануўся і, абліваючы прыдарожны хмызняк цэлымі патокамі гразі, заспяшаўся далей.

— Люблю сваю работу, чорт яе вазьмі,—прыгнуўшыся да самага вуха, крычаў шофер.—Спраў многа, часам цэлыя ночы не спіш, а ўсё-ж падабаецца. Вось калі сяду за руль і адчуваю, што ў мяне як трэба працуе матор, калі ў твар б'юць струмені паветра, дык мне хочацца крычаць, пець ды так, каб аж неба страсанулася. Люблю свой АМО.

Твар шофера смяецца, вочы блішчаць, а валасы шавеляцца пад подыхам ветра.

— Угу,—неазначальна прагудзеў Луцкі і рашуча нацягнуў шапку.

Максіма Луцкі знайшоў на вёсцы. Абхапіўшы правай рукой постаць чарнабровай красуні, ён заўзята скакаў лявоніху. Струны мандаліны выбівалі знаёмы матыў. Па хаце з гліняхай падлогай памаладзецку падскакваючы танцавалі некалькі спацеўшых хлапцоў і дзяўчат, якіх выкрыкамі падбадзёрвалі стаяўшыя.

Луцкі спыніўся ў парозе і з цікавасцю азіраў тонкую постаць таварыша ў зялёнай вайсковай гімнасцёрцы, туга падцягнутай шырокім раменем. Яго белы твар здаволена ўсміхаўся, а з-пад шырокага казырка весела і неяк здзіўлена блішчэлі вочы.

Праз паўгадзіны, калі абодва таварышы ўжо сядзелі ў акуратна прыбранай кватэры Максіма, апошні расказваў.

— Я, браце, не сумую так, як ты. Ну яе к ліху гэтую работу. Ты ведай, што кожны вучань ёсць маленькі прайдзісвет, які ў пяць разоў хітрэйшы за цябе ды толькі і думае, як нарабіць прыкрасці настаўніку, што не асабліва цяжка. Я прывык так: прыйду ў клас, дам адным пісаць, другім задачы рашаць, трэцім чытаць,— у мяне тры класы,—а сам сачу за імі, або проста аб сваім думаю. На другой лекцыі памяняю работу, праверу крыху і зноў далей. Так глядзіш і пройдзе чатыры лекцыі, пасля якіх каціцеся вы, мае міленькія,

на ўсе чатыры бакі і не трывожце сваім крыкам маіх музычных вушэй.

Луцкі, адкінуўшыся да сцяны, моўчкі слухаў развагі Максіма і думае, што дарэмна сюды прышоў.

— А вечарам, працягвае Максім,—я таксама не асабліва гарую. Дзяўчат на вёсцы шмат, а я сам ведаеш, не стары ды і з твару дармо вышаў.

Максім закідвае галаву і прыкра хіхікае.

— Сыграй што-небудзь, Максім,—просіць Луцкі.

— Што табе?

— Сыграй Брамса.

Дадому Луцкі не пайшоў, а астаўся начаваць у Максіма. Позна гарэла лямпа, асвятляючы накрыты газетай стол, на якім стаяла літровая пляшка, валяліся кускі хлеба, каўбасы, а ў бляшанай місцы, залітыя расолам, зелянелі неабходныя ў такіх выпадках зялёныя агуркі.

Максім, няўпэўнена перабіраючы пальцамі, хутка сыпаў:

Буду петь, буду петь, буду петь,
Не обижу ни козы, ни зайца.
Если есть о чем скорбеть,
Значит есть чему улыбаться.

Голас яго зрываўся на хрып, але ён, ківаючы галавой, пачынаў спачатку.

Луцкі з непрывычкі хутка ап'янеўшы, тузаў яго за рукаў і з болем у голас прасіў:

— Можа і з мяне будзе добры настаўнік. Я хачу быць настаўнікам, але ты мяне навучы, пакажы, як мне трымацца ў класе, што мне рабіць, каб у мяне Мелька сядзеў як трэба, каб які мяне слухалі. Ты чуеш? Каб яны мяне слухалі!..

— Адчапіся!—штурхануў яго Максім.—А я адкуль ведаю, што я спец які, ці што. Разам-жа гадовыя канчалі. На, вось выпі лепей.

Ён наліў чуць не поўную шклянку і Луцкі, радуючыся рэзкай горачы, піў закусваючы салёным агурком. Звінелі струны мандаліны, пелі ў два галасы.

* * *

Дрэннае становішча было з дысцыплінай. Як ні стараўся Луцкі, а правесці ўрок так, каб можна было цалкам аддацца тлумачэнню, ніяк не ўдавалася. Заўсёды, скончыўшы лекцыю, ён вымушан быў канстатаваць, што значную частку патраціў на тое, каб даваць вучням заўвагі і хоць крыху супакоіць іх. Пры гэтым Васіль Сымонавіч часта загараўся, крычаў і канчаў тым, што высылаў вучня з класа.

Вось і сёння трэба было тлумачыць вучням множанне на двузначны лік. Ведаючы, што гэты пераход даволі цяжкі, ён старанна рыхтаваўся да яго, прачытаў адпаведныя месцы ў методыцы, прадумаў прыклад, напісаў даволі падрабязны канспект і меркаваў, што лекцыя пройдзе не дрэнна. Наогул, трэба зазначыць, што найлепшая дысцыпліна была на лекцыях матэматыкі. Гэта можна было растлумачыць тым, што кожны вучань рашаў прыклад і значыць так

або іначай быў уцягнуты ў работу. Так і сёння лекцыя пачалася даволі добра. Васіль Сымонавіч, выклікаўшы паасобных вучняў, праверыў дамашнюю работу і пачаў тлумачэнне новага.

Але якраз у самы важны момант тлумачэння ўвесь клас раптам узарваўся ад дружнага рогату. Луцкі хутка азірнуўся і ўбачыў, што Шырань, размахнуўшыся, запускае ў паветра папяровы «самалёт», афарбаваны сінім чарнілам. Вялікі шматок газетнай паперы плаўна праплыў над паднятымі галовамі вучняў і пад дружныя крыкі, упаў к нагам настаўніка.

— Самалёт, самалёт,—крычаў Мелька і выцягваўся, каб разглядзець цікавую цацку.

— Шырань лётнікам будзе!

— І будзе! Вось пабачыце што будзе! Шырань гэта ого! Цаца! Ее як спіць, то есці не просіць і каля яго можна без кія прайсці,—крычаў Мурашка, ківаючы галавой і махаючы рукамі.

Урок парушыўся.

Луцкі моўчкі стаяў, упёршыся рукамі на стол і стрымліваючы наляцеўшае абурэнне.

«Што рабіць? Як спыніць гэты беспарадак?»—мітусілася ў галаве. Жаданне тлумачыць прапала. Ён нагнуўся, падняў шматок паперы, прачытаў нязграбна напісанае «Шырань» і, нервова змяўшы яго, кінуў у парог.

— Навошта? Трэба было мне аддаць,—выказаў жаданне Мелька.—Гэта-ж такі самалёціска.

Шырань з-пад ілба пазіраў на настаўніка, здаволена ўсміхаючыся.

— Шырань!—закрычаў раптам Луцкі не стрымаўшыся.—Гэта што за штукі такія?

— Нічога,—паранейшаму ўсміхаючыся адказаў Шырань.—Я самалёт зрабіў.

— Самалёт? А вось ідзі памнож мне семдзесят шэсць на сорак сем,—ужо цішэй, але па-ранейшаму рэзка загадаў настаўнік.

Шырань павольна, пераглядаючыся з таварышамі, якія ўсмешкамі выказвалі свае спачуванне, падышоў да дошкі, напісаў на ёй патрэбныя лікі і, не ведаючы, што рабіць далей, глядзеў у падлогу.

— Ну, чаго стаіш? Множ!—прыставаў настаўнік.—Ты-ж не хочаш мяне слухаць, значыць ты ведаеш, значыць ты грамацей ужо вялікі. Ну, не стой, як слуп тэлеграфны, а множ.

Вучні перасмейваліся.

— Ладна, сядай,—пашкадаваў, карэшце настаўнік.—Ды глядзі, каб у мяне больш гэтага не было.

Тлумачэнні прышлося пачаць з самага пачатку, але тут прагучэў званок і не скончыўшы прышлося абарваць.

— Вось яшчэ адна лекцыя прапала дарэмна,—думаў Луцкі, седзячы ў настаўніцкай.

Ад нервавання і шуму балела галава, шчымела ў горле, а ўсё цела было ахоплена цяжкай стомай.

— Што прызадумаўся, добры маладзец?—запытаў Вусаў, дастаючы кісет з табакай.—На, вось закуры, каб дома не журыліся.

Луцкі скруціў вялікую нязграбную папяросу і з задавальненнем пачаў зацягвацца едкім дымам, адчуваючы, як рэзкая гарката махоркі паступова заглушае тупы боль.

Бывала і горш. Даведзены рознымі выкрыкамі да белага калення, Луцкі пачынаў моцна крычаць, узрушана бегаў па класе і канчаў тым, што прапанаваў вучню пакінуць клас. Звычайна вучні не пярэчачы ўставалі і, знарок маруднымі крокамі, перавальваючыся выходзілі. Іх правадзілі вясёлымі крыкамі, падсмейваннем, а часамі і адкрыта выказвалася жаданне пайсці разам.

Выганяў з класа не адзін Луцкі. Гэтак-жа і з няменшым крыкам рабілі і Вайсмак і, нават, сам Вусаў, Часамі ў залі збіралася чатыры-пяць выгнаных вучняў. У такіх выпадках яны, паклаўшы кнігі на сцэну, распачыналі жвавую гульню, агалашаючы залу смехам і крыкам. Крыкі і стук даляталі ў клас, завалодваючы ўвагай вучняў. Некаторыя ўставалі і прасіліся на двор, варочаючыся толькі к канцу ўрока.

Настаўнікі таксама чулі гэты крык, але, ведаючы, што ў залі супакоіць немагчыма, стараліся не звяртаць увагі.

Часта залішне разышоўшагася вучня выклікалі ў настаўніцкую і пачыналі адчытваць па чарзе або і ўсіх разам.

— Ты, што гэта лекцыі зрываеш, га?—нервова тупаючы нагамі, крычаў загадчык.—Ды ты галаву падымі і глядзі мне ў вочы, што там саромяцца!

Усе гэтыя «натацыі» былі настолькі шаблонныя, што Луцкі наперад мог прадбачыць усе варыянты.

Вучні таксама прывыклі да выклікаў у настаўніцкую і адносіліся да іх без усякага страху, ведаючы, што справа крыкам і абмяжуецца. Таварышы цеснай групкай стаялі ля дзвярэй настаўніцкай, чакаючы, «пацярпеўшага» і арганізуючы яму бурную сустрэчу.

Звычайна вучань доўга слухаў папрок настаўнікаў пільна вывучаючы гузікі на сваёй уласнай світцы, шморгаў носам і, калі, нарэшце, яму гэта пачынала дакучаць, жаласліва крывіў твар, робячы плаксівы выгляд, і абяцаў надалей трымаць сябе добра. Гэта «надалей» не цягнулася больш аднаго дня, што добра ведалі настаўнікі, аднак вучня адпускалі. Былі «герої», якія доўга не пачыналі румзаць і ўпарта ўсміхаліся ў адказ на ўсе дакоры. У такіх выпадках справа цягнулася далей і з меншым эфектам.

Вельмі часта ў школу выклікалі і бацькоў вучняў, пасылаючы ім запіскі, або адпраўляючы вучня дадому без кніг.

У настаўнцкую з'яўляўся бацька (або матка) і ў прысутнасці настаўнікаў абяцаў:

— Калі ты мне толькі не паправішся, то з цябе з жывога скуру спушчу. Вось хай хоць адзін раз паскардзяцца мне настаўнікі, што ты не папраўіўся, то тады сцеражыся, хлопец. Бачыш ты, знайшоўся асэсар!

І бачачы, што словы не асабліва дзейнічаюць, дадаваў:

— Вось прыдзем дадому, то я табе, нягоднік, пакажу!

Настаўнікі доўга маўчаць, слухаючы лаянку і адчуваючы сябе ніякавата. Нарэшце хто-небудзь раіў:

— Вы, дзядзька, дарэмна так крычыцё. Біць дзяцей няможна і непатрэбна. Боем справы не зменіш. Патрэбна штодзённа і сістэматычна выхоўваць дзетвару.

Калі вучняў адпраўлялі ў клас і бацька, падзякваўшы за паведамленне, ішоў дадому, у настаўніцкай адразу рабілася лягчэй.

— А, між намі кажучы, і нядрэнна было-б гэтага вучня добра такі бярозавай кашай накарміць,—гаварыў Вусаў, выцягваючыся на лаўцы.—Зусім нядрэнна. Даць-бы яму так, каб аж дзесятаму заказаў, каб ён праз тыдзень памацаў асцярожна тое месца. Вось тады-б было інакш.

—Трэба з школы выключыць,—няўпэўнена раіў Луцкі, якому даводзілася больш за ўсіх. Вусаў неазначальна гудзеў.

На гэтым гутарка канчалася.

* * *

— Таварыш Луцкі, вам ліст,—крычыць лістаносец, рослы хлапец у вялізных, залепленых гразёю ботах і брызентавым плашчы. Ён балюча крывіць твар ад дыму, які тонкай істужкай віецца з акурка, прылепленага да ніжняй губы і доўга капаецца ў скуранай торбе.

— Вось яно ёсць,—падае ён нарэшце ружовы канверт.

— Дзякую.

Луцкі спешна канчае ўрок і, спатыкаючыся на каменні, бяжыць на кватэру.

— Няўжо яна напісала?—думае ён.

Кнігі ляцяць на стол, а дрыжачыя пальцы ніяк не могуць разарваць ружовы канверт.

Так і ёсць: на маленькім лісту густа пасыпаны знаёмыя літары, а знізу ўсміхаецца знаёмае і дарагое імя.

«Добры дзень, Васіль,—чытаў Луцкі,—хоць мы раз'ехаліся з табой гэтак-жа недарэчна, як і стрэліся, але я ўсё-ж рашыла напісаць табе пару слоў, мяркуючы атрымаць хоць які адказ. Прызнацца, дык ты нейкі дзіўны чалавек і я зусім не разумею тваіх наводзін, але мне ўсё здаецца, што гэта так напускное. Думаецца, што ты зусім не такі, якім хочаш здавацца і за якога цябе лічаць некаторыя. Кінь крывіць з сябе нешта асаблівае, бо ты як не гніся, а ты, як і ўсе, хлапчук у семнаццаць гадоў, хоць вочы ў цябе і чорныя, бліскучыя. Ну, ды пра вочы кінем. Пачала я ліст з думкай напісаць табе пару гарачых слоў, а вышла, як бачыш, нейкая лаянка. Выбачай.

Пару слоў аб сабе. У тым раёне, куды мяне прызначылі спачатку, я замяняла аднаго хворага настаўніка цэлых два месяцы. Акалічнасці работы і сама работа мне даволі спадабаліся. Як ні кажы, а цікава вучыць малых сінявокіх істот, якія з увагай сочаць за кожным тваім словам. Асабліва мне спадабаўся адзін хлапчук з другога класа. Ведаеш, такі белагаловы з чорнымі, як твае, вачанятамі, у сіняй з белымі кроплямі рубашцы. Гэты грамадзянін лічыўся ў мяне лепшым вучнем. Ты-б вось толькі паслухаў як ён з нейкай асаблівай павагай дэклямуе верш. Не ведаю,

але я ў такіх выпадках заўсёды спынялася і мне хацелася пагладзіць яго стрыжаную галоўку. Нядрэнныя і іншыя дзеці. Я хутка зжылася з класам і мела значныя поспехі. Але вось мой папярэднік ачуняў і я вызвалілася. Мне прапанавалі ехаць у суседнюю вёску, але я, скарыстаўшы момант, выпрасілася ў Наркомасветы. Там нейкая прыгожая жанчына, весела бліскаючы шкламі пенснэ, напісала прызначэнне ў твой раён. Не буду таіцца, што пры гэтым улічылі маё жаданне. Вось такім чынам я апынулася ў Кнышах, якія знаходзяцца за пятнаццаць кілометраў ад цябе. Ужо распачала работу.

Ну досыць на першы раз!

Пішы, Васіль Сымонавіч! Пішы!

З гарачым

Іра.»

Луцкі некалькі разоў перачытаў ліст і, акуратна зложыўшы, схаваў у кішэню. Адчувалася так лёгка і весела, што хацелася бегаць, скакаць і ўсміхацца стрэчным.

— Што з табой, Сымонавіч!—дапытваўся Вайсман, ледзь адбіваючыся ад насеўшага таварыша,—якая цябе муха ўкусіла, не разумею.

— Муха, кажаш, укусіла,—штурхаў яго Луцкі,—не, браце, не муха а...—ён махнуў рукой і выбег за дзверы.

— Маладзец Іра,—думаў ён спяшаючы на абед.—Бачыш ты, ёй падабаецца педагагічная работа. Харошыя дзеці—уважлівыя і пацешныя. Так... А вось у мяне штосьці не клеіцца. Крычаць дзеці, крычу я, а справа ні з месца. Не ўмею падысці, гарачы залішне. Няма такту, няма чуласці. Так, брат, справы...

І, крыху падумаўшы, парашыў: «Пісаць ёй не буду, а ў гэты выхадны збегаю ў Кнышы.»

— Я сёння, цётка, абедаць не прыду,—гаварыў Луцкі праз два дні жанчыне, у якой сталаваўся.

— Чаму?

—Дома не буду і вярнуся толькі вечарам.

Ён наспех паснедаў і, хапіўшы шапку, выбег на двор.

Дарога на Кнышы амаль цалкам праходзіла па лесе. Абапал стаяць таўшчэзныя дрэвы, павольна гойдаючы верахвінамі і напаўняючы лясную ціш манатонным шумам. Сцежка цвёрдая, пераплецена безліччу карэнняў ды ўсеяна шышкамі, хваёвымі шыпулькамі і лісцем. Ісці весела і лёгка. Паветра вільготнае і цёплае, як іншы раз бывае ў пахмурны дзень глыбокай восені. Вось дарога павольна збягае ў лагчыну і хвойнік мінаецца. Насуплена выпрасталіся жылістыя асілкі-дубы, чорнымі кратамі пераплятаючы неба. За лагчынай зноў падымаецца ўзгорак, зноў пачынаецца хвойнік, да якога часамі падмешваюцца бярозы і калматыя елкі. Аднак Луцкага не кранае асенняя прыгожасць лесу. Спатыкаючыся аб карэнні і выціраючы рукой гарачы лоб, ён старанна пашырае крокі.

— Не, як не кажы, а Іра мне дужа падабаецца,—разважае ён.— Я так ён сёння і скажу, чаго там таіцца. Жыццё ёсць жыццё і я чалавек.

Ён спыніўся, выцер хустачкай твар, скінуў шапку і заспяшыў зноў.

— Ну, скажу, а далей што. Ну, яна мяне кахае, а я яе кахаю і кропка. Што з гэтага? Жаніцца-ж у семнаццаць год звычайна не прыходзіцца. Нават у сельсовеце не запішуць, параіўшы падрасці да пэўнага ўзросту. Так. Нам абаім трэба вучыцца, а тут каханне пачынаецца. Блазнота.

Над дарогай з крыкам праляцелі галкі. Луцкі спыніўся, правёў іх вачыма, пакуль яны не схаваліся за верхавінамі дрэў і пайшоў крыху цішэй.

—Гэта ўсё так,—развражае ён далей.—Але-ж я яе кахаю. У гэтым таксама частка жыцця.

* * *

Ад таго, што дзень пахмуркы і, што на вокнах вісяць белыя фіранкі, у пакоі цемнавата. Васіль, успёршыся локцем на спінку крэсла, палажыўшы далонь на плячо Іры, зазірае ў вочы. Іра ціха смяецца і, перабіраючы пальцам мяккія валасы Луцкага, гаворыць грудным, прыемным голасам:

— Памятаеш, як у сталоўцы ты даў мне задачу. Вось тады ты мне і спадабаўся. Ліха яго ведае, як гэта здарылася. Але пасля таго мне ўвесь час хацелася бачыць цябе, гаварыць, адчуваць тваю блізкасць. А ты, як знарок, пачаў дзічыцца.

— Дзічыцца, кажаш?

— А можа не? Памятаеш, усе ішлі ў апошні дзень гуляць на могілкі, а ты завяркуўся і пайшоў дадому, гаворачы, што не маеш часу. Мне так хацелася, каб ты пайшоў разам і я, нават, прасіла цябе, а ты толькі крутнуў галавой і спатыкаючыся на слупкі, шпарка пабег назад. Мне тады здалося, што табе таксама хочацца пайсці, але ты няволіш сябе і хутчэй уцякаеш ад нечага. Ведаеш, было так крыўдна і разам з тым, шкада цябе. На могілках я адышлася ад усіх і доўга, успёршыся на стары паркан, глядзела на Дняпро. Ты-ж памятаеш, які там прыгожы бераг. Дзівак ты, Васіль! Вось і цяпер ты нейкі насуплены, кіслы. Што з табой?

Васіль маўчаў, азіраючы праз сіта фіранак шырокі двор з трыбунай пасярэдзіне. На парэнчах трыбуны, трапечучы крыламі, варушыліся вераб'і.

— Не клеіцца ў мяне работа, Іра, ніяк не клеіцца.

— Якая работа?—занепакоілася Іра.

— Ды вось мая педагагічная работа неяк не ідзе на лад,—ціха скардзіўся Васіль.—Вось ты пісала, што работа падабаецца, што ты захоплена ёй, а ў мяне вось няма гэтага. Ты можа падумаеш, што я не хачу працаваць, што я лятун які-небудзь, нытік. Не, Іра, гэта не так. Ты не маеш права так думаць,—занерваваўся Васіль.

— Ды чаго ты?—супакойвала Іра.—Я так ніколі не думала і не магла так думаць. Ты лепей раскажы, як там справы ў цябе?

— Не справы, а справачкі,—уздыхнуў Луцкі, адкідваючы назад валасы.—Справы такія, што горш не прыдумаеш. Вось ужо больш двух месяцаў, як я б'юся над дысцыплінай у класе, а вынікаў няма. Ты вось не паверыш, а мне пачынае здавацца, што ў класе сядзіць

не сорак, як ты пісала малых грамадзян, а сорак малых прайдзісветаў, якія здольны на самыя дзікія ўчынкі.

— Ці не залішне густа фарбы кладзеш?

Васіль выпрастаўся.

— Згусціў фарбы, кажаш,—загарэўся ён,—не, не згусціў, а сапраўды так. Вось сама паслухай і тады гаварыць будзеш. Аднойчы прыходжу, як звычайна, на ўрок і толькі прыступіў да тлумачэння, як чую, што хтосьці ў кутку стрэліў з пугача, я туды... Хто страляў? «Ніхто не страляў, гэта вам пэўна, здалося». Што-ж, хай здалося. Стрымліваючы сябе і пачынаю тлумачыць далей. І што-ж ты думаеш: не прайшло і пяці хвілін, як стрэл чуецца з дургога боку, а за ім яшчэ недзе ззаду. Можа ў каго і ёсць вытрымка, а ў мяне, выбачай, няма яе. Няма і не будзе мусіць. Я закіпеў, кінуўся да вучня і, вырваўшы пугач, паслаў яго па бацькоў. Ты, Іра, не паверыш, я крычаў, тупаў нагамі і гатоў быў на што хочаш. У той момант я нават быў здолен пабіць гэтую, як ты пісала, сінявокую істоту і як стрымаўся, не ведаю.

Ён дастаў папяросу і, чыркнуўшы запалкай, прыкурыў.

— Ты супакойся,—гладзіла яго Іра.—Эх, нервы ў цябе, як раяль стары. А табе-ж восемнаццаты.

— Так, восемнаццаты,—перабіў Васіль,—але і самы моцны чалавек такога не вытрымае. Другі раз—працягваў ён,—я выклікаў вучня да дошкі нешта намаляваць, а сам адвярнуўся. Раптам чую—енчыць мой вучань. Аказваецца адзін з гэтых, як ты кажаш, белагаловых змайстраваў рагатку, ды так пацэліў гарошынай у нос вучня, што знак некалькі дзён трымаўся. Ды, што казаць. Такія ўчынкі не на адным уроку, а сістэматычна і не толькі ў мяне. Што рабіць вось кавучы? Мы выклікаем бацькоў і тыя пры нас абяцаюць ужываць дома папругу, «спусціць скуру» і гэтак далей. І вось пасля гэтага ахвота да працы знікае. Мне хочацца працаваць, але так, каб былі вынікі. Я, Іра, хачу любіць сваю работу. Хачу ўвесь аддацца ёй, каб яна мяне хвалявала, радавала, а тут не выходзіць. Вось аднойчы я ехаў з шоферам і зайздросціў яму. Ён вясёлы, ён любіць гул свайго матора і захапляецца яздой. А я чым за яго горшы? Чаму мне работа не даецца?.. Я быў у Максіма—памятаеш хлопца, што ўсё на мандаліне іграў—дык ён зусім іначай глядзіць. Яму што? Ён адбыў чатыры гадзіны і там хоць трава не расці. Ціскае дзяўчат, п'е, іграе на мандаліне і здаволен сваім жыццём. Я так не магу, Іра, не магу.

Луцкі крышку памаўчаў, зноў прыкурыў патухшую папяросу і ціха скончыў:

— Вось бачыш, якія справы. Можа ў вас іначай, а ў нас так. Вось адсюль і песімізм і хныканне. Я сам, калі вучыўся, дык з задавальненнем чытаў «Дзённік Косці Рабцава» і «Рэспубліку шкід», весела смяючыся над учынкамі вучняў, над бяссіллем настаўнікаў і іх няўмеласцю. А вось цяпер іначай гляджу. Цяпер той факт, што вучні б'юць жалудамі настаўніка, закінуўшы яго вопратку на дрэва, мяне зусім не смешыць. Па-майму, настаўнік гэта найвялікшы герой, які робіць самую важную справу, перамагаючы страшэнныя такія

цяжкасці. І вось людзі спраўляюцца з гэтай работай, а я не. Што-ж, малады чалавек, у такім выпадку вызвальце месца,—кажу я сам сабе.

— Ну, гэта ты дарэмна,—запярэчыла Іра.—Праўда, у вашай школе творыцца нешта незвычайнае, але кідацца ад гэтага ў паніку няма чаго. Я вось слухала цябе і не верыла нават, што такое можа яшчэ быць. У нас зусім іначай. Мне, напрыклад, пра дысцыпліну амаль і думаць не прыходзіцца,—дзеці заўсёды сядзяць ціха і ўважліва слухаюць. Галоўнае, ведаеш, у тым, каб захапіць дзяцей вучобай, а тады справа іначай пойдзе. Ты не крычы. Ніколі не крычы. Нельга выходзіць з сябе, бо гэта цешыць некаторых вучняў і пагаршае справу. Твайго крыку спужаюцца толькі першы-другі раз, а потым да яго прывыкнуць гэтак сама, як ты прывыкнеш да іхняга.

— Разважаць лёгка,—папракнуў Луцкі.—Разважаць і я ўмею,

— Не разважаць, а працаваць трэба,—папправіла яго Іра.— Выхаваўчай работы болей. Ты вось колькі кніжак прачытаў дзецям? Колькі пабудаваў з імі лятаючых мадэляў? Ніводнай!.. Вось бачыш, а пакрычаць ты ўправіўся. Справа зусім простая: у дзяцей безліч энергіі і яна скарыстоўваецца не па прызначэнню. Крычаць лёгка...

— Дык значыць я па-твойму, толькі крычу і больш нічым не займаюся?

— Я гэтага не казала.

— Дык, прынамсі, так можна зразумець,—рэзка вымавіў Луцкі.— Натацыі, Іра, мне не патрэбны, я і без іх абыйдуся, а вось працаваць мне цяжка, ніхто паказаць мне, дапамагчы не збіраецца.

Хвілін дзесяць абодвы маўчалі, думаючы аб сваім.

— Ну, мне трэба ісці,—падняўся Луцкі і ўзяў шапку.

Іра правяла яго за вёску і, цісучы на развітанне, руку, ветліва гаварыла:

— Ты, Васіль, дарэмна на мяне злуеш. Я зусім не збіралася пакрыўдзіць цябе, але згадзіся, што трываць далей такое становішча, якое ёсць у вашай школе, нельга. Так ніхто не вытрымае. Трэба справу змяніць. Ведаеш,—вырашыла яна раптам,—ты выбяры калі вольны працоўны дзень і прыходзь да нас у школу на лекцыі. Хай там заменяць як-небудзь, а ў нас ты шмат чаго добрага знойдзеш. Прыдзеш, га, Васіль?

— Прыду, Іра, прыду,—адказаў Васіль, моцна паціскаючы руку,— абавязкова прыду.

Ён прыгнуўся і, нязграбна пацалаваўшы Іру, шпарка закрочыў па роўнай сцежцы.

Цямнела. Мякі заходні вецер прыемна ахаладжваў твар і варушыў завіткі валасоў. Іра пастаяла на ўзгорку і, калі постаць Васіля схавалася за дрэвамі, павярнула да вёскі.

— Запарыўся Васіль,—думала яна,—заблытаўся. А добры ён хлапец, харошы і шчыры такі. Эх, Васіль, Васіль!

* * *

І вось здарылася тое, што павінна было здарыцца і што вялікім балючым шрамам прарэзала ўсю педагагічную дзейнасць Луцкага.

Усё вышла звычайна.

Апавядаючы па комплексе аб зоне тундр, ён заўважыў, што Мелька зусім не слухае яго, а забаўляецца нечым пад партай.

— Мелька!—павысіўшы голас, нервова заўважыў Васіль Сымонавіч,—перастань.

— Ды я нічога,—азваўся вучань.

Адсутнасць увагі да тлумачэння заўсёды моцна абражала Луцкага, але захоплены сам апавяданнем пра жыццё ненцаў, ён хутка забыўся на Мельку і працягваў далей.

— Такім чынам алень для жыхароў поўначы з'яўляецца ўсім: ён хутка бяжыць, цягнучы сані, яго мяса з'яўляецца галоўнай ядой, з яго шкур робяць чумы і шыюць маліцы, нават жылы аленя...

— Васіль Сымонавіч,—раптам перапыніла яго Марыля.—Мелька б'ецца гарохам і не дае слухаць.

Натхненне адразу прапала і гутарка абарвалася. Усе павярнуліся да Налькі, які сядзеў, апусціўшы стрыжаную галаву, і чуць прыметка ўсміхаўся, відаць, задаволены агульнай увагай.

Луцкі, прыкусіўшы ніжнюю губу, стомлена пераступаў з адНае нагі на другую, стрымліваючы наляцеўшы абурэнне. Гарэлі вушы, напорыста стукала кроў у вісках, а к горлу падкочваўся вялікі горкі камяк, пагражаючы раптоўна прарвацца.

— Так,—з болем вымавіў ён, праводзячы спацелай рукой па гарачым ілбе і, перасільваючы гаркоту абурэння, ужо меркаваў працягваць гутарку далей, як раптам заўважыў, што Мелька здаволена смяецца. «Ён смяецца, смяецца ягоднік,—зноў загарэўся Луцкі.— Я тлумачу, стараюся, а ён, ён смешкі строіць, кпіць!» Цярпенне пакінула яго і ён, крыкнуў высокім, дрыжачым голаса:

— Мелька!

Вышла хоць крыху надломана, але ўсё-ж страшна. Шумок у класе раптоўна абарваўся і было толькі чуваць, як за акном драпежна вые бязлітасны паўночны вецер, злосна пырскаючы ў вокны ахапкамі калючых марозных сняжынак. Назойліва і манатонна гудзела шыба. Вучні баязліва пазіралі, то на апушчаную галаву таварыша, то на падцягнутую постаць настаўніка, чакаючы далейшых мерапрыемстваў.

Сярод наступіўшай цішыні, голас настаўніка выдзяляўся рэзка і ўпэўнена.

— Зараз-жа выйдзі з класа і каб без бацькі ты ў школу не з'яўляўся! Чуеш?!

Вучань устаў і, павольна сабраўшы кнігі, знарок марудна, у развалку пайшоў з класа. Моцна бразнулі дзверы.

— Гэта ён знарок ляскае,—памкнуўся ўставіць Лебедзь, але, зірнуўшы на пачырванеўшы твар і змятыя валасы настаўніка, асекся і замаўчаў.

Луцкі стомлена апусціўся на стул. Пасля такога выбуху, як заўсёды ахапіла млявасць. Шчымела ў горле, а ў глыбіні грудзей патухла і зноў загаралася крыўда. Усякае жаданне тлумачыць прапала і ён, абапёршыся локцем на стол і моцна да болю сціснуўшы далонямі галаву, пачаў перапытваць папярэдняе. Вучні, адчуваючы, што грымоты прайшлі і што цяпер баяцца няма чаго, павольна заварушы-

ліся. Пачаліся прыватныя гутаркі, зашастала папера, а месцамі нават чуліся ўсплескі смеху.

Урок зрабіўся зусім вялым і нецікавым, аднак настаўнік, заняты сваімі перажываннямі, не звяртаў на гэта ніякай увагі.

— Прачытаеце там пра зону тундраў,—кінуў ён на хаду і спешна схаваўся за дзвярыма настаўніцкай.

Вайсман моўчкі крочыў з кутка ў куток. Зірнуўшы на ўвайшоўшага таварыша, з спачуваннем запытаў:

— Што здарылася, Сымонавіч? Не гарыць?

— Так, нічога,—нехаця адказаў Луцкі.

Гаварыць не хацелася і Луцкі толькі гудзеў у адказ на пытанне таварыша, які, упэўніўшыся ў бескарыснасці гутаркі, пайшоў на кватэру.

— Пагарачыўся я моцна,—думаў Васіль Сымонавіч,—і пагарачыўся дарэмна. Можна было зрабіць гэта многа спакайней і вынікі былі-б лепшыя. Нервы ўсё, нервы. Эх ты, малакасос,—папракнуў ён сябе.

Дзверы адчыніліся і ў іх прасунулася кучаравая галава вучаніцы другога класа.

— Настаўнік, Мелька б'ецца,—жалілася яна.

— Пазаві яго сюды,—загадаў Луцкі, устаючы з лаўкі і апраўляючы вопратку.

Праз хвіліну дзверы зноў адчыніліся і сваёй звычайнай развалістай паходкай увайшоў Мелька.

Перад Луцкім, апусціўшы галаву, стаяў белагаловы хлапчук гадоў дванаццаці ў рыжай саматканай світцы і вялікіх бацькаўскіх валёнках. Цераз плячо яго быў перакінуты пасак торбы, а ў руках новая заячая шапка, якую ён павольна перабіраў чырвонымі ад холаду пальцамі.

— Ну, што, Мелька,—падыходзячы да вучня ціха запытаў Луцкі,—біцца ўздумаў, га?

Вучань маўчаў, яшчэ больш уважліва разглядаючы даўно нямытую падлогу і заснежаныя мыскі ўласных валёнак.

— Ты, што-ж гэта? Думаеш, што будзеш зрываць работу групы і гэта так сабе будзе праходзіць, га? Як гэта табе здаецца? Што-ж па-твойму бацька пасылае цябе ў школу для таго, каб ты тут хуліганіў, а не вучыўся, га? Ды ты не маўчы, як вады ў рот набраўшы,—павысіў голас настаўнік,—а адказвай, калі ў цябе пытаюцца. Ну чуеш ці не? Што ты думаеш рабіць у школе: хуліганіць ці вучыцца?

— Я нічога не думаю,—адказаў вучань не падымаючы галавы.

— Як гэта нічога? Дзе-ж гэта нічога, калі ты кожную лекцыю перашкаджаеш мне працаваць. Ты ў мяне глядзі, а то хутка з школы вылеціш! Вось тады другое запяеш.

Луцкі прайшоў з кута ў кут, скамячыў папяросу і зноў спыніўся перад вучнем. «Ну што з ім рабіць,—думаў ён,—што рабіць з гэтым хлапчуком, які мог-бы быць лепшым вучнем? Паслаць да бацькі, каб ён адлупцаваў? Адпусціць так?»

Калі-б вучань выказаў страх, заплакаў і хоць як вымавіў, што ён болей не будзе, гэтым-бы справа і скончылася. Луцкі супа-

коіўся-б і адпусціў вучня. Аднак гэтага не было. Наадварот, зірнуўшы на вучня, Луцкі заўважыў, што той усміхаецца. Гэта адразу змяніла абставіны.

— Ты што-ж гэта смешкі думаеш строіць, га? Ды ты галаву падымі вышэй! Чуеш? Ну, вышэй галаву!—і Васіль Сымановіч нервова ткнуў кнігай у твар вучня.

Ткнуў і спалохаўшыся свайго ўчынку, адступіў назад. Але справа ўжо здарылася, хлапчук хапіўся за нос, мацаючы ці не ідзе кроў. Луцкі нагнуўся над ім і ўзяўшы за плячо, пачаў яго супакойваць.

— Пусці!—нема закрычаў Мелька.—Пусці!

На вачах у яго паказаліся слёзы і Мелька, румзаючы, размазваў іх па твары.

Нарэшце ён нырнуў пад рукой настаўніка і схаваўся за дзвярыма. Луцкі астаўся адзін.

— Як-жа гэта так?—бегаў ён па настаўніцкай.—Як-жа гэта здарылася? Значыць вучня пабіў?! Пабіў вучня совецкай школы. Ганьба!

Думкі мітусіліся, пераскаквалі з аднаго на другое. На твары выступалі буйныя кроплі поту.

— Так—уздыхнуў ён.—Ну, хай так. Нарэшце справа вырашыцца. Судзіць будуць і хай.

Астатнія лекцыі прайшлі механічна, а апошняя, нават зусім сарвалася. Не запісваючы лекцый, не адказваючы на допыты Абрама, Васіль шпарка пабег на кватэру і супакоіўся крыху толькі тады, калі з нагамі выцягнуўся на ложку.

* * *

Хутка насоўваўся змрок, няпрыметна запаўняючы пакой. Вайсман пайшоў недзе адразу пасля лекцыі, а Вусаў затрымаўся ў калгасе. Вакол цішыня, якую парушаюць толькі паасобныя словы жонкі Вусава, якія глуха даносяцца з суседняга пакоя. Луцкі закрыўся з галавой кажухом і стараецца заснуць, але гэта яму не ўдаецца. Ат, нейк-жа будзе.

Дасужае ўяўленне малюе памяшканне суда. У канцы залы на ўзвышэнні стаіць доўгі стол, накрыты чырвоным настольнікам. Суд яшчэ не пачаўся і зала запоўнена выкрыкамі і гудзеннем многагалоснага натоўпу. Сотні цікавых вачэй уперліся ў постаць яго, Васіля Сымонавіча. У гэтых вачох няма спагады. Яны свецяцца варожа і дакорліва. Гэтыя людзі не ведаюць, не хочуць ведаць, што ён семнаццацігадовы настаўнік не думаў біцца. Ён хацеў толькі выраўняць галаву вучня, хацеў зірнуць ему ў твар. Так, ён не хацеў біцца. Не хацеў?! А як-жа гэта выйшла? Не, браце, не схаваешся, не правядзеш!.. Ты, ты!.. Вочы шныраць, заглядаюць у таямніцы, распранаюць Луцкага. Уцячы! Схавацца! Але куды ўцячэш? Дзе схавеешся? Раптам ён адчувае нейчы позірк, дакорлівы, пякучы. Эх, гэтыя вочы. Васіль іх не бачыць, але адчувае, як два вострыя свярдзёлкі пранізваюць яго. Хто гэта там такі? Няўжо... Васіль хоча зірнуць і не асмельваецца. Сабраўшы рашучасць, апускае галаву. Так і ёсць—ля

парогу, закруціўшыся ў хустку, стаіць яна. У зале цемнавата і нельга бачыць выразу твару. Але вочы... яны двумя вугольчыкамі блішчаць у цемры. Што ў гэтых вачах? Няўжо і ў іх няма спачування? Іра!... Іра! Так, гэта халодны бляск. Гэта не вугольчыкі, а лядзянкі. Лёд! За што?.. Чаму?.. Я не хацеў, Іра! Я... Я.::

— Васіль, Васіль, што з табой?—тузаў яго за плечы Вайсман.—

— Ты гэтак крычыш, супакойся.

Ад раптоўнасці Луцкі ўсхапіўся і нічога не разумеючы, утаропіўся на таварыша. Перад вачыма ніто вугольчыкі, ніто лядзянкі.

— Ты даўно прышоў?—запытаўся ён у Вайсмана, каб хоць чым-небудзь запоўніць цішыню.—Я задрамаў крыху, здаецца.

Вайсман барабаніў пальцамі па стале.

— Кепска, Сымонавіч, зусім кепска,—гаварыў ён спагадліва.— Ведаеш, справа набывае сур'ёзны характар. Я толькі што быў на вёсцы. Бацька Мелькі падняў цэлы гармідар. У справу ўмяшаюцца следчыя ворганы і мусіць без суда не абыйдзецца.

Луцкі моўчкі перабіраў палу кажуха. Словы Вайсмана даляталі недзе здалёку і рэхам аддаваліся ў свядомасці.

— І як гэта ты так?—спачуваў Вайсман.—Ну, палаяў-бы гэтага нягодніка, выклікаў-бы бацьку, а то бачыш. Нядобра, нядобра, Васіль.

— Слухай, Абрам,—страпянуўся той,—я не хацеў, разумееш, не хацеў. Гэта вышла так раптам, што я не паспеў адумацца. Вось ты хоць зразумей.

— Усё гэта так і я разумею, але дакажы суду, што ты не біў. Як ні як, а кнігай ты ткнуў.

Луцкі шпурнуў папяросу і хутка пачаў апранацца.

— Ты куды?—занепакоіўся Вайсман.

— Пайду! Ну вас усіх к ліхай долі!

І ён не азіраючыся выбег, ляснуўшы дзвярыма.

— Абрам таксама лічыць вінаватым! Што-ж, хай так. Хай я вінаваты, злачынец, якога трэба судзіць з усёй суровасцю. У-у які яны ўсе...

Луцкі не агледзеўся, як апынуўся ў полі. Кругом была цемень, якую змякчала толькі бялізна снегу. Драпежна скавытаў вецер, кідаючы ў твар безліч лядзякак, расхінаючы полы і няласкава хапаючы за калені.

Але Васіль гэтага не заўважаў. Ён механічна крочыў па глыбокаму снегу. Дарогі амаль не было знаць і часта, слізнуўшыся, ногі зарываліся вышэй калена. Тады ён падаў у мяккі пушысты снег апіраючыся на рукі. Снег залазіў у рукавы, раставаў там і халоднымі кроплямі сцякаў у рукавіцы. Хутка ўсхапіўшыся Луцкі нагамі намацаў дарогу і спяшыў далей.

Мяцеліцай віліся думкі:

— Іра, што падумае? Няўжо і яна лічыць вінаватым? Не, яна зразумее, усё зразумее. Яна такая добрая. Вось яна ласкава пагладзіць па галаве, супакоіць спагадлівым словам. І сінія вочы будуць смяяцца весела і задорна.

Такія развагі супакоілі Васіля і ён першы раз азірнуўся. Вакол

быў лес, які глуха шумеў у абдымках віхуры. Паважна з лёгкім скрыпам хісталіся магутныя хваіны, стрымліваючы націск ветру. Тут не скавытала мяцеліца. Снег падаў спакойна і роўнамерна, заляпляючы вопратку. Ад хуткае хады Луцкаму было горача і ён скінуў «кубанку». Далятаўшыя зверху адгалоскі мяцеліцы гучэлі прывабнай музыкай.

Вось у цемры заблішчалі агні. Лес скончыўся і Луцкі, перасекшы невялікае поле, апынуўся ў вузкай закіданай снегам вуліцы. Кругом ні душы. Мяцеліца загнала людзей у цёплыя хаты і адтуль чуваць гутаркі, песні, а часам выбухі здаровага рогату.

«Хутчэй-бы школа»,—думае Луцкі і, перамагаючы стому, пералазіць цераз гурбы.

Але вось і жаданае акно—вялікі асветлены прамавугольнік. Нервова і глуха стукае ў грудзях, стомлена дрыжаць калені.

«Яна, мусіць, чытае што-небудзь або піша,—думае ён.—Яна старанная і часу дарэмна не траціць. Узрадуецца калі ўбачыць мяне. Узрадуецца... А можа і не? Можа скажа, што я злачынец, што я»...

Замерзлае акно завешана фіранкай, а таму нічога не відаць. Але вось з боку маленькая прагалка, дастатковая для аднаго вока. Луцкі ступае на падмурак і, хапіўшыся рукой за шалёўку акна, прыціскаецца тварам да мёрзлай шыбы. З боку на стале ярка гарыць лямпа, асвятляючы канец ложка, накрытага белай капай, і печ.

Вось каля стала сядзіць Іра... і... Што гэта?.. Яна ўсміхаецца, ветліва ўсміхаецца!.. Луцкі падцягваецца вышэй, але пальцы зрываюцца з абмерзшых дошак і ён грузка падае на снег. Так, гэта не галюцынацыя. Ён добра паспеў разглядзець энергічны прыгожы мужчынскі твар, раскошную рыжаватую шавялюру. «Пастукаць? Не, не варта. І тут я лішні». Зразу спала напружанае чаканне стрэчы, уставаць не хацалася.

Нарэшце, сабраўшыся з сіламі, Луцкі яшчэ раз зірнуў у акно, мяркуючы разглядзець таго, хто так недарэчна трапіў сюды. Ён усміхаецца і нешта горача апавядае, махаючы рукой. На зялёных пятліцах блішчаць чатыры «кубікі».

Дадому Луцкі прышоў ужо завідна. Зморany, закіданы снегам, уваліўся ён у пакой і, не распранаючыся, паваліўся на крэсла.

— Ты дзе гэта быў?—усхапіўся Вайсман.—Што ты звар'яцеў ці што? Мы з Вусавым цябе ўсю ноч шукалі.

Луцкі бяссэнсна глядзеў недзе ў далеч, не звяртаючы ўвагі на словы таварыша. Гаварыць ён не мог. Горнасць сціскала горла і гарачая светлая кропля пакацілася па твары.

* * *

У класе чыста і светла. За прыгожымі чорнымі столікамі ціха сядзяць трыццаць сем грамадзян другога класа. Усе, і хлопчыкі, і дзяўчаты, гладка падстрыжаны, вымыты. Кожны дзень настаўнік сочыць за ахайнасцю і чыстатой.

— Ды пра якіх сабак мы чыталі заўчора?—пытае Васіль Сымонавіч, як заўсёды, апіраючыся рукамі на стол і з усмешкай азіраючы вучняў.

Хутка зашавяліліся і застылі паднятыя дзіцячыя рукі.

— Скажы, Зіна.

— Мы чыталі пра сабаку-санітара.

— Так, сядай. Што-ж мы чыталі пра сабаку—санітара?

Зноў хутка падняліся рукі.

— Скажы, Валодзя.

Маленькі круглатвары хлопчык хутка ўсхапіўся і, крыху расцягваючы словы, загаварыў:

— У часе грамадзянскай вайны ранілі аднаго чырвонаармайца. Ён астаўся ў полі адзін, бо не мог сам ісці. У яго балелі раны і ён хацеў піць. Блізка нікога не было і ён мог памерці. Але тут знайшоў яго сабака-санітар. Ён падышоў да раненага чырвонаармейца і лёг.

Валодзю захапляе ўчынак сабакі і ён пачынае апавядаць жвавей.

— Так, вельмі добра, маладзец,—пахваліў хлопчыка Луцкі.— Сядай.

Валодзя, здаволены пахвалай настаўніка, пачырванеў і сеў на лаўку. Гледзячы на яго засмяўся і Луцкі.

— Вось, Валодзя нам добра расказаў, якую карысць чалавеку прыносяць сабакі-санітары. А зараз я прачытаю вам пра скарыстанне сабак на далёкай поўначы. Хто з вас ведае пра тое, як жывуць людзі на поўначы?

Лекцыя праходзіла весела і цікава. Дзеці з захапленнем слухалі пра тое, як сабакі выратавалі маленькага ненца. Пасля чытання завязалася жывая гутарка і Васіль Сымонавіч зусім не заўважыў, як прайшла лекцыя.

У настаўніцкую ён ішоў здаволены і вясёлы. Нейкай шырокай хваляй падымалася непамерная радасць, напаўняючы істоту. Гэтыя дзеці такія харошыя і свежыя, як ярка блішчаць у іх вочы, як звонка гучыць смех. Не рогат, а вясенні серабрысты дзіцячы смех, які не можа не захапіць чалавека. Малыя галоўкі такія харошыя, што іх так і хочацца пагладзіць. З якім захапленнем яны слухаюць апавяданні настаўніка і як сур'ёзна гуляюць у «мыш». Не, іх вучыць ніколі не надакучыць. Луцкаму весела. Так весела, што ён ніяк не можа схаваць усмешкі і яна мімаволі асвятляе юнацкі твар.

— Што, як справы,—таксама ўсміхаецца загадчык школы, стары рыжавусы настаўнік.

— Нішто сабе.

Мы сядзім на лаўцы пад цяністым старым клёнам. Вакол шуміць Менск. З агульнага гарадского шуму, рэзкімі выкрыкамі далятаюць гудкі аўтамабіляў і званкі трамваяў.

Васіль Сымонавіч Луцкі, які прыехаў на сесію завочнікаў, усміхаецца і апавядае:

— Цяпер вось смешна, калі ўспомніш першы год, а тады колькі гора, колькі дум было. Ты паверыш, аднойчы аб самагубстве нават думаў. Гэта тады, як лічыў, што судзіць будуць. Смешна, браце, але гэта так. Дзяцінства. Усё між тым абышлося іначай, чым меркавалі. У раёне ўлічылі маю маладосць і не передавалі справы след-

чым органам, абмежаваўшыся таварыскім судом. Перавялі мяне ў другую школу, дзе быў моцны калектыў настаўнікаў. Вось тут я ўбачыў, як працуюць у школе. Тут табе і дысцыпліна і парадак. А ўсё таму, што вялікая выхаваўчая работа вялася. Кожны сумленна выконваў свае абавязкі. Ды ў Ільі Сямёнавіча папрабуй не выканай. Гэта, брат, загадчык. Ён мяне чалавекам зрабіў.

Луцкі памаўчаў, як бы прыпамінаючы мінулае.

— Дарэчы,—уставіў ён,—Вусава такі з работы знялі, як выпадкова трапіўшага. Цяпер ён працуе старшынёй сельсавета і трэба сказаць не дрэнна ў яго справы ідуць.

— А Іра дзе?—пацікавіўся я.

— З Ірай мы ажаніліся гады два таму назад,—усміхаўся Васіль Сымонавіч.—Цяпер вось дачку гадуем. Такая, брат, жвавая дзяўчынка. Уся ў матку пайшла—сінявокая. Ты прыязджай, зяцем будзеш.

Ён задумаўся, азіраючы яркія агні кіно-рэкламы. Перада мной сядзеў прыгожы малады чалавек з чуць кучаравымі русымі валасамі. Над пераноссем, на шырокім чыстым ілбе, ледзь прыметна заблыталіся маршчыны. У вячэрнім змроку твар выглядаў рашучым і сталым.

— А ведаеш,—раптам адарваўся Васіль Сымонавіч ад сваіх дум.— Вось многія з моладзі недаацэньваюць настаўніцкую прафесію. Ім здаецца, што інжынер гучыць куды больш чароўна і важна. Па-мойму, не. Па-мойму праца настаўніка не менш цікавая.

*Л. Шпакоўскі*

## НАШАМУ ЯНКУ КУПАЛЕ

Нам і раскошна, і светла цяпер,
Згінула цемры навала.
Хочацца гучна і радасна пець
Разам з табою, Купала.

Быў хваравіты і сумны настрой,
Зрывы былі і правалы.
Сёння-ж красуецца песенны рой
Нашага Янкі Купалы.

Муза не ные асеннім лісцём,
Слаўна яна заспявала.
Гэта запалены новым жыццём
Наш малады Купала.

Новымі днямі Арэса бурліць,
Сушым балотную залеж.
Снілася гэта толькі калісь
Нашаму Янку Купале.

Палі на балоце—след сталінскіх дзён,
След залаты, небывалы.
На іх расцвітае высокі «Лён»
Нашага Янкі Купалы.

А песні узлётам лёгкім
Мчацца за горныя скалы.
Знае і «Хлопчык і лётчык»
Музыку Янкі Купалы.

Хто-ж акрыліў яго слаўны узлёт,
Прыдаў яму цвёрдасць метала?
Партыя, дружны, вялікі народ,
Наш большэвік Гікало.

Сёння мы ўсе—малады і стары
Пенімся творчым запалам.
Доўга, бясконца жыві і твары
Наш дарагі Купала.

*Васіль Каваль*

# СЛЕДАПЫТЫ

**Апавяданне для дзяцей**

## Дружба

Высокая кучматая сасна стаяла на кургане, за вёскай. З вяршыны яе відаць была на дзесяткі вёрст кругом раўніна. Вёска Лугіны патапала ў зяляніне. Срабрыстай змейкаю па зялёнай сенажаці завівалася рака. Управа сцяною стаяў кучаравы лес. А там—далёка, далёка на ўсходзе сонца, віднелася тоненькая палоска возера...

Ранняй вясною з далёкага выраю з крыкам, свістам, гіканнем варочаліся птушкі ў гэты лес. Тады лес напаўняўся вясёлым шумам і звонам...

Двое замурзаных, босых хлапчукоў, узняўшы ўгару галовы, доўга глядзелі ўслед птушкам. Хлапчукі пасвілі коні, грэліся каля вогнішча пад сасною і паціху гаманілі...

— Мусіць, у гэты лес паляцелі птушкі.

— Ну а то куды-ж больш?.. Прыляцяць к возеру Сялец і спыняцца там... Больш ім няма куды ляцець, бо там, кажуць, «Сялец— свету канец»...

— Як ты думаеш, Сёмка, а здалёку яны ляцяць?—памаўчаўшы, запытаў бойкі лапавухі хлапчук з цёмнымі быстрымі вачыма, падпяразаны па лапленай світцы вяровачкай.

— Здалёку, Федзька!—папраўляючы дубцом вогнішча, адказаў другі хлапчук, курносы і задуменны.—Маці расказвала, што ляцяць яны аж з-за сіняга мора. Там, кажуць, заўсёды цёпла. Можа яшчэ цяплей, як у нас улетку...

— Бач ты!—свіснуў Федзька...—Так далёка! Адсюль і не ўбачыш. Хлапчукі ўзлезлі на самую вяршыну сасны, і, седзячы там, зноў гаманілі пра птушак, пра сіняе мора, пра далёкія цёплыя краіны. Потым марылі аб тым, як яны вырастуць вялікімі, дужымі і якая ў іх будзе моцная дружба.

Дружба паміж Федзькам і Сёмкам завязалася яшчэ тады, калі яны пехатою хадзілі пад стол. Але гэта было даўно. Цяпер яны амаль што дарослыя.

Ім ужо дзевяты год.

Яны раслі разам. Нават іхныя хаты стаялі побач. Ї ў іх была такая дружба, што Федзькава старая бабулька аднаго разу сказала пра іх:

— Эйш-ты! Їх і вадою не разальеш...

Тады меншая Федзькава сястрычка Мурка схапіла конаўку вады і са смехам лінула на іх. Ад нечаканасці яны аж адскочылі ў розныя бакі.

— Ага, а я разліла! Ага, а я разліла!—заскакала Мурка на аднэй назе.

Федзька быў кінуўся да яе, каб адпомсціць, але бабулька ўтрымала яго за руку.

— Эйш-ты! Не чапайце яе... Вы-ж вялікія, а яна маленькая...

Ї сама Мурка запішчэла:

— Не чапай мяне... Я маленькая... А то бабцы скажу.

— У-у, не чапай! Я яе калі-небудзь зачаплю,—раззлаваўся Федзька.—Яна ўсюды шкодзіць. Дакуль яшчэ ўжо будзе маленькая! Я толькі на тры гады старэй за яе, а яна ўсё маленькая ды маленькая. Я даглядай яе, а яна то карабель наш аберне, то горад разбурыць, а то яшчэ вадою ліне...—У-у!

Усё можна было даравадь Мурцы—і тое, што яна разбурае гарады, і караблі, і тое што выдае бабцы ўсе сакрэты і таямніцы, але апошняй абразы Федзька не мог даравадь.

— Не будзем з ёю гуляць,—цвёрда заявіў ён Сёмку. Яна заўсёды мурзатая, а мы дарослыя і ўвосень ужо ў школу пойдзем і будзем чытаць кніжкі...

Тое, што бабка называла іх дарослымі, гэта падабалася. У такіх выпадках Федзька гаварыў Сёмку:

— Давай, Сёмка, памераемся ці вялікія ўжо мы.

Яны станавіліся побач, шчыльна прыціснуўшыся ілбамі, і Федзька ўсякі раз непрыметна падымаўся на цыпкі.

— Я—вышэй!—радасна гукаў ён.

Сёмка добра ведаў Федзькавы хітрыкі.

— А ты стань не на цыпкі, тады я буду вышэй...

— А ты шыю не выцягвай, як гусак,—пачынаў крыўдзіцца Федзька.

— Гэта-ж ты шыю выцягваеш і на цыпачкі падымаешся, як гусак...

— Гэта-ж ты сам...

— Не, ты...

— Сам ты лапавухі...

— Сам ты курносы...

— Ага, ну няхай я лапавухі і на цыпачкі падымаюся, а ты не. Затое ў нас на двары шчаняты...

— А мой бацька белку злавіў...

— А я з табою гуляць не буду. Ідзі з майго двара.

— Ну і не трэба! Гуляй са сваёй мурзатай Муркаю ды са сляпымі шчанятамі.

Раўнадушна пасвістваючы, Сёмка выходзіў з Федзькавага двара.

— Каб і нагі тваёй не было на маім двары,—абярнуўшыся крычаў ён.

— А я цябе шчанятамі зацкую...

Федзька мігам хапаў шчанё на рукі і выбягаў услед за Сёмкам на вуліцу.

— Кусі! Кусі яго, цюцька! Чаго ён на наш двор прыходзіць. Яшчэ ўкрадзе што-небудзь. Кусі, кусі, цюцечка!—угаварваў яго Федзька. Шчанё пішчэла і тыцкалася сляпой мордачкай яму ў твар.— Брашы, брашы на яго, цюцька!—усё бліжэй падступаў Федзька.

— Бліжэй не падыходзь—тут мяжа нашага двара,—грозна наступаў Сёмка...

Яны зусім разыходзіліся, як ворагі. Здавалася, што дружба ў іх ірвалася канчаткова. Але паасобку было сумна і таму яны стараліся паказаць адзін перад другім, што ім весела, ну зусім добра і весела, і што яны ўжо ніколі не будуць дружыць.

Сёмка бясклопатна залазіў на страху сваёй хаты і, нібы незнарок, наглядаў што робіць Федзька на сваім двары.

Федзька таксама стараўся дапячы Сёмку чым-небудзь незвычайным. Ён забрытваў, як каня, рабую аблавухую свінню і сядаў на яе верхам. Свіння рохкала на ўвесь двор і імчала ў падваротню. Гэтая забава канчалася для Федзькі заўсёды няўдачай: ён падаў каля падваротні, задраўшы ногі ўгору. Потым мігам ускакваў з зямлі і, трымаючыся за пабіты бок, азіраўся кругом.

Сёмка гучна рагатаў, аж качаўся па страсе, а Федзька, нібы ані нічога не здарылася, весела пасвістваючы, выходзіў на вуліцу.

— Ты зноў, галузнік, на свінні ездзіў!—пагражала яму бабка з акна.—Чакай, вернецца бацька з поля—я ўсё раскажу яму.

— Я? На свінні ездзіў?—Федзька рабіў здзіўлены і нявінаваты твар.—Гэта яна таксабе рохкала. А можа Сёмка дражніў яе? Ён заўсёды дражніць яе... Вось я пайду і пагляджу...

Федзька стаяў сярод пыльнай шырокай вуліцы і чамусьці нерухома глядзеў на неба, на валакністыя хмары. Яму было сумна.

А Сёмка сядзеў на страсе, абхапіўшы калені рукамі, і сумна глядзеў уздоўж вуліцы.

Нарэшце, Федзька не вытрымліваў і крычаў Сёмку.

— А ты не адгадаеш, што ў мяне ў руцэ?—і паказваў моцна сціснуты кулак.

Сёмка спачатку маўчаў і раздумваў, ці варта з ім нанава пачынаць дружбу. Але што-ж у яго такое ў руцэ? І Сёмка злазіў са страхі і падыходзіў да Федзькі бліжэй.

— Каменьчык,—раўнадушна пазяхаючы, гаварыў ён і адварочваўся.

— А вось і не адгадаў. А вось і не каменьчык.

— Ну, капейка...

— І не капейка, а тое, што лётае і свішча... Ты ніколі не адгадаеш... Глядзі!—ужо мірна гаварыў Федзька і, раскрыўшы кулак, паказваў чорнага рагатага жука.

— Падумаеш, злавіў жука!—з пагардаю гаварыў Сёмка.—Я табе іх дзесяць і сто злаўлю, а ты адгадай, што ў мяне запазухай...

У Сёмкі сапраўды выпірае нешта з запазухі.

— Мне і адгадваць няма чаго—яблыкі ці верабей...

— А вот і не адгадаў. У мяне падкова... Бачыш якая... Яшчэ зусім новая... хочаш, я табе аддам назаўсёды?

Федзька браў падкову і на гэтым быў мір.

— Пойдзем, Сёмка, паглядзець шчанят. Можа яны ўжо трошкі выраслі...

На двары, каля сабачай будкі, поўзалі трое нязграбных, лапавухіх шчанят. Яны пішчэлі, тыцкаліся ў рукі, смешна кулдыкаліся па саломе.

— Падрастуць яны,—ласкава загаварыў Федзька,—і пойдзем мы тады, Сёмка, з імі на паляванне. Нападзе на нас ці мядзведзь, ці воўк, ці ліс, яны абкружаць яго і абароняць нас.

А калі надакучыла наглядаць за шчанятамі, Сёмка прапанаваў:

— А цяпер пойдзем узлезем на сасну. Давай пабяжым навыперадкі.

Узлезшы на самую вяршыню кучматай сасны, яны сядзелі, абняўшыся. Яны бачылі на ўсходзе, за лесам, сінюю палоску возера, бачылі прасторы зямлі, зялёнае поле, на якім збожжа пад ветрам калыхалася, нібы плыло...

## Прыгоды дзеда Сівохі

Пасля школы Сёмка з Федзькам часта заходзяць на двор да старога дзеда Сівохі. Дзед заўсёды майструе што-небудзь або на двары, або ў садзе. Ён робіць то кадушкі, то сані: ого, дзед майстар на ўсе рукі.

Дзед Сівоха сядзіць і сам сабе пад нос напявае:

Антон казу вядзе,
Антонава каза не йдзе.
Антон яе паганяе,
Яна хвосцікам віляе...
— Гоп, гоп!

Федзька падміргвае Сёмку і кажа:

— Зойдзем. Папросім, няхай яблык дасць альбо няхай схлусіць што-небудзь цікавае. Ён, брат, як пачне гаварыць казку, дык хоць цэлую ноч слухай яго...

Дзед Сівоха вялікі жартаўнік. Сам ён шырокі, маленькі, з казлінай рыжавата-сівай бародкай. Ён любіць расказваць казкі і розныя незвычайныя здарэнні, якія адбываліся ў яго жыцці. Перад тым, як пачне расказваць, дзед возьме ў руку бародку, паторгае і хітравата падміргне.

Тады Федзька штурхае Сёмку пад бок, ужо наперад усміхаецца і шэпча:

— Слухай, Сёмка, ён зараз нешта схлусіць. Яй-права, не раскажа праўды. Ён—хі-і-тры...

А калі яны ўваходзяць на двор, Федзька, па прывычцы пашморгваючы носам, кажа:

— Ну, мы прышлі...

— Здароў быў дзед!

— Бачу, што вы прышлі, а не прыехалі... Здаровы былі, калі не жартуеце,—адказвае дзед і нібы падазрона глядзіць.

— А навошта нам жартаваць?

— Мы па сур'ёзнай справе.

— Ну, хіба што так? Яно-ж і відаць, што хлопцы сур'ёзныя... Вучоныя... У школу ходзіце... Кніжкі чытаеце.

Федзька чмыхае носам, але паважна адказвае:

— Чытаць то чытаем, але яшчэ не зусім... Сёння ў школе мы па складах чыталі: «Бяроза белая стаіць» і «Конь бяжыць, зямля дрыжыць» і верш адзін вывучалі...

— Бач ты, мудрасць якая!—здзіўляецца дзед.—Ну то сядайце, што з вамі зробіш.

Федзька і Сёмка сядаюць у пахучыя смаляныя стружкі, і Федзька першы пачынае:

— Ну, дзед, цяпер расказвай казку. Ты-ж хітры, умееш расказваць...

Дзед прыжмурана ўсміхаецца і трасе казлінай бародкай.

— Штодня ім расказвай і ўсё задарам!

— Чаму-ж задарам? Вось скора ў сваім садзе будзеш абтрасаць яблыкі. Гукнеш нас—дапаможам...

— Гукні вас, дык і яблыка ніводнага не застанецца. Вы і самі, шалахвосты, без запрашэння ходзіце. Я гэта ведаю...

— Ды мы ў твой сад удзень рэдка і ходзім. Можа толькі ўначы! Але-ж тады цёмна—іх многа і не назбіраеш... Ну, то расказвай, ужо, а то нам часу няма. Мы яшчэ не абедалі...

— Хе,—ухмыляецца дзед.—Вам часу няма? Ну, тады прабачайце, я паспяшу. Толькі што-б вам расказаць?

Дзед задумваецца, бярэ ў рот бародку, пачынае жаваць.

— Ты толькі паслухай,—штурхаючы Сёмку пад бок шэпча Федзька.—Яй-права! Ён і сёння схлусіць. Я табе кажу, што праўды не скажа. Ён хоць і справядлівы, але хоча нас ашукаць...

— Ну, так,—кажа дзед сур'ёзным тонам.—Сёння я раскажу вам сушчую праўду—быль! Гэтае праўдзівае здарэнне адбылося са мною, калі я быў яшчэ малады. Тады я быў дужы і смелы. Я тады мог дубы варочаць... Дык вось слухайце, як я злавіў жывога лася, як забіў аграмаднага мядзведзя і як пасля гэтага не стала ў нашым краі ні ласёў ні мядзведзяў...

«Там, дзе цяпер наша поле, яшчэ да вайны быў густы цёмны лес. Вадзілася ў тым лесе многа ўсякай звярыны: і ласі, і мядзведзі і зайцы....

— А тыграў не было?—перабівае Федзька.

— Тыграў—не было! А можа і былі—ліха іх ведае. Я аднаго раз спудзіў на балоце, дык ён такога драла даў па кустах, што я нават і не разгледзеў яго...

Аднаго разу паехаў я ў лес па дровы. А ўжо бралася пад вечар. І справа была ўзімку. Толькі я праязджаю каля балота, бачу—капошыцца на лёдзе нейкая жывёліна. Спачатку здалося, што карова.

Падыходжу бліжэй—гляджу, рагаты здаравенны лось. Неяк узбіўся, акаянны, на лёд і аніяк не можа падняцца, слізка яму.

— Эге,—думаю я.—Вось дзе ты папаўся. Я цябе зараз жывенькага вазьму... Але такую-ж аграмадзіну на руках з балота не вынесеш?!

— Дай я яго канём пацягну,—вырашыў я.

Узяў я з саней моцную вяроўку. Адзін канец прывязаў ласю за рогі, другі за сані. Сам я сеў у сані, падагнаў каня і думаю: «вось дзе будзе смеху—прывалаку жывога лася да хаты».

Як толькі ірвануў конь і выцягнуў лася з слізкага лёду на цвёрдую зямлю, мігам здарылася такое, што я і апамятацца не паспеў. Мой лось як ірване, як шугане, як драпане! Як паімчыць, акаянны, і каня і мяне з саньмі. Дужы быў лось, як чорт. З усёй сілы трымаюся я за сані. Сані ў паветры ляцяць. Ну, думаю: тут мне і гамон! Хоць бы косці цэлыя засталіся! А конь храпе, а лось фыркае, а ў вушах снег і вецер. Толькі чую, адарваўся мой конь з аглоблямі і з хамутом і, нібы вецер, панёсся. А я заплюшчыў вочы і імчуся праз кусты, цераз купіны. Цягне мяне лось у лес. І пачуў я раптам, што падаю з саней у нейкую бяздонную яму...

Як я ляцеў, не ведаю, толькі чую, што мне ўжо стала лягчэй, і ляжу я ўжо на адным месцы. І маім пабітым бакам мякка, як на пярыне. Расплюшчыў вочы—цёмна. Дзе-ж гэта я? Падняўся на ногі—гляджу: трапіў у яму, якую выкапалі паляўнічыя для ваўкоў. «Эх ліха табе,—думаю я.—І трэба-ж мне было звярыну гэтую жывою везці. Аглушыць бы мне трэба яе!»Ну, цяпер нічога не зробіш. Добра, што сам жывы застаўся. Цяпер трэба думаць, як выбрацца з ямы...

Паспрабаваў я вылазіць—нічога не выходзіць. Думаю, дай буду гукаць. Можа добры чалавек пачуе... А ўжо цёмная ноч кругом і сняжок парушыць.

— Эге-гей!—што было сілы закрычаў я.

І раптам чую—завылі ў адказ ваўкі. Вось табе і раз—наклікаў на сябе бяду.

Пачакаў трошкі, закрычаў у другі раз—ваўкі таксама адгукнуліся, толькі ўжо бліжэй. Ці то голас мой ахрып на марозе і здаўся ім воўчым, толькі я, прызнацца, моцна перапалохаўся. Думаю, закрычы яшчэ раз—дык цэлая гання ваўкоў і грукне да мяне ў яму—тады і вый з імі па-воўчаму. Эх, наклікаў я бяду праз сваю адвагу.

Стаў я ўжо замярзаць. «Загіну, думаю, нізавошта». Пачакаў яшчэ трошкі. «Не вытрымаю: закрычу ў апошні раз, хай будзе што будзе».

— Эге-гей!

— Эге-гей!—адгукнуліся мне, толькі ўжо не воўчыя, а чалавечыя галасы.

Тут я з радасці так падскочыў, што ледзьве не выскачыў з ямы... Падыйшлі людзі, падалі мне ў яму вяроўку, я і вылез.

— На якое ліха залез ты ў гэтую яму?—крычыць на мяне бацька.—Гэта-ж шчасце тваё, што мы падаспелі. Конь прыбег да хаты ўвесь мокры, з хамутом і аглоблямі. Дык я так і падумаў, што бяда нейкая з табою...

— Усё добра, што добра канчаецца,—сказаў я.—Але гэтаму ласю

не пашануе. Не прывёў жывога, дык прывяду мёртвага. Ён прыметны, з саньмі бегае...

Наогул я ў маладосці быў вельмі ўпарты і смелы.

Аднаго разу я, мой бацька і дзядзька пайшлі на паляванне на мядзведзяў. Мой бацька з дзядзькам былі лепшыя паляўнічыя. Дванаццаць мядзведзяў абложылі. Ну, а я толькі яшчэ прывучаўся.

— Прывучайся,—кажа да мяне бацька.

— Ды мне і прывучацца не трэба,—кажу я.—Дай мне гэтага мядзведзя, дык я адзін яго ўходаю.

У дзядзькі за спіною стрэльба, у бацькі сякера і рагаціна, а ў мяне таксама рагаціна і вялікі нож.

Вышлі мы на паляванне раніцою. Абхадзілі ўвесь лес. Ужо цямнець пачынала—хоць-бы табе на смех адзін мядзведзь натрапіў. Я ўжо раззлаваўся:

— Ну, думаю, пападзіся мне каторы!

Мы ўжо ідзем дахаты. Я ўперадзе іду, а бацька з дзядзькам ззаду памалу клыпаюць. Іду я і чую—ломіць нехта кусты... Я ў кусты, а каля самага майго носу ўстае на лапы мядзведзь. Ды такі аграмадны—не паверыце можа, як гара! Я стаю і не магу скрануцца з месца. Хачу закрычаць, і не магу. Рашыць мядзведзь на мяне. Тут ужо я асмялеў і даў драла. Мала таго, што я быў смелы, я яшчэ быў і спрытны. Я мігам ускочыў на дрэва і так учапіўся за хвою, што і мядзведзь, напэўна, не адарваў-бы.

Зірнуў я адным вокам уніз—лезе праклятая звяруга да мяне на дрэва.

Тут я набраўся адвагі і закрычаў што сілы:

— Ратуйце! Мядзведзь...

— Эге-гей!—крычыць мне бацька.—Бі яго, толькі скуры не псуй!

— Ратуй хутчэй! Ён з мяне самога зараз скуру здзярэ...

Відаць, здорава раззлаваўся на мяне мядзведзь. Многа я яму назаліў. Як страсяне ён дрэва. Прызнацца, я ледзьве не шмякнуўся аб карэнне. Строс бы, напэўна, пракляты, і папаў-бы я яму проста ў раскрытую зяпу, але на шчасце падбеглі дзядзька з бацькам. Дзядзька стрэліў, а бацька пайшоў на гэтую звярыну з рагацінай. Мядзведзь ужо канае, а я крычу з дрэва:

— Біце яго! Не шкадуйце, праклятага! Біце!

— Злазь,—кажа мне бацька,—ён ужо гатоў!

— Так яму і трэба,—крычу я з дрэва.—А здорава мы яго прыстукнулі, нават не піснуў...

З таго часу ў нашым лесе і мядзведзі пераваліся. Колькі я не хадзіў на іх пасля—ніводнага не спаткаў, баяліся, відаць, сустракацца са мною...»

Вышаўшы з двара, Сёмка задуменна кажа:

— Эх, шкада, што ў нашым лесе ўжо няма мядзведзяў. Схадзілі-б мы з табою, Федзька, у вольны час на паляванне... Ну, нічога! Падрасцем трошкі, купім сабе стрэльбы, як у лясніка Мікіты, і па-

едзем куды-небудзь далёка-далёка. Станем мы, Федзька, з табою вялікімі паляўнічымі...

— Ну—вядома... Толькі навошта доўга чакаць... Мы-ж не маленькія. Нам па дзевяць год. А скора будзе па дзесяць і па дванаццаць.

— Я-ж не супроць,—кажа Сёмка.—Я-ж ніколі не быў супроць. Усёроўна на мяне бацька сварыцца і мачыха таксама...

— А мне цэлы дзень трэба няньчыцца з Муркаю... Давай паедзем...

## Тайна двух следапытаў

У лесе, у глухім яры, у самую поўнач Федзька з Сёмкам далі адзін аднаму суровую клятву глыбока захоўваць тайну. Яны пакінуць сваю вёску, школу, бацькоў і стануць вялікімі следапытамі. Яны паедуць або на Поўнач у тайгу, або на поўдзень у пустыню.

— І нікому нічога не гаварыць. Ані-ні...—строгім шэптам сказаў Федзька...—Пра гэта будзем ведаць толькі я, ты і цёмны лес.

— Добра!—сказаў Сёмка.

— А калі хто прагаворыцца, дык і нашай дружбе канец.

— Ну, вядома...

Цэлы наступны дзень яны хадзілі з сваёй тайнай. Але ўвечары Федзька не вытрымаў, забыўся пра клятву і пахваліўся перад хлапчукамі.

— А мы з Сёмкам,—з гордасцю сказаў ён, пашморгваючы носам,—скора паедзем біць мядзведзяў і кракадзілаў.

— А куды-ж вы паедзеце?—зацікавіліся хлапчукі.

— Маўчы!—Сёмка штурхнуў Федзьку ў бок.

— Эйш ты! Гэта наша тайна,—схітрыў Федзька,—мяне не надманіш...

— Хлусіш ты!—засмяяліся з яго хлапчукі.—Бацька табе задасць такога мядзведзя, што ты нікуды не захочаш ехаць.

— А вот і паеду.

Пра намер адважных следапытаў хутка ведала ўся вёска. Бацька сапраўды надраў Федзьку за вушы і прыгразіў «паказаць» і мядзведзя і кракадзіла...

— Усёроўна паеду,—упарта сказаў Федзька, калі бацька выпусціў з сваіх пальцаў яго чырвонае вуха.

Усёроўна яны будуць следапытамі! Яны нават у школе на карце знайшлі дарогу і на Поўнач і на Поўдзень. Адна бяда: на чым так далёка заехаць? На кані не заедзеш—конь змарыцца можа. Паехаць на караблі—грошай многа трэба.

— От бы добра было,—зажмурыўшы вочы, сказаў Федзька,—ух, як добра было-б, каб мы з табою, Сёмка, знайшлі які-небудзь закапаны скарб. Ну, хоць-бы адну бочку золата.

— Нам-бы і поўбочкі хапіла...—згадзіўся Сёмка.

— Тады-б мы набралі ў садзе ў дзеда Сівохі мяшок яблыкаў, ляжалі-б на караблі, елі яблыкі, дый плылі сабе па сіняму мору. Эх, Сёмка, Сёмка! Ты не ведаеш, да чаго-б добра было.

Жартаўнік дзед Сіваха седзячы на прызбе сваёй хаты расказаў ім аднойчы казку аб тым, як людзі знайшлі зачараваны скарб.

Казка і Федзьку і Сёмку вельмі спадабалася. Лятуценна гледзячы на лес за рэчкаю, Федзька сказаў:

— Чуеш, Сёмка? І шанцуе-ж людзям. Вось бы нам знайсці хоць столькі золата! Тады мы, Сёмка, ужо абавязкова паехалі-б і ў пустыню і ў тайгу. І на караблях па сінім моры паплавалі-б...

— Вядома, што гэта было-б добра...

— Дзівакі!—зусім сур'ёзна адказаў дзед Сівоха.—Людзі часта знаходзяць. Вунь нядаўна ляснік Мікіта, аручы поле, знайшоў скарб у баразне—гаршчок золата.

— Не,—адказаў Федзька.—Я сам бачыў, як ён знайшоў у баразне стары пабіты гаршчок, але ў ім было не золата, а чарапкі.

— Вось і відаць, што вы нічога не разумееце. А яшчэ ў школу ходзіце, грамацеі, можна сказаць. І чаму вас толькі вучаць у гэтай школе?—з дакорам паківаў галавою дзед Сівоха.—Таго і не ведаеце, што золата часта бывае зачараванае: таму яго адразу і не пазнаеш. Між намі кажучы, і я ведаю адно такое мейсца, дзе закопан скарб. Яшчэ даўно, калі праз нашу вёску праходзілі французы, дык яны і пакінулі яго. Самы старэйшы з іх быў генерал Лявон. Склікаў на полі ён трыста сваіх малодшых генералаў і сказаў ім:

— «Усёроўна мы адступаем. Генералы, вось вам мой строгі загад: закапайце гэтую дарагую бочку з золатам на зямлі Кліма Сівохі. (А Клім Сівоха, як вам вядома, быў мой бацька—нябожчык, ён вам не дасць схлусіць!) І закапалі генералы тую бочку ў зямлю. А каб прыметна было, на тым месцы пасадзілі дуб.

— А мне дык не верыцца,—перабіў Федзька, чухаючы патыліцу.

Тут дзед Сівоха зусім раззлаваўся і затрос сваёй казлінай бародкаю.

— Што я вам—маленькі? Хлусіць вам буду? Мой бацька быў чараўнікам. Ён сам бачыў, як генералы тры дні і тры ночы закопвалі гэтую бочку. Толькі бацька рана памёр, але ўсе планы ён перадаў мне.

— Я веру,—каб улагодзіць дзеда, прызнаўся Федзька.—Я толькі спачатку не паверыў, што закапвалі бочку трыста генералаў.

— Ну глядзі-ж, больш са мною не спрачайся,—ужо ласкава прамовіў дзед, трасучы бародкаю.—Я, здаецца, трошкі больш за вас пражыў на свеце.

— Гэтаму мы верым!

— Паспрабуйце яшчэ не паверыць! Ім кажаш, іх навучаеш, а яны, шалахвосты, яшчэ сумняваюцца...

Вядома, усе гэтыя доказы падзейнічалі. Ну як-жа не паверыць дзеду Сівоху, калі ім так хацелася знайсці скарб?

— Чаму-ж ты, дзед, да гэтага часу не адкапаў яго?

— Чаму? Чаму не адкапаў? Прысталі, як тая смала. Часу не было адкапаць! Вы думаеце гэта так лёгка: капануў рыдлёўкаю і ён адразу перад табою заблішчыць—зазіхаціць. Бач, якія вы спрытныя! Капаць трэба не проста калі папала, а ў месячную ноч, ды ў дадатак, каб пра гэта ніводная душа не ведала...

— А дзе-ж гэты скарб закапаны?—не ўтрымаўся Федзька.

— Скажы вам адразу, дык вы адны і спажываць яго будзеце...

— Чэснае слова, разам адкапаем.

— Ні-ні нікому...

Дзед крыху падумаў:

— Калі напалавіну з вамі, дык я згодзен. Толькі—чур!—і дзед прыгразіў пальцам.

Хлопцы падсунуліся да дзеда зусім блізенька і ён таямнічым шэптам паведаміў:

— Гэты скарб закапаны за маім гумном, на аблозе, недалёка ад дуба...

— Ага!—крыкнуў Федзька і аж падскочыў ад радасці.—Гэта такі слаўны, моцны дуб. Мы з Сёмкам яшчэ ўчора ўзлазілі на яго.

— Во, во! З яго можна сотню бочак зрабіць. Такі важны дуб. Яшчэ сам Лявон пасадзіў яго... А як дастаць скарб, пра гэта трэба памеркаваць. Ну, марш да хаты, гультаі! Я цяпер заняты. Прыходзьце ўвечары, перад заходам сонца.

Хлопцы подбегам пусціліся па вуліцы. Падскакваючы на адной назе, Федзька радасна гукнуў Сёмку:

— Гэты, брат, дзед Сіхова ўсё можа зрабіць, калі захоча. Ён хоць і хітры, але справядлівы дзед.

## Зачараваны скарб

Увечары Федзька з Сёмкам зноў прышлі да дзеда Сівохі.

— Ну, дзед,—сказаў Федзька,—давай будзем думаць, як дастаць скарб.

— Сядайце,—строга сказаў дзед,—будзем думаць.

Хлопцы селі на траву каля дзеда і доўга маўчалі.

Федзька першы парушыў цішыню і голасна сказаў, нібы ўсё золата ўжо блішчэла ў іхных руках:

— Як ты, Сёмка, лічыш, на колькі гадоў ездзіць па мору хопіць нам гэтага золата?

— Гэтага золата?—падумаў Сёмка.—Гадоў на дзесяць хопіць...

— А я так мяркую,—сказаў дзед нібы сам сабе.—З гэтага дуба кадушак з дванаццаць выйдзе калі яго спілаваць. Дзве кадушкі на капусту, адна на агуркі, астатнія можна так на што-небудзь. Мусіць, такі і трэба спляжыць гэты дуб.

— Ды ўжо-ж, пастараемся!—ахвотна пацвердзіў Федзька.

— Я не пра гэта. Думай пра сваё!—крыкнуў дзед.

— Ды што тут доўга думаць? Адкапаць і ўсё. А то калі не мы, дык другія адкапаюць. Але як знайсці месца?

Дзед раптам растлумачыў:

— Знайсці тое месца трэба ўмеючы: ад дуба адыйсці задам тры крокі на ўсход сонца проста, а тады тры крокі ступіць управа і ўлева, а пасля гэтага ўжо тры крокі зрабіць уперад.

— Сёння-ж уначы і пойдзем!—радасна выгукнуў Федзька і аж усхапіўся на ногі.

— Толькі не сёння,—адказаў дзед, падумаўшы

— Чаму? І дзень такі ясны, і месяц будзе свяціць.

— А можа паспрабуем?

— Я вам паспрабую. Кажу, нічога не выйдзе сёння... Марш дахаты! Бачыце, я заняты. Прыходзьце, калі буду вольны...

Сёмка і Федзька моўчкі пайшлі па пыльнай вячэрняй вуліцы. Каля федзькавай хаты яны спыніліся і доўга глядзелі, як за гумном, за старым дубам, заходзіць залатое, як скарб, сонца.

— Сёмка,—сказаў Федзька, калі яны павінны былі разыходзіцца па хатах.—Дзед вельмі хітры, нездарма яго бацька быў чараўніком. Як ты думаеш, ці не хоча ён адзін адкапаць гэты скарб?

— Не, ён-бы не расказваў нам тады пра яго. Дзед справядлівы... Пойдзем сёння дахаты.

— Не забудзь месца,—гукнуў Федзька ўдагонку,—на ўсход сонца ад дуба тры крокі, потым яшчэ тры, а тады тры крокі ўперад...

— Завярнуць управа і ўлева, а потым проста.

— Знойдзем!—і Федзька пераскочыў цераз плот у крапіву.

Сёмка лёг на лаўцы, каля акна, але позна не мог заснуць. Перад ім разліваліся сінія акіяны і плылі караблі ў далёкія краіны. Калі-ж ён, нарэшце, заснуў, прысніўся яму высокі разложысты дуб, пад якім ляжалі нязлічоныя скарбы. Раптам нехта парушыў яго сон. Нехта паціханьку барабаніў у шыбу. Сёмка прыслухаўся і пазнаў Федзькаў голас:

— Сёмка, высунь галаву ў акно. Я табе нештачка скажу.

Сёмка расчыніў акно і высунуў галаву. Федзька стаў шаптаць, заікаючыся, пакрыўджаным голасам:

— Ты чуеш? Дзед Сіваха нас падмануў. Ён адзін збіраецца адкапаць наш скарб. Яй-права! Я нядаўна прабягаў каля яго двара, дык сам бачыў, як ён тачыў рыдлёўку і ўсё нешта гаварыў пра дуб. Я як пачуў пра гэта, дык у мяне аж сэрца ёкнула, задрыжэла і ў пяткі скочыла.

Федзька цяжка дыхаў і шморгаў носам.

— Глядзі ты, які хітры! Але нас не падманіш. Хутчэй пойдзем. Я ўзяў рыдлёўку, а ты бяры мяшок. Ух, толькі-б хутчэй.

Сёмка, спяшаючыся, пабудзіў матку:

— Мама, давай хутчэй мяшок!

Маці спрасоння ў цемры здзіўлена запытала:

— Што з табой? Які мяшок? Табе, відаць, прыснілася нешта. Напіся халоднай вады.

«Эх,—падумаў Сёмка,—калі-б ты ведала навошта мне гэты мяшок, дык-бы ты іх сто знайшла мне».

Часу нельга было траціць дарэмна. Трэба спяшацца, а то дзед Сіваха паспяшыць.

Сёмка выбег на вуліцу з жалем паведаміў, што матка мяшка не дае.

— Ну, добра, добра!—згадзіўся Федзька.—Калі адкапаем, скінем з сябе кашулі, насыплем у іх золата і панясем на плячах... Пайшлі, Сёмка! Бяжым гародамі!..

Была цёмная ноч. Свяціў толькі ражок месяца і на яго наплывала чорная хмара—відаць, збіраўся дождж.

Следапыты беглі і спатыкаліся.

— Каб хоць забегчы раней за дзеда,—усю дарогу паўтараў Федзька і адважна бег уперад з рыдлёўкай на плячы.

— Мяне ўжо ў пот кінула... Але мы дабяжым перш за дзеда... Їх, ну вось, здаецца і дуб.—Бачыш, бачыш?—запытаў раптам Федзька, ухапіўшыся за Сёмкаву руку.—Вунь, вунь агеньчыкі бегаюць... Глядзі! Глядзі!..

Навокал было вельмі цёмна і Сёмка нічога не бачыў.

— Цсс! Вось яны зніклі...—прамармытаў Федзька,—цяпер і мне цёмна...

З-за хмар выплыў рагаты месяц і абліў сваім бледным святлом знаёмы дуб.

Яны падкраліся і агледзелі... Здаецца, нікога няма... Цішыня, глуха... Але як толькі яны пачалі адмерваць крокі, на дубе нехта так дзіка і праразліва засвістаў, што яны аж прыселі. Федзька ўпусціў рыдлёўку. Над іхнымі галовамі з шумам праляцела сава.

— Ух ты,—уздыхнуў Федзька.—Паслухай, як у мяне сэрца б'ецца... Я падумаў, што гэта дзед Сіваха засвістаў.

— Цяпер ня страшна, давай шукаць...

Федзька стаў тварам да дуба і зрабіў тры крокі на ўсход сонца. Потым яшчэ тры крокі ўправа і ўлева і тры крокі ўперад. Некалькі разоў мералі яны і зноў прыходзілі на старое месца.

— Вось ліха табе!

Тады яны рашылі, што скарб недзе блізка каля дуба. Сталі капаць. З шумам адкідалі зямлю і ўсё прыслухоўваліся—а ці не пачуецца звон.

Доўга капалі яны. Ужо стаміліся, ужо стала сумна. Зусім развіднівала і накрапваў дождж. Сёмка ўжо быў падаў думку, а ці не пайсці ім дамоў, як раптам нешта пад рыдлёўкай у Федзькі зазвінела...

— Чур!—спалохана крыкнуў Федзька.

Яны асцярожна агледзеліся і пад рыдлёўкай у Федзькі знайшлі... разбіты чыгун.

Їм зусім не пашанцавала. Трошкі пастаяўшы над разбітым чыгуном, яны пераглянуліся і, уздыхнуўшы, моўчкі пайшлі дамоў...

Раніцай яны паскардзіліся дзеду Сіваху. Дзед кіўнуў галавою і пажаваў бародку:

— Я-ж казаў вам, шалахвосты, каб адны не капалі. Вось я запрагу каня ў плуг. Разам узарэм аблогу... Можа і знойдзем скарб. Напэўна, знойдзем. Ну, вядома, знойдзем!

Федзька з Сёмкам трошкі павесялелі і паехалі разам з дзедам узорваць аблогу. Працавалі цэлага паўдня. У глыбокіх баразнах знаходзілі чарапкі, карчы і нейкія аб'едзеныя косці, а скарба ўсё не было.

— Ну, што-ж,—суцешыў іх дзед.—Мы тут зробім грады, пасеем боб і рэпу. Раскапалі вы зямлю не дрэнна. Малайцы! Боб павінен урадзіць на славу.

Хлопцы пачухалі галовы, але згадзіліся.

Улетку боб сапраўды ўрадзіўся буйны і рэпа была нераўнуючы, як гарбузы. Толькі градам не пашанцавала. Палавіну іх Сёмка з Федзькам крадкам ад дзеда добра такі выпалалі.

— Ён хітры, а мы яшчэ хітрэйшыя,—сказаў у апраўданне Федзька.

### Як яны ляталі

Так і не знайшлі яны ніякага залатога скарбу. На гэтым бы і скончыліся іхныя мары стаць вялікімі следапытамі, ехаць у далёкія краіны па сініх марах, але адбылася такая падзея.

Гэтым летам прыехаў у госці ў вёску Лугіны федзькаў дзядзька Максім Гайдай. Ён служыў у Чырвонай арміі і быў адважным лётнікам. Ён расказаў дзіўныя штукі пра самалёты. Федзька з Сёмкам слухалі і ў іх ад захаплення кружыліся галовы.

— А ці страшна лятаць на гэтым самалёце?—запыталіся яны.

Максім Гайдай адказаў, што яму зусім не страшна.

— Той, хто смелы, таму не страшна...

— Давай палящім на самалёце,—параіў Федзька, захапіўшыся думкаю. А то на паравозе ці на кані вельмі-ж далёка туды ехаць...

Сёмка згадзіўся. А Федзька і тут не вытрымаў, каб не пахваліцца:

— Мы з Сёмкам будзем самымі лепшымі самалётчыкамі. Мы заляцім на самалёце яшчэ вышэй за цябе, дзядзька Максім. Мы з Сёмкам паляцім і ў тайгу. і ў пустыню...

— Малайцы,—пахваліў іх Максім. —Добра вучыцеся, падрастайце, а потым паступайце ў лётную школу...

Адважны лётнік Максім Гайдай хутка паехаў, а Сёмка з Федзькам засталіся марыць пра свой незвычайны палёт.

Ім так хацелася лятаць! Бо калі яны не навучацца лятаць, дык не змогуць паехаць ні ў тайгу, ні ў пустыню. Яны нават снілі, што лятаюць. У сне гэта было проста: становішся на цыпачкі, падскакваеш угору, размахваеш рукамі, нібы крыллямі, і ляціш, ляціш, ляціш...

Ляціш у тумане, вышэй хат, кружышся над вёскай, а потым лёганька апускаешся на зямлю.

Федзька адзін раз сніў нават, што ён лятаў на самалёце разам з мядзведзем, якога злавіў ён у тайзе.

Аднойчы пра ўсё гэта яны расказалі дзеду Сівоху.

Дзед падумаў, закурыў люльку і загаварыў:

— Ну, што-ж. Калі хочаце лятаць, дык я вас навучу. Хлопцы вы добрыя і смелыя. Я ўжо стары, сам лятаць не магу, а калі быў малады, дык трохі лятаў—на чым бы вы думалі?

Яны падступіліся бліжэй да дзеда.

— На веніках лятаў...

— На веніках? А ты, дзед, не маніш?

— Ну, во,—раззлаваўся дзед.—Каб я ды маніў! Я браў венікі, падвязваў пад пахі, узлазіў на страху, або на дрэва—і махаў імі, як крылямі... А то яшчэ можна так: узяць двух гусей, звязаць іх вя-

ровачкамі і з дрэва або /страхі ляці, браце ты мой, хоць вярсту, хоць дзесяць вёрст.

Дзед усміхнуўся ў сівыя вусы. Федзька з Сёмкам падумалі: «А хто яго ведае, можа і лятаў. Ён такі дзед адважны. Нездарма расказваў, як хадзіў на мядзведзяў».

— Калі ты, дзед, не маніш, дык гэта праўда,—сказаў Федзька, а Сёмку падміргнуў і сказаў тое, што ўжо гаварыў многа разоў:

— Дзед справядлівы, але-ж і хітры, умее маніць...

Пра венікі яны, вядома, не паверылі, а на гусях рашылі зрабіць першы спробны палёт. Каля рэчкі, у стадзе, злавілі двух гусей— самых вялікіх і дужых. Яны аказаліся гусямі дзеда Сівохі. Сваіх гусей у іх не было.

«За гэта дзед не будзе на нас злаваць, бо ён-жа і сам некалі лятаў»,—рашылі яны.

Гусей узнеслі па лесвіцах на страху лазні. Гусі гагаталі, як ашалелыя, балюча кусалі за рукі. Прыбегла нават цэлае стада іх, абкружылі лазню і справілі такі крык, што Сёмка нават трошкі спалохаўся быў.

— Можа не будзем лятаць?

— Трус! Калі не хочаш лятаць, дык я адзін палячу!—крыкнуў на яго Федзька і аж войкнуў ад болю: гусак дзяўбануў яму ў лоб...

Але ўсё-ж перавязалі гусей вяровачкаю, і Федзька першы захацеў паляцець. Сёмка не супярэчыў, бо Федзька заўсёды быў больш рашучы і смелы.

Вочы ў Федзькі гарэлі. Вось-вось ён зараз паляціць. З вялікімі патугамі гусей паднялі вышэй галавы, і зыпусцілі іх з рук. У гэты міг Федзька схапіўся за вяровачку, якой былі звязаны гусі за ногі. Гусі нешта дзіка залапаталі, замахалі крыллямі, і кінуліся са страхі. Услед за імі паляцеў і Федзька.

У гэты момант Сёмка пачуў крык дзеда Сівохі. Дзед бег з двара, крычаў і грозна размахваў дубцом. Сёмка ў спалоху скаціўся са страхі. Федзька ўжо ляжаў на зямлі і прасіў ратунку, а навокал яго гагаталі гусі, помсцілі і стараліся ўшчыкнуць за што папала.

— Уставай, Федзька,—крыкнуў Сёмка і падаў яму руку.—Дзед Сівоха з дубцом бяжыць. Уцякай!

Федзька мігам ускочыў і, кульгаючы на адну нагу, пабег услед за Сёмкам цераз рэчку.

— Ух, нагу ўдарыў, каб на яго...—скардзіўся Федзька, трымаючыся за пабітае калена.—Паглядзі, Сёмка, у мяне, здаецца, на ілбе гуз ускочыў...

— Не здаецца, а сапраўды ёсць, ды вялікі які...

— Пракляты гусак!—застагнаў ад болю Федзька.—Ну, нічога... Затое, хоць трошкі палятаў...

А за рэчкаю ў кустах дзед Сівоха смешна скакаў на адным месцы і пагражаў ім дубцом:

— Я вам, я вам пакажу, шалахвосты, гультаі, як лятаць на чужых гусях! Я вам яшчэ пакажу! Хіба вы дамоў не прыдзеце? Ах, шалахвосты! Ах абармоты! І хто вас толькі навучыў гэтаму... Я вам! Я вас адвучу ад гэтага!

Ад самага паўдня да вечара Федзька з Сёмкам праляжалі ў кустах за рэчкаю. Толькі калі сцямнела, яны адважыліся прыйсці дахаты.

Адважныя следапыты вярнуліся дамоў пакалечаныя і злосныя. Не лёгка быць следапытамі!

## Следапыты накіроўваюцца ў шырокі свет

Ёсць далёкія нязнаныя краіны. Ёсць сінія моры, па якіх пад гарачым паўднёвым сонцам плывуць караблі. І па Ледавітым акіяне плывуць гераічныя караблі. І над тайгой і над пустынямі кружаць совецкія самалёты.

Ёсць невялічкая вёска Лугіны, дзе жывуць Федзька і Сёмка. Каля вёскі працякае маленькая рэчка, шуміць сасновы лес. На палях налівaецца збожжа.

Весела бывае вясною, калі шырока разліваецца рэчка і затапляе паплавы. Добра бывае ўлетку, калі лес агалашаецца птушынымі спевамі. Добра блудзіць у лесе, у гушчары, хадзіць па грыбы, па ягады, хадзіць у поле на жніво. Добра і ўзімку ездзіць на санках са снегавай гары...

Усё добра і радасна!

Але не перасталі Федзька з Сёмкам марыць аб тым, каб стаць вялікімі следапытамі, каб паехаць у далёкія краіны, у шырокі свет.

Няўдача першага палёта не зламала іх упартасці. Толькі зараз ужо сталі яны думаць, каб навучыцца лятаць не на гусях, а на сапраўдных самалётах.

Увосень, калі яны пайшлі ў школу, Федзька напісаў свайму дзядзьку Максіму ліст:

«Дзядзечка родны, вазьмі мяне з сабою. Ты не ведаеш, як мне хочацца навучыцца лятаць. Так думае і мой лепшы таварыш Сёма Чыжык. Вазьмі мяне з сабой. Я цябе ва ўсім буду слухаць. Ну ва ўсім чысьценька—што толькі ты не скажаш мне. Я табе і машыну буду даглядаць і матор накручваць... Напішы ты мне аб усім—і як ты лятаеш, і калі прыляціш у госці, і калі мяне з сабой возьмеш...

Чакаю ад цябе прывета, як салавей цёплага лета».

Скора Федзька атрымаў ад дзядзькі ліст. Ён чытаў яго спачатку Сёмку, потым чытаў у школе па некалькі разоў. І хоць у лісце было напісана, што дзядзька зараз не можа ўзяць яго з сабою, але Федзька і тут не сумаваў.

— Слаўны ў мяне дзядзька. Кажа, добра вучыся, канчай школу, а тады, як падрасцеш, вазьму цябе з сабою. Эх, і палячу я!..

Усе зайздросцілі Федзьку, бо шмат хто з яго таварышоў хацеў быць лётчыкам...

Прайшло некалькі год.

Ужо Федзька з Сёмкам скончылі школу, падраслі, выцягнуліся. Ім ужо было каля пятнаццаці год. Гэта былі дужыя, здаровыя

хлопцы. Ім шмат чаго хацелася ведаць. Яны прачыталі ўжо многа кніжак і хацелі далей і больш вучыцца.

Аднаго разу пад восень яны пакідалі сваю вёску Лугіны. За плячыма ў іх былі клумкі з бялізнай, хлебам і кніжкамі. Сёмка ішоў у у горад вучыцца на рабфаку. Федзька да свайго дзядзькі Максіма.

За выганам іх спаткаў стары жартаўнік дзед Сівоха. Ох, гэты дзед Сівоха! Ён заўсёды жартаваў з іх, падманьваў. А зараз дзед спыніўся, ласкава ўсміхнуўся, уздыхнуў і сказаў:

— Хо-хо-хо! Пайшлі нашы хлопцы ў шырокі свет. Ну-ну, вучыцеся... Толькі хаця дзеда Сівохі не забывайце, шалахвосты! Усё-ж такі я вучыў вас—і як зачараваны скарб шукаць, і як лятаць... Пішыце-ж, хлопцы, хоць паклон перадайце.

— Напішам, дзед...

— Паклон абавязкова перададзім....

— Ну-ну... То-та-ж... Хо-хо...

— Слаўны дзед, справядлівы!—сказаў пра яго Федзька.

Хлопцы ішлі па зжатаму полю, успаміналі сваё дзяцінства і ад душы смяяліся з таго, як яны шукалі зачараваны скарб і як ляталі на дзедавых гусях.

У апошні раз яны ўзлезлі на старую кучматую сасну. Як тады, у дзяцінстве перад імі пасцілалася на дзесяткі вёрст кругом раўніна. Далёка на ўсходзе віднелася тоненькая палоска возера Сялец. Толькі возера Сялец не было ўжо «свету канец». Шырокі свет пасцілаўся перад імі. Шырокія дарогі вялі ў гэты свет...

І яшчэ прайшло некалькі год.

Старыя дружакі разлучыліся. Даўно не бачылі адзін аднаго. Сёмка ўжо скончыў рабфак і ўжо вучыўся на агранома. Пра Федзьку з таго часу, як ён паехаў да дзядзькі Максіма, не чуваць было ні слуху, ні духу.

Яны не паляцелі ні ў тайгу, ні ў пустыню. Ад усяго гэтага засталося толькі далёкі ўспамін, але сапраўднымі следапытамі яны ўваходзілі ў жыццё.

А ў гэты час ледаколы рэзалі ільды суровай Арктыкі. Адважныя лётнікі штурмавалі неба. За гэтыя гады ў краіне было раскапана шмат аграмадных гор, пабудавана многа новых цудоўных гарадоў. Нават вёска Лугіны зусім змянілася. На яе вузкіх палосках вырас багаты калгас «Чырвоны сейбіт»...

У летні дзень на вуліцы Менска ішоў чарнявы шырокаплечы хлапец. Ён ішоў спяшаючыся, задумаўшыся аб нечым сваім. Насустрач яму і абганяючы яго, ішлі цэлыя натоўпы людзей. Раптам ён азірнуўся і ў натоўпе ўбачыў стройнага белакурага хлапца ў новай лётніцкай форме. Чарнявы хлапец прыцішыў хаду. Лётнік паглядзеў на яго і таксама прыцішыў хаду. Потым яны павярнуліся і зноў пайшлі насустрач адзін аднаму. Не даходзячы да лётніка трох крокаў, чарнявы зрабіў здзіўлены твар.

— Гэта не ты, Федзька?—прашаптаў ён.

— Гэта я... А гэта не ты, Сёмка?

— Ну, вядома, я,—весела сказаў чарнявы.

— Вось бачыш... мы абодвы,—сказаў лётнік.

Яны шчыра прывіталіся, як даўнія старыя дружакі...

— Хто-ж ты цяпер, Сёмка?

— Я—аграном... А ты?

— Я—лётнік....

— Вось бачыш...

Яны ўспомнілі сваё маленства. Расказалі адзін аднаму, дзе яны былі, якія бачылі гарады і рэкі, колькі чаго новага і цікавага.

— Ну што, едзем у пустыню?—жартуючы спытаў Сёмка.

— Едзем!—зусім сур'ёзна адказаў Федзька.—Цяпер на сваім самалёце я не толькі ў пустыню—я магу абляцець увесь свет. Я праляцеў ужо тысячы кілометраў. Гэта не тое, што на гусях лятаць... Хочаш, пакатаю цябе...

— Хачу...

— Ну, вось, бачыш. Заўтра, я палячу на сваім самалёце ад нашага аэраклуба ў самы лепшы ў раёне калгас «Чырвоны сейбіт». Наш аэраклуб узяў над ім шэфства...

— Дык гэта-ж наш лугінскі калгас.

— Ну вось бачыш, туды я і еду...

— Я еду ў гэты сельсавет аграномам.

— Бачыш, як добра ўсё складаецца... Значыць, заўтра і едзем...

На другі дзень Сёмка прышоў на аэрадром, дзе працаваў Федзька. Фадзька вывеў з ангара свой самалёт. На самалёце быў надпіс «Комсамолец». Ён увесь блішчэў, зіхацеў на сонцы. Федзька ўсміхаўся, горды за сваю машыну.

— Сядай, не бойся,—сказаў Федзька.— Эх, і паляцім-жа мы.

Загудзеў матор. Падзьмуў вецер... Сёмка сеў у кабінку і прывязаўся рамнямі. Ён трошкі хваляваўся. А ў Федзькі быў спакойны, нават вясёлы твар.

Раптам самалёт сарваўся з месца, прабег некалькі сажняў па аэрадрому і паволі ўзняўся ўгору.

— Трымайся, Сёмка!—заглушаючы вецер, крыкнуў яму Федзька.—Мы паляцім высока. Усё вышэй і вышэй....

У вушах звінеў вецер. У Сёмкі з непрывычкі злёгку кружылася галава. Федзька, кіруючы самалётам, абарачваўся да яго і ўсміхаючыся гаварыў:

— Ляцім, Сёмка?

— Ляцім!—адказаў Сёмка.

— Я-ж гаварыў табе. Вось бачыш...

За самалётам плылі свежыя воблачкі. Бяскрайнія блакітныя прасторы ляжалі ўперадзе. Унізе ляжала радасная зямля і хаты былі велічынёю з карабкі ад запалак. Чалавек унізе варушыўся як мурашка. Ручай працякаў, як зялёная ніточка.

Сёмка Чыжык зачараванымі вачыма глядзеў у даль, а яго стары таварыш Федзька Гайдай напяваў уголас песню аб тым, што ён ляціць усё вышэй і вышэй.

## Старая дружба ніколі не ржавее

Самалёт пакружыў у паветры і стаў паволі спускацца на гладкую скошаную сенажаць, недалёка ад вёскі. Вялікі натоўп людзей ужо, відаць, чакаў яго на выгане. Людзі ў яркіх святочных вопратках варушыліся і махалі рукамі.

Гэта была вёска, адкуль год сем таму назад Федзька з Сёмкам вышлі зусім хлапчукамі. Вось і старая кучматая сасна на кургане. Толькі вёска зусім не падобна на старыя Лугіны: многа новых прасторных будынкаў, хат, вялікі малады сад. Як даўно яны не былі тут! Як цяпер жывуць тут людзі? Што робіць стары жартаўнік дзед Сівоха?

Самалёт з лёгкім шумам апусціўся на сенажаць. Яго адразу-ж акружылі з радасным крыкам хлапчукі. З чырвоным сцягам прывяла свой піонерскі атрад важатая Мурка. (Гэта тая самая Мурка, якая калісьці хацела разліць вадою Федзькву і Сёмкаву дружбу!) Потым да самалёта падбегла моладзь, потым паважна падышлі старыя.

І раптам з усіх бакоў пачуліся галасы:

— Гэта-ж нашы!

— Сёмка і Федзька!

— Бач ты! Эй-ш ты!

— Прывітанне, хлопцы!

— Ураа-а-а!

Хлопцы вылезлі з кабінкі. Федзька паправіў рукою шлем, пачакаў, пакуль сціхлі крыкі і горда сказаў:

— Вітаю ўдарнікаў перадавога калгаса «Чырвоны сейбіт» са святам «Дня ўраджаю». Наш аэраклуб прасіў мяне перадаць вам, што мы бярэм над вамі шэфства. Вось тут я прывёз вам падарункі...

Па натоўпу прайшоў гул. Пачуліся воплескі. Федзька на хвіліну змоўк, каб перачакаць воплескі і зноў працягваў гаварыць:

— Мы будзем вучыць моладзь вашага калгаса лятаць на самалёце, скакаць з парашутам...

Моладзь бурнымі воплескамі і крыкамі зноў не дала дагаварыць Федзьку.

— Навучыцца лятаць можна скора. Гэта зусім не страшна, асабліва таму, хто не баіцца і хто смелы. Вось я ўжо даўно лятаю. У першы раз мы з Сёмкам лялі на гусях. Тады я набіў на ілбе здаравенны гуз. Дзе тут дзед Сівоха? Дзякуй яму! Ён першы падаў думку аб палёце...

— Агу. Я тут!—пачулася з натоўпу, і дзед Сівоха, дабрадушна ўсміхаючыся, вышаў наперад.—Хо-хо! Здаровы былі, хлопцы! Ну, яй-права нізавошта не пазнаў-бы вас, каб спаткаў дзе небудзь уночы... Гэта-ж дзіва, такія хлопцы сталі... Ну, то раз да нас у госці, дык прашу агледзіць маю гаспадарку. Я цяпер не абы хто, а паважаны ўдарнік. Я цяпер кураводам. Пад маім наглядам і куры, і гусі, і качкі. У мяне куры такія нясуць яйкі во!—па гарбузу. А гусі мае такія дужыя, што на іх, як на самалёце, можна лятаць...

— Не, дзед, больш на гусях я не палячу,—з гонарам сказаў Федзька.—Я сёння буду катаць на самалёце лепшых ударнікаў. Хто першы?

Сярод натоўпу падняўся радасны гул. Моладзь, хлопцы і дзяўчаты, падступіліся яшчэ бліжэй да самалёта і ўсе хацелі быць першымі. Старшыня калгаса ўсіх супакоіў і, падумаўшы, сказаў:

— Першым павінен ляцець дзед Сівоха. Ён у нас старэйшы, ён у нас і першы ўдарнік. Няхай ляціць!

Дзед Сівоха збянтэжана падаўся задам у натоўп. Яго падхапілі хлопцы пад рукі і хоць ён і вельмі ўпіраўся, падвялі да самалёта.

— Сядай, дзед!—сказаў Федзька.—Ну і пракачу-ж я цябе...

— Сядай, чаргі не затрымлівай!

— Што вы! Што вы!—закрычаў дзед, замахаўшы рукамі.—Які з мяне ўдарнік? Хіба ў нас мала ўдарнікаў маладых—няхай яны ляцяць. Адпусціце, хлопцы, што я вам дрэннага зрабіў?..

— Не ўпірайся, дзед, усе просяць...

— Пусціце хоць дахаты, з бабаю развітацца.

— Не затрымлівай чаргі! Усім лятаць хочацца.

Дзед доўга не згаджаўся. Нарэшце, патупіў галаву, апусціў бараду і сказаў:

— Ну, калі так, дык бывайце здаровы! Мне ўсёроўна скора паміраць. Жывіце сабе на здароўе, а я—палячу. Не памінайце ліхам, каму што дрэннае зрабіў ці пакрыўдзіў каго—даруйце людзі добрыя!

Дзед Сівоха зняў шапку, сумна кіўнуў галавою і смела палез у кабінку.

— Ляці, дзед, не бойся!—крыкнулі яму.

Самалёт адарваўся ад зямлі, панёс дзеда і вялікай птушкай узвіўся ў ясным небе. І так лёгка, так прыгожа кружыў ён над полем, што моладзь ад зайздрасці высока падымала ўгору галовы і станавілася на цыпачкі.

А ў натоўпе гаварылі старыя бабулі:

— Ну і адважны-ж наш Сівоха!

— Ну і смелы!

— Ці будзе то ён жыў?

Калі самалёт апусціўся на зямлю, дзед Сівоха спакойна вылез з яго без шапкі і, заміргаўшы павекамі, здзіўлена паглядзеў на людзей.

— Вы ўсе жывы? Бачылі, як трэба лятаць? Ніводзін волас на барадзе не скрануўся.

— А ты памацай на галаве, дзе твая шапка?

Дзед пагладзіў лысую галаву.

— Тут усё ў парадку. Гэтая лысіна ў мяне ўжо гадоў трыццаць. А шапка, каб не зваліласе, дык я сюды паклаў...

І дзед выняў шапку з-за пазухі.

— Ну, скажу я вам, многа я страху бачыў у жыцці. Біў мядзведзяў, ласёў, ваўкоў, а такога страху ніколі не спытаў.

У натоўпе дружна зарагаталі.

— Вы што-ж,—пакрыўдзіўся дзед.—Думаеце, я пасапраўднаму спужаўся? Гэта толькі адразу было, калі я ад зямлі адарваўся, дык шкода было вас адных пакідаць... А потым я ціханька песні спяваў... Хочаце, я і яшчэ магу паляцець...

Дзед Сівоха падаўся да самалёта, каб палезці ў кабінку.

— Даволі! Досыць!—закрычалі на яго і адцягнулі ў натоўп.

— Не аднаму табе, а ўсім хочацца палятаць...

— Ну, то і добра!—весела адказаў дзед, выціраючы з твару буйны пот.—Я—чалавек стары. Ляціце ўжо вы, маладыя...

Пасля гэтага лятали хлопцы, дзяўчаты і пажылыя калгаснікі. А пасля абеду дзед Сівоха павёў паказаць калгаснае багацце і ўсю сваю вялікую гаспадарку—курэй, гусей, і качак. І зноў дзед хваліўся:

— Мае куры нясуць яйкі большыя, як сапраўдныя курыныя яйкі, бо ў мяне куры ўсе пародзістыя і даглядаю я іх лепш не трэба... Кармлю я сваю жывёліну, прызнацца не так, як другія, адным сенам, а і аўса падсыпаю... Затое, як запражэш у калёсы на рынак ехаць, дык віхрам імчаць. Таго і глядзі, каб яек не раздушыць...

— Што?—са здзіўленнем запыталіся хлопцы.—Ты і курэй у калёсы запрагаеш?

— Ды не, дзівакі вы? Гэта я пра коні, на якіх у горад на рынак яйкі адвожу...

— Ты, дзед, якім быў жартаўнікам, такім і астаўся.

— А што? А якім мне быць?—схамянуўся дзед.—Можа не верыце? Хіба я вам, хлопцы, калі небудзь хлусіў? Шукалі вы зачараваны скарб на маім агародзе... Паглядзіце цяпер, які там скарб расце: качаны капусты во якія і агуркі, як горы, ляжаць. Лятали вы на гусях, а цяпер лятаеце на самалёце. Дзе-ж тут падман? На ўсё навука трэба. Я—чалавек справядлівы... Хіба-не праўда? Вось ты, Федзька, зноў паляціш на самалёце, а Сёмка ў нас застанецца за агранома. І так мы раскапаем зямлю з ім, і такі скарб знойдзем у ёй, што ні ў казцы расказаць, ні пяром апісаць.

Пад вечар усім калгасам праводзілі Федзькаў самалёт.

— Не забывайце, хлопцы, нашай дружбы,—сумна сказаў дзед Сівоха.—Старая дружба ніколі не ржавее...

Самалёт узвіўся ў вышыні. Дзед стаў на цыпачкі і крыкнуў:

— Федзька, прылятай яшчэ да нас. Калі буду жыў-здароў, набяруся адвагі,—яшчэ раз пракацімся. Фе-едька-а! Не пачуў!—з жалем прамовіў дзед, абярнуўшыся да натоўпу калгаснікаў.—Бач ты, аж пад самыя хмары забраўся.

Дзед Сівоха, і Сёмка, і моладзь, і старыя глядзелі ўслед самалёту, пакуль ён зусім не знік у ружовых хмарах.

*Алесь Жаўрук*

# СМЕРЦЬ КОМСАМОЛКІ

Ад тваіх трамваяў
Несутрымны пошчак
На увесь,
На цэлы Фрунзенскі раён.
І ідуць дзяўчаты
Па шырокай плошчы
З самаю любімай
Песенькай тваёй.

Ну, а ты смуглявая,
Як зірнеш у вочы,
А ці толькі лічыцца:
Даўнія сябры?
Ты вось і з сяброўкамі
Ужо не хочаш крочыць
І маўчыш чамусьці,
Што ні гавары.

Ні спяваць не хочаш болей,
Ні смяяцца.
(І адкуль-жа толькі
Панагнала хмар?)
Першая у гульнях,
Першая у працы,
Прыгадай чыталку,
Кожны семінар.

Прыгадай часіны
Гутарак сяброўскіх;
Першую паездку групай
На метро.
Ўспомні вечарыны—
Пушкін з Маякоўскім
Скрозь у нас бывалі
Гэтаю парой...

Ў чыстым снезе сцежкі,
Ў тонкім срэбры скверы,
Міліцыянеры
Махаюць нам рукой.

З парашутнай вышкі
Скачуць піонеры,
Лыжнікі праходзяць
Над Масква-ракой.

Устань-жа, дарагая,
Спрытна, як бывала—
Ў інстытут пад'едзем,
Выйдуць сустракаць.

Ты-ж яшчэ залікаў
Пэўна не здавала,
Не чытала Маркса
Да палітгуртка.

Ты калісьці славы
Не шукала лепшай,
Як змагацца поруч,
Прагай часу жыць.

А цяпер вось,
Тварам трошкі пабялеўшы,
Трошкі пастарэўшы,
Немая ляжыш.

І праходзяць ціха
Людзі за труною.
Ну, калі так ціха
Ходзіць чалавек?..

... Дружна ручаіны
Забруяць вясною,
Выйдзе час ды тэрмін
Маладой траве.

Будуць ветры
Ў шыбы кідацца з усхонаў.
Будуць на Нікіцкім
Ландыш прадаваць.
Увечар закаханых
Будуць тэлефоны
—Ў ленінскія горы!—
Ўпарта заклікаць.

І калі у маі
Будзе наша гордасць—
Маршал Варашылаў—
Зноў прымаць парад,—
Пройдзем паўз трыбуны
Мужнаю кагортай
З песняю тваёю,
З воклічам «ура!»

І імя сяброўкі,
Як вясну, як памяць,
Пранясем да дзіўных
Светлых берагоў.
Толькі вельмі горна,
Што не будзе з намі
Самай прамяністай,
Самай дарагой.

Масква, студзень 1936 г.

## СЯБРУ

Калі ў пражылках дрэў адталых,
Як пульс узрушанай крыві,
Як брага вадкага метала,
Хмялёвы бродзіць сакавік;

Калі дажджом пара прыспела
Шугаць ў чатыры ручаі,
І скрозь птушыныя капелы
Свае канцэрты пачалі;

Калі прагалін тонкі водыр
Хвалюе на адны лады
Паэтаў і рахункаводаў,
І пагранічнікаў—тады,

Ўздымаючы паветра ўздрыгі,
І кідаючы наўздагон,
Як цукар адсырэлы, крыгі,—
Дняпро выходзіць з берагоў.

Цяпер яго чаргуе права.
Ён рушыць хвалям ўслед вятры,
Каб размывала пераправы
І набягала на бугры.

Каб гоманам цецяруковых боек
Абуджаны ў пачатку дня,
У моры хваль па самы пояс
Стаяў асаджаны дубняк.

Так праз заставы, праз разлогі,
Дзе горы спраў, наперад скрозь
Пад сцягам мужнае эпохі
Шугае наша маладосць.

І так выдатнаму сяброўству,
Як стромам, шаснуўшы увысь,
Злучаць архіпелагі простых
Асобных чалавечых высп.

Я бачыў сам, як глушыць ўпарта
Слабыя шэпты крок падзей.
Без песні, спраў вялікіх вартай,
Зусім не мыслю гэты дзень!

Дык дай руку і ўстань, як волат,
Як вал, што грозна б'ецца ў борт.
Нам час спяваць на поўны голас
Ў паходах сонечных кагорт.

Масква, студзень 1936 г.

*М. Дзехцяр*

# ПАД ДУБАМ

На скрыжаванні дарог маёй радзімы—Палесся стаіць схілёны на ўсход сонца стары трухлявы дуб. З яго гнілога дупла часам выскаквае спуджаны заяц і знікае, як дымок, у далёкіх кустох. Дзікія каршуны ладзяць тут балі. Лясныя краты будуюць палацы пад яго карэннем Даўно ўжо на гэтым дубе не было жалудоў. Даўно ўжо развітаўся ён са сваёй маладосцю.

Ніхто тут не памятае, з якога часу стаіць гэты дуб. Дзіка—нарослая кара-губка на гарбатай спіне, худыя пасохлыя галіны-сукі робяць яго сведкай многіх эпох. Перанёсшы злыя вятры, віхуры, перажыўшы безліч горкіх часоў, ён стаіць і праз усё сваё жыццё аплаквае лёс беднага краю.

Старыя паляшукі праходзілі тут часам і з павагай кланяліся старому, здымалі шапкі, тры разы хрысціліся і ішлі далей. У гарачыя летнія дні пад гэтым дубам сядзелі гарбуны, сляпыя жабракі з вялікімі торбамі за плячыма, з бандурамі і лірамі ў руках. У яго цяньку нараджалася самае вялікае, агністае каханне вясёлай палескай моладзі. Затрымлівалася тут і панская брычка і паны ў цянёчку ладзілі пагулянку.

Гіпсавыя паненкі круціліся тут на корках, задраўшы галоўкі да неба, як чарапахі, і «любаваліся» старым белым буслам, які стаяў у сваім гняздзе на вяршаліне дуба і графам азіраў мясцовасць.

Увесь смутак гэтага краю люстраваўся ў яго бусліных вачах. Не, не графам назіраў ён, а жабраком аплакваў бедную долю сваёй радзімы.

Гарбатыя вёскі з саламянымі капялюшамі, калекі-мястэчкі з паламанымі ганкамі тырчэлі, нібы груды касцей, з зямлі. Толькі балоты густа курэлі глыбокімі раніцамі, толькі бары кідалі шырокія цені і туманам і мглою засланялі на хвіліну смутак зямлі.

На скрыжаванні дарог маёй радзімы Палесся стаіць стары трухлявы дуб. Даўно не было на ім жалудоў, даўно ўжо не жыве бусел у закінутым гняздзе на яго вяршаліне.

У тым горкім годзе, у 1920 годзе, на суках гэтага дуба павесілі сем партызанаў.

Тады адзіны стрэл прадзіравіў неба і, нібы шматок адарванай хмары, з вяршаліны дуба зваліўся акрываўлены стары бязвінны бусел.

* * *

Раз у год, у святочны летні дзень да дуба прыходзяць сем дзядоў сем бацькоў павешаных партызанаў, сем сівых галубоў з вялікімі люлькамі ў зубах, з даўгімі сукаватымі кіямі ў руках. Іх доўгія валасы змешваюцца з дымам і здаецца, што дуб гарыць. Дыміць, хістаецца, жадае прылажыць да зямлі стомленыя старыя косці.

Сем сівых галубоў, сем бацькоў сядзяць пад дубам і ўспамінаюць сваіх павешаных сыноў. Яны ўспамінаюць тыя чорныя часы, калі на іх радзіме, Палессі шалелі злыя орды, разбэшчаныя легіянеры, пазнанчыкі, галерчыкі. Яны рабавалі, палілі вёскі, паласавалі, рэзалі мястэчкі, драсавалі хлеб на палёх, гвалцілі іхных жонак і дачок, вешалі іхных бунтарскіх сыноў.

— Хто ім верне сыноў?

Хай яны цяпер устануць са сваіх магіл, хай глянуць на сваю радзіму. Яны доўга-доўга шукалі-б у карчах сваіх слядоў, доўга-доўга шукалі-б, дзе тыя балоты, у якіх яны гразлі. Яны не бачылі, як сохі дзядоў і прадзедаў былі спалены, як дзікія межы навекі заараны.

— Эх, як багата пагоркаў-курганаў у маёй радзіме! Як многа брацкіх магіл у маёй краіне.

Але яшчэ багацей мая радзіма новымі мястэчкамі, вёскамі, калгасамі, што паўсталі, як манументы, на касцях герояў, загінуўшых у бойках.

І калі абноўленае сонца заходзіць над далёкімі вяршалінамі лясоў, над блізкімі калгаснымі палямі, калі птушкі рассыпаюць у ціхіх спакойных бярэзніках вячэрне-сардэчную песню, калі ў далячыні яшчэ не замаўкае мелодыя пастуха—тады чуваць, як недзе глыбока пачынае гаварыць зямля. Недзе праходзяць палкі, тупаюць батальёны. Дымяцца рэшткі балот і пушчы пачынаюць шумець, гудзець.

Здаецца, што праходзяць палкі партызанаў. Ідуць аглядаць сваю старонку. Доўга - доўга шукаюць яны сваіх даўнейшых слядоў. Доўга-доўга не спыняе свае гаворкі зямля.

І радасна шумяць далёка-далёка ўзнікаючыя любыя гарадкі. Запальвае вострыя агеньчыкі густая сетка калгасаў.

* *

Самы старэйшы з сямі дзядоў, самы дужэйшы—гэта паляшук—Прахор Бужан, сын якога—Трахімка—быў самым маладзейшым з сямі павешаных партызанаў. Прахор высокі, сухі, ціхі, задуманы. Але калі раззлуеш яго, раздражніш, ён гатоў яшчэ вывернуць дуб. Люлька ў яго самая большая, кій—самы тоўсты.

Шэсць дзядоў, яго блізкія, родныя, сядзяць наўкола, іхныя твары ахінае люлечны дым і драбнюткія іскаркі засыпаюць ім вочы. Бароды ва ўсіх звернуты да самага старога, да Прахора, у якога прадоўгаваты твар, парэзаны глыбокімі маршчынамі і малочная, рэдкая, нібы прыклееная бародка. Побач з ім сядзіць даўнейшы пастух Панас Дуда. Разумнік, з глыбокадумным тварам і вялікімі як у птушкі, вачыма. Гэта той самы Панас, да дачкі якога, Марфусі, сватаўся Прахораў сын—Трахімка.

Як свой сярод сваіх сядзіць прыпёршыся да дуба прысадзіста-плячысты вясковы каваль, Янкель. Яго чорныя рукі нібы карэннем змацованы і з валасатых грудзей заўсёды нібы падымаецца рэдзенькі дымок. Сына няма ў яго, у вясковага каваля, Янкеля. Ён прыходзіць сюды памінаць чужога сына, бацька і матка якога недзе выплакваюць вочы і спадзяюцца, што калі-небудзь іх любы сынок яшчэ вернецца з бойкі. Нейкага Арцёмку памінае ён, Янкель.

У высокім небе святлее сонечны ліпеньскі дзень. Святочна прыбіраецца край, калыша свае чароты багаты, горды лес. Развяваюцца сцягі над блізкімі і далёкімі калгасамі. Туляцца адзін да другога цяжкія высокія каласы ў полі, чародкі птушак з распасцёртымі крыллямі гараць на сонцы і лунаюць, як шматкаляровыя адрыўкі хмарак. Масянжова-велічным выглядае стары дуб на сонцаўсходзе. Сем дзядоў аплятаюць яго цясней і разам з трухлявым старцам вырастае ўспамін і, як далёкае паданне, снуецца невялікае апавяданне.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На тым баку Прыпяці адышлі ўжо апошнія большэвіцкія батальёны. На пустых, журботна-асенніх палетках, на шляхах, трактах, нібы навекі, адбіліся іхныя сляды, нібы на векі застаўся шоркат чырвонаармейскіх шынеляў і звон жалезак на ботах. Тады выбіралі яшчэ бульбу. Бледнымі аганькамі тлелі кастры, а сялянкі не зацягвалі сваіх песень на палетках.

Здавалася, недзе ў далечы матчын голас прадзіравіў неба, а яна ўскінула рукі, нібы жадаючы схапіць вогнішча пік, якія калыхаліся на гарызонце.

— На каго пакідаеце нас, дарагія! Не адыходзьце, родныя!

Далёка-далёка на гарызонце, нібы кавалак сонца, палыхае палотнішча чырвонага сцяга. Крышыцца на небакраі срэбра пік, а пад нагамі калышацца зямля, прагне ўцячы. На тракце тупае конніца. Трашчыць мост пад коламі цяжкіх батарэй. Пуста на полі, смутна ў пушчы, сціхла—загразла жыццё ў балотах, занямелі звяркі ў грузкіх нетрах. Паўцякалі птушкі ў цёплыя краіны.

— На каго нас пакінулі? Хто абароніць наша жыццё?

Над маёй радзімай—Палессем навіслі чорныя хмары.

* * *

Ходзяць чуткі ад вёскі да вёскі, па краіне вандруе нейкі Арцёмка, чалавек, замаскованы старцам. Ён высокі, як дрэва, дужы, як мядзведзь. А сваімі лапамі ён ломіць жалеза, ён глытае полымя і начуе ў пушчы, як птах.

Ходзяць чуткі, што за яго мёртвую галаву легіянеры даюць трыццаць тысяч марак. А за жывую дадуць і маёнтак.

Ніхто не бачыў гэтага Арцёмкі. Але кажуць, што ён прыгожы, як ружа, смуглявы з чорнай чупрынай, цэлы стог валасоў на галаве.

— Дык дзе ён, Арцёмка? Скуль ён, гэты харашун?

Занадта прыбіраюцца палескія дзяўчаты. Замнога шпілечак насадзілі яны ў галаву, замнога істужак начаплялі на шыйкі, пацерак—на грудзі. Самыя лепшыя андаракі апранулі яны і закаханымі вачыма пазіраюць на поле, пушчу.

— Дык дзе ён, прыгажун Арцёмка? Хоць-бы разок зірнуць на яго. Паказаў-бы хоць свае агністыя вочы.

— Не відаць, не чуваць Арцёмкі—дзе ён, смуглявы?

Казалі, што ўчора ўночы ён быў у Прахора Бужана, напіўся квасу, перакусіў печанай бульбы і Трахімка, Прахораў сын, праводзіў яго туды, за выган, да каваля.

Казалі, што да Янкеля, каваля, ён прыходзіць штоноч, кує пікі, кінжалы, правіць бярданкі.

Ходзяць чуткі, што гэты Арцёмка збірае партызанскія атрады.

— Дык дзе ён, гэты Арцёмка? Яго не відаць, не чуваць.

Дарма прыбіраюцца палескія дзяўчаты, завіваюць валасы.

Лес маўчыць, вёскі чакаюць—во-во ён пакажацца—зараз прыдзе, вось ён ідзе, Арцёмка.

Але не відаць і не чуваць Арцёмкі.

* * *

У бедняка Прахора Бужана адзін сын. Восемнаццацігадовы кучаравы сын Трахімка. Рукі ў яго, як у вялікага. А плечы дужыя, не па гадах. Па яго карых вачах млеюць вясковыя дзяўчаты, паглядаюць яны яму ўслед. З многіх вёсак да Прахора Бужана прыязджалі ў сваты, з багацейшых гаспадарак. Яму абяцалі шмат гарцаў жыта, мерак грэчкі, аўса, абяцалі авец, бугаёў, толькі-б ён згадзіўся адправіць свайго Трахімку ў прымы.

А Трахімка кахаў дробную, беленькую Марфусю, дачку пастуха, Панаса Дуды. Дзяўчаты аж гарэлі ад зайздрасці, калі на вуліцы паказваўся кучаравы Трахімка са сваёй каханкай Марфусяй. Глыталі слінку на вясковых вечарынках, калі Трахімка тупне казака, ці разыграецца на гармоніку. Дужэйшых за Трахімку сярод хлапцоў не было.

І чакалі з дня на дзень. Во-во надыдзе восень і абудва беднякі згуляюць вяселле.

І восень прышла, і вяселля не згулялі. Не ў галаве было ладзіць вяселлі. Смерць ляжала тады на горле.

* * *

Стопяцігадовы сляпы Гарашка, дзед Трахімкі Бужана, заўсёды сядзеў на прызбе каля хаты, курыў люльку і пры гэтым спяваў маркотную песню.

— Ах, калі, божачка, пасвятлее?

— Цёмна, горка жыць мне, бедняку.

Яго песня павявала даўно мінулымі цяжкімі гадамі. Ярмом паншчыны. Цэлы натоўп вясковых дзяцей збіраўся каля яго, прыносілі дзеду гасцінцы, чырвоныя ягадкі, маліны, і дзед спяваў ім доўга-доўга, так хрыпла-ціха, ледзь-ледзь пачуеш мелодыю. На некаторы час журлівая дзедава песня заціхла. Вось так, седзячы на прызбе, абапёршыся на кій, ён сустрэў рэволюцыю. Сляпыя вочы не бачылі таго, што адбывалася на свеце. Але сэрца адчувала, што неба пасвятлела, што дыхаць зрабілася вальней.

І вось, пры адыходзе апошніх большэвіцкіх батальёнаў, зноў пачулася здушана-хрыплая мелодыя дзеда Гарашкі.

— Ах, божачка мой, калі пасвятлее.

Але цяпер вясковыя дзеці не збіраліся каля яго. Гасцінцаў не прыносілі яму. Адзінокі сядзеў ён, абапёршыся на кій. Тры чорныя вароны каркалі за яго згорбленай спінай. Тры здохлыя мухі заблыталіся ў жмутку яго вылінялай, белай бародкі.

Ён таксама дачуўся, што гавораць пра нейкага Арцёма. І Гарашку таксама хочацца ведаць пра гэтага чалавека, пра якога ходзяць чуткі ад вёскі да вёскі. Дзедавы сляпыя вочы ўсёроўна не ўбачаць яго. Але сваімі старымі дрыжачымі рукамі дзед схапіў-бы яго за плечы, пагладзіў-бы па галаве.

— Які ён, гэты Арцёмка?

Калі ён заступаецца за беднякоў, дык чаму ён не прыходзіць як найхутчэй, толькі пакажацца на шляху і цэлыя вёскі пойдуць яму насустрач. З віламі, косамі і пойдуць з ім.

Хай ён толькі пакажацца, і дзяды нават саскочаць з пяколкаў.

— Дык дзе ён, Арцёмка?—Хай адгукнецца.

Учора, позна ўначы, калі ўсё неба зіхацела маланкамі і зямля трэслася ад грукату далёкіх гармат, у Прахараву зямлянку пастукаўся нейкі незнаёмы чалавек. У поцемках не відаць было, які ён, як ён дрыжэў ад холаду. Толькі грубы голас папярэдзіў, каб не палохаліся, бо ён свой, дайце яму толькі кавалак хлеба і пакажыце, дзе жыве каваль.

Гарбатая Фёкла ў поцемках усунула яму ў руку акраец хлеба з сырам і ён адразу пакінуў зямлянку. А Прахор выслаў за ім свайго сына, Трахімку. І Трахімка правёў яго туды, за выган, да каваля.

У чорным небе зіхацелі доўгія, агністыя дугі. Цяжкія гарматы бухалі неяк глуха і здавалася, што гэта валяцца дубы. У вёсцы не відаць ніводнага агеньчыка. Нібы гарматныя грымоты патрушылі агні навекі.

Недзе ў хлявах рыкалі спужаныя бугаі, бляялі авечкі і сабакі дралі грэблю. Вецер гнаў у чорным небе стада чорных мядзведзяў. Чорнай пагрозай яно вісела над вёскай.

Спалоханы, скалелы вярнуўся Трахімка ў зямлянку. Яго распытвалі, хто гэты чалавек, што ён гаварыў. Трахімка з хвіліну маўчаў, аддыхаўся і потым сказаў:

— Ён сказаў прысці да каваля, нікому нічога не гаварыць—цыц! Ён яшчэ і сюды прыдзе.

У кутку затхлай зямлянкі блішчэлі ў поцемках іскры дзедавай люлькі. Раптам прарваўся яго хрыплы голас:

— Глядзіце, дзетачкі, ці не будзе гэта той самы Арцёмка.

— Чулі яго голас? Як у мядзведзя, здавалася, зямлянку развaліць.

— Дай божа, каб гэта ды ён!—уздыхнула старая Фёкла.

* * *

У тую халодную восень, калі смутак і пусташ цікавалі па палетках, калі палова бульбы засталася гнісці ў зямлі, калі раcталі апошнія дымкі большэвіцкіх батальёнаў, уся вёска збіралася да дзеда Гарашкі, як да знахара. І ўсё распытваліся—што будзе, дзядуня? Што рабіць?

Седзячы на прызбе з кіем у руцэ, дзед некаторы час маўчаў, а потым, вырачыўшы бельмы ў неба, хрыплым голасам прарочыў:

— Насоўваюцца страшэнныя хмары, дзеткі. Будзе, ліха, дзеткі!

Сполах накінуўся на вёску, жах, як перад вялікай навальніцай. Адчулі, во-во наляцяць дзікія орды, па ваколіцы пачнуць бушаваць банды белапольскіх легіянераў. Рабаўнікі наляцяць, растопчуць, пажаруць, спаляць, парэжуць.

Тады Гарашка паклікаў да сябе свайго восемнаццацігадовага ўнука Трахімку, сляпымі дрыжачымі рукамі намацаў яго кудлатую галаву і хрыплым голасам выдыхнуў:

— Не стой, мой сынку, не чакай, пакуль ваўкі наляцяць і раздзяруць нас, як бедных авечак. Не чакай, пакуль саранча сыпне і пажарэ наш хлеб, патопча нашу зямельку.—Бяры тапор, вілы, ідзі, сынку, з тым Арцёмкам, які заступаецца за нашу крыўду, які збірае вакол сябе грамаду. На табе мой кій і не пушчай дзікіх ваўкоў на нашу зямлю.—Ідзі, знайдзі таго жалезнага Арцёмку.

І дзед сунуў свой кій, тоўсты сук, у рукі свайго ўнука. Яго рукі трэсліся над кудлатай галавой Трахімкі.

Высокі, плячысты, поўны жыцця, унук стаяў між дзедавых кален, здавалася, кроў пырскае з яго маладых скроней. Хрыпатым голасам дзед усё гаварыў, не знімаючы рукі з яго галавы.

— Стой, дзіця мае, я благаслаўлю цябе. Памятай, калі згоніш усе завеі і хмары, прыдзі на дзедаву магілу і тупні. Накажы яму, калі пасвятлее. Ну, цяпер ідзі, мой адражэнькі, сцерагчы сваю галаву.

Здавалася, што дзед выдыхнуў апошнюю сакавітасць свайго голасу. І, нібы навекі, развітаўся са сваім унукам. Пустым ротам ён неяк нечакана кусануў Трахімкаў лоб.

— Ну, ідзі сабе, не стой...

І дзесьці далёка, дзе рэдкім палотнішчам быў абцягнуты гарызонт, усё яшчэ калыхаліся ўзнятыя сталёвыя пікі. Зіхацяць агністыя зоркі на востраканечных шлемах. Яшчэ большую, трывожную журбу навеяў на сэрца далёка-заціхаючы марш—

„Смело мы в бой пойдем
За власть Советов“.

У цяні лясоў стаяць вёскі з зашчэпленымі дзвярыма і вокнамі хат, спуджаныя мястэчкі. Здаецца, што яны выпрасталі свае рукі да гарнізона і хочуць схапіць калыханне пік, хочуць апячы пальцы аб агонь чырвоных зорак.

— Хто абароніць наша жыццё?

Далёка-далёка ў полі застаўся тырчэць у зямлі плуг. У кузнях патухлі гораны.

* * *

— Хто бачыў харашуна Арцёмку?—Хто чуў пра гэтага героя, які ломіць жалеза глытае полымя?

— Скуль ён, Арцём? Хто прыслаў яго сюды?

— Ніхто не ведае, скуль ён, не ведаюць яго бацькі, не знаюць яго маткі.

— Хто ведае, колькі вясковых хлапцоў ён завабіў да сябе ў лес? Колькі вёсак за сабою павёў?

— Дзе ён, Арцёмка, па кім выглядаюць свае вочы і заміраюць сэрцам прыгожыя прыбраныя дзяўчаты. Яны чакаюць і сняць, во-во ён ідзе, во-во прыдзе харашун, во-во пасватаецца да аднэй з іх.

— Няўжо гэта той самы, якога вясковыя бабкі зашапталі, каб благое вока не ўракло яго. Дык дзе ён, харашун? Зацалуюць яго і апырскаюць крынічнай вадой.

— Не, не можна ведаць, дзе ён. Ніхто не павінен ведаць, дзе хаваецца Арцёмка са сваім атрадам. Дзвесце паляшукоў у яго атрадзе, сем самых лепшых хлапцоў у яго штабе, два кулямёты ў запасе, 500 стрэльбаў у рэзерве, патронаў на цэлых пяць палкоў.

Толькі тыдзень таму назад ён затрымаў абоз з амуніцыяй на нейкім глухім тракце, ачысціў вазы, прывязаў жаўнераў да ворчыкаў, звязаў ім рукі і сказаў «Давідзэння, паночкі!..»

Толькі пару дзён таму назад ён скасіў трох паручнікаў з коней і аднаго паручніка павёў за сабою ў лес і нарыхтаваў добры полудзень для груганоў і каршуноў. Белапольскія орды шукаюць яго з пражэктарамі.Ператрасаюць вёскі, ірвуць стрэхі. Трыццаць тысяч марак даюць за яго мёртвую галаву, сто тысяч за жывую. Дзесяць тысяч марак даюць за кожную мёртвую галаву з яго атрада.

— Але ідзі, лаві яго, Арцёма, калі сотні вёсак хаваюць яго. Лес— яго абаронца. Багны ўсмоктваюць яго сляды.

— Ідзі шукай яго, ідзі злаві яго. Птушкі лясныя бачаць яго штодзень, а нічога нікому не гавораць. Як выведнікі лунаюць яны ў паветры, мільгаюць вялізнымі плямамі, шчабечуць і захоўваюць глыбокія таямніцы ў сваіх дзюбках.—Чырык-чырык.—Ідзі, лаві яго, знайдзі,—чырык, чырык.

Яшчэ ўчора бачылі, як па вёсцы круцілася некалькі пастацей хлапцоў і з усходам сонца гэтыя пастаці зніклі. Яшчэ ўчора падвечар бачылі дробную Марфусю, дачку Панаса Дуды. Яна мыла дзяругі каля грэблі. Бачылі, як да яе прыставалі два сержанты, і яна ледзь жывая вырвалася з іх рук, пакінуўшы мокрыя дзяругі на грэблі. Два чорныя дымкі раптоўных залпаў праводзілі яе да хмызняка.

Даўно ўжо не відаць Трахімкі. Дзе дзелася яго каханка Марфуся? Неяк падвечар пертрасалі хату Прахора Бужана. Тры раз'юшаныя жаўнеры трымалі, як у абцугах, нявінаватага Прахора, церабілі яму бараду—сына падавай сюды, холера ясна!

Пасля яны вывелі яго на двор, прыставілі да сценкі і ўсунулі дула ў рот.

— Сына падавай сюды, а не—смерць, быдла!

Збялелы, прыціснуты да сцяны стаяў Прахор. А дула карабіна застыгла ў роце. Стары Прахор—ні з месца.—Сына, паночкі, ідзіце шукайце, ідзіце лавіце, насыпце яму солі на хвост.—Глухі грук прыклада абарваў яго голас.—Большэвік, холера ясна!

Збянтэжаная мітусілася па падворку гарбатая Фёкла, галасіла, як па нябожчыку—ох, божухна!

А дзед Гарашка кленчыў у покуце пад абразамі, стукаўся ілбом аб падлогу. Лучына на камінку дагарала, тухла. Апошнія, мёртвыя агеньчыкі блукалі яшчэ па счарнелых сценах.

Недзе далёка-далёка захлыналіся гаўканнем сабакі. Ірвалі грэблю і праклінала начную цемру.

Пасярод падворка ў коле жоўтай месячнай плямы ляжала, вылупіўшы ў неба мёртвыя бельмы, белая заколатая кошка.

* * *

На блізкай чыгуначнай станцыі сталі ў тупік эшалон за эшалонам. Самы большы мост заходняй чыгункі ўзарвалі партызаны.

— Дык чыя-ж гэта работа, калі не Арцёмкі?

Дарэмна дымяцца паравозы на маленькім вакзале, дарэмна завываюць трубы, дарэмна мітусяцца, як учадзелыя, срэбныя паручнікі, ашалелыя сержанты.

Бязвіннага стрэлачніка закатавалі сёння шампаламі на лініі. Начальніка станцыі хацелі павесіць на ліхтары.

— Хто гэта ўзарваў мост?

Але эшалоны—ні з месца. Да фронта дарога адрэзана. Мост, як нябожчык, звесіўся над рэчкай. Ідзі падымі гэту веліч. Так ён табе і даўся. Палова маста затоплена ў вадзе, другая палова вісіць на быках, як вялізныя кавалкі акрываўленых лёгкіх.

Блізкія да вакзала вёскі будуць мець сягоння добры пачастунак. Пачастуюць так, што хопіць і на снеданне, і на вячэру.

Сёння на вёску Турэйку наляцелі хмары. Саранча пазнанчыкаў, плоймы галерчыкаў, кепка на кепцы, піка на піцы. Уся Турэйка на нагах. Вяскоўцаў зганяюць на выган. Вяскоўцы з рыдлёўкамі на плячах, яны павінны капаць сабе магілу.

— Дзе вашы сыны, быдла? Арцёмчыкаў давай сюды!—размахваў белай пальчаткай, нібы арол паломаным крылом, срэбны паручнік, седзячы на кані і какетліва круцячы галавой ва ўсе бакі.

— Сыноў, Арцёмчыкаў! Псякрэў! Холера ясна!—паласаваў шомпалам па голых спінах другі таўстун у касцы і кропелькі крыві капалі ў яму.

— Большэвік, холера ясна!

Шэраг сагнутых спін стаяў ля адкрытай ямы і на іх целяпаліся засохлыя, крывавыя шматкі скуры. Пазіраў шэраг у цёмную яму і маўчаў, нібы ва ўсіх языкі адрэзалі. Толькі скраю хтосьці цяжка ўздыхнуў, скруціўся ў клубок і во-во, здаецца, жыўцом зваліцца ў яму.

Далёка-далёка за гумнамі, на могілках, галасіла вёска жанчын і дзяцей. Іхнія ляманты, здаецца, маглі прадзіравіць гару. Было чутна, як ламаліся крыжы на могільніку і ўзрываліся магілкі.

Вёска была набіта жаўнерамі. Апрача кепак і арлоў у вёсцы нікога не было. Яна нібы аслепла. Разбураная, заморaная, з выкалатымі вачыма і пераломаным крыжам стаяла вёска Турэйка.

Каб хоць дзе-небудзь мэкнула цялё, рыкнуў бык, забляяла авечка. Быкі і авечкі даўно парэзаны. Адзінюсенькае ягнятка спрабавала мэкнуць і неўзабаве яго «мэ-мэ» было прыдушана.

Калі пачаў патухаць дзень, вёска палыхала, як купіна сухіх шчэпак. Агністакарычневая дзяруга кідалася ў небе, хлюпала полымем і дымам, зліваючыся з халодным агнём поўмесяца.

Вялікая ганя сабак, ашчэрыўшы зубы, атакавала вёску, захлынаючыся гаўканнем, з высалапленымі языкамі.

Яшчэ вышэй, яшчэ шырэй раскінулася ў небе агніста-карычневая дзяруга.

У гэты самы час на пяколку закурэлай печы канаў сляпы дзядок Гарашка.

Апрача полымя і дыму, каля яго мёртвага прыгалоўя нікога не было.

* * *

На пагурках попелу, ля тырчэўшых голых каміноў, у дыме тлеючых галавешак сядзела вёска матак і дзяцей, дзядоў і бабулек.

Абадраныя, абшарпаныя, замораныя, пахмурыя, яны душылі голад, смяглі па чыстым глытку вады.

— Хто адпомсціць за іхнюю крыўду? Хто адпомсціць за кроў беднякоў?

Паразіты прыдушылі мясцовасць. З дымам пусцілі дзядамі запрацованае жыццё.

— Куды дзяваліся бацькі? Якія вятры пагналі сыноў?

Ад людзей лес зрабіўся гусцейшым, чым ад дрэў. У глыбокія пушчы затаіліся ваўкі. Ні аднэй дзікай казы не відаць у хвойніках. Са страху падохлі зайцы. Лісіцы хітруюць у норах, а белачка зашылася ў дупло і сніць пра салодзенькія арэшкі. Ад людзей лес гусцейшы, чым ад дрэў. Не лізаць мёд белапольскім ордам!

Па шляху не прайсці. У балоты не ўсадзіш нагі. Азёры зараслі чаротам, перавернутыя чаўны плаваюць, як дробныя акулы, жыватамі ўгору. Мост—узарваны. Грэбля—вытаптана.

— Прэч з нашых хатак, паночкі! Kіньце нашыя халупкі! П'яўкі! Мы хочам быць вольнымі!

— Не жадаем ярма на нашых спінах.

— Прэч, паночкі, з нашай радзімы! Мы не хочам пятлі! Мы хочам вашай смерці!

— Вон, шляхта!

Штоноч новыя агні распалялі неба. Вялізныя языкі полымя пажыраюць высокія, прамяністыя маёнткі са шклянымі верандамі і размалёванымі калонамі.

На трактах валяюцца самотнапараскіданыя колы заўчасна ўцёкшых панскіх брычак.

* * *

І пайшлі чуткі, што чырвоная конніца прэ сюды. Цяпер не так лёгка ікнецца белапольскім легіёнам. Каля вакзала праносяцца, як віхуры, эшалоны параненых. Яны імчаць на Баранавічы, Лунінец, Пінск. Тры палкі жаўнераў былі расшматаны чырвонай конніцай каля моста ля Рэчыцы.

— Не лёгка ікнецца белапольскім ордам!

— Пакуль што нічога не чуваць пра Арцёма? Ходзяць чуткі, што ён дабіраецца са сваім атрадам ўсё бліжэй да фронта. Распусцілі чуткі,

што Арцём і яго штаб злоўлены, што вядуць іх этапам з вёскі ў вёску, каб усюды нагнаць страху на бунтароў. Пазабаўляюцца з імі, як з мядзведзем, і вядуць далей.

Кажуць, што курыкоўскія кулакі атрымалі за галаву Арцёма мільён марак.

— Хто гэта казаў? Хто гэта бачыў? І хто гэта чуў?

Учора днём прайшоў тут нейкі чарнявы чалавек, апрануты ў лахманы, дык ён казаў вясковым бабам: «Вядуць сюды, бабулькі, Арцёма з яго штабам». Вёска Курыкоўка ўзбунтавалася. Каля Вальюшча засеклі тапарамі трох кулакоў, якія выдалі галаву Арцёма.

Ніхто не верыў гэтаму чарняваму ў лахманах. Як на вар'ята, пазіралі на яго. Бабы, седзячы на пагурках попелу, каля голых камінoў, пільней прыглядаліся да голай спіны абадранца, абшарпанца, і потым давай шаптаць—перасцерагаць сваіх дзяцей ад благога вока:

— На пусташы-дзірваны, на гушчы-бары, на варожыя галовы хай падзе завея вока благога—цьфу-цьфу!...

Хворы, удушлівы рыбак Ахрэм цэлы дзень соваўся тады са сваім чоўнам на блізкім возеры, боўтаўся без дай прычыны ў мёртвай вадзе і ўсё пазіраў на далёкі шлях, ці не вядуць людзей?

Можа праўда, што злавілі Арцёма?

* * *

Золак у пачатку ліпеня быў густы, парны і лавяваў усімі пахамі лета. Вяршаліны дрэў, нібы рукі, кідалі ўзыходзячы кавалак сонца, як мячык, цягалі яго за рогі ўгору, у далёкае неба. Гэтым золакам не выганялі кароў у поле, не чуваць было ку-ка-рэ-ку пявуна.

З аднаго канца вёскі ўзнялася тады хмара пылу, засланіла кавалак сонца.

— Кагосьці вядуць у тым канцы вёскі! Відаць, як куляюцца ўланы на высокіх тлустых, вымуштраваных жарабцах. Здаецца, што ногі ў коней падломваюцца і кепкі з арламі злятаюць з галоў уланаў.

— Хто там галосіць у тым канцы вёскі? Хто там цалуе пясок?

Гэта лемантуе-галосіць гарбатая Фёкла, Трахімкава маці. Схуднела-доўгая распласталася яна пасярод вуліцы, і паўз яе скачуць капыты.

— Гэта-ж вядуць яе сына. На шыбеніцу вядуць.

— Аддайце мне сына, грабіцелі! Трахімачка! Дзіцятка!—як у прорву падае яе голас. У пусты свет—яе плач.

— Трахімачка, сыночак!

— Марфачка! Дачушка мая! Дзе ты?

Застаўленых з усіх бакоў карабінамі вялі сямёх звязаных. Сем запыленых, сем зрэбных дзіравых світак, сем галоў у гузаках.

Першым сігаў вялікім крокам адзін высокі, смуглявы харашун, са зблытанай, апушчанай чупрынай над вачыма. Яго босыя ногі пакідалі на пяску вялікія глыбокія сляды. Галава была крыху апушчана. Плечы крыху згорблены.

За ім, зморaны, счарнелы, ішоў Трахімка і, здавалася, яго маладыя вочы аплаквалі спаленую вёску. Побач з ім змoрана валаклася Марфуська, і цёмныя сіньякі на яе ледзь загарэлым твары выглядалі даўнейшымі шрамамі. Падраная блузка на яе целе развявалася ва ўсе

бакі і наганяла хмурынкі на бялявую галаву дзяўчыны. Астатнія чатыры звязаныя ішлі збоку, ледзь валаклі ногі, сашчамілі дзясны, і ў кожнага ў ваччу гуляла смерць.

Вядуць на шыбяніцу сем партызанаў. Арцёма з яго штабам вядуць да дуба.

— Аддайце нам дзяцей, паганыя паны!

— Трахімачка, сыночак!

— Марфачка, дзе ты? Дачушка, адгукніся.

— О, божа мой!—Дзетачкі! Ліха мне! Ратуйце!

З грэблі ў сажалцы раптам знікла старая гарбатая Фёлка, Трахімкава матка. Вада закруціла, забулькатала і ўсхвалявалася пырскамі-бурбалкамі.

А зрэбная хустка некаторы час плавала на вадзе, надзьмуўшыся, як дзікая качка.

* * *

Згінаецца дуб, трашчаць сукі пад сямю цяжкімі целамі. Заходзячае сонца з далёкага небакраю аблівае іх гарачай бронзай, апаляе свежыя, крывавыя раны на іх голых целах.

На самым высокім суку ўпарта пакалыхваецца Арцём, смуглявы харашун.

— Дзе падзелася яго хараство? Хто забраў яго сілу?

Выкалалі вочы ў смуглявага харашуна, выразалі серп і молат на яго грудзях і, нібы куст, вырвалі чорную чупрыну з яго галавы.

Цяжкі, скамянелы, ён нагінаў уніз тоўсты сук, і павявала ад яго жалезнай, пагрозлівай сілай. Дзіркі ў яго лбе кідалі спалох навокал. Крывавая рана на грудзях была яшчэ свежай, пенілася і пад сонечным бляскам люстранілася, як аранжавы ордэн. Яго рукі, сціснутыя ў вялізныя кулакі, пагражалі і наказвалі свету—гэта не будзе даравана, не будзе даравана.

Пад ім, як сонны, гойдаўся Трахімка, адзіны сын Прахора Бужана. Чорныя кучаравыя валасы над яго юнацкім тварам нібы запаліліся і гарэлі супроць сонца нейкім слабым агеньчыкам. І здавалася, вось-вось ён прачнецца ад прыгожага сну. Яго вочы былі заплюшчаны, здавалася, ён стараецца расплюшчыць іх і не можа.

Зусім блізка ад яго вісела Марфуська. Здавалася, лёгкія ветрыкі закалыхаюць яе, гойдаюць не на пятлі, а на невялікіх качэлях.

Адно вока яшчэ было расчынета і пазірала далёка-далёка, як у глыбокіх мроях.—Журылася гэтае вока, не хацела закрывацца. Белыя вусны, як сумысля, былі прыкусаны. З яе голых, пакалечаных грудзей падалі ўніз цяжкія, алавяныя кроплі.

У астатніх чатырох павешаных твары былі павернуты адзін да аднаго. Здавалася, во-во яны пачнуць гаворку, але ў горле быў здушаны іх голас. З ротаў, здаецца, б'е яшчэ апошняе дыханне, гарачая пара, яшчэ адчуваецца цеплыня цела і трапятанне сэрцаў.

Пад усім гэтым, на карэннях дуба, ляжаў з распушчаным крыллем стары, белы бязвінны бусел і праклінаў выкаланым крывавым вокам далёкае неба.

Гэта не байка, не легенда. Так было ў 1920 годзе. Нам гэта ўяўляецца цяжкой байкай, смутнай, далёкай легендай.

Можа вы будзеце калі-небудзь, мае дарагія, у тэй мясцовасці, у маёй радзіме—Палессі, схадзіце паглядзіце на стары трухлявы дуб, ён і цяпер яшчэ стаіць на скрыжаванні дарог. Прачытайце на прыбітай да дубовай кары мармуровай дошцы наступныя радкі:

— Вечная памяць сямі змагарам за вызваленне.

Абавязкова запішыце іхнія імёны і дзень, калі яны развіталіся з жыццём.

Звярніце крыху ўбок, у даліну, да алешніка, і напіцеся там крынічнай вады, а потым ідзіце проста па сцежцы, што вядзе ў блізкі калгас «Свабода», там вы сустрэнеце старога Прахора Бужана, старшага брыгадзіра, самага паважанага чалавека ў калгасе. Там вы ўбачыце даўнейшага пастуха Панаса Дуду, цяперашняга жывёлавода і члена праўлення калгаса.

У машына-трактарнай рамонтнай майстэрні пры МТС яшчэ моцна бухае молатам каваль Янкель, той самы Янкель, у стопцы якога Арцём хаваўся цэлую зіму і разам з ім правіў бярданкі і вастрыў пікі. Фатаграфія Арцёма вісіць яшчэ і цяпер у хаце Янкеля, на сцяне супроць дзвярэй. І цяпер яшчэ лёгка прачытаць кароценькі надпіс на беражках фатаграфіі:

«Майму лепшаму другу, кавалю Янкелю, ад Бранскага слёсара Арцёма Туранкова».

Раз у год, у летні дзень, у дзень вызвалення, вакол старога дуба збіраецца шмат навакольных мястэчак і калгасаў. Увечары пад дубам разгараюцца вялікія кастры, круцяцца пары, граюць флейты, звоняць цымбалы.

Лёгкі ветрык гоніць у небе свежыя хмаркі і распасцірае па зямлі празрыстыя, радасныя цені.

Запальвае аганькі густая сетка калгасаў. Вітаюцца сцягамі святочныя, прыбраныя мястэчкі.

Да позняй ночы гараць кастры вакол старога дуба. Вялізны карагод сплятаецца і закручваецца аж за крыніцу, далёка-далёка, на кілометры.

І сем дзядоў, з запаленымі галавешкамі-паходнямі ў руках, танцуюць пасярод карагода і выглядаюць, як легендарныя агні, велічныя.

Да ружовага золаку нябёс не перастаюць звінець бадзёрым, уздымным гімнам вызвалення.

*З яўрэйскай мовы пераклаў*
*ІЗРАІЛЬ ПЛАЎНІК.*

*А. Буза*

## МАРЫ

Ядрана, прасторна,
Радасна без меры.
Надыходзіць ранак.
Змрок начы знікае.
На суку варкуе
Галубочак шэры.
Галубочак шэры,
Шыйка залатая.

Шапацяць на ветры
Маладыя клёны.
Гутараць чарэшні
З пышнаю вясною.
І дзяўчына крочыць
Па траве зялёнай—
З чорнымі вачыма,
З русаю касою.

Разлілося сонца
На кусты, на гумны,
Заліло прасторы,
Спавіло абшары.
У саду вясёла—
А дзяўчыне сумна.
У саду вясёла—
А дзяўчына марыць.

Чырванеюць ружы
У праменнях мая,
Срэбраныя росы
Ападаюць з кветак,
І дзяўчына ветла
Галубка пытае—
«Галубочак, шэры,
Дзе лятаў па свету?
Дзе лятаў... Што бачыў?
Мо' навіны маеш?
Мо' прынёс мне вестку
Ад майго Рыгора,

Што высока ў небе
Сокалам лятае—
Рэе над палямі,
Кружыцца над морам.

Уначы над краем
Яму свецяць зоры
Нашай Беларусі,
Украіны, Крыма...
Да яго паеду
У шумлівы горад,
Ён мяне навучыць
Кіраваць машынай».

Дзе гуляе вецер,
Дзе віюцца хмары—
Радасці і славы
Сцелюцца дарогі...
Галубок варкуе,
Адлятаюць мары,
І яна спявае
Песню пра мілога.

1935 г.
Слуцак.

*Еф. Садоўскі*

# МАЎЧАННЕ

Ускраіна абрывалася і тады пачыналася летняе зелянеючае поле. Перасякаючы яго бясконцай істужкай, вілася новая шасейная дарога. Яна, нібы быстрая горная рэчка, нястрымным патокам імкнулася ўперад і яе ўкатаная жарствяная паверхня свяцілася і паблісквала, як срэбра.

У ліпені і жніўні абапал дарогі цягнулася сцяна збожжа. І тады здаецца, што незлічоная колькасць каласоў вабіць дарогу да сябе ў невядомыя краі.

Аўгуст Вайшля любіць гэтую мясцовасць. У ёй нібы плячо к плячу датыкаюцца горад і вёска. Пад вечар Аўгуст узбіраецца на вышку геафізічнай абсерваторыі і тады перад ім адкрываюцца новыя шырокія вуліцы ўскраіны горада, прасторны стадыён з дарожкамі для бегу, якія знікаюць недзе далёка за ўзгоркам. Варта павярнуцца крыху ўлева і ўглядзецца ўперад, як перад вачыма прамільгне змейкаю рака і на яе беразе цагляныя і драўляныя калгасныя будынкі.

Вайшля доўга стаіць на вышцы геафізічнай вежы. Ужо злева на вуліцах горада чарадою пабеглі электрычныя палоскі, ужо ўправа ў зіяючых вячэрняю цемраю прамежках заблішчэлі рэдкія агні, а ён ўсё яшчэ тут, абапёршыся на жалезныя парэнчы, быццам з параходнай палубы, назірае за берагам.

Вячэрняе неба зусім чыстае. Агні загараюцца не толькі па баках абсерваторыі, але і над ёю. Зіхацяць зоркі, нібы гарошыны рассыпаныя на неабсяжным палатне.

З таго часу, як Аўгуст Вайшля бег з больніцы палітычнай турмы прыгарада Вены, для яго надышла вечная цішыня. Ніштo, ні позні гудок фабрычнай трубы, што вось толькі адгалоскамі дакаціўся сюды з горада, ні далёкі рэў параходнай сірэны, данесены ветрыкам, ніштo, нават самая гучная гутарка над вухам не даходзіць да Аўгуста. І ад таго, што ўсё для яго ціха, ён неяк асабліва ўспрыймае гэтую цішыню.

Барыкадныя бойкі ў турме перашкодзілі Вайшлю скончыць дысертацыю. Ён пісаў яе на тэму: «Новае ў навуцы пра зоры». Рэктар Венскага універсітэта, шаноўны доктар Швальбе, не будзе мець гонару прачытаць арыгінальную работу маладога вучонага, які падаваў такія бліскучыя надзеі. Аўгуст ніяк не бядаваў пра гэта. Пасля таго як ён уцёк з турмы нельга было думаць аб тым, каб захапіць з дому чарнавікі дысертацыі і Аўгуст цяпер для сябе аднаўляе сваю першую навуковую работу.

Але з таго дня, як у сакрэтным сутарэнні Венскай турмы лейтэнант паліцэйскай службы Бешэк, пазбавіў яго слыху і мовы, шмат чаго новага атрымаў для сваіх навуковых доследаў Аўгуст. Вось і зараз зоры, якія здаваліся з пачатку вечара бледнымі і цмянымі, раптам набываюць бляск. Аўгуст прысланяецца да мураванай сцяны і доўга глядзіць на неба...

«Няхай яго чорт возьме,—думае ён,—ці блішчаць яны цяпер так ярка і над зямлёю Аўстрыі. Магчыма, як і я ў час уцякання, хто-небудзь у гэтыя хвіліны ад шчырага сёрца кляне гэты здрадніцкі бляск».

Аўгуст аддаўся марам. У пачатку ён не заўважае, як нехта, без шуму падышоўшы, становіцца поруч.

— Аўгуст, аб чым вы думаеце?

Выпадкова павярнуўшыся ён пазнае дванаццацігадовую Тасю— дачку дырэктара абсерваторыі. Ён радасна ківае галавою і паказвае на зоры.

— Праўда, добра, Аўгуст.

Тася ведае—Аўгуст не пачуе яе голасу. Але можа зараз, калі так ціха навокал, калі разам з покрывам ночы на зямлю лягла і цішыня, можа зараз да яго дойдуць гукі. Але, не. Вайшля моўчкі паказвае на далёкія агні горада, якія заблішчэлі багатымі пераліваміі колераў, і зноў глядзіць на неба.

Тады Тася жэстамі рук пытае:

— Будзеце назіраць у тэлескоп?

З-за гэтага яна паднялася на вышку. Пукатае шкло доўгага тэлескопа адкрывае новы, невядомы свет. Калі адпаліраваная труба пачынае павольна шарыць па небу, здаецца, што ты адрываешся ад зямлі і якімісьці крокамі волата бадзяешся ў прасторы.

Вайшля зразумеў просьбу дзяўчынкі. Усміхаючыся ён падносіць да вачэй сабраныя ў кружок далоні і быстра ківае галавою.

Тася радасна пляскае ў ладкі і па вітай жалезнай лесвіцы хутка ўзбегае на вышэйшы паверх на пляцоўку, дзе на складных механізмах устаноўлены магутны тэлескоп.

Ля шкляных дзвярэй, якія выходзяць на пляцоўку, з'яўляецца сівая галава Акіма Афанасьевіча, вартаўніка абсерваторыі. Замест левай нагі ў яго дзеравяшка. Клапатліва стукаючы ёю ён крыху адчыняе дзверы і пытае:

— Можа даць вам святло?

Тася перадае Аўгусту. Яна бярэ яго за руку і паказвае на электрычныя лямпачкі.

— Не, не трэба—махае галавою Аўгуст.

Звыклая карціна неба да непазнавальнасці змяняецца ў тэлескопе. Аўгуст павольна накіроўвае трубу. Тася не можа адарваць позірку. Мільгаюць вялікая і малая Мядзведзіцы. Мігцяць Аракон, Леў, Дзева.

Тася ведае назву зор. У габінеце бацькі на сцяне вісіць размалёваная карта неба. Тася памятае яе з дзяцінства. У пачатку астраномія здавалася нудней за матэматыку. А-ж не. Чаго варты гэтыя хвіліны вячэрняй прагулкі па зорнай дарозе неба!

Аўгуст выпроствáецца, глядзіць на гадзіннік і махае рукою ў на-

прамку дзвярэй. Значыць да дому. Тася нездаволена, але—маладым астраном няўмольны.

Кіўнуўшы галавою, яна паслухмяна выходзіць. Вайшля зноў нахіляецца да тэлескопа, ён яшчэ доўга працуе ў начной цішыні.

Яшчэ ў Аўстрыі, аднойчы пасля ўцёкаў з турмы, бадзяючыся у лясным гушчары, ён спрабаваў выціснуць з сябе членараздзельныя гукі. Прыслаціўшыся да дрэва і шырока адкрыўшы рот, Аўгуст стаў крычаць, але голас здрадзіў яму. Замест слоў атрымліваліся нейкія незразумелыя, разарваныя адгалоскі. У гэтыя хвіліны Аўгуст востра адчуў жах свайго маўчання. Ён кінуўся на зямлю і доўга, як непрытомны, ляжаў без руху.

Адзіночка прывучыла Аўгуста да маўчання. Нават пасля дзікага збівання, якое ён вымушан быў пераносіць ад фарсістага лейтэнанта Бешэка, ён не адчуваў такое пранізлівай болі.

Цяпер-жа ў лесе, калі недзе за прасветам дрэў, вышэй і вышэй падымалася сонца, калі нізка над галавою, хлопаючы крыллем, пралятаў птушкі, калі спакойны летні вецер ледзь варушыў зялёныя парусы дрэў, Аўгуст адчуў трагічнасць свайго становішча. Здавалася, што ўсё згублена, і не было сілы падняцца з зямлі. Прыпаўшы к траве ён заснуў і свядомасць яго затуманіла злыя здані.

Мільгалі праўдзівыя карціны дзяцінства. Аўгуст пяе ў школьным хоры. У яго чысты звонкі галасок. Рэгент хора—настаўнік спеваў—паважаны гер Шульц прарочыць маленькаму Аўгусту бліскучую кар'еру.

Гер Шульц любіць малінавае варэнне. Кожнае нядзелі, роўна а пятай ён наведвае маленькі домік на ўскраіне горада, дзе жывуць Вайшлі. Бацька сустракае дарагога гасця ля дзвярэй. Матка да яго прыходу налівае шклянку свежага чаю, ў якім замест цукру пяць лыжачак добрага малінавага варэння.

Гер Шульц расказвае апошнія гарадскія навіны. Потым, як заўсёды, гутакра пераходзіць на тэму пра Аўгуста.

— Вы ведаеце,—гаворыць ён нараспеў, расцягваючы словы,—я ўжо дагаварыўся са сваімі калегамі з Венскай кансерваторыі адносна вашага сына.

Аўгуст сядзіць у канцы стала. На ім новенькі гарнітурчык. Ён баіцца зварухнуцца. Яму нельга крычаць, нельга бегаць. Ён павінен берагчы свой голас—божы дар.

Рэгент школьнага хора Шульц асцярожна выціскае лыжачкай разваранае ў кіпні малінавае варэнне і, цмокаючы, накіроўвае яго ў рот.

Вядома, ні ў якую кансерваторыю Аўгусту папасці не ўдалося, але і потым у універсітэце, яго сур'ёзна цягнулі на сцэну, загадзя прарочылі поспех і імя.

Цяжкія спазмы душаць Аўгуста. У сне здаецца, што нехта ўхапіўся абедзвюма рукамі за горла і душыць. І тады бываюць для таго, каб вырвацца, Аўгуст з усяе сілы круціць галавою і прасынаецца. Ён зноў шырока адкрывае рот і спрабуе крычаць, сіплы хрып канчаткова даймае яго. Моўчкі ён рушыць далей.

І яшчэ аднойчы ледзь не са слязмі на вачах яму давялося перажыць жах свайго раптоўнага маўчання. Яны ехалі ў Савецкі Саюз з Прагі. Іх было шмат. Маладыя дзяўчата, бадзёрыя старыя. Чым бліжэй к граніцы, тым больш радасныя.

Хацелася спяваць. Доўга стрымліваліся і, нарэшце, амаль ля самай пагранічнай аркі заспявалі песню Эйслера пра барыкады. Аўгуст варушыў вуснамі і яму здавалася што ён спявае разам з усімі. Калі-ж варшаўскі экспрэс, паступова прыцішаючы ход, спыніўся ля першай пагранічнай станцыі, упрыгожанай сцягамі, насустрач ім рынуў натоўп блізкіх родных людзей. І калі зайгралі Інтэрнацыянальны гімн, Аўгуст пачуццём злавіў матыў, на хвіліну сціснуў губы, а потым ўзняў у гару рукі і трасучы імі, нібы павёў песню далей.

* * *

Вайшля заўсёды носіць пры сабе вялікі блакнот, па спецыяльнаму заказу зроблены з грыфельнай дошчачкі. Блакнот замяняе Аўгусту язык. Ён таропка накідвае на ім фразы, абрываючы іх на поўслове. Запісы Аўгуста падобны да тэлеграмы. Ён блытае нямецкія словы з рускімі, але яму даруюць гэта. У абсерваторыі навучыліся разбіраць складаныя іерогліфы маладога астранома.

У першыя часы Аўгуст з нянавісцю адносіўся да грыфельнай дошкі, запісваў на шматках выпадкова трапляўшай паперы. Ад гэтага часта губляліся каштоўныя навуковыя назіранні. І каб захаваць іх, даводзілася скарыстоўваць абрыдлы грыфель.

Дырэктар абсерваторыі Казімір Савасцянавіч Макараў спрабаваў пры гутарцы з Аўгустам карыстацца нямою азбукай. У дырэктара быў брат глуха-нямы і ён, што азначае хуткае скрыжаванне пальцаў, маўкліва шавяленне губ.

Але Аўгуст рашуча запярэчыў. Ён напісаў: «Калі я згаджуся гаварыць моваю нямога, значыць назаўсёды прымірусь з сваёй бязмоўнасцю, але я яшчэ буду гаварыць» .

Маркаў прачытаўшы гэтую запіску ўхвальна кіўнуў галавою.

Захоплены арганізацыяй маладой справы, ён спачатку не заўважаў Вайшлі. Абсерваторыя была пабудована нядаўна, усяго некалькі год назад. Шэсць альбо сем экспедыцый на працягу доўгага часу шукалі зручнага месца для пабудовы. Адну з экспедыцый узначальваў сам Макараў. На працягу пяці месяцаў, адарваныя ад сям'і і прывычных хатніх абставін, яны вялі амаль штомесячныя назіранні за паветрам і тэмпературай. Найбольш зручным месцам для будаўніцтва было тое, якое даследвала экспедыцыя Макарава. Потым паблізу абсерваторыі, на адлегласці пяці кілометраў, абсталявалі некалькі пасадачных пляцовак. Туды-ж перамясціліся для стаянкі грамадзянскія самалёты. На абсерваторыю, як адну з асноўных задач, усклалі выкананне метэрэалагічнай службы.

Аўгуст горача аддаўся новай рабоце. Тыя веды, якія ён атрымаў у Венскім універсітэце, яшчэ ніколі не знаходзілі практычнага ўжывання. Зараз ён упершыню атрымаў мажлівасць скарыстаць і ўзбагаціць іх. У пачатку ап'яняцчае пачуццё доўгачаканай свабоды затуманьвалася нейкай глыбокай цяжка-перажываемай сцеражлівасці, ці не будзе ён лішнім?

Таварышы, якія прыехалі разам з ім, пайшлі працаваць на заводы. Фрыц Шэпінг атрымаў месца па спецыяльнасці: кваліфікаваны слёсар, ён хутка стаў майстрам. Нават Гертруда Гуль, худзенькая дзяўчынка. з залатымі валасамі і расніцамі, пайшла за варштат. І Аўгуст, праз

месяц пасля прыезду, у вузкай канторы машынабудаўнічага завода падаў заяву аб прыёме на работу.

«На якую вы хочаце?»—тут-жа на заяве, крыху ніжэй подпісу Аўгуста, буйным почаркам напісаў свае пытанне загадчык аддзелам кадраў.

Аўгуст пацісnuў плячыма. Загадчык, падумаўшы, дапісаў у радок:

«Чарнарабочым» і паставіў вялікі пытальнік. Вайшля радасна ўхапіўся за гэтую думку.

Але таварышы не дапусцілі.

Урэшце гэта не сумленна, з запалам пісаў яму Фрыц Шэпін. Ты павінен даць максімум таго, што можаш.

На наступную раніцу Аўгуст усё-ж пайшоў на завод, але праз тры дні яго паклікаў да сябе дырэктар і, папрасіўшы прысесці, паказаў запіску з падрыхтаваным запытаннем: «Мне паведамілі, што вы пайшлі працаваць не па спецыяльнасці. Ці праўда гэта. Чым магу дапамагчы вам»?

А яшчэ праз два дні, падымаючыся па вітой лесвіцы абсерваторыі, ён адчуваў, тое-ж самае, што ў хвіліны пераезду граніцы.

* * *

Ці дзьмуць вятры, ці хмурыцца неба згусцелымі брывямі, хмар, ці хвалююцца рэкі, нервова пляскаючы аб бераг кіпучай пенай хваль—кожны дзень, равучы маторам, жалезныя птушкі шумна адрываюцца ад зямлі і рассякаючы вострай шабляй прапелераў паветра ідуць угору.

Часамі яны кружаць над аэрадромам то зніжаючыся, то зноў набіраючы вышыню, але часцей за ўсё, яны нібы лебядзі плывуць ў далечынь і тады пралятаюць над будынкам абсерваторыі.

З вышкі абсерваторыі неяк бліжэй да быстралётных птушак, зусім нізка, ледзь не кранаючы сваім крылом высокую радыёмачту, пралятае двухмясцовы самалёт, вымаляваны ў стальны колер. Яго кірунак на ўсход.

«Славачка Вятрова павезла пошту»—думае Аўгуст і доўга глядзіць услед знікаючай птушцы. Ён уяўляе Славачку за штурвалам у першай кабінцы. Скураны камбінезон з пушыстым высокім каўняром закрывае шыю, шоўкавыя шнуркі сцягваюць бліскучыя навушнікі новенькага шлема.

Тоўстае шкло не можа схаваць іскрыстай блакітнасці вачэй... Славачка глядзіць уперад. Матор, ручкі кіравання, прапелер, які круціцца з хуткасцю маланкі, усё падначалена яе волі. У дзяўчыны бязбоязны ўладарны твар і гэта нібы адчуваецца ў тоненькіх вышэй броў маршчынках.

Аднойчы, занятыя ўстаноўкай новага тэлескопа, яны к тэрміну не паслалі на аэрадром дзённую метэрэалагічную зводку. Праз гадзіну, пранёсшыся міма збянтэжанага Акіма, да іх на другі паверх убегла высокая дзяўчына. Яна чамусці спынілася каля Аўгуста і, абурана бліснуўшы вачыма, рэзка праказала:

— Што за ліха, вы мне загадаеце пакінуць машыну і заняцца падлічваннем зор. Дзе зводка?

Дзяўчына сказала гэтыя словы гнеўна і яе абурэнне было шчырым.

— У мяне велізарны рэйс,—прадаўжала яна не зводзячы вачэй з Аўгуста, а з вашай ласкі машыну даводзіцца пускаць амаль што ў сляпую.

Аўгуст усміхнуўся і развінуў рукамі. Гэта зусім збянтэжыла дзяўчыну. Падышоў дырэктар:

— Прабачце, шаноўная,—гэты таварыш занадта сарамлівы,—і ён паглядзеў у бок Аўгуста,—каб адказваць на вашы рэзкасці.

Дзяўчына адчула сваю залішнюю запальчывасць, проста працягнуўшы руку дырэктару, прасіла прабачэння.

Так пачалося знаёмства.

Макараў даручыў Вайшлю падрыхтаваць дзённую метэрэалагічную зводку і дзяўчына пайшла за ім. Тэлескопы, паднятыя нібы падрыхтаваныя для стральбы гарматы, зацікавілі дзяўчыну. Яна нахілілася да пукатага шкла. Прасторы былі яе стыхіяй. Яна прызвычаілася да нябеснай сіні, але тое, што зараз адкрылася перад ёю, здзівіла сваёю навіною і веліччу.

Не адрываючыся ад пукатага шкла велізарнага бінокля, дзяўчына дае некалькі пытанняў Аўгусту. Ён не адказвае. Яна сціхае. Але ў галаве ўзнікае столькі прыгожых праектаў, пра іх немагчыма маўчаць і дзяўчына пачынае гаварыць з Вайшляй:

— Падумайце, як гэта было-б цудоўна ўзяць ды ўстанавіць тэлескоп на самалёце.

Дзяўчыне падабаецца гэтая раптоўная ўзнікшая ідэя і яна смяецца. У гэты момант белыя зубы яе пабліскваюць покрывам белага снегу:

— Слухайце, чаму вы маўчыце? Няхай вас чорт возьме, вы на зямлі, ці лунаеце ў небе.

Але замест адказу як і раней маўчанне. Гэта ўжо зусім незразумела. Дзяўчына пакідае трубу, падыходзіць да астранома і заглядае яму ў твар.

— Магчыма вы маўчыце таму, што пакрыўдзіліся. Тады праба...

Дзяўчына не дагаварвае. На твары астранома, які вінавата апусціў вочы, яна чытала вялікі боль:

«Ён маўчыць заўсёды, ён нямы».—Гэтае жахлівае адкрыццё прымушае дзяўчыну пачырванець [1], кусаючы губы ад сваёй нездагадлівасці, яна адыходзіць к акну.

* * *

Перад выходным днём у пакоі Аўгуста, нядаўна аклеяным новымі шпалерамі, збіраюцца сябры. Прыходзіць Фрыц Шэпінг. Пушысты каўнер яго пулівера аднаго колеру з рубашкай і срабрыстым гальштукам. Фрыц памаладзеў. Згладзіліся маршчыны. Паружавелі шчокі. Гертруда Гуль ласкава хлопае яго па плячы худзенькай ручкай і кажа:

— Што, дзедка? Мы яшчэ не здаёмся. Будзем жыць, будзем змагацца?

Фрыц ківае галавою і выпускае густы струмень дыму. Гертруда адхінае твар і заплюшвае вочы, рукамі разганяе назойлівы дым.

— Фу, Фрыц, калі вы нарэшце закінеце гэтую страшэнную люльку.

— Прабачце, Гертруда, я заглядзеўся на Аўгуста і абдаў вас дымам.

— Ладна, ладна, Фрыц. Ці не праўда, наш астраном стаў зусім іншы.

І яны абое не зводзяць вачэй з Аўгуста. Вайшля корпаецца з электрычным чайнікам, падлівае ваду, заварвае чай. Гертруда спрабавала ўзяць на сябе гэтыя абавязкі, але Аўгуст катэгарычна запярэчыў.

Фрыц прадаўжае курыць. Праўда, зараз ён асцярожна пускае дым у бок, каб гарклявае воблака не кранула Гертруды.

— Вы ведаеце, таварыш,—кажа ён звяртаючыся да яе.—Я перажываю маўчанне Аўгуста так, нібы гэта нешчасце здарылася са мною. Гертруда, вы бадай памятаеце яго апошнюю перад арыштам прамову на Вінгенштрасе ў клубе ліцейшчыкаў. Як ён гаварыў!

Фрыц устае і, выбіваючы попел з люлькі, пачынае хадзіць па пакоі.

— Цярпець не магу слёз. Па мойму гэтая функцыя ў чалавечым арганізме зусім лішняя. Вочы можна прамыць і вадою. Але Аўгуст, выступаючы... хоць ён гаварыў пра рэчы, якія вядомы кожнаму, нават мала свядомаму падлетку з ліцейнага цэха, і ўсё-ж хвалявaў. Брыдка прызнацца, Гертруда, але ў мяне часам на вачах набягалі слёзы.

— Фрыц, мы дрэнна робім, непрыстойна. Самі размаўляем, а гаспадара пакою абыходзім. Ён можа падумаць бог ведае што. Сядзем бліжэй к Аўгусту.

Гертруда падыходзіць да стала і, абапёршыся адною рукой на край яго, піша:

«Геносэ Вайшля, як поспехі?»

«Спачатку чайку, нап'емся чайку, любая Гертруда, потым размова»,—ухіляючыся адказвае Аўгуст і ставіць у канцы сказу вялікую кропку.

Не, яны вельмі клапатлівыя. Заўсёднае маўчанне прывучыла Аўгуста самому сабе даваць пытанні і самому-ж адказваць на іх. За гэты час покуль закіпеў чай мноства думак пранеслася ў яго галаве. Ён успомніў як яго мучыла баязлівасць і непакой застацца непатрэбным і лішнім. Калі ішоў на завод, гатоў быў выконваць хоць якую дробязь, толькі-б быць карысным. А гэтая работа ў абсерваторыі—сур'ёзная і ўдумлівая. У пачатку яна здалася яму адарванай і далёкай ад жыцця. Ён нават рашыў, што яго паслалі сюды наўмысля. Але сустрэча з Славачкай Ветровай адхіліла гэтую думку. Тады Аўгуст нібы павесялеў. Гертруда і Фрыц нездарма засталі яго іншым.

Казімір Савасцянавіч ахвотна згадзіўся перавесці Аўгуста выключна на метэрэалагічнае абслугоўванне аэрадрома. І хоць па ранейшаму ні бадзёры звонкі смех, ні грукат трактароў, ні гул самалётаў, ніякія гукі не даходзілі да Вайшлі—ён быццам ажыў, адчуў у сабе і бадзёрасць і ўпэўненасць.

Аўгуст хутка ўвайшоў у кола інтарэсаў аэрадрома. Калі нагода

была спрыяючая, садзейнічала палётам, ён радаваўся так, нібы яму самому патрэбна было ўзняцца ў паветра. Калі-ж палётам пагражала непагода, ён з болем глядзеў на барометр і здавалася гатовы быў сілаю змяніць напрамак рухаў стрэлак на ім.

За сталом гаспадаранне усё-ж перайшло да Гертруды. Яна набіла цукру, налажыла кансервы на чыстыя талеркі. Аўгуст дастаў з шафы шклянкі і паставіў іх на стол. Ён чамусьці прынёс чатыры шклянкі. Гертруда здзіўлена паглядзела на яго, але не запытала для каго чацвёртая шклянка. Гарачы чай, наліты ў шклянкі, заклубіўся парай. Гертруда нарэзала тоненькія лусты хлеба і намазала іх маслам.

Першыя хвіліны пілі моўчкі. Фрыц любіў салодкі чай, а Гертруда ніяк не магла дагадзіць яму цукрам.

— Ах, Фрыц, пашкадуйце-ж свае зубы.

— Вельмі позна, любая Гертруда, ужо амаль няма чаго шкадаваць,—адказаў ён і зазвінеў чайнаю лыжачкай.

— Тым больш, Фрыц,—аўтарытэтна сказала Гертруда і паглядзела на Аўгуста.

«Геносэ Вайшля, я да вас з тым-жа пытаннем. Як поспехі?»

Аўгуст адсунуў недапітую шклянку чаю і, доўга думаючы над кожны словам, адказаў:

«Любыя мае сябры, (як бачыце, добрыя. Маю справу з небам і гэта неабходна. Я нібы адкрываю шлях быстракрылым савецкім птушкам. Не, як такі добра! Толькі адна рэч прыгнятае і грызе мяне. Месца на геафізічнай вышцы, адведзенае для мяне, прымірае з маўчаннем. Але скажыце, сябры, калі грознымі ўдарамі загрымяць гарматы, ці не можа затрымаць мае маўчанне доступ у баявы ланцуг. Не, вы паслухайце гэта сур'ёзна. Неківай галавою, Фрыц, і ты не ўсміхайся, Гертруда».

Яны нахіліліся над ім і не чакаючы, пакуль ён поўнасцю скончыць свой адказ, слова за словам чыталі тое, што ён пісаў. Захопленыя шчырасцю Аўгуста, яны нават не чулі, як ў пакой увайшла высокая дзяўчына. З хвіліну пачакаўшы, яна нарэшце прагаварыла:

— Добры дзень.

Фрыц і Аўгуст павярнуліся на прывітанне і тады Аўгуст радасна падняўся насустрач дзяўчыне і пазнаёміў яе з сябрамі.

Падышоўшы к сталу яна напісала яму: «Аўгуст, не турбуйцеся. Садзіцца я не буду, чаю таксама не хачу. Я толькі на хвілінку. Заўтра, нарэшце, мы ляцім. Камандзір згодзен. Нядаўна, пры мне ён званіў у Маскву прафесару Добракіну. Прафесар бярэцца зрабіць сам аперацыю, але просіць спяшацца. Ён збіраецца на нейкі кангрэс заграніцу. Рыхтуйцеся. Заўтра ляцім.

Эх, увесь аэрапорт марыць аб тым, каб вы загаварылі».

Скончыўшы апошні сказ, дзяўчына ўсміхнулася і зубы яе заблішчэлі покрывам белага снегу.

*Жнівень-Лістапад 1935 г.*

*Янка Непачаловіч*

## МАРЫУЛА

Не магла згадаць сабе цыганка,
Як змагчы журботу і бяду.
Сумнаю хадзіла ты, смуглянка,
Ад дзявочых неадчэпных дум...

Помніш, ноч у зорах зіхацела,
Холад грубіяніў у шатры.
І рыдала ты тады над целам.
З голаду памершае сястры.

Для чаго сягоння так балюча
Памяць пра былое варушыць?
Усім вядома—сум жыццё атручвау,
Слізкім вужам кратауся ў душы.

Як садоў зялёную фіранку
Расхінула мяккае цяпло,
Той парой вандроўную цыганку
Прывабіла калгаснае сяло.

Стройная дзяўчына Марыула,
Твар яе ў румянцы маладым.
Сэрца—чыстай радасці прытулак,
Косы ўюцца, нібы чорны дым.

Ад сяліб высокіх роўнай сцежкай
Увайшла ў пшанічны акіян.
Сонца к ёй галубіцца усмешкай,
Шчыра абдымае гнуткі стан.

Ціхі вецер шастае снапамі,
Коціць хвалі буйных каласоў;
Жаўранкаў у высі над палямі
Звонкія разлівы галасоў.

Дзень яна занята працай чыннай,
Ставіць за жняяркай копы ў рад,
Вечарам ідзе на адначынак,
Крочыць весялейшай між дзяўчат.

Любая дзяўчына, Марыула,
Кветка чорнавокая дуброў,
Ты палеткі поіш песняй чулай
І лясы бальзамам родных слоў.

Смутак твой растаў, мая смуглянка,
Чорным цветам адцвіла бяда.
Загадала на жыццё цыганка
І сумела шчасце адгадаць.

Люты 1936 г.
г. Менск

*А. Петроў*

# ШАЛЁНЫ ШАКАЛ

Я быў на паляванні ў даліне Каулі—горнай рачулкі, якая ўпадае ў акіян на поўдзень ад Пенджыма [1]).

Дзень гэты быў ветраны. Навальнічныя хмары паўзлі па схілах гор і далячынь часінамі зацягвалася пеляной дажджу. У лесе, куды не пранікае вецер, пацела цела і да скроняў прылівала кроў. Такія спякотныя, бурлівыя дні звычайна бываюць вяшчунамі летняга мусона, які атручвае жыццё вандроўнікаў з мая па верасень.

— Саіб напэўна ўтаміўся?—запытаўся ў мяне праваднік, якому надакучыла прадзірацца скрозь мокрыя кусты.

— Ну, што-ж, адпачнём крыху,—адказаў я.

Мы прыселі на ўзлессі. Недалёка журчэў ручэй, але яго нельга было разглядзець пад ветранымі купаламі і альтанкамі з павойнай тунбергіі, якая знізу да верху была ўслана букетамі блакітных кветак. З яе пецель высоўваліся гіганцкія ваі папараці і лісточкі лантаны—дэкарацыйнага кустарніка, занесенага ў Індыю з паўднёвай Амерыкі. Над травою порхала мноства матылькоў-іфтым. Чародкі папугаяў і цудоўных бронзавых галубоў раз-па-разу пралятал і над лужком, а сярод парасткаў бамбука, падпільноўваючы здабычу, нярухома вісела на хвосціку смарагдава-зялёная змейка.

Я стаў напіхаць люльку. У гэтую хвіліну з даліны рэчкі паднялася чарада дзікіх паўлінаў.

— Іх нехта спалохаў,—заўважыў Рашы (так звалі майго праваднікa).

Паўліны паляцелі ўніз па даліне і схваліся за паваротам.

У кустах пачуўся трэск. Праз хвіліну міма нас віхрам пранеслася некалькі аксісаў (плямістых аленяў). Яны так быстра схаваліся ў лесе, што я не паспеў выстраліць.

— Што гэта значыць?—здзіўлена прамармытаў Рашы. Апроч нас тут паляўнічых няма...

Ён не паспеў закончыць, як каля рэчкі, крокаў за дзвесце ад нас мільгануў на галінах дрэў вялікі цёмны звер.

— Пантэра!—зашаптаў праваднік.

Я дастаў бінокль і ўбачыў самку пантэры; яна сядзела на галіне і ўважліва ўглядалася ў кусты. Кончык яе хваста ўзрушана матляўся з боку ў бок.

— Значыць, гэта яна спалохала аксісаў і паўлікаў?—запытаўся я.

---

[1]) Партовы гарадок на заходнім беразе Індыі.

— Не, саіб, пантэра сама напалоханая, а то яна не стала-б сярод белага дня карабкацца па дрэвах.

Я прапанаваў заняцца паляваннем на драпежніцу, але Рашы зрабіў адмоўны жэст.

— Нам не ўдасца падкрасціся да яе,—сказаў ён.—А галоўнае—на даліне небяспечна, нездарма адтуль разбягаюцца звяры і птушкі.

— Хто-ж там можа быць?

Праваднік не адказаў. Ён ускарабкаўся на дрэва і доўга, прыжмурыўшыся, глядзеў у бок рэчкі.

— Глядзіце, глядзіце, саіб!—закрычаў ён раптам, паказваючы рукой на даліну.

Па забалочаным прагалку, зігзагамі, праімчалася жывёліна велічынёй з сабаку.

— Я так і думаў,—спрытна спусціўшыся з дрэва, сказаў Рышы:—шалёны шакал.

— Хіба гэтае палахлівае стварэнне можа быць небяспечным?

— Шалёны шакал? Ой, саіб, гэта самы страшны звер. Страшнейшы за пантэру... Калі шакал шалее, ён забываецца пра сваю палахлівасць і накідаецца на самых дужых звяроў. Ад яго ўцякае тыгр, а буйвалы сустракаюць яго ў баявым парадку і равуць так, што іх можна пачуць за цэлую мілю.

Шакал схаваўся ў кустах. Потым ён мільгануў каля азярка і, як відаць, накіраваўся да ўзгорка, на якім хадзіла на пашы стада свойскай жывёлы.

— Бяда, саіб: там пастушкі, дзеці...—з трывогай сказаў Рашы.

Мы хутка пабеглі да ўзгорка. Галінкі бамбука балюча сцёбалі мне па твары. На даліне ногі вышэй костачак улазілі ў глебу, з якой хлюпала вада. Каля выбоін грэлася на сонцы двухметравая яшчарка, падобная на кракадзіла. Убачыўшы нас, яна засіпела і кінулася ў ваду.

— Хутчэй, саіб, хутчэй!—прыспешваў мяне Рашы.

Мы пабеглі па пясчанаму берагу рэчкі. З трупа казы з шумам падняліся ў паветра грыфы. Калі мы мінулі труп, птушкі апусціліся і зноў узяліся за перапынены баль.

Я задыхаўся ад бегу і гарачыні. Вось, нарэшце, мосцік, а за ім—грудок... Вось і стада.

— Мы апярэдзілі шакала,—спыніўшыся, з цяжкасцю вымавіў я.

Раптам стары бык, які ляжаў у цяньку пад дрэвам, ускочыў на ногі і глуха зароў. У стадзе пачаўся перапалох: каровы абкружылі цялят, а быкі, задраўшы хвасты, з рыкам забегалі між кустоў.

— Трэба знайсці пастушкоў!—крыкнуў Рашы.

Дзеці, устрывожаныя шумам, выбеглі з лесу, дзе яны будавалі шалаш.

— Сюды! сюды!—закрычаў праваднік і на ўсю сілу пусціўся да іх насустрач.

Касяк авечак спалохана шарахнуўся ад узлесся. З высокай травы выскачыў шакал. Ён сеў на адкрытым месцы і пачаў пярэдняй лапай памахваць перад пысай, нібы адганяў мух. Бык імкліва наляцеў на

яго і траха не парнуў рогам. Шакал пераскочыў праз выбоіну, знік у траве, ізноў выскачыў і па схілу ўзгорка паімчаўся да пастушкоў. Хлопчыкі з крыкам вярнуліся назад. Але ўжо з усіх бакоў несліся быкі. Шакал замітусіўся між імі і схаваўся ў лясістым раўчуку. Быкі пагналіся за ім, мы доўга чулі іх рык то ў адной, то ў другой частцы лесу.

— Не адыходзьце ад стада ні на крок,—загадаў пастушкам Рашы.—Калі шакал ізноў з'явіцца,—хавайцеся за цялят: каровы не дадуць іх крыўдзіць, а разам і вас.

Нарэшце, быкі пачалі вяртацца да стада. Стары бык нечакана апусціў рогі і з такой лютасцю напаў на мяне, што праваднік і пастушкі ледзь адагналі яго.

— Быкі ўзрушаны,—сказаў Рашы,—лепш саібу адыйсціся далей.

Мы пайшлі ў сяло. Дазнаўшыся аб тым, што з'явіўся шалёны шакал, старшыня паслаў да стада двух чалавек, узброеных тоўстымі палкамі. Жыхары захваляваліся, маткі склікалі дзяцей і наказвалі ім не адыходзіць ад хацін.

— Гэта трэці выпадак у гэтым годзе,—з дакукай гаварыў старшыня.—Адкуль яны бяруцца—шалёныя шакалы? Мабыць Сіва гневаецца на нас, хоць мы нядаўна адрамантавалі царкву і ўтрымоўваем двух жрацоў.

Сонца апусцілася за горы. Стада вярнулася ў сяло і, узнімаючы пыл, разышлося па дварах.

Я павячэраў і пагаварыўшы з гаспадаром хаціны—адстаўным салдатам—вышаў прайціся па вуліцы. Рашы палічыў сваім абавязкам пайсці са мной. Поўны месяц ярка асвятляў сяло і даліну. На дрэвах і ў траве аглушальна цвыркалі цыкады і меладычна звінелі малюсенькія дрэўныя жабы. Мы селі на краю абрыва, пад разбітым маланкай хлебным дрэвам.

— Такімі начамі ў сланоў бывае «муст»,—памаўчаўшы сказаў Рашы.

— Што значыць «муст»?—запытаўся я.

— Гэта... я не ўмею вытлумачыць саібу. Бывае час, калі сланы без прычыны хвалююцца. Яны робяцца непаслухмянымі і нават небяспечнымі для «магутаў» (важакоў). Гэта і ёсць «муст». Я дваццаць гадоў быў «магутам» і ведаю, што «муст» заўсёды пачынаецца ў месячныя ночы.

— Ён бывае часта?

— Не, саіб, раз у некалькі гадоў. Старыя «магуты» кажуць, што сланы хвалююцца ў тыя дні, калі Рытхі—сланёвы цар—робіць у джунглях агляд свайму народу.

— Што за глупства!—сказаў я.—Ніякіх сланёвых цароў не існуе.

— Я не выдаю гэта за праўду,—запярэчыў праваднік.—Так кажуць... Нават паказваюць месца—на гарах, у Асамс,—дзе збіраюцца дзікія сланы... тысячы, дзесяткі тысяч сланоў. Там ратхі чыніць суд—карае вінаватых і ўзнагароджвае за заслугі. Кожны свойскі слон, калі ён не прыдзе на агляд, прысуджаецца да кары смерцю. Вось чаму сланы хвалююцца і нават, часам, уцякаюць ў джунглі.

Рашы памаўчаў і згатаваў сабе порцыю бетэля.

— Я раскажу саібу адзін выпадак,—сказаў ён.—Мне было тады гадоў шаснаццаць. Я працаваў «магутам» у Асаме. Рабочыя секлі лес на будоўлю, а сланы цягвалі яго з гор да рэчкі. У нас было шэсць сланоў, якія былі добра прывучаныя да лясных работ. Я кіраваў старым «кумірыя»... Саіб ведае, якіх сланоў называюць так? Самых вялікіх, з вялікай галавой і не зусім доўгімі нагамі. Яны вызначаюцца хараством і розумам. Другія пароды—«двазала» і «міерга» значна горшыя, асабліва «міерга»: у іх тоўсты жывот, доўгія ногі і маленькая галава. Мой Румі дасягаў трох метраў у загрыўку і мог цягнуць, як саломінку, самыя вялікія бярвенні. Ён быў паслухмяны, але не рахманы. Ён вельмі добра разумеў кожнае мае слова і працаваў добрасумленна, але без захаплення, як некаторыя сланы.

Як зараз памятаю, падыйшлі месячныя ночы. Аднойчы, устаўшы паглядзець Румі, я пачуў удалечы галасы дзікіх сланоў. Цэлае стада праходзіла па схілу гары. Сланы праціскаліся праз хмызняк, а нейшлі па сцежках, як звычайна яны піскліва трубілі, нібы сварыліся або пускаліся наўцёкі. Нашы сланы прыметна хваляваліся і пераступалі з нагі на нагу. Румі высока падняў вушы. Я назваў яго імя. Ён з нездавальненнем памахаў хвастом, але дазволіў палашчыць сябе. Неўзабаве шум спыніўся і нашы сланы, як здавалася, супакоіліся.

Дзень прайшоў без прыгодаў. Сланы працавалі, як заўсёды, але мы, «магуты», настаражыліся. Катастрофа здарылася ўвечары, калі мы сядзелі навокал вогнішчаў. У джунглях пачуўся бязмерны шум, праз хвіліну два дзікія «іклычы» як бура пранесліся праз наш бівак. Задні дагнаў пярэдняга і напэўна хацеў яго забіць. Сланы на шматкі падралі павешаны для прасушкі невад і перакулілі палатку загадчыка. Страшэннае хваляванне ахапіла нашых сланоў. Мы пабеглі да іх, каб мацней прывязаць, але Румі ўжо разарваў канат і, задраўшы хобат, з рыкам паімчаўся за «дзікунамі». Другі слон заблытаўся ў канаце і паваліўся. Мы паспелі накінуць пятлю на яго другую нагу. Калі ён падняўся, то ашалела схапіў хобатам свайго «магута» і разбіў яму галаву аб бервяно.

«Я любіў Румі і ўсю ноч праплакаў каля вогнішча. Як толькі пачало днець, я пайшоў па слядах сланоў. На камені, пад абрывістым берагам рэчкі здыхаў дзікі слон, ён шумліва ўдыхаў і паводзіў па каменнях хобатам. На краю абрыва відаць былі сляды боя—паламаныя кусты і вытаптаная трава. Тут-жа валяўся кавалак каната, які Румі панёс з сабой. Ці біўся мой «кумірыя», ці толькі прабег тут—я так і не дазнаўся. Я доўга ішоў па слядах, але яны завялі ў такія нетры, што я не адважыўся далей ісці.

«Прашло дзён шэсць—і я зноў убачыў Румі. Ён спускаўся з гары ў кампаніі другіх сланоў. Я адразу пазнаў яго зграбную фігуру, хоць яе да палавіны хавалі кусты. Я стаў крычаць і зваць яго, але Румі нават не павярнуў да мяне галавы. Ён павярнуў з сланамі ў міжгор'е і знік... назаўсёды!

— Можа быць, была пара паркавання?—сказаў я.—У гэты час сланы бываюць узрушаны.

— Не, саіб, гэты час яшчэ не надышоў. У сланоў быў «муст»...

без усякай навочнай прычыны. Саіб не верыць, але там на гарах нешата адбывалася, а што—не ведаю. Адзін з «магутаў» упэўніваў.

Правадпік не дагаварыў: на краю селішча пачулася сабачая грызня, брэх. У тую-ж хвіліну за ўсіх дварах заходзіста забрахалі і завылі сабакі.

Рашы ўскочыў з камення і прыслухаўся.

— У селішча ўбег шалёны шакал!—крыкнуў ён.—Саіб чуе. Так заліваюцца сабакі, калі пачуюць шалёную жывёлу.

Я паспяшаўся да хаціны і, зарадзіўшы дранкулямі дубальтоўку, бягом накіраваўся з Рашы да берагу рэчкі. Там чуліся ўстрывожаныя мужчынскія галасы і прарэзлівы жаночы крык.

Вуліца была заліта месячным святлом, але пад дрэвамі, па краях, ляжалі густыя цені.

— Асцярожна, саіб: шакал можа выскачыць з боку,—сказаў Рашы (ён меў доўгую жэрдку, якую нёс на плячы, як кап'е).

Нам сустрэлася група людзей, таксама ўзброеных дручкамі.

— Шакал прыбег з-за рэчкі,—перагаварыўшы з людзьмі, паведаміў мне Рашы.—Ён пагрызся з сабакамі, а потым убег у хаціну і пакусаў жанчыну, якая карміла дзіця. Цяпер ён бегаў дзесці па садах.

З боку зноў пачулася сабачая грызня. Мы пабеглі па вузкім завулку, але спазніліся. Сярод двара брахаў і скуголіў моцна пакусаны сабачка. Гаспадар хаціны расказваў, што шакал накінуўся быў на карову, але яна адштурнула яго рогам.

— Трэба вярнуцца,—надумаўся правадпік:—шакал абавязкова выбежыць на вуліцу.

Жыхары спалохана выглядвалі з хацін. Мужчыны з палкамі ў руках залазілі на вароты і агароджы двароў, каб перашкодзіць шакалу напасці на свойскіх жывёлін.

Мы спыніліся на скрыжаванні. Галоўная вуліца крута паварочвала да рэчкі. Яе левы бок, які патануў у змроку, перарэзваўся палосамі і плямамі месячнага святла.

Я прыслухоўваўся да выцця сабак і паглядваў ва ўсе бакі. Прайшло з поўгадзіны. Шакал не з'яўляўся. Магчыма, ён уцёк з селішча і лётаў па даліне, палохаючы жывёлу? Сабакі пачалі па-троху супакойвацца. Я прысланіў стрэльбу да мураванага паркана і палез у кішэню па люльку.

Раптам мне здалося, што праз светлую пляму на схіле вуліцы прашмыгнула нейкае цёмнае цела. Я настаражыўся. Цёмнае цела прашмыгнула яшчэ раз—бліжэй да мяне, потым яшчэ і яшчэ раз... Зрок не падманьваў мяне: па ценявым баку вуліцы шпарка падымалася на гару невядомая жывёліна. Я адцягнуў абодвы куркі. Рашы стаяў на другім рагу і, абапёршыся на жэрдку, глядзеў у завулак.

Вось зашамацелі апалыя пальмавыя лісты... Захрабусцела галінка—і на асветленае месца выскачыў... шакал! Ён быў кроках за трынаццаць ад мяне. У яго вачах, якія здаваліся велічэзнымі, ярка адлюстроўвалася месячнае святло. Ускудлачаная ў часе грызні поўсць пасмамі вісела на баках. Шакал павярнуў галаву і, убачыўшы мяне, хрыпата заенчыў. У гэты-ж міг ён кінуўся ў мой бок.

Я спяшаючыся выстраліў і прамахнуў. Шакал паспеў пранесціся палавіну шляху, калі я выстраліў з другога ствала. Ранены шакал закруціўся сярод вуліцы і пачаў высока падкідацца пярэдняй часткай тулава. У воблаку пылу ён здаваўся фантастычнай істотай, якая спрабавала ўзляцець у паветра.

— Сцеражыцеся, саіб, сцеражыцеся!—крычаў Рашы, падбягаючы да мяне.

Шакал пакінуў падкідвацца і папоўз да мяне на пярэдніх лапах (заднія валачыліся па зямлі). У мяне больш не было патронаў, я мімаволі адступіў ад агарожы, на якую, у выпадку патрэбы, было не цяжка ўскарабкацца. Шакал хрыпеў і поўз, гледзячы на мяне сваімі страшнымі вачыма.

Рашы з размаху стукнуў яго жэрдкай па галаве. Шакал тыцнуўся пысай у зямлю. Рашы стукнуў яшчэ і яшчэ раз так моцна, што каля пысы шакала расплылася лужа крыві.

Збегліся людзі, пачаліся жвавыя роспыты і гутаркі.

* * *

Раніцай шакала павалаклі на вяроўцы ў роў. Ён не паспеў скаціцца на дно, як з сінявы неба адзін за другім пачалі спускацца грыфы і сцярвятнікі. Праз гадзіну-дзве ад шакала засталіся адны косці.

Я пашоў наведаць пацярпеўшую жанчыну. Акружаная голымі і зморанымі ад голаду дзяцьмі, яна варыла на трыножках яду. Яе левая рука была забінтована бруднай анучай. Жахлівая галота глядзела з кожнай шчыліны хібаркі, падобнай больш на куратнік, чым на жыллё людзей. Нешта падобнае на шкілет, абцягнуты струпаватай скурай, з мармытаннем адышло пры маім набліжэнні.

— Трэба хутчэй адправіць жанчыну ў Бамбей, у Пастэраўскі інстытут,—сказаў я.

Пра гэтую ўстанову ніхто ў селішчы не чуў. Муж пацярпеўшай недаверліва выслухаў мяне і адказаў, што ад шаленства добра памагае «свянцоная» мазь, якую ён купіў у браміна.

Як чутно было па паху, мазь складалася з каровінага гною, змешанага з кунжутнай алівай. Я прапанаваў бедняку грошы на паездку ў Бамбей, і быў здзіўлены, калі ён адмовіўся.

— Жанчына загіне, калі ёй не зробяць прышчэпкі,—сказаў я Рашы.

Ён безнадзейна развёў рукамі.

— Да Бамбея некалькі дзён хады, адказаў ён, селянін не можа кінуць гаспадаркі, а таксама дзяцей—на волю лёсу. А галоўнае (Рашы агляну ўся і панізіў голас), ён не захоча сварыцца з брамінам. Яму больш карысна страціць жонку,—так, так, саіб! Бо за брамінам стаіць старшыня і махляр—купец,—аб гэтым не трэба забываць, калі маеш кучу дзяцей і старых і ні цэнта ў кішэні.

Я з цяжкім пачуццём зірнуў на асуджаную на пагібель жанчыну і вышаў з хаціны.

*І. Гайдукевіч*

# ВОЎК

Ваўку ў палёх калгасных
ні ежы, ні кустоў.
Клыкамі дзіка ляснуў
і вышчарыўся воўк.

Яму-б цяпер прастору,
разгону больш для ног,
яму-б глухую нору
на ростані дарог.

І сеялі-б дарогі
гады начамі смерць.
Ды воўчае бярлогі
ваўку ўжо больш не мець.

Чужымі яму сталі
гушчарнікі, палі,
пагоркавыя далі
з застоямі далін.

Пячэ яго марозам
і сіверам зіма.
Цякуць у воўка слёзы,
ды веры ім няма.

Як месяц белы вытча
на снезе ў поўнач шоўк,
ад голаду скавыча
стары, бяссільны воўк.

1936 г.

*А. Суркоў*

# СОВЕЦКАЯ ПАЭЗІЯ РСФСР[1])

Як ўяўлялі паэты мінулага, нават тыя, каторыя ўсёй сваёй істотай цягнуліся да комунізма, будучае мастацтва ў комуністычным грамадстве?

Вось прадмова да «Лютэцыі» Гейне:

«Сваімі мазолістымі рукамі яны бязлітасна разаб'юць усе мармуровыя статуі хараства, датаго дарагія майму сэрцу; яны паломяць усе цацкі, усе фантастычныя вабноты мастацтва, якія так любіў паэт; яны знішчаць мае лаўровыя гаі і пасадзяць там бульбу...

... Нажаль маю «Кнігу песень бакалейшчык скарыстае на пакеты. куды ён будзе сыпаць кофе і табаку для бабулек будучага».

Валерый Брусаў у вершы «Грядущим гуннам», які напісаны ў 1905 годзе, піша:

Вас, которые меня уничтожат,
Встречаю приветственным гимном.

У дзённіку Андрэ Жыда за апошнія гады мы знаходзім тужлівыя радкі: «Пяро маё стрымлівае таксама і галоўным чынам—неадчэпная думка, што мноства рэчаў, якія яшчэ займаюць нас, не будуць мець ні цаны, ні нават сэнсу для тых, чый прыход я прадчуваю і каго заклікае маё сэрца».

У процівагу ўсяму, што было сказана вышэй, Маркс прадбачыў высокае мастацтва будучага таму, што «пры комуністычнай арганізацыі грамадства адпадаюць мясцовая і нацыянальная абмяжованасць мастака, што выцякаюць з падзелу працы».

Сталін пісаў пра тое, што «ў комуністычным грамадстве навука і мастацтва будуць карыстацца ўмовамі, даволі спрыяльнымі для таго, каб дамагчыся поўнага росквіту».

Гэтыя словы вялікіх правадыроў пролетарыята наша рэчаіснасць падмацоўвае яркімі фактамі росту паэзіі, росту ліку чытачоў паэзіі ў Совецкім Саюзе.

Ні ў якай краіне і ні ў адну эпоху мастакі не мелі такой аўдыторыі чытачоў, якую мы маем у краіне перамогшага соцыялізма.

Юбілеі, звязаныя з імёнамі буйнейшых паэтаў мінулага, становяцца ў нас агульна-народнымі культурнымі святамі ўсіх народаў Совецкага Саюза.

---

1) Даклад III пленуме ССП СССР.

У гады жорсткай барацьбы з ворагамі пролетарыята людзі ішлі ў бой з песнямі Дзем'яна Беднага, з бадзёрымі радкамі Маякоўскага.

Слова паэта гучэла з трыбуны партыйнага з'езда, прыходзіла ў заводскі цэх і там змагалася за ліквідацыю прарыва. Вершы, народжаныя ля вогнішча палявога стану, гучэлі ў рапарце трактарысткі Ангеліны кіраўнікам партыі і ўрада.

Нідзе ў свеце паэт не акружаны такой увагай, такімі клопатамі чытачоў, урада, партыі. Нідзе паэтаў не акружае такая атмасфера давер'я, як у нас.

У гэтым наша сіла, у гэтым гіганцкая, нязмерная перавага наша перад усімі паэтамі свету.

Але гэта вызначае і аб'ём нашай адказнасці за сваю работу.

## Мы равеснікі вялікай эпохі

Наша совецкая паэзія—рознанацыянальная паэзія.

Даволі прыгадаць трагічны лёс вялікага украінскага паэта Тараса Шэўчэнкі, замардованага самадзяржаўем, каб зразумець усю радасць, усю сілу росквіту паэзіі народаў СССР, выкліканую да жыцця вялікай Кастрычніцкай рэволюцыяй.

Наша рознанацыянальная паэзія развіваецца пасля Кастрычніка, у шчыльнейшым творчым узаемадзеянні. Магутны вопыт рускай пролетарскай паэзіі не прайшоў бясследна для любога з атрадаў маладых нацыянальных совецкіх літаратур.

Досыць толькі зірнуць на творы кара-калпакскіх, і чувашскіх, і казахскіх, і мардоўскіх і іншых паэтаў, каб убачыць уплыў на іх Маякоўскага, Дзем'яна Беднага, Безыменскага і цэлага раду другіх рускіх паэтаў. Бясспрэчны ўплыў рускай паэзіі і на паэзію народаў СССР, якія мелі сваю дарэволюцыйную літаратуру. Шматлікія факты і адваротнага ўплыву. Маладая нацыянальная паэзія сістэматычна абганяла нас. Яна больш востра і больш непасрэдна адгукаецца на вялікія тэмы сучаснасці.

Совецкая паэзія мае ў сваіх шэрагах фінскіх, эстонскіх, латышскіх паэтаў. На высокім творчым узроўні стаіць яўрэйская паэзія, уплыў якой распаўсюджваецца на сусветную яўрэйскую паэзію. У нашай краіне знайшлі другую бацькаўшчыну рэволюцыйныя паэты Венгрыі, Германіі, Польшчы, Індыі, Кітая, Юга-Славіі і цэлага раду іншых краін.

Калі крытыя Мірскі ў артыкуле ў «Известиях» пісаў пра трагічнае становішча гэтых паэтаў, ён быў глыбока не правы.

Калі крытык Мірскі ў артыкуле ў «Известиях» пісаў пра трагічторых, як песні Гідаша, пяюцца мільёнамі людзей нашай краіны, кнігі вершаў каторых разыходзяцца шматтысячнымі тыражамі? Але для Гідаша, Мадараса, Стандэ, Эмі Сяо, Стыпэнскага, Эс Хабіб Вафа і іншых паэтаў-эмігрантаў, абстаноўка творчае работы, і ў першую чаргу творчых узаемаадносін, больш складаная, чым для нас.

Кастрычніцкая рэволюцыя ўвяла ў кола культуры чалавецтва велізарныя багацці дарэволюцыйнай і паслякастрычніцкай народнай вуснай творчасці.

На наш сорам трэба адзначыць, што лепш, паўней, чалавечней, канкрэтней вобразы Леніна, Сталіна, вобразы вялікіх людзей рэволюцыі адлюстраваны ў легендах і песнях безымянных народных песняроў, чым у творчасці нашых паэтаў.

За апошнія гады па ініцыятыве паэтаў узніклі творчыя ўзаемаадносіны паміж пісьменнікамі братніх літаратур, узаемныя пераклады твораў.

За апошнія два гады, калі за пераклады ўзяліся буйныя і сапраўдныя майстры нашай паэзіі, мы, нарэшце, атрымалі ўяўленне пра вышыню мастацкага ўзроўню паэзіі некаторых нацыянальных рэспублік.

Да гэтага часу наша руская совецкая паэзія вельмі мала ўзяла ад багатага вопыту нацыянальных паэтаў. А між тым мы можам налічыць не менш дзесяці імён паэтаў братніх нацыянальнасцей па сіле свайго таленту, па ўзроўню і вышыні культуры роўных лепшым майстрам рускай паэзіі.

Наша совецкая паэзія—аднагодак эпохі, роўнай якой у гісторыі чалавецтва няма.

У глыбіні тысячагоддзяў паэтычнае ўвабражэнне чалавека стварыла міф аб Праметэі, другу чалавецтва, які ўкраў нябесны агонь. Вобраз гэты прайшоў скрозь усю гісторыю сусветнай паэзіі. І задача совецкай паэзіі паказаць вобраз раскутага Праметэя, які стаў уладаром лёсу свету. Праметэй у вобразе рабочага класа на нашай роднай зямлі тытанічнымі патугамі ўзводзіць дзівосны будынак шчасця вызваленага чалавецтва.

За гэтыя гады мы дамагліся таго, што самыя смелыя мары лепшых розумаў чалавецтва на адной шостай часціцы планеты сталі рэальнасцю быцця.

Праца, якая не магла ў капіталістычным грамадстве нарадзіць магутнай паэзіі, гэта праца ў нашай краіне стала справай гонару, справай мужнасці і геройства.

За гэтыя гады мы атрымалі небывалыя па свайму размаху перамогі, якія прывялі нас да таго, што апошні 1935 год прашоў у нашай краіне пад знакам стаханаўскага руху.

Тав. Сталін на нарадзе стаханаўцаў сказаў: «Жыць стала лепш, таварышы, жыць стала весялей». І яшчэ тав. Сталін сказаў фразу, над якой нам, мастакам, трэба асабліва глыбока задумацца, найбольш глыбока, таму што яна раскрывае сутнасць сёнешняга этапу і сутнасць нашых задач, гэта слова пра тое, што «наша пролетарская рэволюцыя з'яўляецца адзінай у свеце рэволюцыяй, якой давялося паказаць народу не толькі свае палітычныя рэзультаты, але і рэзультаты матэрыяльныя».

Стаханаўскі рух з'яўляецца сведчаннем таго факту, што соцыялізм стаў рэальнай асновай быцця мільёнаў. Калі нашы паэты да гэтага часу гаварылі пра соцыялізм глаголамі будучага часу, то на сёнешні дзень соцыялізм стаў рэальным фактам нашага жыцця тым, што мы цяпер усімі пяццю пачуццямі можам адчуць у навакольным жыцці. У гэтым самае галоўнае, самае значнае.

Тав. Сталін увесну мінулага году ў прамове на выпуску курсантаў ваенных акадэмій з усёй паўнатой разгарнуў палажэнне пра

месца чалавека ў барацьбе за ажыццяўленне соцыялізма. Чалавек—мэта і змест барацьбы за соцыялізм. Чалавек—мэта і змест работы паэта. Для паэтаў мінулага падала на долю раскрыць замяшанне чалавека, які разрываецца супярэчнасцямі грамадства, аснованага на прыгнечанні большасці драпежніцкай меншасцю. На нашу долю выпала радасная задача—паказаць свету намаганні радаснага росту новага чалавека—зодчага соцыялізма.

Мы ніколі не ўявім сабе ступені нашае запазычанасці вялікаму чытачу краіны, калі мы не будзем параўноўваць зробленага намі з тым, што дадзена нам эпохай.

## Маякоўскі—вобраз совецкага паэта

Дзейнасць—адзіная крыніца вобразаў, тэматыкі, матэрыялу і мовы паэта. Становішча мастака ў расстаноўцы класавых сіл у любую эпоху вызначала яго светапогляд, а светапогляд вызначаў і кола яго тэм і прыстасаванне яго мастацкай дапытлівасці да матэрыялаў жыцця; матэрыял жыцця і тэма вызначалі мову і лад яго выяўленчых сродкаў. Значыць, рэчаіснасць урэшце заўсёды была крыніцай усіх форматворчых працэсаў паэзіі.

Кастрычніцкая рэволюцыя ўпершыню ў гісторыі дала сваім мастакам шырокую гістарычную перспектыву. Упершыню ў гісторыі чалавецтва клас, які ўзяў у свае рукі аўтарства далейшага этапу развіцця грамадства, ажыццяўляючы свае суб'ектыўныя класавыя мэты, тым самым ажыццяўляе ідэі ўсяго працоўнага чалавецтва.

Гуманізм у самым шырокім і высокім сэнсе слова быў і ёсць асновай усяе рэволюцыйнае класавае барацьбы пролетарыята.

На гэтай аснове грунтуецца метад соцыялістычнага рэалізма, які з'яўляецца новай вышэйшай ступенню ў развіцці сусветнага мастацтва.

Совецкую паэзію рэзка адрознівае ад паэзіі папярэдняй эпохі шэраг значных рыс; першая з іх—народнасць, накіраванасць да масавага чытача, які агнём і мячом ачышчае зямлю ад брыдот капіталізма. Раскрываючы гэтыя рысы на матэрыяле нашае эпохі мы ўбачым,—яна з найвялікшай сілай перададзена перш за ўсё ў творчасці Мякоўскага.

Другая рыса нашае паэзіі—гэта простая адкрытая сувязь з пролетарскім авангардам чалавецтва. Прыгадайце, таварышы, што нават лепшыя мастакі мінулага, нават вялікі Пушкін у тыя хвіліны, калі яго насцігала безвыходнасць разладу са сваім грамадствам, пісаў вершы «Пророк», прakламуючы імі адыход ад жыцця.

Наша паэзія—гэта першая ў гісторыі чалавецтва, якая проста і адкрыта звязала свой лёс з перамогшым класам-пролетарыятам. І ў гэтым яе сіла, у гэтым сіла яе дзеяння.

Трэцяя рыса нашай паэзіі—гэта накіраванасць наперад так бліскуча сфармулёваная ў вершах Маякоўскага, якія ўжо тут прыводзіў Шчэрбакоў:

Там,
за горами горя
солнечный край

непочатый,
за голод,
за мора—море
шаг миллионный печатай.

З гэтымі радкамі Маякоўскага пераклікаюцца надзвычайныя радкі Тіханава ў вершы «Перакоп»

За нами ведь дети без глаз, без ног,
Дети большой нужды,
За нами города на обломках дорог,
Где ни хлеба, ни огня, ни воды.
А там, за горами отдых и рай,
Пусть это мираж, все равно
Если тысячи крикнули слово—отдай,—
Урагана сильнее оно.

Гэта баявая нота праходзіць праз усе лепшыя творы нашых совецкіх паэтаў.

І, нарэшце, чацвертая рыса совецкай паэзіі гэта—баявы, малады аптылізм, які гэтак розніць яе ад папярэднікаў, песімістаў і містыкаў. Наша паэзія ідзе па зямлі цвёрдым поступам класа, упэўненага ў праўдзе свае справы, упэўненага ў перамозе. Нават у паэме Маякоўскага «Про это», у хвіліну цяжкага крызісу асобы, раптам узнікаюць радкі жадання—«чтобы на первый оклик—товарищ! оборачивалась земля», што знаймуе перамогу калектыўнасці над індывідуалізмам. Пачуццё найвялікшага калектывізма, упэўненасці ў свае сілы з'яўляецца неадлучнай рысай творчасці лепшых нашых паэтаў.

Прыгадайце «Песнь о буревестнике», «Песнь о соколе» М. Горкага, прыгадайце вершы Д. Беднага, якія друкаваліся ў «Звездзе» і ў «Правде», прыгадайце вершы рабочых паэтаў, вельмі часта нязграбныя, вельмі часта непоўнацэнныя, прыгадайце вершы дарэволюцыйныя, усе яны раскрываюць у эмбрыянальным стане гэтыя якасці совецкае паэзіі.

Да гэтага імкнуўся і скуты супярэчнасцямі перадрэволюцыйны Маякоўскі адчуўшы, што «улица корчится, без'языкая, ей нечем кричать и разговаривать», Маякоўскі, які пісаў: «Вам я душу вытащу, растопчу... чтоб большая, и окровавленную дам как знамя».

Гэтыя радкі раскрываюць асаблівы характар індывідуалізма дарэволюцыйнага Маякоўскага і даюць магчымасць зразумець, чаму Маякоўскі хутчэй, чым многія падарожнікі і аднагодкі, здолеў «причаститься великому чувству по имени класс».

Калі мы хочам назваць найбольш поўны вобраз совецкага паэта, то перад нами на ўвесь рост паўстае вобраз Владзіміра Маякоўскага.

Шлях Владзіміра Маякоўскага да рэволюцыі і ў рэволюцыі павінен быць прыкладам для любога з совецкіх паэтаў. Гэты шлях бясстрашнага перамагання самых, здавалася-б, неперыможных цяжкасцей росту чалавека і мастака.

Маякоўскі на ўвесь свой творчы голас сказаў чытачам і ўсяму свету:

Я всю свою звонкую силу поэта
тебе отдаю
атакующий класс.

Калі мы гаворым пра Маякоўскага, як пра наватара, мы ў першую чаргу бачым Маякоўскага, найвялікшага рэканструктара самога тыпу паэта.

У якой вялікай супярэчнасці з пастаццю Маякоўскага знаходзяцца паэты ранейшага часу. Маякоўскі—трыбун, Маякоўскі—паэт, усю сілу свайго таленту аддаўшы барацьбе рабочага класа, з'яўляецца для нас найвялікшым прыкладам наватарства і смеласці пошукаў. Але ў сваіх пошуках ён не ішоў шляхам адцягненым і фармальным. Устаноўку сваіх пошукаў ён надзвычай добра сфармуляваў у адной з прадмоў да сваіх вершаў перыяду «Роста»: «Для мяне гэта кніга вялікага слоўнага значэння, работа, якая ачышчала нашу мову ад паэтычнай лускі, на тэмах, якія не дазвалялі шматслоўя». Гэта ёсць збор усяе творчае энергіі паэта наватара вакол велізарнай задачы дасягнуць максімальнай дальнабойнасці паэтычнага слова, максімальнай сілы разбурэння ў імя інтарэсаў перадавога атраду чалавецтва, якое штурмуе цытадэлі капіталізма. У гэтым сіла Маякоўскага і значэнне яго для нашай совецкай паэзіі.

Творчасць Маякоўскага, які быў надзвычайным безпартыйным большэвіком у мастацтве, для нас, што шукаем метаду соцыялістычнага рэалізма ў паэзіі, вельмі многае раскрывае.

І ў гэтым святле раскрываецца з усёй сілай радаснае для кожнага з тых, што любіць совецкую паэзію, значэнне слоў тав. Сталіна пра тое, што «Маякоўскі быў і астаецца лепшым таленавіцейшым паэтам нашае совецкае краіны».

Маякоўскі быў кіраўніком «Лефа», але для кожнага ясна, што творчасць яго была заўсёды непамерна шырэй за рамкі групавой платформы.

«Леф» — гаварыў Владзімір Владзіміравіч на канферэнцыі МАПП,—гэта эстэтычная група, якая прыняла нашу барацьбу як факт, як такавы і зрабіла з рэволюцыйнай літаратуры новае замкнёнае ў сабе эстэтычнае прадпрыемства».

Гэтыя словы Маякоўскага раскрываюць прычыны яго разрыву з «Лефам», разрыву, які быў прадыктован усёй паслякастрычніцкай работай паэта.

Гістарычнае выказванне т. Сталіна, у якім сцвярджаецца першынство тыпу паэта, увасобленага Маякоўскім, мы павінны асэнсаваць як супроцьстаўленне яго ўсім тэндэнцыям замыкання лірыкі ў кола пакаёвых праблем, супроцьстаўленне лірыцы інтэлігенцкага душэўнага ладу фармалізму, версіфікатарскаму штукарству.

Некаторыя паэты гавораць, што акрамя Маякоўскага ніхто з совецкіх паэтаў нічога істотнага не стварыў. Гэта няправільна, таварышы. Вопыт совецкае паэзіі значна больш шырокі, чым тое, што прадстаўляе творчасць буйнейшага з совецкіх паэтаў Маякоўскага.

Калі мы гаворым пра вучобу ў Маякоўскага, мы не ўспрыймаем гэтага, як сляпое, эпігонскае перайманне паэта. Такія адносіны да яго спадчыны былі-б ганьбаваннем памяці Маякоўскага, жорсткага ворага эпігонства.

Задача ўсебаковай распрацоўкі вопыту Маякоўскага—першачарговая задача ўсяе нашае савецкае крытыкі, усіх савецкіх паэтаў.

Творчасць Дзем'яна Беднага з часоў бальшэвіцкага падполля звязана ніцямі кроўнага сваяцтва з бальшэвіцкай партыяй. Дзем'ян Бедны скрыжоўваў у сваёй творчасці лад рускага класічнага верша з традыцыяй фальклору і зместам узрываў гэты лад, надаючы вершу новае гучанне. Дзем'ян Бедны шырока выкарыстаў прыёмы і мелодыку народнай песні. Баявая палітычная мэтанакіраванасць зместу вершаў, спалучэнне з формай і мовай, блізкімі да народнае творчасці і гутарковае мовы, зрабілі творчасць Дзем'яна Беднага папулярнай сярод найшырэйшых мас працоўных.

У творчасці Д. Беднага былі палітычна-памылковыя творы: «Перерыв», «Слезай с печки». У іх паэт сказіў воблік рускага селяніна, паказаўшы вёску ў выглядзе суцэльнай чорнай плямы бескультурнасці і тупой закасцянеласці.

Далёка не ўсё, што напісана Дзем'янам Бедным, поўнацэннае і беззаганнае, але было-б найвялікшай няпраўдай, абапіраючыся на недахопы і зрывы газетнай работы паэта, вывесці яго найбагацейшы творчы вопыт паэта-бальшэвіка з поля зроку паэтычнай моладзі. У Д. Беднага ёсць чаму павучыцца людзям, якія хочуць вывучыць і зразумець складанае мастацтва гутаркі з вялікім чытачом. Патрэбна толькі ацэньваць творчасць Д. Беднага, строга ўлічваючы спецыфіку жанраў, тыповых для яго.

Месца Барыса Пастэрнака ў нашай савецкай паэзіі—своеасаблівае месца. Выхаваны на традыцыі лірыкі найтанчэйшых суб'ектыўных перажыванняў, ён у радках:

И сады, и пруды, и ограда
и кипящее белыми ливнями
Мирозданье—лишь страсти разряда.

вобразна раскрыў асновы свайго светапогляду, таксама як у вершы:

Перегородок тонкоребрость
Пройду насквозь, пройду, как свет
Пройду, как образ входит в образ,
И как предмет сечет предмет.

раскрыў філасофскую аснову свайго творчага метаду.

Пасля рэвалюцыі ён упарта сіліцца замацаваць сябе на пазіцыі неўмяшання ў падзеі, якія адбываюцца ў краіне, радкамі з «Высокой болезни», «Я не рожден, чтобы два раза смотреть по разному в глаза», ці «Гощу. Гостить во всех мирах—высокая болезнь» ён дэкларыраваў непагрэшную нязменнасць сваіх поглядаў і «пабочнае» становішча ў навакольнай рэвалюцыйнай рэчаіснасці. Аднак, насуперак гэтаму, рэчаіснасць наклала выразны адбітак на паслярэвалю-

цыйную творчасць Пастэрнака. Уздзейнічанне рэволюцыйнай эпохі мы заўважаем у гнеўных, накіраваных супроць новага парадку рэчаў, строфах «Высокой болезни» і ў вершы Валерыю Брусаву. Рэволюцыя, перамагаючы перакананні паэта, выклікае да жыцця прадыктованыя захапленнем перад геніем рысы вобраза Леніна ў «Высокой болезни». Рэволюцыя ўжо зусім ускосна вызначае тэматыку і стыль паэм Пастэрнака «1905 год» і «Лейтенант Шмидт». Вершы Пастэрнака апошніх год, зборнік «Второе рождение» паказваюць непакой паэта і спробы зблізіць творчасць з рэчаіснасцю. Але паэт у гэтых спробах нясмелы і непаслядоўны. Азіранне на сваё творчае мінулае перашкаджае яму смела ўвайсці ў новы этап творчасці.

Пастэрнак—паэт у поўнай сіле майстэрства і творчых магчымасцей. Гэта ярка паказваюць яго грузінскія пераклады. Але каб голас яго ў рэволюцыйнай тэматыцы гучэў гэтак-жа цвёрда і ўпэўнена, як ён гучыць у насычаных матэрыялам нашай рэчаіснасці перакладзеных грузінскіх вершах, Пастэрнаку прыдзецца рашуча і паслядоўна пераглядзець філасофскую аснову творчасці, аснову ідэалістычную.

За 18 год стварылася моцнае паэтычнае ядро, якое прадстаўляе сёнешняе аблічча рускай совецкай паэзіі. Асееў, Пятроўскі, В. Каменскі, Інбер, таксама як і названыя раней паэты, пачыналі творчую дзейнасць да рэволюцыі, але фармаванне творчае асобы кожнага з іх адбывалася пасля Кастрычніка і іх творчы лёс непарыўна звязан з лёсам паслякастрычніцкага пакалення паэтаў. Пад непасрэдным уздзейнічаннем рэчаіснасці пабудовы соцыялізма, узнікла і развівалася творчасць Н. Тіханава, Э. Багрыцкага, І. Сельвінскага. Б. Лугаўскога, А. Безыменскага, А. Жарава, М. Святлова, М. Галоднага, Н. Ушакова, В. Саянава, А. Пракоф'ева, В. Карнілава, І. Уткіна, В. Казіна, К. Саннікава, П. Антакольскага, С. Кірсанава, А. Адаліс, В. Гусева, Д. Алтаўзена, Н. Браўна, А. Рэшатава і шэрагу іншых паэтаў. Да гэтага ядра прымыкае група паэтычнай моладзі, якая вырасла ў апошнія гады, і шматлікая група паэтаў, што працуюць у абласных цэнтрах і братніх рэспубліках Саюза.

Назваўшы шэраг імён паэтаў, якія складаюць асноўныя нашы кадры, я не маю магчымасці шматбакова характарызаваць індывідуальных творчых асаблівасцей кожнага. Але гэты спіс імён сярод усесаюзна вядомых і вядомых далёка за межамі нашай краіны паказвае аб'ём творчых магчымасцей рускай совецкай паэзіі, як цэлага. Шляхі творчага росту нашых паэтаў для кожнага своеасаблівыя. Але, калі мы пастараемся прыглядзецца да рыс агульнасці, то без цяжкасці ўстановім, што вялікая група паэтаў на шляху росту не пазбегла «аднастайнасці драмы дэмакратаў, якім гісторыя загадвае быць рэволюцыянерамі» (М. Горкі).

Адлюстраванне гэтай драмы ў вобразах, створаных паэтамі, выявілася ў выглядзе ўспышак індывідуалістычнага бунту адзінкі супроць арганізуючай сілы калектыва і замене класавай мэтанакіраванасці «агульначалавечым» актывізмам («ушкуйніцтва»). У спробах замацавацца на пазіцыі неўмяшання ў вострыя класавыя бойкі, мы часта бачылі раскрыццё гэтай драмы ў спробах паэтаў знайсці тлумачэнне таго-ж, што адбываецца ў краіне на шляхах гістарычных аналогій («Не вчера ли к Петровым заплечные ребята через нас

перекинули мост» і г. д.), у адшчапенцкіх настроях («Над нами восходят созвездия чужие, чужие знамена над нами шумят»). Чым як не гэтай-жа «аднастайнай драмай» можна вытлумачыць і такую з'яву, як узнікненне тэорыі «соцыяльнага заказу» асноўнай на спробе зрабіць падзел на нутро і розум і, мінаючы складаны працэс карэннай унутраной перабудовы—выйсці ў кола новых тэм і матэрыялаў. Патрэбна было паўтары дзесяцігоддзі найвялікшых перамог рабочага класа, патрэбны былі гераічныя вынікі пяцігадовага плана, якія паказалі ўсяму свету, што пытанне «хто каго» канчаткова вырашана ў нас на карысць соцыялізма, каб вывесці паэтаў з гэтай зацягнутай аднастайнай драмы.

Другая вялікая група совецкіх паэтаў, якая мае шырокую аўдыторыю чытачоў, пытанне «з кім» вырашыла яшчэ да прыхода ў літаратуру.

Вялікі змест нашага рэволюцыйнага часу стаў асновай творчасці паэтаў гэтай групы. Але ў вобразным выражэнні новага зместу яны не маглі абаперціся на вопыт папярэднікаў. Недастатковая ідэйна-філасофская падрыхтоўка, пры характэрнай для некаторых паэтаў зняважлівасці да задач авалодання вышынямі майстэрства, затрудняли рух наперад, часта абядняли іхныя вершы. На гэтай аснове дыдактычны пачатак панаваў над вобразным, абяскроўліваючы верш, пазбаўляючы яго поўнай сілы эмацыянальнага ўдзейнічання на чытача, зніжаючы пазнавальную каштоўнасць верша.

## Нашы тэмы

Каб больш выраза ўявіць сабе ступень нашых дасягненняў і разам з тым больш выразна вызначыць прычыны і галоўныя пункты адставання паэзіі, з шматлікіх способаў аналізу багатага і рознастайнага творчага фонду я спыніўся на аналізе тэматычным.

Тэматычны аналіз дазволіць нам вызначыць—якія пытанні, якія бакі нашае рэчаіснасці прыцягвалі ўвагу паэтаў і якія аставаліся ў баку.

Бясспрэчна, што тэма інтэлігенцыі і яе лёс у рэволюцыі доўгі час знаходзіла водгук у творчасці вялікай групы буйных совецкіх паэтаў.

Гэта тэма, часткова выражаная ў «Улялаевщине», напаўняе і «Пушторг» і «Камандарм II» і большасць лірычных вершаў І. Сельвінскага. Яна часта ўзнікае ў творчасці Нікалая Тіханава. Эдуард Багрыцкі праносіць яе ад першых вершаў «Юго-Запада» да пасмертнай паэмы «Февраль». Яна ўваходзіць неадлучнай часткай у творчасць В. Лугаўскога, знаходзіць водгук у вершах Н. Асеева, займае першае месца ў лірыцы В. Інбер і іншых паэтаў.

Совецкая паэзія дае багаты пазнавальны матэрыял для высвятлення раскрытай у вобразах эволюцыі прадстаўнікоў інтэлігенцыі, пра яе месца ў рэволюцыі. Аднак, ярка раскрыўшы нутраны свет інтэлігента на пераломе, нашы паэты не паспелі за яго ростам. Партрэтаў інтэлігентаў, якія сталі неадлучнай часткай калектыва будаўнікоў соцыялізма, яшчэ няма ў нашай паэзіі.

Для раду паэтаў—П. Антакольскі В. Каменскі і інш.—шлях да асваення матэрыялу рэволюцыі ляжыць цераз работу над гістарычнымі тэмамі, пры вырашэнні якіх паэты шукалі адказу на пытанні, пастаўленыя ходам рэволюцыі.

Гаворачы пра асваенне паэзіяй матэрыялу рэволюцыі. мы не можам прайсці міма твораў пролетарскай паэзіі першых пасляkастрычніцкіх год. У нас звычайна пра пролетарскую паэзію першых год рэволюцыі ўсё ўяўленне звязваецца з «космапалітызмам» Кірылава, Герасімава і некаторых іншых паэтаў «Пралеткульта» і «Кузніцы». Варта прыгадаць, што сярод вершаў таго часу ёсць шмат глыбокалірычных твораў Палетаева. Казіна, Александроўскага, у якіх раскрыта ў надзвычай рэчавай і канкрэтнай форме самаадчуванне пролетарыята і гарадской беднаты, упершыню ў гісторыі ўзбагачанага самаадчуваннем новага гаспадара свету.

Паэзія наша дала багата твораў прысвечаных героіцы грамадзянскай вайны. Тэматыка і матэрыял баявога перыяду рэволюцыі былі і не перастаюць быць для пераважнай большасці паэтаў аб'ектам іх творчасці. Прыгадаем вершы совецкіх паэтаў, якія па праву належаць да залатога фонду маладой літаратуры соцыялізма: «Семен Проскоков» і песні Нікалая Асеева, «Улилаевщина» Сельвінскага, «Выря» і гераічная балада Тіханава, «Дума про Опанаса» Багрыцкага, лепшыя вершы М. Галоднага, М. Светлова, А. Пракоф'ева, В. Саянава. В. Лугаўскога, «Червона-казачы» вершы Д. Пятраўскага, і шмат іншых, хіба не народжаны яны гераічнай барацьбой за заваёвы Кастрычніка. Вялікія пачуцці баявой дружбы, адданасці справе сусветнай рэволюцыі, інтэрнацыянальнага братэрства і шалёнай нянавісці да прыгнятальнікаў, якія рушылі мільёны дарогай баёў і перамог, знайшлі магутны водгук у лепшых вершах совецкіх паэтаў. Гучны водгук знайшла ў нашай паэзіі бязмежная тэма моладзі ў рэволюцыі. Застрэльшчыкам гэтай тэмы быў А. Безыменскі, які супроцьпаставіў пафас будзённай будаўнічай героікі касмізму паэтаў «кузніцы». Следам за Безыменскім—Жараў, Галодны, Святлоў, Саянаў, Уткін. Алтаузен і інш.—кожны пасвойму паказалі ў вершах гістарычнае самаадчуванне маладога чалавека нашай эпохі ў агні грамадзянскай вайны і ў барацьбе з розрухам і голадам, падрыхтаваўшага сябе для гераічных спраў соцыялістычнай перабудовы свету.

Але чым бліжэй мы падыходзім да матэрыялу сёнешняга дня. тым вастрэй дае адчуваць сябе адставанне паэзіі ад росту краіны. Калі тэма інтэлігенцыі, калі героіка грамадзянскай вайны і моладзь у аднаўленчы перыяд увайшлі ў нашу паэзію кампактнымі цыкламі вялікіх удач, то выспяванне на глебе нашай краіны рэальных асноў соцыялізма адлюстравана значна слабей. «Выстрел» і «Трагедийная ночь» Безымескага, «Последняя ночь» Багрыцкага, «Большевикам пустыни и весны» Лугаўскога, «Юрга» Тіханава, «Умка—белый медведь» Сельвінскага, «Глубокая провинция» Святлова, «Мать» Дзяменцева, «Слава» Гусева і асобныя вершы іншых паэтаў—толькі часцінка ўдачы на подступах да агромністай тэмы росту новага чалавека, да тэмы, якая ляжыць перад намі непаднятай цалінай. Не тое каб паэты (асабліва моладзь) цураліся вялікіх тэм часу, не. Вер-

шаў напісана багата. Але ў іх тэмы толькі названы, зроблены толькі заяўкі.

Гераічная атмасфера гадоў, напоўненых работай па пабудове будынка соцыялізма дзейнічала на нашых паэтаў, калі яны працавалі над тэмамі мінулага. Невыпадкова, што ў паэме Карнілава «Трыполье», якая напісана ў гады ліквідацыі кулацтва, паяўляюцца ўпершыню на фоне грамадзянскай вайны звярыныя твары кулакоў. Гэты-ж адлюстраваны ўплыў вопыту класавых боек нашага часу ў вершах пра грамадзянскую вайну мы знаходзім у апошніх кнігах Галоднага, Уткіна, Пракоф'ева.

Вялікі час дыктуе паэтам спробы распрацоўкі манументальных вобразаў, твораў з шырокімі гістарычнымі абагульненнямі. Прыгадаем паэму Кірсанава «Золотой век» і «Таварыш Маркс», паэму Лугаўскога «Донгара». Польскі паэт Стандэ піша паэму «Сталін». Скончана ў апошнія, перадпленумаўскія дні Ільёй Сельвінскім паэма «Сталін».

Вялікія тэмы нараджэння соцыялізма засталі нас непадрыхтаванымі да ператварэння іх у манументальныя сістэматычныя вобразы. Азіраючыся на пройдзены шлях, мы можам цвёрда заявіць, што за 18 год (тэрмін у развіцці такога складанага ўчастка культуры, як мастацтва—невялікі!) паэзія мае не мала рэальных і бясспрэчных дасягненняў. Непамерна вышэй яна па глыбіні і ідэйнай насычанасці за змест усяго таго, што далі паэты ў перадкастрычніцкія гады. У творчасці лепшых сваіх майстроў (і ў першую чаргу Маякоўскага) яна нязмерна вышэй, свежэй, смялей і ў галіне формы. Калі нават параўноўваць сярэдні ўзровень дарэволюцыйнага верша з вершам совецкім, ва ўсёй масе напісанага нашымі паэтамі,—узровень нашых вершаў куды вышэйшы. Усё гэта бяспрэчныя факты і ўсё гэта супроцьстаіць агульнаму разважанню тав. Бухарына пра тое, што «жорсткая, некультурная правінцыя яшчэ пануе ў нас». Паэзія наша тэматычна не адстала ад прозы і драматургіі. Больш зрабіўшы ў пошуках новага стылю, тым не менш яна вельмі адстала ад тэмы нашага часу, ад настойлівых запросаў вялікага чытача нашае краіны. Тое, што мы ўзмужалі, што маем шматлікія творча-акрэсленыя кадры—прымушае на ўвесь голас гаварыць пра наша адставанне і прад'яўляць да сябе настойліва і няспынна самыя высокія запатрабаванні.

## Паэзія соцыялізма—народная паэзія

Каб быць на ўзроўні вялікіх гістарычных задач, паэзія павінна быць у авангардзе перадавога атрада чалавецтва, які расчышчае шлях да комунізма. Успомнім словы Маякоўскага:

> У нас паэт
> События берет,
> Опишет вчерашний гул,
> А надо
> Рваться
>   в завтра,
>   вперед,
>   Чтоб брюки
>   Трещали в шагу.

Гэтыя словы—напамінак пра нашы галоўныя недахопы і пра тое, дзе месца сапраўды совецкага паэта.

Вось што напісаў у адказ на мае прапановы аб плане даклада А. М. Горкі:

«Вы пішаце: «Час ужо гаварыць пра совецкую паэзію, як пра паэзію Саюза». Вядома, час! І больш таго: трэба гаварыць пра інтэрнацыянальнае значэнне нашай паэзіі і не толькі гаварыць, *а рабіць, рабіць*! У нас за 20 год знайшоўся, здаецца, адзін паэт, які зразумеў: «Гренада мая!» Але не знайшлося паэтаў, якія паказалі-б героіку кітайскай Чырвонай арміі, Вену, Антверпен і г. д. Не знайшлося ніводнага, у каго была-б сіла сцебануць сатырычным вершам шматлікіх фашысцкіх нягоднікаў. Страшэнна нікчэмныя сілы паэтаў нашых, халодныя вершыкі пішуць у нас...

Вы гаворыце пра цяжкасці «сумяшчэння прынцыпаў эстэтычных з момантамі палітычнай мэтазгоднасці». Дарагі Суркоў,—цяжкасці гэтыя не былі-б, калі-б мы адчувалі надзвычайнае хараство жыцця, якое апальвае душу, палкі ўзрыў жыццетворчасці ў нашым саюзе, ганебны трагізм становішча буржуазіі на Захадзе і ва ўсім свеце. Перад намі—немінучасць нападу ворага, перад намі небывалая па размаху вайна, якую арганізуе сволач усяго свету, вырадкі гісторыі, паразіты, каторым нельга адмовіць у іезуіцкай таленавітасці, назіраючы за іхнымі подлымі ўчынкамі, безчалавечнасцю, цынізмам. Матывы абароны не хвалююць паэтаў.

«Прынцыпы эстэтыкі» цудоўна зліваліся-б з «палітычнай мэтазгоднасцю», калі-б была ў нас рэволюцыйная нянавісць... Калі чалавек гаворыць шчыра, дык гэта бадай што заўсёды прыгожа, «эстэтычна». Адзін аднаго ненавідзець умеем — гэтаму навучыліся ў мяшчанства, а паглыбіць і пашырыць нянавісць на ўвесь свет варожы—нам не ўдаецца. У сучаснай паэзі музыкі нянавісці не чуваць».

Простыя, жорсткія словы. Можна спрачацца, што не адзін паэт зразумеў «Гренада моя», што не ўсіх паэтаў не хвалююць матывы абароны, але гэта прыватныя і непатрэбныя пярэчанні, бо сутнасць не ў прыватнасцях, а ў жорсткай праўдзе галоўнага. Сутнасць справы ў тым, што буйнейшы мастак нашага часу, які надзвычай далёка бачыць, і шмат патрабуе, гэты чалавек напамінае нам пра небяспечнасць заспакоенасці, напамінае пра тое, што з вышкі нашага вялікага часу, усё, што мы робім, мае выгляд дробнага, што заўзята з усёй сілы таленту рвацца наперад і вышэй. Гэты ліст—напамінак нам пра тое, што мы—маладая паэзія, паэзія ў дарозе, што нам трэба азірацца на пройдзены шлях не для падагульнення благадушных юбілейных балансаў, а для таго, каб яшчэ больш наглядна бачыць розніцу паміж «сущим и искомым».

Паэзія павінна перадаць у мастацкіх вобразах дзівосны працэс выспявання новай социялістычнай асобы ў масавым чалавеку. Менавіта на рабоце, у гэтай складанейшай і адказнейшай галіне матэрыялу для выражэння якой няма ўзораў у паэзіі папярэднікаў. Наша паэзія будзе трымаць вялікі гістарычны экзамен. Дыяпазон гэтай генеральнай тэмы паэзі бязмежна шырокі. Гістарычныя рамкі яе пра-

сторныя. Сам характар яе мае на ўвазе, побач з вучобай у класікаў, смелае наватарства і настойлівую дапытлівасць.

Велізарны рост чытачоў паэзіі, пры выключнай стракатасці іхнага культурнага ўзроўню, павялічвае ролю савецкай паэзіі як выхаваўцы новага сацыялістычнага густу. На ўвесь рост паўстае пытанне аб штодзённай барацьбе за новую мастацкую якасць верша, за высокае майстэрства арганічнай суадпаведнасці выяўленчых сродкаў новаму зместу. У сваіх наватарскіх пошуках мы павінны памятаць, што адрыў ад чытача не менш небяспечны, чым падробка пад адсталы чытацкі густ. Сапраўдны савецкі паэт-наватар вядзе чытача наперад, не адрываючыся ад яго рэальных запросаў і паслядоўна і настойліва рэканструіруе і ўзбагачае яго мастацкі густ. Сапраўднае наватарства савецкай паэзіі—наватарства вялікай тэмы, пошукі новых магчымасцей выражэння вялікага зместу эпохі.

Эстэтычныя патрэбы часу маюць на ўвазе найвялікшую разнастайнасць тэматыкі, матэрыялаў, відаў і жандаў савецкай паэзіі.

Мы павінны вітаць цягу да вялікіх форм паэзіі, якая ўсё мацней і мацней відаць у апошнія гады. Самім характарам рэчаіснасці і гістарычнай шырнёй задач паэзіі вызначаецца развіццё эпічнага віду паэзіі. Цяга да эпасу ёсць сведчанне ўзмужання паэтаў. Пра гэтае-ж узмужанне сведчыць і цяга паэтаў да драматургічнай формы, якая дае магчымасць ствараць закончаныя вобразы, характары. І тое, і другое не звужае магчымасці лірыкі, а наадварот знаймуе магчымасці пераходу лірыкі на новую высокую ступень развіцця.

Цяга да народнасці ляжала заўсёды ў аснове творчых пошукаў лепшых савецкіх паэтаў. У вершах Маякоўскага, Дзем'яна Беднага, шэрагу твораў Сельвінскага «Проскаков» і песнях Асеева, «Думы про Опанаса» Багрыцкага—раскрываюцца элементы непасрэднага сваяцтва з рознымі элементамі вуснай народнай паэзіі. У апошнія гады Пракоф'еў, Карнілаў, Адаліс у «Кіраве», Галодны, Кірсанаў у «Золушке» сведчаць пра факт узмацнення ўплыву фальклору на творчасць савецкіх паэтаў. У сёнешніх умовах лозунг барацьбы за якасць паэзіі раскрываецца як лозунг барацьбы за нардную паэзію сацыялізма. Паэзія сацыялізма—паэзія сацыялістычнага народу. Гэтым рашуча адкідваецца ўсякая магчымасць расійска-славянафільскага ці народніцкага вытлумачэння характару народнасці. Сацыялістычная народнасць не аднаўленне стылю сыцінскага лубка, а таксама і не сляпое замкнёнае аднаўленне прыёмаў сялянскага фалькору ці стылізатарства аля Васька Буслаеў, ці аля Палех, не аднаўленне «расейшчыны», характэрнай для Рэмізава, Рукавішнікава, дарэвалюцыйнага Гарадзецкага, Клюева, Клычкова. Народнасць сацыялістычная, пры захаванні асаблівасцей нацыянальнай формы, грунтуецца на аснове інтэрнацыянальнага характару сацыялістычнай рэвалюцыі, і таму рамкі яе бязмежна шырокія. Барацьба за нарднасць паэзіі—барацьба з падборкай пад густ адсталых груп чытачоў, барацьба з узнаўленнем гатовых хрэстаматыйных стандартаў, за такі гранічны ўзровень мастацкай дасканаласці твору, калі ўсе кампаненты, вобразы дасягаюць такога натуральнага спалучэння, што форма перастае быць перашкодаю паміж паэтам і чытачом. Барацьба за народную паэзію, барацьба за вышэйшую мастацкую прастату, як вынік авалодвання са-

мымі складанымі прыёмамі майстэрства, у спалучэнні з выключна ясным разуменнем тэмы і ідэйнага задання.

Барацьба за народную паэзію соцыялізма найважнейшы момант авалодання метадам соцыялістычнага рэалізма. Адзінства метаду не знішчае, а наадварот вызначае самую шматкаляровую гаму стылявых адценняў паэзіі, бо вызначаючы аднолькавае разуменне і ацэнку падзей і з'яў, не дыктуе аднапінейнасці іхнага выражэння ў вобразе. Умоўнасці, якія выцякаюць з асаблівасці паэтычнага віду літаратурнае творчасці, не зніжаюць значнасці соцыялістычнага рэалізма для паэзіі, бо ў аснове яго ляжыць пачатак жыццёвай гістарычнай праўдзівасці вобраза, а не фатаграфічнае перадаванне жыцця. Супроцьстаўляючы эмпірычнаму «рэалізму на падножным карму», соцыялістычны рэалізм уключае ў сябе як арганічныя часткі цэлага—героіку, патэтыку, смелую накіраванасць наперад, большэвіцкае творчае ўздзейнічанне на факты рэчаіснасці.

## Што значыць быць „інжынерам чалавечых душ“

Высокая годнасць «інжынера чалавечых душ» не толькі дае вялікія правы, але накладае і вялікія абавязкі. Народнымі паэтамі соцыялізма будуць тыя, у каго непарыўна сувязь з совецкім народам, для каго гістарычныя мэты рабочага класа, інтарэсы краіны советаў ёсць мэта і змест творчасці. Гэтыя якасці зрабілі тое, што «Маякоўскі быў і астанецца лепшым, таленавіцейшым паэтам нашай эпохі». На гэтай аснове вырасла вялізарная папулярнасць у масах Дзям'яна Беднага. Гэтым абумоўлена папулярнасць у масах моладзі совецкай краіны—творчасць Безыменскага, ранняга Жарава, Галоднага, Святлова і іншых паэтаў комсамольцаў. Паняцце паэт і рэволюцыянер-палітык—непадзельны. Паэт не толькі з дакладнасцю дасканалага сейсмографа рэгіструе ўсе ваганні гістарычкай глебы, але і мае ў сабе якасці ператваральніка, які ўмее ў «сущим» бачыць парасткі будучага. Недахоп гэтых якасцей—галоўная прычына цяжкасцей нашага творчага шляху.

Наш побыт, наша асяроддзе, нашы ўнутраныя прафесіянальныя і грамадскія адносіны адстаюць ад новых форм грамадскіх адносін, што складваюцца ў краіне. Адмоўныя бакі сучаснага паэтычнага асяроддзя робіць жывучымі рамесніцкія ўяўленні пра паэзію, як «деланье вещей». Яны нараджваюць погляд на рэчаіснасць, як на нейкую нейтральную крыніцу тэматыкі і матэрыялу. З гэтага ўзнікае «лягушечья поэзия» роўнадушных, парочны тэматычны універсалізм і замена паэзіі версафікатарскай гульнёй у словы і тэмы.

Слабасць нашых паэтычных водгукаў на вялікія тэмы часу іншы раз лепш можна прасачыць па вершах некаторых пачынаючых паэтаў, якія друкуюцца ў шматтыражках. Вось адзін такі верш. Загаловак яго «Стаханавец»:

Он работает в рабочей блузе.
У него мозоли на руках.
Мастерству учился он не в вузе,
А в забое или на станках.

Он совецким новым инструментом
Овладев, отбойным молотком
Норму—на пяцьсот процентов
Выполняет сказочно легко.
Он разбил вредительские враки,
Что у нас, мол, брак необходим.
У него и двух процентов брака
Не найдет браковщик не один.
Он такой-же, как и был—рабочий,
Но живет теперь—гораздо веселей.
Получает в месяц, между прочим,
Даже больше тысячи рублей.
У него уютно и культурно,
Стол солфетой вышитой накрыт.
По углам стоят для сора урны,
На полу постелены ковры.
Вечерами, сидя на диване,
Он заводит новый патефон,
Или п'ет какао в ресторане,
Нарядившись в «джими» и бостон.
Он свою работу перестроил
И зажил куда как хорошо.
Словом, он, ударно, без простоев
К коммунизму ближе подошел. **(Апладысменты, смех).**

Гэта і смешна і сумна. У крывым люстры такога верша шмат хто з нас можа ўбачыць і свой твар. (Голас: правільна).

Як бачыце, праўду жыцця бачаць па рознаму. Ідэйна і мастацкі бездапаможнаму аўтару гэтага верша яна паказалася галімацьей мяшчанскага ідэала комунізма.

У нас ёсць багата маладых. Ад таго, наколькі правільна вырашым мы задачы іхнага творчага росту, будзе залежаць заўтрашні дзень паэзіі. Сярод маладых ёсць таленавітыя людзі. Па тэматыцы маладыя куды больш актуальныя, чым мы. Але закінутыя ў розныя куткі Саюза, гібеючы ў маркотнай атмасферы літаратурных гурткоў, шмат хто з маладых жорстка пакутуе ад неўмення знайсці правільны шлях росту, ад адсутнасці сувязі з майстрамі паэзіі, ад ідэйнай беднасці, адсутнасці культуры, адсутнасці навыкаў работы над словам.

Мы, багата гаворачы пра змену, мала робім для таго, каб яна шпарка і радасна расла. У нас ці захвальваюць маладых да «замарокі ад поспехаў» ці кідаюць іх на лёс часам тупых і некультурных рамеснікаў-кіраўнікоў гурткоў.

Багата шкоды прыносяць газеты, якія не толькі друкуюць «для заахвочвання талентаў» слабыя вершыкі, але і разбэшчваюць маладых шуміхай вакол «талентаў» у заводскім маштабе.

Не для пацехі, а каб паказаць яркі ўзор такой «апекі», я працытую адну вытрымку з заводскай шматтыражкі. На заводзе ёсць літаратурны гурток. Ёсць некалькі паэтаў, якія напісалі па два-тры вершы і ўжо друкуюць у газетах велізарныя падвалы: «Як я працую над вершамі» **(Смех).**

У адным з такіх падвалаў мы чытаем:

«Пры дрэннай абстаноўцы я іншы раз параўноўваю сябе з канём, які запрэжаны ў цяжкія калёсы *(смех)*. Конь цягнецца мордаю да вады, быццам піць хоча, а хапае доўгую траву што стаіць побач» і г. д. і г. д.

Чалавек метафаразуе, як метафаразуюць старэйшыя «братья-писатэли», што выдаюць брашуркі «Мой творчы вопыт пачынаючаму». А з тае прычыны, што ён менш пісьменны, у яго наогул нічога зразумець нельга.

Замест таго, каб вучыць маладых паэтаў пролетарскай скромнасці і любові да працы, да вучобы, рэдактары, якія ганарацца «магутным атрадам песняроў», рэгулярна друкуюць шаржы на сваіх пісьменнікаў, эпіграмы на іх-жа, доўгія і незразумелыя пахвальныя артыкулы «з партрэтам аўтара».

У такіх абставінах вельмі цяжка выхоўвацца, асабліва, калі няма з боку старэйшых таварышоў ніякага творчага кіраўніцтва. Старэйшыя паэты дрэнна звязаны з маладымі і дрэнна імі кіруюць.

Праз дрэнную творчую сувязь у нас часта бывае так, што людзі, перастаўшы быць рабочымі, не становяцца пісьменнікамі, застываючы на мёртвай кропцы рамесніцкай «сераднячыны».

У кожнай вобласці ёсць вялікія групы паэтаў, якія друкуюцца па восем-дзесяць год, але не выходзяць з рамак «абласнога маштабу».

Дзесяць год—даволі значны тэрмін для таго, каб вызначыцца ў літаратуры. І калі паэт так і астаецца «абласным», значыць ён ці мала таленавіты і яму трэба адыйсці, ці ён на якойсьці стадыі росту абарваў нітку нармальнага развіцця даравання. У гэтым вінаваты мы.

Мы прыдумвалі сотні выратавальных рэцэптаў работы з маладымі, але не выконвалі іх. Цяпер трэба не выдумваць, а дамовіцца раз на заўсёды пра тое, што рост маладых ляжыць на адказнасці кожнага кваліфікаванага паэта. Стаханаўцы, пашыраючы свой рух,— перадаюць свой вопыт таварышам. Давайце будзем стаханаўцамі і выхаваем баявыя рабочыя рэзервы паэзіі соцыялізма.

## Ад крытыкі рэгістратарскай да творчай крытыкі

Некалькі слоў пра крытыку. Пытанне набалелае, складанае. Назбіралася багата ўзаемных прэтэнзій і крыўд. Вельмі далёка зайшла ўзаемная адчужанасць. Якія-ж яе прычыны?

Крытыка ў нас да гэтага часу няважная. Часта людзі, якія спрабуюць стаць настаўнікамі мастацкага густу, стылем сваіх артыкулаў дэманструюць свай надзвычай дрэнны густ.

Ёсць, напрыклад, Катанян. Ён сістэматычна вылаўлівае стылістычныя пагрэшнасці ў кнігах, якія ён рэцэнзуе, а сам у артыкуле «Дневник происшествий». («30 дней» № 5 за 1935 г.) частуе такім стылем, які пераходзіць усе межы пародыі.

«Писатель, понятно, не может перепробовать всех професий, человека нехватит, не говоря об умении.

Но он может, отыскивая и охаживая... людзей с большим выменем свежего житейского опыта, трудолюбиво и прилежно доить их. Доить не покладая рук.»

Ці магчымы даверлівыя адносіны паэта да ацэнак такога крытыка? Слухаючы яго балбатню, паэт думае «Врачу, исцелися сам». І ён, урэшце, мае рацыю.

Другі грэх нашае крытыкі—імпрэсіянізм, густаўшчына. На дыскусіі, прысвечанай вынікам паэзіі ў 1934 г. Мірскі выставіў тэзіс пра тое, што не трэба мець цвёрдых прынцыпаў і сістэм ацэнак, бо ўсякая сістэма сціскае дыханне крытыцы. Тое, што адкрыта сказаў Мірскі, патаемна прапаведуюць і іншыя крытыкі.

Па волі свае экспансіўнае, уражлівае натуры, ён сістэматычна адкрывае «вядучых паэтаў», узводзіць спрэчныя з усіх пунктаў погляду імёны ў «сан найвялікшых паэтаў свету», хапаецца за ўсё і ўсюды блытае, асабліва шкодна яго работа адбіваецца на маладых. Надзяляючы творы маладых эпітэтамі «надзвычайныя», «дзівосныя», «цудоўныя», па двух надрукованых вершах, узводзячы яго ў ранг «зусім спелых майстроў», няправільна супроцьстаўляючы спрэчныя ў шмат якіх адносінах «поспехі» некаторых маладых — творчасці «дарослых» паэтаў, Мірскі робіць шкодную справу. Гэта трэба сказаць яму проста і адкрыта. І проста трэба склазаць яму, што сваімі артыкуламі пра паэтаў братніх нацыянальнасцей СССР ён дэзарыентуе і чытача і паэтаў.

А ў нас часта крытык цішком накладвае адну ацэнку на другую, забываючыся, што ў паэта і чытача ёсць памяць, што такая «накладка» адбівае павагу да крытыка.

Дзівіць бясстраснасць, асцярожнасць крытыкі. За апошні час артыкулы пішуць з «страхавымі абзацамі». Калі пахваляць, то абавязкова ўставіць абзац, у якім памянуць і загакы, каб у выпадку «прапрацоўкі» спасылацца на гэты абзац.

(Звяртаючыся да Мірскага).—Гэта не вас тычыцца.

(Мірскі—Гэта таксама да мяне адносіцца).

Гэта я не да вас адношу хоць і ў вашых артыкулах даволі супярэчлівых поглядаў.

Выпадковасць ацэнак выцякае з няўмельства крытыкаў браць паасобныя творы паэтаў у святле ўсяго іх творчага вопыту. Крытыкі навучыліся апісваць і аналізаваць змест твораў, але не спраўляюцца з сінтэтычным разглядам вобразаў, адзінства формы і зместу. Рэдкія экскурсіі ў гэту галіну часцей за ўсё канчаюцца наяўдачамі. Павучальны прыклад Я. Сяменава, які выступіў з сумбурным і вучнеўскі непісьменным артыкулам пра вершы Пастэрнака.

Усё гэта спрыяла памяншэнню ўдзельнае вагі ўплыву крытыкі на развіццё нашай паэзіі і прывяло да таго, што за апошнія гады усе вострыя пытанні эпікі верша паднімалі і абмяркоўвалі самі паэты бадай без удзелу крытыкаў. Далей так ісці не можа. Трэба ўзаемнымі сіламі паэтаў і крытыкаў зламаць такое становішча. Крытыка можа і павінна стаць **творчай**, раўнапраўнай удзельніцай барацьбы за народную паэзію соцыялізма. Агульнымі сіламі паэтаў і тэарэтыкаў трэба распачаць усебаковую распрацоўку пытанняў марксісцкай эстэтыкі, намеціць асновы новых крытэрый ацэнкі паэтычных твораў. Для таленавітага, кроўна зацікаўленага поспехамі паэзіі, крытыка адкрыта шырокае поле дзейнасці.

## Трымаць лірычны порах сухім

За 18 год свайго росту мы шмат што зразумелі і шмат чаму навучыліся. Не ўсе і не заўсёды мы выразна разумелі вялікія задачы, якія пастаўлены перад намі гераічнай эпохай пабудовы соцыялізма. Але любоў да соцыялістычнай радзімы, жаданне быць карыснымі справе барацьбы за соцыялізм, яднаді і яднаюць нас, паэтаў Совецкага Саюза, ў моцны і адзіны баявы атрад. Яшчэ да сёнешняга дня мы не заўсёды ў нашым штодзённым жыцці ўмеем адрозніць вялікія прынцыповыя пытанні ад дробных і прыватных. Але тады, калі ў нашы шэрагі траплялі людзі, варожыя і чужыя соцыялізму, мы агульнымі сіламі адсякалі іх рашуча і бязлітасна. Нам, людзям, якія вядуць новую лінію развіцця сусветнай паэзіі, патрэбна надзвычайная знітаванасць і маналітнасць радоў, аснованая на прынцыпах самай жорсткай самакрытыкі. І магутным, цэментуючым пачаткам у гэтай вялікай справе будзе агульная работа над аднолькава кроўнай для ўсіх тэмай абароны соцыялістычнай радзімы. Пра гэтую тэму напомніў нам А. М. Горкі, гаворачы пра пагрозу вайны. Усе мы, не гледзячы на розныя адценні поглядаў на паэзію, совецкія людзі. У той дзень, калі ўрад, калі партыя паклічуць народы Саюза на абарону рубяжоў нашае радзімы, Дзям'ян Бедны і Пастэрнак, Безыменскі і Тіханаў, Сельвінскі і Галодны, Святлоў і Янка Купала, Асееў і Тычына, Пракоф'еў і Чарэнц, Вургун і Гідаш, Лугаўской і Чыкавані—усе мы, паэты вялікай соцыялістычнай бацькаўшчыны сусветнага пролетарыята выйдзем на заклік у поўнай баявой гатоўнасці і будзем да апошняй кроплі крыві і штыком і вершам абараняць сваю дзівосную радзіму, радзіму нашае песні. Шмат хто з нас у агні грамадзянскай вайны загартавалі свой песенны дар. Хай жа тэма вялікай любові да радзімы, тэма вялікай нянавісці да ворагаў соцыялізма ў дзесяць разоў павялічвае імклівасць нашага маршу наперад да вышынь магутнай паэзіі соцыялізма, да народнай паэзіі соцыялізма, да паэзіі мільёнаў.

*А. Г. Сенчэнка*

## ПАЭЗІЯ СОВЕЦКАЙ УКРАІНЫ[1])

Першы ўсесаюзны з'езд пісьменнікаў падняў на вялікую вышыню дружбу літаратур народаў Совецкага Саюза. Паэты Масквы, Ленінграда, Украіны, Грузіі, Беларусі, Азербайджана, Арменії, Таджыкістана пасля сустрэчы ў сталіцы пабывалі ў брацкіх саюзных рэспубліках. Разгарнууся ажыўлены абмен творчым вопытам. Паэты вывучаюць і перакладаюць адзін аднаго, і пераклады лепшых узораў паэзіі братніх рэспублік становяцца дзейнаю сілаю жывога творчага працэсу.

Незабываемыя словы Аляксея Максімавіча пра дружбу і брацтва народаў, пра стварэнне песні, якая прагучэла-б у вяках. Гэта песня пра гераічныя справы людзей нашай краіны. Совецкая Украіна ўжо дала такіх людзей. Аляксей Стаханаў, Марыя Дземчанка, Пятро Крыванос, Паша Ангеліна апеяны ў песнях Украіны, чакаюць мастацкага адлюстравання ў разгорнутых эпічных творах вялікага гучання.

Гэтыя выдатныя людзі Украіны і ўсяго Совецкага Саюза, іх гістарычныя справы па-новаму паставілі шэраг карэнных пытанняў літаратуры.

Т. т. Касіор і Постышэў на красавіцкім пленуме Праўлення саюза пісьменнікаў Украіны паставілі перад совецкай літаратурай шэраг праблем, якія ляглі ў аснову ўсёй нашай работы. Тав. Постышэў у сваёй выключнай прамове гаварыў пра прынцыповасць пісьменнікаў у жыцці і творчасці, пра соцыялістычную праўду, пра высокую культуру і вялікае майстэрства.

Перад намі праблема стварэння вобраза чалавека нашага часу, раскрыццё новых яго пачуццяў. Над гэтым працуе ўвесь актыў нашай паэзіі.

### Пра класічную спадчыну Украінскай паэзіі

Украінская класічная паэзія робіць вялікі ўплыў на совецкую паэзію Украіны. Тут, перш за ўсё, трэба сказаць пра Шэўчэнку. Але зводзіць украінскую класічную паэзію да аднаго Шэўчэнкі, хоць і найвялікшага паэта XIX ст., было-б няправільна. Да Шэўчэнкі украінская літаратура мела такіх буйных мастакоў, як вядомы палеміст

[1]) Даклад зроблены на III пленуме праўлення саюза савецкіх пісьменнікаў СССР.

XVI—XVII ст. Іван Вішнеўскі, цікавы паэт-філосаф XVIII ст. Рыгор Скаварада, таленавіты паэт і драматург канца XVIII і пачатку XIX ст. Іван Катлярэўскі.

Вішнеўскі. Скаварада і шмат іншых пісалі на літаратурнай мове іх эпохі, у аснове якой была царкоўна-славянская мова з вялікай прымессю народна-украінскай мовы.

Поруч з гэтай духоўнай паэзіяй існавала яшчэ нізавая паэзія «Мандрованих дяків пиворивів», якую царкоўнікі лічылі за блюзнерства. Гэтая паэзія знізіла мову і стыль паэзіі духоўнай, унесла ў літаратуру бытавыя сюжэты так званага «вяртенного действа».

Выкарыстоўваючы матывы гэтай паэзіі і ўкраінскі фальклор, Іван Катлярэўскі стварыў паэму «Энеіда», паэму якая павярнула украінскую літаратуру да разгаворнай народнай мовы.

Блізкасць да народнай паэзіі і сюжэт, які дае шырокую карціну быта украінскай казацкай станіцы і мяшчанства XVIII ст., гавораць пра велізарную папулярнасць паэмы, не гледзячы на выяўленые ў ёй прыгонніцкія погляды.

У эпоху Катлярэўскага выступіла цэлая плеяда памешчыцкіх паэтаў—рамантыкаў: Леў Боравікоўскі, Металінскі (Магіла), Кастамараў і інш. Гэтыя паэты адлюстравалі ў сваіх элегічных вершах распад феадальна-прыгонніцкіх адносін і ўзнікненне адносін буржуазных.

З'яўленне Шэўчэнкі адразу падняло украінскую паэзію на нябывалую вышыню. Шэўчэнка выступіў як найвялікшы лірык велізарнага тэмперамента.

Хваля сялянскіх паўстанняў, якая ўздымалася тады, страсянула прыгонніцкі лад. Шэўчэнка, як паэт-трыбун у сваіх палкіх вершах, якія заклікалі да паўстання, стаў ідэйным натхніцелем узнімаўшагася прыгоннага сялянства.

Шэўчанка быў вялікім паэтам рэвалюцыйнай дэмакратыі. Чарнышэўскі і Дабралюбаў разумелі і цанілі велізарнае гістарычнае значэнне яго творчасці. У 60-70-х гадах Шэўчэнка карыстаўся вялічэзнай папулярнасцю сярод рэвалюцыйнай дэмакратыі. Яго імя ставілася побач з імем Пушкіна. У 70-х гадах у Лейпцыгу з'явілася ананімнае выданне выбраных рэвалюцыйных вершаў Пушкіна і Шэўчэнкі ў адной кнізе.

Уплыў Шэўчэнкі адчуваўся (і да гэтага часу адчуваецца) у украінскай, рускай, беларускай, яўрэйскай, польскай, грузінскай, армянскай, чэшскай, балгарскай і іншых літаратурах.

Вырастаючы сам з вуснай народнай творчасці, з народнай украінскай песні, ён стварыў новую літаратурную мову, узбагаціўшы ўкраінскую паэзію дасягненнямі сусветнай паэтычнай культуры.

Але гісторыя украінскай паэзіі XIX ст. не вычэрпваецца адным Шэўчэнкам. Перыяд 60—90-х гадоў вядомы вялікім уздымам украінскай паэзіі. Даволі сказаць пра такія імёны, як Рыбаў, Шчэгалеў, Манджура, Старыцкі, Куліш, Федзьковіч. Аднак творчасць гэтых паэтаў, якія не выходзілі з рамак памешчыцка-ліберальнай літаратуры, не магла ўзняцца да ўзроўню Шэўчэнкі.

Лепшым прадаўжальнікам традыцый Шэўчэнкі ў украінскай паэ-

зіі быў рэвалюцыйна-дэмакратычны паэт Паўло Грабоўскі, замучаны ў сібірскай ссылцы. Грабоўскі стараўся ў сваёй творчасці, у сваіх перакладах з Гейне, Гервеге, Гуда, Фрэйліграта, Веерта, Пецефі, Бараташвілі і іншых звязаць традыцыі Шэўчэнкі з рэвалюцыйна-дэмакратычнай традыцыяй рускай і заходне-еўрапейскай паэзіі.

Але асаблівай увагі заслугоўвае творчасць буйнейшых паэтаў канца XIX і пачатку XX ст.: Івана Франко і Лесі Украінкі.

Распрацоўваючы спрошчаную і звужаную ліберальнымі паэтамі 60—80-х гадоў народна-песенную традыцыю, Франко смела ўводзіў у украінскую паэзію самыя разнастайныя страфічныя формы (сакет, тэрціна, актава). Акрамя таго ён пераклаў на украінскую мову лепшыя ўзоры рускай, нямецкай, французкай, італьянскай, англійскай і польскай класічнай паэзіі.

Леся Украінка, якую Франко называў сваёй «донькай» (дачкою) і адзінай жанчынай сярод украінскіх паэтаў унесла ў украінскую паэзію і своеасабліва распрацавала «вандроўныя сюжэты» сусветнай класічнай літаратуры (Праметэй, Дон-Жуан, Ізольда, Касандра, Іуда і інш.).

У сваёй творчасці Леся Украінка выступіла супроць хрысціянства («У катакомбах», «У пушчы», «На полі крыві»). Яна супроцьстаўляе хрысціянскім вобразам вобраз Праметэя, які праходзіць праз усе этапы яе творчасці. Яна ўзбагаціла украінскую паэзію вопытам еўрапейскіх літаратур і ўпершыню распрацаванымі жанрамі народнай творчасці не толькі песень, але казак і легенд.

Уплыў Лесі Украінкі на украінскую совецкую паэзію бяссправчны. Яна бяссправчна з'яўляецца вялікім паэтам, што заключае развіццё класічнай украінскай паэзіі XIX ст. Паэты-модэрністы, якія выступілі пасля яе, ні ў якай меры не могуць быць нават параўноўваемы з Лесяй Украінкай ні сілаю таленту, ні культурай.

Украінскія мадэрністы-дэкадэнты 900-х гадоў (Олесь, Вараны, Чупрынка, Філянскі і інш.) творчасцю сваёю паказвалі канчатковы распад буржуазнай літаратуры, якая ператварылася ў руках украінскіх нацыяналістаў у зброю контррэвалюцыйнай барацьбы супроць рабочага руху і пролетарскай рэвалюцыі.

## Фарміраванне совецкай паэзіі на Украіне

Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя абудзіла творчыя сілы працоўнага народу. Нарадзіліся народныя песні барацьбы, якія клічуць да перамог і ўрачыстасць соцыялістычнай рэвалюцыі.

Першым запявалай гэтай песні былі варашылаўскія, шчорсаўскія партызанскія атрады і чырвонаармейскія газеты. Вялікі ўплыў на развіццё маладой совецкай паэзіі на Украіне пачаў рабіць тады ўжо Дзем'ян Бедны.

Украінская совецкая літаратура пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)У разграміла розныя буржуазна-нацыяналістычныя фашысцкія літаратурныя групы—«Ваплітэ», «Пролетфронт», «Авангард» і так-званую—«нэакласікаў». Асабліва вялікая тут заслуга пролетарскіх літаратурных арганізацый «ВУСППА» і «Маладняка».

У гэтай барацьбе раслі і мацнелі совецкія пісьменнікі Украіны.

Украінскія совецкія паэты свядома паўставалі супроць архаічных форм у паэзіі. Культывуецца баявая эпіграма, байка, балада, інтанацыйны верш, які ідзе ад Маякоўскага і песенны, які ідзе ад Дзем'яна Беднага.

Маякоўскі зрабіў велізарнейшы ўплыў на ўвесь працэс развіцця ўкраінскай совецкай паэзіі.

Вялікія змены адбываюцца ў мове і ва ўсіх выяўленчых сродках паэзіі. Совецкая паэзія цячэ у фарватары народнасці. Яна высока эмацыянальная. У пачатковым перыядзе ёй уласцівы агітацыйны пафас, лазунговасць, гратэск, сатырычная інтанацыя.

У працэсе далейшага развіцця украінская совецкая паэзія паступова перамагала рэшткі абстрактнасці і сімвалізму і падыходзіла да рэалістычнага паказу працоўнай героікі.

Гэта былі першыя этапы барацьбы за вялікую літаратуру, за народную паэзію соцыялізма.

Працягваючы песенныя традыцыі, украінская совецкая паэзія апявае героіку комсамола, адлюстроўвае пафас новай соцыялістычнай будоўлі.

Пад уплывам перамог соцыялізма сталі рашуча пераходзіць на пазіцыі совецкай літаратуры Бажан і Рыльскі.

Украінская совецкая паэзія ўсё больш упэўнена паказвае велічнасць і багацце нашай соцыялістычнай радзімы, радасць і творчасць соцыялістычнай працы, новыя чалавечыя адносіны і рост новых людзей—стаханаўцаў. Аднак, гэта толькі першыя крокі. Яна адстае яшчэ ад тых запатрабаванняў, якія высоўвае наша эпоха.

Тут я хачу адзначыць выключную ролю, якую адыграла «Праўда». «Праўда» паставіла шэраг творчых пытанняў у галіне літаратуры і мастацтва. Гэта безумоўна адыграе вялікую ролю ў справе далейшага росквіту нашае літаратуры.

Апошні год у украінскай літаратуры характарызуецца значным пераломам і вялікім уздымам. Аднадушная думка ўсіх украінскіх пісьменнікаў, што, бадай, не было яшчэ такога творчага году ў развіцці ўкраінскай літаратуры, як апошні 1935 год.

Пра гэта сведчыць «Платон Крэчэт» Карнійчука, «Коннікі» Яноўскага, вершы Тычыны, Первомайскага, Рыльскага, Фефера, Ушакова, Квітко, Бажана, Гофштэйна, Гарадскога, Усечкі.

## Украінская совецкая паэзія

Пяройдзем да аналізу творчасці лепшых паэтаў Совецкай Украіны. Перш за ўсё пра народнасць совецкай паэзіі. У гэтай сувязі патрэбна спыніцца на творчасці аднаго з самых лепшых паэтаў Украіны—Паўло Грыгоравіча Тычыны.

Народнасцю прасякнута паэзія Паўло Тычыны. Яна глыбокімі карэннямі звязана з жывым фальклорам, яна варочаецца да народу вялікай літаратурай і, як песня, падхопленая народам, уліваецца ў жывы паток совецкай паэзіі.

На ўсіх этапах паэтычнага шляху Тычыну суправаджае вялікая своеасаблівасць. Першая кніга Тычыны «Сонечныя кларнеты» адчыняе зусім невядомы ўкраінскай дарэвалюцыйнай паэзіі новы свет вобразаў, пачуццяў і настрояў, новае паэтычнае разуменне рэчаіснасці.

Тычына не адразу прыйшоў да ўспрыняцця і сцверджання рэвалюцыі. Ён уваходзіў у рэвалюцыю з роздумам і, гэты этап паэт з вялікай мастацкай сілай адлюстраваў у сваёй кніжцы «Плуг». У рэвалюцыі, якая падымае мільённыя масы ў гіганцкім творчым парыве, паэт убачыў «красу новага дня».

Кніга «Замест санетаў і актаў», якая выйшла ўслед за «Плугам», сведчыць пра тое, як складана і супярэчліва перажываў паэт рэвалюцыйныя падзеі.

У кнізе «Вецер з Украіны» ўсе сумненні Тычыны зняты. Рэвалюцыя кожным сваім этапам раскрывала паэту велізарны творчы свет. З хвалюючай шчырасцю і глыбокім пафасам апявае Тычына рэвалюцыю, яе гераічных людзей. У гэтай тэме ён яшчэ больш паглыбляе сваю сувязь з народам, становячыся сапраўдным народным паэтам. Свет рэвалюцыі для Тычыны—гэта свет, які ўсё ахоплівае і ўсё напаўняе.

Гэты свет падымаецца ў адчувальных канкрэтных формах: ідуць з песнямі заводы, ідуць абняўшыся людзі, цякуць паўнаводныя рэкі. Да гэтага свету цягнуцца ўсе абяздоленыя з велізарнай прагаю і палкасцю. У гэтым Тычына знайшоў вышэйшую гармонію і вышэйшую праўду пролетарскай рэвалюцыі.

Пра выключна вялікі уздым Тычыны сведчыць яго апошні зборнік «Партыя вядзе». Зборнік вышаў у 1932 г., у перыяд самай жорсткай класавай барацьбы на Украіне, калі ўсе контррэвалюцыйныя нацыяналістычныя элементы шалёна актывізаваліся. Тычына глыбока асэнсаваў вялікую ролю партыі. У гэтым-жа зборніку паэт даў вялікае рэалістычнае адлюстраванне «красы новага дня»—новага чалавека. Яго песні пра Чырвоную армію, комсамол, трактарыстку шырока папулярны на Украіне і ва ўсім Саюзе.

Тычына майстэрскі трансфарміруе народна-песенную паэзію на матэрыялах соцыяльных і філасофскіх праблем сучаснасці і стварае рознастайныя жанры: думы, песні, сатыры, гераічныя паэмы і г. д. Гэта робіць яго творчасць народнай у сапраўдным значэнні гэтага слова.

Тычына прайшоў не лёгкі шлях ідэйнага росту. Шлях перамагання дробна-буржуазнай свядомасці стаў для яго шляхам шырокага асваення паэтычнай культуры. Паэт арганічна ўспрыняў лепшыя дасягненні рускай і сусветнай паэтычнай культуры. Ён нястомны ў пошуках творчага ўзбагачэння. Поруч з еўрапейскімі мовамі ён вывучае мовы нацыянальнасцей нашага Саюза, ён перакладае на украінскую мову лепшых паэтаў народаў Совецкага Саюза і наладжвае з ім сапраўдныя інтэрнацыянальныя сувязі.

Тычына па меры свайго ідэйнага росту перамагае імпрэсіяністскую ўскладнёнасць, уласцівую ранняму перыяду яго творчасці. Яго стыль набывае рэалістычную канкрэтнасць і дакладнасць.

Музыка пранізвае ўсю творчасць Тычыны. Гэта ўжо не музыка наглядальнасці і супакоенасці, а музыка мужнасці і барацьбы.

Гэта збліжае Тычыну з грузінскім паэтам Галакціонам Табідзе. У свой час гэтыя паэты адчувалі на сабе ўплыў ранняга Блока.

Творчасць Тычыны ў совецкай паэзіі Украіны адыгрывае велізарную ролю. Ён узняў на высокі ўзровень культуру паэтычнай мовы, ён стварыў выключна яркія рытмічныя і эўфанічныя формы, складанейшыя страфічныя пабудовы, выключныя нутраныя рыфмы. Яркасць і багацце выяўленчых сродкаў у Тычыны заўсёды падначалены раскрыццю вялікіх думак і пачуццяў. Тычына ўсё больш і больш прыцягвае да сябе ўвагу паэтаў Совецкага Саюза. Яго творы перакладзены як на замежныя мовы, так і на мовы народаў Совецкага Саюза.

У сувязі з творчасцю П. Тычыны паўстае пытанне пра раскрыццё вобразаў людзей партыі паэтамі, якія прайшлі складаны ідэйна-творчы шлях. П. Тычына ўсвядоміў тэму партыі, як сваю лірычную тэму. Гэтыя творчыя пошукі П. Тычыны блізкія шэрагу паэтаў Совецкага Саюза.

Імкненне да народнасці характэрна таксама для таленавітага пісьменніка Л. Первомайскага. Асноўнае ў яго творчасці—пошукі геранічнага. Паэт працуе над геранічнай лірыкай і эпасам.

Первомайскі належыць да пакалення паэтаў, якіх узрасціў ленінскі комсамол. Выступаючы ў літаратуры з першых год аднаўленчага перыяду, Первомайскі ў сваёй рабоце аддаў даніну розным жанрам—лірыцы, эпасу і драме ў вершах.

У першым перыядзе творчасці Первомайскага пераважала тэматыка грамадзянскай вайны (паэма «Трыпольская трагедыя»). Вядучай ідэі паэмы была падначалена стылістычная разнастайнасць паэмы: у паэме сустракаюцца інтэрнацыянальныя аратарскія прыёмы і наяўна адчувальна традыцыя паэтыкі Шэўчэнкі.

Для больш позняга перыяду творчасці Первомайскага характэрны цыкл «геранічных балад», у асаблівасці «Пралог і горад». У гэтым цыкле, прысвечаным падарожжу паэта на Памір, зроблена спроба паказаць вялікі характар нашай эпохі, паказаць чалавека—гаспадара жыцця і гаспадара прыроды. У выяўленчых сродках Первомайскі дасягае тут надзвычай яркасці і сакавітасці. У апошні перыяд сваёй творчасці Первомайскі паглыбляе рэалістычныя элементы ў сваім творчым метадзе. Паэт шчыльна падыходзіць да паказу геранічных людзей нашага часу.

Складаныя пошукі вялікага філасофскага жанра характэрны для ўсяго творчага шляху Міколы Бажана.

Паэтычная работа Бажана пачалася ў 1924 г. зборнікам балад («Семнаццаты патруль») блізкіх да балад Тіханава. Тэма балад Бажана—грамадзянская вайна. Геранічныя вобразы людзей, эпізоды класавай барацьбы пададзены Бажанам у плане прыўзнятай, некалькі абстрактнай рамантыкі, звычайнай для многіх паэтаў тае пары. Але неўзабаве Бажан трапляе ў паласу ідэйных хістанняў і творчага крызіса. На гэтым этапе надзвычайна рэзка агаляюцца супярэч-

насці ў творчасці Бажана, абцяжаранага вялікім грузам індывідуалістычнай культуры, а галоўнае нацыяналістычных настрояў, ад якіх не вызваліўся паэт. Бажан адыходзіць ад рэволюцыйнай тэмы і ад рэчаіснасці. Асабліва рэзка адбілася гэта на другой кнізе Бажана «Різьблена тінь». Паэт ідэалізуе украінскую старыну і супроцьстаўляе яе рэальнай рэчаіснасці. Яго мова робіцца кніжнай і няжыццёвай. Свет скажаецца ў яго цяжкім хваравітым вобразам («Гофманава ноч». «Гетто ў Умані», «Слепцы»).

Выхаду Бажана з крызіса садзейнічалі росквіт соцыялістычнага будаўніцтва на Украіне і выключна клапатлівыя адносіны партыі да паэта. З свайго боку паэт рашуча імкнуўся выйсці на шлях рэволюцыі і навучыцца нянавісці і любові ў рабочага класа.

У цікавай філасофскай паэме «Лік» Бажан зрабіў спробу даць вобраз пяцігодкі. Паэма гэта была вехаю на шляху паэта да нашай рэчаіснасці. Аднак вялікая мастацкая сіла не вызваляе філасофскія пошукі Бажана ад некаторай схаластычнасці.

У паэмах «Пасляслоўе» і «Трылогія страсцей» Бажан наносіць сакрушальны ўдар галетызму і ўсяму ладу капіталістычных пачуццяў. Паэт бачыць сваю будучыню толькі ў шэрагах пролетарыята, які навучыць яго і «глядзець ворагу ў вочы і страляць яму ў лоб».

У «Трылогіі страсцей» Бажан прыводзіць вынікі свету страшных пачуццяў, ствараемых капіталізмам, які раз'ядае яго сэрца.

Пасля разрыву з старым светам Бажан стаў на шлях поўнацэннай совецкай творчасці. Новая, яшчэ не скончаная паэма «Ноч перад боем», верш «І сцяг, і сонца, і вецер»—вялікі творчы крок наперад. У паэме пра Кірава ён стварыў вобраз правадыра, лірычны, цёплы і пераканальны. Перад паэтам расчыніўся шырокі свет класавай барацьбы і творчай думкі.

Верш Бажана робіцца прасцейшым, ён ачышчаецца ад кніжнасці, залішняга псіхалагізма абстрактнасці вобразаў і апісальнасці.

Бажан—паэт думкі. На яго паэтычную культуру добра ўплывалі Тычына, Верхарн і часткова Маякоўскі.

Зараз паэт уваходзіць у паласу сапраўднага творчага росквіту. Ён працуе над перакладам грузінскіх класікаў: Шота Руставелі, Важа Пшавела і лепшых сучасных паэтаў Грузіі—Галакціона Табідзе, Тіцыяна Табідзе, Сімона Чыкавані, Паўло Яшвілі, Валерыяна Гапрындашвілі.

Рыльскі ў мінулым быў адным з буйнейшых прадстаўнікоў плыні, якая зусім адмовілася ад дэмакратычных традыцый класічнай украінскай паэзіі. Пасля Кастрычніцкай рэволюцыі творчасць Рыльскага выкарыстоўваецца нашымі ворагамі ў барацьбе супроць пролетарскай культуры. Пра гэта асабліва яскрава сведчыць удзел Рыльскага ў групе так-званых «неокласікаў».

Сапраўдны мастак, Рыльскі знайшоў сваё месца толькі ў шэрагах совецкіх пісьменнікаў. У сваёй паэме «Марына» Рыльскі ўпершыню выступае супроць старой эстэтыкі і знаходзіць шлях да сапраўдных традыцый Шэўчэнкі. «Марына»—вялікая гістарычная паэма, якая паказвае перыяд прыгоннніцтва на Украіне ў першай палове XIX ст.

У галіне культуры верша Рыльскі занадта строга прытрымлі-

ваецца кананічных узораў. У яго мове яшчэ шмат непераможнай архаікі. Усе гэтыя недахопы і дадатныя бакі паэтыкі Рыльскага захоўваюцца і ў яго цікавым цыкле вершаў пра сталіцу Украіны («Кіеў»), якія паказваюць абноўлены рэвалюцыяй старажытны горад.

Рыльскі вядомы перакладамі французкіх класікаў, «Пана Тадэуша» Міцкевіча, Пушкіна.

Мы чакаем ад М. Рыльскага больш глыбокага лірычнага адлюстравання нашай рэчаіснасці.

Творчасць аднаго з старэйшых пролетарскіх паэтаў Івана Куліка адзначалася заўсёды партыйнай завостранасцю і палітычнай актуальнасцю. Ужо ў часопісах 1919 г., у атмасферы гніючай буржуазнай паэзіі прагучэў упэўнены голас паэта. Бальшэвіцкую партыйнасць Кулік заўсёды спалучаў з рэалістычнымі тэндэнцыямі і своеасаблівым выкарыстоўваннем фалькдору («Чорная эпапея», «Карачай», «Песні пра Шчорса»).

Кулік—паэт, які валодае многімі жанрамі. Аднак і на сёнешні дзень у яго творчасці неперажаны некаторая сухасць і рацыяналістычнасць. Апошняя паэмы Куліка «Софіеўка» задумана як шырокае палатно і абяцае быць цікавай. Варта адзначыць работу Куліка па перакладу лепшых узораў амерыканскай паэзіі і паэзіі братніх рэспублік Совецкага Саюза.

Ленінскі комсамол выхаваў атрад маладых паэтаў украінскай совецкай паэзіі. Высока падымаючы сцяг аптымізма і б'ючы ўпадкіцтва, гэтыя паэты зрабілі шмат у барацьбе супроць украінскага нацыяналізма і яго прадстаўнікоў у паэзіі.

Яскравым выразнікам пачуццяў і думак комсамольцаў з'яўляецца Паўло Усенка. Яго кніга «КСМ» (1925 г.) была адной з першых значных з'яў маладой пролетарскай паэзіі. У сваіх вершах Усенка дае вобраз комсамольцаў, паказвае нараджэнне соцыялістычкага горада і новай вёскі.

Усенка імкнецца да выключнай паэтычнай дакладнасці, канкрэтнасці і прастаты. Яго асноўны жанр—песня. Ужо ў сваіх ранніх вершах ён вучыцца ў Д. Беднага і пераклікаецца з выдатным беларускім комсамольскім паэтам Андрэям Александровічам. У другой сваёй кнізе Усенка, побач з песнямі, спрабуе на матэрыяле грамадзянскай вайны стварыць лірыка-эпічнае палатно («Адступленне»). У сваіх апошніх вершах Усенка працуе над вобразам перадавых жанчын нашай краіны («Лімарына»), над вобразамі камандзіраў Чырвонай арміі («Песня пра Якіра»). Яго лепшы верш «Прыкардонная»—верш пра пільнасць, пра радзіму, пра слаўны шлях пагранічнікаў. У яго кнігах ёсць сапраўдная партыйнасць большэвіка, імкненне наблізіць свае вершы да разумення шырокіх мас. Лепшыя яго вершы пабудаваны на ўмелым выкарыстанні народных песень.

Владзімір Сасюра пачаў пісаць у эпоху ваеннага комунізма. Ад першых вершаў, напісаных у духу абстрактнага касмізма, «Кузніцы», ён перайшоў да рэальных вобразаў грамадзянскай вайны. Паэма «Чырвоная зіма», адна з найбольш поўнацэнных рэчаў Сасюры—лепшы твор украінскай совецкай паэзіі перыяду ваеннага комунізма.

У наступныя гады Сасюра напісаў шмат каштоўных твораў («Чырвоная Армія», «Песня пра Якіра»). Асабліва значная яго паэма «Відповід» (адказ украінскаму фашысту-эмігранту Маланюку).

Сасюра пераважна лірычны паэт. Галоўная яго вартасць—музычны, лёгкі, меладычны верш, узбагачаны свежымі, арыгінальнымі метафарамі. Ён унёс у украінскую паэтычную мову свежы струмень лексікі рабочага пасёлка,—жывую разгаворную мову.

Сасюра перабыў доўгі перыяд хістанняў, сур'ёзны творчы крызіс. Пра гэта сведчыць вялікая колькасць упадніцкіх і нацыяналістычных вершаў. Апошнія гады былі для Сасюры гадамі перамагання крызісу. Яго новыя вершы, якія з'явіліся ў гэтым годзе, гавораць пра сурёзнасць і арганічнасць гэтага працэсу. Сасюра піша пра сваю другую маладосць, пра радасць социялістычнай працы, пра свой гонар быць паэтам новага прыгожага свету.

Галаваніўскі—адзін з здольных паэтаў комсамола, ён шмат працуе над паэтычнай тэхнікай. Да нядаўняга часу яго рэчы хварэлі на дэкларацыйнасць і абстрактнасць. Апошняя яго кніга «Сустрэчы Марылі»—паказчык вялікага росту паэта. Яго асноўная тэма— маладосць. Вось чаму грамадзянская вайна і яго гераічны вопыт нараджае ў Галаваніўскага шэраг усхвалёваных вершаў. Галаваніўскі—рамантык. У яго свежы, чысты, лірычны голас. Пра гэта сведчыць яго паэма пра Сталіна «Свет спявае правадыра» і шэраг лірычных вершаў.

Мікола Тэрэшчанка прайшоў вялікі шлях: ад сімвалізма праз футурыстычны ўплыў рэалізма. Яго гераічная белада «Цень-цянь» пра кітайскага кулі, які загінуў у бойцы арсенальцаў за совецкі Кіеў, і «Нянавісць»—вершы пра партыйную пільнасць, карыстаюцца вялікай папулярнасцю. У надрукаваных главах вялікага твору «Гісторыя працуе» Тэрэшчанка спрабуе даць шырокую карціну поўнага краху буржуазнай культуры. Паэт шмат працуе таксама над перакладамі з Верхарна і іншых французкіх паэтаў.

У апошні час актывізаваліся як паэты Міхаіл Далекта і Міхаіл Семенка. Комсамольскія паэты С. Кржыжаноўскі і М. Шарамет далі шэраг твораў на абаронную тэму.

## Маладыя паэты

Некалькі слоў пра нашых маладых паэтаў. З маладых растучых паэтаў трэба адзначыць Ігара Муратава і Івана Выргана.

Першыя зборнікі вершаў Муратава «Комсографія» і «Гібель сіняй птушкі» паказалі ўменне паэта адлюстроўваць вытворчыя працэсы і паказваць лепшых людзей вытворчасці.

Раннім вершам Муратава былі ўласцівы схематызм, няўважлівыя адносіны да мовы і няўдалыя рытмічныя эксперыменты. Новыя творы Муратава «Аповесць у вершах», «Цяжкі прагон» і асабліва паэма «Зялёныя зязюлі» сведчаць пра значны рост паэта.

Іван Вырган—адзін з найбольш эмацыянальных паэтаў. У яго кнізе «Сад дружбы» ёсць шмат удалых вершаў пра мацярынства,

пра дружбу, пра юнакоў і дзяўчат нашай краіны, пра новыя адносіны да працы, да жыцця, пра нашу сілу, пра магутнасць Чырвонай арміі. Сваімі карэннямі вершы Івана Выргана ідуць у тое лепшае, што нараджае калгасная вёска. Выргaн арганічна звязан з народнай песняй фальклорам.

Але паэт толькі пачаў расці. Выргaн і іншыя маладыя лірыкі павінны пашыраць свой кругавід, перамагаючы абмежаванасць і аднастайнасць вобразнай і лексічнай сістэмы. Гэтая задача барацьбы за авалоданне паэтычнай культурай, глыбокае вывучэнне нашай савецкай рэчаіснасці стаіць і перад такімі маладымі растучымі паэтамі, як Е. Фомін, М. Булатовіч, А. Малышко, К. Гарасіменка, А. Міхайлюк, А. Копштэйн, М. Нагнібеда, В. Собка, М. Упенік, Г. Плоткін, П. Дарожко, М. Рудзь.

Перад намі, перад нашай крытыкай важнейшая задача—канкрэтная дапамога кожнаму з гэтых маладых паэтаў.

Якія важнейшыя вывады трэба зрабіць з гэтага аналізу творчай работы украінскіх паэтаў? Першы вывад: украінскі паэтычны фронт характарызуецца кансалідацыяй лепшых паэтычных сіл на платформе савецкай улады і соцыялістычнага будаўніцтва. Мы да канца перамагаем рэцыдывы нацыяналістычных і другіх варожых праяў у творчасці асобых паэтаў.

Другі вывад: за апошні год у працы паэтаў Украіны назіраецца выключны творчы ўздым. Мы ўжо ўступілі на шлях перамагання адставання паэзіі ад запатрабаванняў эпохі.

Трэці вывад: творчыя намаганні паэтаў накіраваны на рэалізацыю ўказанняў т. П. П. Постышэва, якія ён даў у сваёй прамове і ў гутарках з паэтамі. У цэнтры гэтай творчай работы—стварэнне манументальных эпічных твораў, якія паказваюць веліч нашай эпохі і барацьбы, і раскрыццё ў паэтычных творах пачуццяў новага чалавека.

## Яўрэйская савецкая паэзія на Украіне

Характэрнымі рысамі старой яўрэйскай паэзіі быў бяссільны адчай, горкасная іронія. Матывы суму з яўрэйскай літаратуры траплялі ў творчасць найвялікшых паэтаў свету. Успомнім так-званыя яўрэйскія матывы ў Байрана, Гётэ, Лермантава, Шэўчэнкі і шмат іншых. Украіна заўсёды была буйнейшым цэнтрам яўрэйскай літаратуры. Тут развіваліся такія буйныя дарэволюцыйныя пісьменнікі, як Мендэле Мойхер-Сфорым, Бялік, Шолам-Алейхем.

Дарэволюцыйныя яўрэйскія паэты пры ўсім сваім таленце хварэлі ідэйнай і тэматычнай абмежаванасцю. Лепшыя чалавечыя пачуцці і нават успрыняцце прыроды былі скажоны ў іх цёмнымі ўражаннямі местачковага побыту.

Савецкая яўрэйская паэзія супроцьставіла шолам-алейхемаўскім «людзям паветра» людзей здаровай фізічнай працы. Яўрэйская паэзія ўздыхнула поўнымі грудзмі, гаворыць на ўвесь голас і яе па праву можна лічыць адной з найбольш багатых паэзій нашага Саюза.

Яўрэйская совецкая паэзія на Украіне калічвае ў сваіх шэрагах такіх майстраў яўрэйскай паэзіі, як Фефер, Гофштэйн, Квітко, вядомых не толькі ў Совецкім Саюзе, але і за межамі яго. Іх творчасць звязана з соцыялістычнай Украінай.

Іцэк Фефер прышоў у яўрэйскую совецкую паэзію з маніфестам пра простыя словы. Буржуазнаму сімвалізму і імажынізму паэт супроцьпаставіў яснасць і большэвіцкую мэтанакіраванасць.

У першыя гады НЭП'а Фефер напісаў шэраг лірычных вершаў пра грамадзянскую вайну. Ён стварыў своеасаблівы жанр невялікіх эпічных паэм і балад. Пазней ён піша паэму пра Днепрабуд, выключна добра перакладзеную Багрыцкім.

Галоўныя дасягненні Фефера на гэтым этапе—рэволюцыйная сатыра. Майстэрскі выкарыстоўваючы спадчыну Гейне, Беранжэ (з якімі яго родніць песенная структура верша), Фефер трапна б'е па ворагу, па заморанасці і адсталасці.

Пазнейшая паэма Фефера пра Данбас «Пласты» пры ўсёй яе эксперыментатарскай значнасці і багацці рытму хварэе на слабасць сюжэтнай ткані, кампазіцыйнай рыхлявасці і некаторай схематычнасці.

Лірызм, эмацыянальнасць, песеннасць, масавасць і дасціпныя востра-накіраваныя сказы — такія адрозніваючыя рысы твораў Фефера, якія робяць вялікі ўплыў на маладых яўрэйскіх паэтаў Саюза.

Фефер даў выключныя ўзоры палітычнай лірыкі.

Вельмі складаны шлях прайшоў вядомы майстар яўрэйскай совецкай паэзіі Дувід Гофштэйн. Ён пачаў пісаць напярэдадні імперыялістычнай вайны. Традыцыі мінулага ціснулі ў пачатку на яго творчасць. Гэтыя традыцыі час-ад-часу яшчэ непакоілі Гофштэйна нават і тады, калі магутная прыгожасць вялікай пролетарскай рэволюцыі захапіла паэта і ён склаў ёй захапляючую оду «Кастрычнік».

Гофштэйна вабіць магутнасць, прыгожасць і сапраўдная чалавечнасць будаўнікоў совецкай краіны. Эпічныя творы Гофштэйна не заўсёды вольны ад празаізмаў, рацыяналізма і рытарычнасці, зніжаюць сілу мастацкага абагульнення.

Гофштэйн даў шмат новага яўрэйскай паэзіі. Ён узбагаціў паэтычную мову, тэхніку і мелодыку верша. Яго вершы вядомы выключнай адшліфаванасцю і празрыстай яснасцю вобраза. Уплыў паэзіі Гофштэйна можна бачыць на ранніх творах Кушнярова, Галкіна, Фефера.

Варта асобна адзначыць майстэрскія пераклады Гофштэйна з Бомаршэ, Мальера, Шылера, Пушкіна і выключны па блізкасці да арыгінала і мастацкай сіле пераклад «Кабзара» Шэўчэнкі.

Першыя творы вялікага майстра совецкай паэзіі Лейбы Квітко «Крокі» і «Чырвоны штурм» унеслі ў яўрэйскую літаратуру пах зямлі, вобраз здаровага, цэльнага чалавека.

Вызваляючыся ад уплыву сімвалізма, перамагаючы хістанні, Квітко актыўна ўключыўся ў працэс стварэння совецкай літаратуры. Ён піша паэмы «ХТЗ», «Турксіб» і шэраг іншых буйных рэчаў, прысвечаных поспехам соцыялістычнага будаўніцтва.

У творчасці Квітко яскрава адлюстроўваецца соцыялістычная Украіна. Гэта больш за ўсё выяўляецца ў аповесці «Лям і Петрык»— адным з лепшых твораў яўрэйскай совецкай прозы, і асабліва ў апошняй паэме Квітко «Іона», якая паказвае герояў грамадзянскай вайны.

Квітко шырока вядомы як дзіцячы пісьменнік, і Карней Чукоўскі справядліва заклікае дзіцячых пісьменнікаў вучыцца ў гэтага выдатнага майстра.

Адзін з старэйшых яўрэйскіх совецкіх паэтаў Хаім Гільдзін у працэсе свайго развіцця зжывае ўласцівую першаму перыяду яго творчасці ультра-індустрыяльную рыторыку. Адклікаючыся на значныя з'явы нашай рэчаіснасці, Гільдзін прыходзіць да мастацкай перакананаўчасці.

М. Хашчэвацкі, які пачынаў, як сімваліст, знаходзіць цяпер рэалістычную яснасць і канкрэтнасць. Ён напісаў вялікую паэму «Ленін», значны твор у яўрэйскай літаратуры.

Вельмі своеасаблівая творчасць таленавітай паэтэсы Ханы Левінай. Яе вершы вабяць сваёй цёплай лірычнасцю, Левіна з поспехам працуе над стварэннем вобраза совецкай жанчыны, жонкі, маці.

Міхаіл Пінчэўскі нядаўна апублікаваў вялікую паэму «Жыццё і свет Вільяна Свена», у якой паказвае класавыя бaі ў Амерыцы і крах буржуазнага гуманізма. Аналагічным тэмам прысвячае свае вершы Блоштэйн. У апошніх кнігах у гэтых паэтаў шмат твораў пра совецкі быт, пра лепшых людзей нашай краіны.

Варта таксама адзначыць працу майстра лірычнага верша Л. Рэзніка.

У яўрэйскай совецкай паэзіі Украіны расце таленавітая моладзь: Гарцман, Дзіамант, Талалаеўскі, Котляр, Вайнерман і Губерман.

## Руская совецкая паэзія на Украіне

У дружнай сямейнай рабоце з украінскімі яўрэйскімі паэтамі вырас і ўзмацнеў на Украіне атрад рускіх паэтаў. Іх творы друкуюцца ў Кіеве, Маскве, Ленінградзе. Лепшыя кнігі іх карыстаюцца ўсесаюзнай вядомасцю. Рускія паэты Украіны працуюць над украінскай тэматыкай і над асваеннем класічнай спадчыны украінскай паэзіі. Яны перакладаюць совецкіх украінскіх паэтаў.

З украінскай тэматыкай непарыўна звязаны імёны многіх рускіх паэтаў. Успомнім, што на Украіне пачынаўся працэс фарміравання Багрыцкага, Святлова, Галоднага, Кірсанава і шэрагу іншых паэтаў.

Грамадзянская вайна на Украіне, а затым этапы пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва сталі тэмамі цэлай групы рускіх паэтаў. Досыць назваць «Думу пра Апанаса» Багрыцкага, «Трыполле» Карнілава, матывы «Улялаяўшчыны», і асабліва вершы Сельвінскага, Асеева, «Трагедыйная ноч» Безыменскага, «Чырвонае казацтва» Петроўскага і інш.

З Украіны, з яе народам, літаратурнай грамадскасцю і зараз цесна творча звязаны такія паэты, як Безыменскі, Саянаў, Браўн,

Пракофьеў, Святлоў, Галодны і такі выдатны паэт, як Сельвінскі.

Сярод рускіх совецкіх паэтаў, якія заўсёды працуюць на Украіне, значнае месца займае Нікалай Ушакоў, які карыстаецца ўсесаюзнай вядомасцю. Кніга вершаў Ушакова «Вясна рэспублікі», якая выйшла ў 1927 г., падвяла вынікі першаму пяцігоддзю яго паэтычнай работы і выразна вызначыла лінію яго далейшага развіцця. «Вясна рэспублікі» ў асноўным была прысвечана тэматыцы грамадзянскай вайны.

Ушакоў—паэт думкі. Імкненне да афорыстычнасці суправаджае паэта на працягу ўсяго яго творчага шляху.

Ушакоў умее незначную на першы погляд тэму павярнуць такім нечаканым чынам, што яна пачынае гучэць з выключнай выразнасцю. Але ў той-жа час яму шкодзіць нейкая тэматычная замкнёнасць. Выхад з гэтай замкнёнасці ўжо выяўляецца ў новых кнігах Ушакова і асабліва ў кнізе «Свет для нас», у якіх вялікую ўвагу надае паэт соцыялістычнай Украіне, яе гераічнай гісторыі ў гады грамадзянскай вайны, яе сёнешняму цудоўнаму творчаму жыццю.

Ушакоў—лірык. Яго лірызм вырастае з тых жыццёвых псіхалагічных бытавых рыс, якія склаліся ў совецкай рэчаіснасці.

Распрацоўваючы украінскую тэматыку, перакладаючы лепшыя творы украінскіх совецкіх паэтаў, Ушакоў адчувае значны ўплыў паэзіі Украіны і буйнешага майстра яе—П. Тычыны. У сваю чаргу Ушакоў несумненна робіць уплыў на фарміраванне паэтычнага аблічча цэлае плеяды маладых украінскіх паэтаў.

Пачатак творчага шляху Якава Гарадскога адносіцца да гадоў грамадзянскай вайны. У франтавых чырвонаармейскіх газетах і баявых окнах УКРОСТА з'явіліся першыя яго вершы, якія бічавалі ворагаў рабочага класа і апявалі гераізм пролетарскай рэволюцыі.

У ранніх кнігах Гарадскога поўнацэннаму гучанню лепшых яго вершаў перашкаджала перагружанасць публіцыстыкай і дэкларацыйнасцю. Значным крокам наперад была яго кніга «Адступленне смерці», якая выйшла ў 1933 г., і асабліва апошняя кніга «Дарога на Ірпень», якая выдадзена нядаўна. Гэтыя кнігі ў асноўным і вызначалі значэнне Гарадскога, як паэта. «Дарога на Ірпень» у пераважнасці кніга лірычнага роздуму. З сапраўднай лірычнай усхваляванасцю асэнсоўвае паэт мужны шлях свайго пакалення.

Якаў Гарадской—паэт украінскай тэмы. Яго вершы цяснейшым чынам звязаны з тым шляхам, які прашла Совецкая Украіна. Яна стварае біяграфію гарадоў і вёсак Украіны. У сваёй апошняй кнізе Якаў Гарадской паказвае вобразы сталіцы праз змену асабістых, лірычных тэм. У вершах Я. Гарадскога лірызм спалучаецца з публіцыстычнасцю палемічнага задору.

Павел Беспашчадны—папулярнейшы паэт соцыялістычнага Данбаса. Многія яго песні спяваюцца шахцёрамі Данбаса.

Творчасць Беспашчаднага развівалася разам з яго радзімай—соцыялістычным Данбасам. Паэт чэрпае з магутнай крыніцы народнай песні. Яго папулярная «Каменная кніга» пабудавана на матэрыяле шахцёрскіх частушак—«пакут». Настаўнікі Беспашчаднага—Некрасаў, Д. Бедны, Багрыцкі.

Лепшыя людзі нашай краіны—выдатныя забойшчыкі—Нікіта

Ізотаў, Сцепаненка, Кабзар, Стаханаў, трактарыстка Паша Ангеліна і дзяўчаты яе брыгады—герої вершаў Беспашчаднага.

Яго паэтыка выростае з жывой мовы шахцёраў Данбаса, тыповых зваротаў шахцёрскай рэчы.

У ранніх вершах Беспашчаднага адчувалася недастатковая культура і мастацкі прымітывізм. Аднак у апошніх кнігах «Годы в кочегарке», «Наследие» і ў шэрагу новых вершаў Беспашчадны з поспехам перамагае гэтыя недахопы і разам з тым не губляе ўласцівай яму прастаты.

Тыповай паэтычнай якасцю Паўла Беспашчаднага з'яўляецца тое, што яго творчасць цяжка ўявіць па-за межамі Данбаса. Беспашчадны адчувае і паказвае рысы, з якіх складаўся стаханаўскі рух. Іменна ад Беспашчаднага ў першую чаргу мы чакаем сёння лірычных партрэтаў стаханаўцаў-герояў яго роднага Данбаса.

Петнікаў—у мінулым футурыст, блізкі да Хлебнікава, своеасаблівы паэт, які працаваў галоўным чынам над лірычным пейзажам. У сучасны момант Петнікаў прыйшоў да новага рэалістычнага стыля і працуе над вялікмі соцыяльнымі тэмамі. Вершы пра чырвонаамарскі флот, цыкл вершаў пра Данбас, невялікая паэма «Борисовская осень» кажуць пра рост гэтага значнага паэта.

Юрый Чэркаскі—данбаскі паэт, аўтар таленавітых зборнікаў «Стропило», «Отвага», «Мост» і «Жажда». Для паэзіі Чэркаскага характэрна сапраўдная лірычная ўсхвалёванасць, прастата і праўдзівасць вобразаў. Ён паказвае равеснікаў Кастрычніка, іх адносіны да працы, быту і асабістага жыцця.

Чэркаскі ўпарта працуе над развіццём сваёй паэтычнай тэхнікі. У яго вершах адчуваецца ўплыў Багрыцкага і Лугаўскога. Чэркаскі ўмела спалучае пафас з лірычнай мяккасцю.

Шэраг цікавых новых вершаў напісалі Марк Шэхтэр, Яўгеній Паўлічэнка, вырас Барыс Бяздомны.

Неабходна таксама адзначыць групу маладых растучых паэтаў: В. Кандраценка, які дае мужныя вобразы байцоў і камандзіраў Чырвонай арміі, А. Хазіна, З. Каца, А. Фарбера, Л. Смульсона. Яны робяць толькі першыя крокі. Самае галоўнае ў іх далейшым развіцці—гэта не зазнавацца, вучыцца.

## Малдаўская паэзія на Украіне

Значна вырасла паэзія квітнеючай соцыялістычнай Малдавіі. Творчасць Кронфельда і Лехтцера, творчасць маладых паэтаў Кабака, Карчынскага, Доўбаля адлюстроўваюць радасную соцыялістычную працу, заможнае калгаснае жыццё Малдавіі.

На Украіне пішуць на грэцкай мове паэты: Г. Костопраў, А. Дмітрыу, В. Галла.

## Паэзія для дзяцей

Абгаварваючы пытанне паэзіі, трэба асаблівую ўвагу звярнуць на паэзію для дзяцей. Лепшыя майстры дзіцячай літаратуры—Чукоўскі, Маршак, Квітко, Барто—ствараюць дзіцячую паэзію, якая мае

не меншае значэнне, чым сапраўдная паэзія для дарослых. Дзіцячая паэзія мае сваю спецыфіку, але гэта ніяк не азначае, што паэты для дарослых не павінны таксама пісаць і для дзяцей. Напрыклад, Тычына, Рыльскі, Ушакоў, Гарадской шмат пішуць для дзяцей. Разрыў, які у пэўнай ступені існуе між паэзіяй для дарослых і паэзіяй для дзяцей, тармозіць агульнае развіццё нашай літаратуры. Дзіцячы пісьменнік і ідэйна і эстэтычна падрыхтоўвае чытача «дарослай літаратуры».

Украінская дзіцячая паэзія пачала расці зусім нядаўна. Гэта маладая паэзія, яна ідзе ад тых лепшых традыцый, пад знакам якіх развівалася ўся украніская совецкая паэзія. У атрадзе украінскіх дзіцячых пісьменнікаў і паэтаў першае месца займае Наталя Забіло. Шмат робяць для развіцця дзіцячай літаратуры на Украіне Хана Левіна, Прыгара, Нававенка, Гуцянскі, Катляр, Бычко, Нехода.

## Пра паэтычную крытыку

Паэтычная крытыка і ў нас на Украіне таксама асабліва адстае, але трэба сказаць, што за апошні год адначасова з агульным уздымам у развіцці літаратуры прыметны пералом і ў рабоце нашай паэтычнай крытыкі.

У сучасны момант асабліва актыўна працуюць у галіне паэтычнай крытыкі С. Шчупак, Б. Каваленка, В. Корак, Г. Пронь. Е. Адэльгейм, Г. Гельфандбейм, М. Даленга, Ф. Якубоўскі, Я. Саўчэнка, Эрык.

## За ўсенародную паэзію соцыялізма

Украінская совецкая паэзія ў апошнія гады развіваецца ў цеснай дружбе з літаратурамі народаў Совецкага Саюза. Усе нацыянальныя атрады нашай паэзіі ўступаюць у паласу бурнага росквіту. Соцыялістычны лад несупынна пашырае і абагачае культуру народаў Совецкага Саюза. Расце паэзія ўсіх народаў—усенародная паэзія соцыялізма, важнейшай рысай якой з'яўляецца інтэрнацыяналізм.

Для паэзіі ўсіх народаў Совецкага Саюза асабліва ў апошнія гады характэрны інтэнсіўны абмен творчым вопытам. Тэмы соцыялістычнага будаўніцтва ў нацыянальных рэспубліках распрацоўваюцца паэтамі братніх рэспублік. Пра Днепрабуд напісаў А. Безыменскі, Эдуард Багрыцкі стварыў вобразы грамдзянскай вайны на Украіне, Н. Тіханаў піша пра Кахецію, Лахуці—пра Шэўчэнку, Бажан—пра Важа Пшавела, Первомайскі—пра Таджыкістан, Мосашвілі пра Марыю Дземченка, Чыкавана—пра Данбас.

Поруч з абагачэннем тэматыкі пашыраецца і паглыбляецца праца над перакладамі, якія з'яўляюцца велізарным фактарам у ўмацаванні інтэрнацыянальнай сувязі і ў развіцці самой нацыянальнай паэзіі. Ад асобных разрозненых перакладаў, якія з'явіліся ў перыодыцы, мы пераходзім да выдання зборнікаў асобных паэтаў, да стварэння анталогіі нацыянальнай паэзіі. Лепшыя ўзоры рускай совецкай паэзіі выйшлі ў перакладзе беларускіх паэтаў, група ленінградскіх паэтаў праявіла ініцыятыву ў стварэнні анталогіі украінскай совецкай

паэзіі, шырока вядомы пераклады буйнейшых паэтаў нашай краіны— Б. Пастэрнака і М. Тіханава з грузінскіх паэтаў. У Грузіі рыхтуецца выданне анталогіі рускіх і украінскіх паэтаў. Велізарная работа прароблена па асваенню класікі. Лепшыя паэты Савецкага Саюза перакладаюць Пушкіна. У Грузіі Чыкавані, Табідзе, Габрындашвілі, Лордкіпанідзе перакладаюць «Кабзара» Шаўчэнка, і Лесю Украінку. М. Бажан перакладае геніяльную паэму Шота Руставелі.

Многія паэты нацыянальных рэспублік набываюць усесаюзную вядомасць. Такіх паэтаў як Лахуці, Чыкавані, Галакціон Табідзе, Тіцыян Табідзе, Зар'ян, Купала, Колас ведаюць і любяць ва ўсім нашым Совецкім Саюзе.

Гэтыя мануметыяльныя пераклады робяць вялікіх паэтаў сучаснага і мінулага ўласнасцю літаратур усяго нашага Саюза, адначасова ўзбагачаючы іх тэматыку, вобразы, лексіку. Яскравейшым прыкладам творчага ўплыву на літаратуру нацыянальнасцей Саюза з'яўляюцца пераклады з Маякоўскага.

Умацаванне творчага зблізэння, узаемны ўплыў паэтаў, абмен творчым вопытам паміж літаратурамі Совецкага Саюза абумоўліваюць далейшае развіццё метаду соцыялістычага рэалізма. Таму трэба гаварыць не толькі пра «шматкаляровасць» тэмы, але і пра разнастайнасць форм пры адзіным рознастайным соцыялістычным змесце. Гэтага нельга ігнараваць.

Совецкая паэзія расце ў абставінах творчага спаборніцтва. Вельмі шмат даў прыезд ленінградскіх і грузінскіх паэтаў на Украіну, прыезд Украінскіх паэтаў у Грузію, Арменію, Азербайджан, Ленінград, наведанне брыгадай грузінскіх пісьменнікаў Беларусі і г. д. З кожным днём творчая сувязь мацнее—вясной на Украіне будуць праведзены дэкады грузінскай, армянскай, азербайджанскай паэзіі. У часе прабывання грузінскай дэлегацыі на Украіне будзе зроблена закладка помніка выдатнаму класіку грузінскай паэзіі Гурамішвілі, які доўга жыў на Украіне і напісаў шмат выключных вершаў на украінскія матывы.

У той час, як у нашай краіне культура, літаратура Совецкай Украіны, Совецкай Беларусі і іншых рэспублік магутна развіваецца, за совецкаю мяжою і ў прыватнасці ў Заходняй Украіне і ў Заходняй Беларусі лютуе фашысцкі тэрор. Але ўсё мацней гучаць рэволюцыйныя песні прыгнечаных працоўных мас Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі.

Усё больш мацнее братэрства народаў у Совецкім Саюзе. Украінскія пісьменнікі перадаюць самае шчырае братэрскае прывітанне беларускаму народу, яго правадырам, і яго выдатным песнярам.

Магутны рост Совецкага Саюза абумовіў узнікненне стаханаўскага руху, які адчыніў новыя далягляды перад нашай літаратурай і ставіць перад ёю велічэзныя творчыя задачы. Тав. Сталін геніяльна паказаў, што стаханаўскі рух ёсць канкрэтная форма пераходу ад соцыялізма да комунізма. Стаханаўцы, кіруемыя нашай партыяй, ажыцяўляюць гэты гістарычны пераход. Першаступеннейшая задача нашых пісьменнікаў—паказаць гэты вялікі рух. Трэба ў мастацкіх вобразах паказаць сусветна-гістарычны працэс зжывання процілегласцей паміж горадам і вёскай, паміж працай разумовай і фізічнай.

Вобразы стаханаўцаў не могуць не захапіць сапраўдных мастакоў—лепшых паэтаў нашай краіны. Для стварэння такіх вобразаў патрэбны манументальныя формы. Нараджаецца лірыка стаханаўскае працы. Песні, якія раскрываюць новыя пачуцці новага чалавека, спяваюць стаханаўцы, пяцісотніцы, дзяўчаты брыгад Марыі Дземчэнкі і Пашы Ангелінай. Іх лірычныя песні падхопліваюць лепшыя паэты. Пачуццё любові да радзімы, соцыялістычны патрыятызм—вось лейтматыў гэтай лірыкі. Задача нашых паэтаў паказаць гераізм стаханаўцаў працы і стаханаўцаў абароны, абаронцаў нашых свяшчэнных і недатыкальных граніц Совецкага Саюза, стварыць поўнацэнныя вобразы Чапаева, Шчорса, Кіўкідзе, Лазо.

Паэты братніх рэспублік да 20-годдзя Кастрычніка дадуць творы вартыя вялікай эпохі Леніна—Сталіна. Загучыць вялікасная сімфонія ўсенароднай паэзіі соцыялізма.

*Я. Бранштэйн*

# ПАМЯЦІ ФУРМАНАВА

На смерць Фурманава Серафімовіч пісаў:

„Што патрэбна ад большэвіка?

Каб ён быў загартаваны і цвёрды, як сталь. Каб у прынцыповых пытаннях ён не ўмеў паддацца ні на волас.

Такім быў тав. Фурманаў.

Што патрэбна ад большэвіка?

Каб ён быў гнуткі, як сіняя спружынная сталь.

Такім быў т. Фурманаў. І калі чытаеш яго „Чапаева“, „Мяцеж“, са здзіўленнем наглядаеш гэту большэвіцкую гнуткасць, гнуткасць у імя выратавання рэволюцыйнай справы, надзвычайную здольнасць вучота і арыентыроўкі.

Што патрэбна ад большэвіка?

Каб ён ва ўсякай рабоце, ва ўсякай дзейнасці быў адным і тым-жа—рэволюцыйным работнікам, рэволюцыйным змагаром.

Такім быў т. Фурманаў. Ён быў адным і тым-жа, і ў партыйнай рабоце, і ў грамадзянскім баі, і з пяром у руцэ за пісьменніцкім сталом. Адзін і той-жа: рэволюцыйны змагар, рэволюцыйны будаўнік; аднолькава стойкі, і аднолькава гнуткі“.

Гэтыя словы Серафімовіча ярка абрысоўваюць аблічча слаўнага камісара пісьменніка, пісьменніка-большэвіка Дзмітрыя Фурманава.

Дзмітры Фурманаў—гэта сапраўды выдатнае з'явішча ў гісторыі совецкай літаратуры.

Ён памёр маладым, не паспеўшы разгарнуць велізарныя творчыя магчымасці, закладзеныя ў ім.

Яго літаратурная спадчына, як вядома, не лічыцца дзесяткамі тамоў. Яны не вылучаюцца „дасціпнасцю“ стыля, якую так любяць буржуазныя фармалісты і эстэты. Нават у асноўных творах Фурманава,—„Чапаеве“ і „Мяцежы“—вы лёгка знойдзеце сляды некаторай спешкі, некаторай недаапрацаванасці, некаторай наіўнасці ў стылістыцы.

Для самога Фурманава, як аб гэтым сведчаць яго бліжэйшыя прыяцелі, поспех „Чапаева“ быў зусім нечаканы. Калі Фурманаў прынёс у часопіс „Красноармеец“ урыўкі свайго „Чапаева“, ён, па яго ўласных словах, зусім не думаў аб *літаратурных* мэтах. Гэтыя ўрыўкі „здаваліся яму павучальнымі ў *палітычных і ваенных адносінах*“.

„Хартычнасць, а мясцамі і відавочная супярэчлівасць паказу— не столькі ад няўмення „звязаць“, колькі па адпаведнасці з хаосам самой грамадзянскай вайны. Вайна—не лекцыя: тут не ўсё гладка. На прызнанне мастацкай апрацоўкі не прэтэндую“.

Так Фурманаў у прадмове да свайго рамана характарызуе некаторыя бакі свайго творчага метаду.

Ці маглі эстэтствуючыя мяшчане з розных фармалістычных школ зразумець, як Фурманаў зусім не гладка (бо вайна—не лекцыя) пісаў свайго „Чапаева“?

Як многія людзі сапраўднага баявога рэалістычнага мастацтва, Фурманаў у некаторай меры нават не адчуваў у пачатку *мастацкай спецыфікі* свайго „Чапаева“. „На прызнанне мастацкай апрацоўкі я не прэтэндую“,—пісаў Фурманаў.

Эстэты-фармалісты ўхапіліся за гэтыя радкі для таго, каб з пагардай гаварыць аб незабываемых, суровых велічавых раздзелах з „Чапаева“, як аб „поўпубліцыстычнай сыравіне“, як аб „сухой хронікі“.

З часам, тыя-ж фармалісты-эстэты, зрабіўшыся „кающимися формалистами“—прыхільнікамі славутай тэорыі фактаграфіі, тэорый адмаўлення мастацкай культуры, пачалі старанна хваліць Фурманава, за тое, што ён моў... па-за мастацкай літаратурай, па-за мастацкім вымыслам. Яны пачалі старанна хваліць той прыём аперыравання дакументамі ў мастацкім творы, палітыка-публіцыстычным матэрыялам, які Фурманаў ужывае як у „Чапаеве“, так і ў „Мяцежы“. Тое, што для Фурманава было сродкам праўдзівага адлюстравання рэчаіснасці ў яе *суровай* непрыфарбаванай рэальнасці, тое для фармалістаў зрабілася зыходным пунктам, каб ліквідаваць *спецыфіку* мастацкай літаратуры.

Сэнс гэтых фармалістычных выкрутасаў быў адзін: Фурманава не прызнавалі пісьменнікам у колах эстэтствуючых мяшчан.

Мінула дзесяць год з дня смерці Фурманава. Не адна „эстэцкадасціпная“ кніга загінула, знікла, забытая ўсімі. Не адзін фармаліст-крытык прымушаны быў за гэты час „адмежавацца“ ад мінулых эстэцкіх памылак. Але сурова, як гранітны абеліск, стаіць непарушна ў совецкай літаратуры фігура пісьменніка-байца, большэвіцкага камісара легендарнай чапаеўскай дывізіі—Дзмітрыя Фурманава.

Яго кнігі „Чапаеў“ і „Мяцеж“ сталі сапраўднымі народнымі кнігамі, з выключным масавым тыражом.

Лепшы, сапраўды народны, совецкі фільм, прысвечаны грамадзянскай вайне, зроблен па матэрыялах, па творчых указаннях фурманаўскага „Чапаева“.

Падняты Фурманавым вобраз „Чапая“ зрабіўся вобразам эпохі, *народным вобразам*, у такой жа ступені, як лепшыя вобразы гераічнага народнага эпаса.

У чым-жа сіла надзвычайнага поспеху Фурманаўскіх, здавалася-б простых, „поўпубліцыстычных“, як гаварылі фармалісты, радкоў? У чым мастацкая і ідэйная абаяльнасць яго кніг?

У гэтыя дні, калі пісьменніцкая грамадскасць абмяркоўвае артыкулы „Праўды“, накіраваныя супроць фармалістычных выкрунтасаў

і эстэцтва ў мастацтве (у прыватнасці ў літаратуры), мы зноў і зноў зварочваем свае погляды к Фурманаву.

Тут, зразумела, не можа быць і гутаркі аб кананізацыі фурманаўскай манеры пісьма. Фурманаў сам неаднаразова гаварыў аб неабходнасці „падчытаць“ свае кнігі. Ён незадоўга перад смерцю ўзяўся за карэнную пераробку свайго „Чапаева“. „Хаотычнасць“, аб якой гаварыў Фурманаў, г. зн. некаторая раскіданасць у кампазіцыі „Чапаева“ „Мяцежы“, вядома, нельга апраўдваць „у адпаведнасці з хаосам самой грамадзянскай вайны“.

У Фурманава—як у „Чапаева“ так і ў „Мяцежы“ можна знайсці наіўна-кніжныя метафары, некаторую лішнюю дэталізацыю.

Не трэба забывацца, што да сваёй работы над „Чапаевым“ Фурманаў пісаў дзённікі аб імперыялістычнай вайне, у тыя гады, калі ён яшчэ не быў вольны ад абстрактнага пацыфізма, ад такога-ж абстрактнага інтэлігенцкага этыцызма. Гэта мела ўплыў і на яго манеру пісьма. Некаторая інерцыя стылістычных прыёмаў прыводзіла к таму, што і ў „Чапаеве“ вы можаце знайсці сляды кніжных штампаў.

Але Фурманаў вялікі і незабываевы ў сваім суровым, я-б сказаў, *ледзь не аскетычным*, адмаўленні фармалістычнага літаратурнага „украшацельства“ ва ўсіх яго адценнях.

Калі Фурманаў пісаў свайго „Чапаева“, яшчэ не было такіх буйных пролетарскіх твораў аб грамадзянскай вайне і аб партызанскім руху, як „Железный поток“ Серафімовіча і „Разгром“ Фадзеева.

Але ў дробна-буржуазнай, так званай „попутнической“ літаратуры таго часу ўжо бытавала тэма грамадзянскай вайны. Гэта тэма трактавалася звычайна, як тэма партызанскай стыхіі, даволі ідэалізаванай і па эстэцку ўпрыгожанай. Большэвікі, рабочыя—ці зусім адсутнічалі ў гэтых кнігах, ці паказваліся ў выглядзе „скураных куртак“—схематычна, шэра. Індывідуалістычнае крыўлянне, сусальнае ўпрыгожванне, узвялічэнне „атаманства“ ўсё гэта, памножанае на квяцістую фармалістычную прозу (у Вс. Іванова, у Пільніка, наогул у „Серапіонавых братьев“) характарызавала ў дробна-буржуазнай літаратуры тых год тэму грамадзянскай вайны

Фурманаўскі „Чапаеў“ палемічна завостраны супроць падобнага дробна-буржуазнага, эсэраўскага любавання стыхіяй партызаншчыны, супроць дробна-буржуазнага пазёрства пры паказе „героя і натоўпа“, супроць фармалістычных выкрутасаў.

Асноўная тэма „Чапаева“ і „Мяцежа“—гэта тэма партыйнага кіраўніцтва партызанскім рухам, сялянствам. Фурманаў не прапускаў выпадка, каб выкрыць сялянскую абмежаванасць і анархістскае стыхійніцтва, якія пагражалі чапаеўцам. Захапляючыся мужным вобразам Чапаева, яго ледзь не дзіцячай непасрэднасцю, лірычнай рамантычнасцю гэтага вобраза, камісар Клычкоў (псеўдонім самога Фурманава) палка, упарта бярэцца за большэвіцкае выхаванне Чапаева Гэтыя староні, на якіх Фурманаў разгортвае свае выдатныя палітыка-педагагічныя хады па ідэйнаму „паланенню“ партызана Чапаева, належаць да лепшых старонак савецкай літара-

туры. У гэтым надзвычайным ідэёвым паядынку выростае незабыўная фігура Чапаева.

Фурманаў у сваіх запісках расказвае, як ён хістаўся „ці даць Чапаева сапраўды з дробязямі, грахамі, з усім чалавечым нутром, ці як звычайна, даць фігуру фантастычную, гэта значыць хоць і яркую, але ва многім кастрыраваную“.

Фурманаў рашыў пісаць не „як звычайна“. Фурманаў ненавідзеў фармалістычную надуманую яркасць. Ён даў у „Чапаеве“ і ў „Мяцежы“ жывых людзей з усімі іх асаблівасцямі. Чапаеў не пазбаўлены наіўнага бахвальства. Чапаеў нярэдка скачваецца да сялянскай абмежаванасці, да анархічнай партызаншчыны (яго адносіны к штабам, к інтэлігенцыі). Гаворачы аб выключнай асабістай мужнасці паплечніка Чапаева—камбрыга Куцякова, Фурманаў лічыць патрэбным у некаторай меры развенчваць абаяльнасць нават гэтай асабістай мужнасці. Камісар Клычкоў, разважаючы над актамі асабістай мужнасці камбрыга Куцякова, робіць такі вывад „камандзіру ніколі не трэба захапляцца прыватнай справай, ён заўсёды павінен мець перад сабою *цэлае*—і аперацыю *цэлую* і войска сваё ў *цэлым*, а асобныя задачы, каму-небудзь даручаць“. „Асабістая мужнасць Куцякова магла прывесці да сумнага канца, можа нават цэлую брыгаду“,—гаворыць Клычкоў-Фурманаў з прычыны выключна яркага геpaічнага ўчынку камбрыга Куцякова.

У радзе месц Фурманаў вельмі рэзка, палемічна падкрэслівае, што ў кнізе аб вайне не павінна быць „рыцарскай балбатні“ аб выдуманых храбрацах, якім „все нипочем“.

Вось апісанне душэўнага стану ўдзельніка боя перад боем:

„Сэрца сціскалася і замірала тым нерастлумачальным асаблівым хваляваннем, якое аваладвае заўсёды пры збліжэнні з месцам боя і незалежна ад таго ці ты палахлівы ці смелы і адважны: спакойных няма. Гэта адна рыцарская балбатня, нібы ёсць зусім спакойныя ў баі, пад агнём—гэтакіх пнёў у родзе чалавечым няма. Можна прызвычаіцца здавацца спакойным, можна трымацца мужна, можна стрымліваць сябе і не падавацца хутка уздзейнічанню вонкавых абставін,—гэта пытанне іншае. Але спакойных у баі і захвіліны перад боем—няма, не бывае і не можа быць“.

Чапаеў, якому ўласціва была самаадданая мужнасць, згадзіўшыся-б у даным выпадку з Фурманавым, а не з тымі „украшателями“, якія ўсхваляюць у таньных тонах „баявых ліхачоў“.

Чапаеў, як вядома, таксама, не любіў тых, што лезлі пад „шальную пулю“.

„Як гэта прыгожа, але так і неверна, шкодна, небяспечна“—гаворыць Фурманаў з прычыны раду „яркіх“ „сенсацыйных“ баявых эпізодаў.

Але пры ўсім гэтым выключна-цвярозым, рэалістычным, без упрыгожванняў, падыходзе да паказу рэчаіснасці грамадзянскай вайны і партызанскага руху Фурманаву больш чым каму-небудзь другому ўдалося ўвекавечыць тое *гераічнае рамантычнае, легендарнае*, што характарызуе грамадзянскую вайну. Іменна на гэтым, здавалася-б шэрым фоне, ярчэй за ўсё вылучаецца рамантычная фігура героя грамадзянскай вайны. Яны звычайныя—гэтыя

героі, падкрэслівае неаднаразова Фурманаў. Ён гэта падкрэслівае нават партрэтам Чапаева. Вось партрэт Чапаева ў кнізе Фурманава:

„Звычайны чалавек, хударлявы, сярэдняга росту, відаць невялікай сілы, з **тонкімі**, амаль *жаночымі* рукамі; рэдкія цёмнарусыя валасы прыліплі пасмамі да ілба; кароткі, нервовы *тонкі* нос, *тонкія* бровы ў ланцужок, *тонкія* губы, бліскучыя чыстыя зубы, брыты начыста падбародак, пышныя фельдфебельскія вусы“.

Тут герой падаецца не ў „афіцыяльным“ выглядзе, не ў арэоле (ужывае вядомыя словы Маркса). Тут герой звычайны, нават відавочна невялікай сілы, з тонкіні амаль жаночымі рукамі. Глядзіце, як упарта Фурманаў ужывае слова „тонкі“, калі ён дае партрэт Чапаева. Гэта не стылізаваны Ілья Мурамец. Гэта не казённа-рамантычны Кузьма Кручкоў. Гэта жывы чалавек. І іменна таму, што грамадзянскую вайну Фурманаў адлюстроўвае ва ўсёй яе праўдзівасці, яна—грамадзянская вайна гучыць, як незабываемая *рамантычная легенда.*

*Сапраўдная рамантыка нямысліма без сапраўднага* рэалізма, а сапраўдны рэалізм нашых дзён—гэта соцыялістычны рэалізм—гэта барацьба супроць усякага ненатуральнага ўпрыгожвання.

Гэта таксама барацьба супроць індывідуалізма.

Фурманаў, стварыўшы ў асобе Чапаева першы, сапраўды мастацкі багаты унутраным зместам тып у совецкай літаратуры, аднак, быў далёка ад індывідуалістычнага псіхакапацельства. Чапаеў, па словах Фурманава, вялікі тым, тым яркі сваёй індывідуальнасцю, што „паўней многіх уцелесніў у сырую і геройскую масу сваіх байцоў“.

Таму Фурманаў адлюстроўвае сваіх героеў заўсёды на фоне рэальнай класавай практыкі. Паказ мас, як у „Чапаеве“, так і ў „Мяцежы“—гэта наймацнейшы бок творчасці Фурманава.

Фурманаў ненавідзеў позу ў літаратуры. Ён ненавідзеў сантыментальныя ўпрыгожванні. Але хто адважыцца папракаць, скажам, кнігу „Чапаеў“ у сухасці. У „Чапаеве“—рад незабыўных лірычных сцэн. Вядома, гутарка ідзе не аб камернай лірыцы дасціпных эстэтаў. Успомніце, як часта Фурманаў лірычна падкрэслівае дзіцячую непасрэднасць суровага, грознага Чапаева. А як любіць Чапаеў песні спяваць! Якая выдатная абстаноўка, дзе Чапаеў і чапаеўцы аддаюцца лірычным „інтымным“ парывам!

Я прачытаю адно месца:

„Вінтоўкі—зараджаныя, гатовыя—былі ў кожнага пад рукою на выпадак раптоўнага налёту. Прымайстраваліся да снапоў, выкапалі ў саломе невялікія лагчынкі, леглі ў сярэдзіну... Дождж не сціхаў ні на хвіліну... Я прымайстраваўся досыць ёмка і саломы на зямлю накідаў шмат, а праз некалькі хвілін ужо адчуў сябе ў лужы, і было нязносна млосна, брыдка ад гэтай слякаці, халадна і агідна. Чапаеў сядзеў побач, уткнуўшыся тварам у прамоклую салому і раптам... заспяваў ціха, спакойна і весела, заспяваў сваю любімую: „Сижу за решоткой в темнице сырой“. Гэта было так незвычайна, так нечакана, што я падумаў спачатку, ці не здалося мне? Магчыма мармыча што-небудзь незразумелае, а мне здаецца песня... Але Чапаеў сапраўды спяваў...

— Васіль Іваныч, што гэта ты?

— А чаго?—адгукнуўся ён глуха.

— Пачуюць. Ну, як раз'езд?

— Не пачуюць, я ціханька...

Так спяваў Чапаеў.

Нарэшце прывяду тое месца, калі сялянка выносіць на перадавую лінію зусім незнаёмаму камісару Клычкову апошняе захаванае ў гаспадарцы яечка:

„Раптам прыбягае жанчына. Азірнулася навакол, выцягнула нешта з пад фартуха, дае: „на, на скарэй“.

Паглядзеў—яйцо і, не разумеючы ў чым справа, поўны здзіўлення пазіраю на яе шырока адкрытымі вачыма:

— Колькі заплаціць?

— Ды што ты, родненькі,—пакрыўдзілася яна.—Напэўна стаміліся... Якія тут грошы, еш, ведай.

Яна спяшалася—відаць было і па размове і па рухах—скажа і азірнецца: заўважаць, моў, вясковыя, а белыя—прыдуць—данясуць, дык бяды не абярэшся“.

У „Чапаеве“ немала падобных лірычных мясцін.

Фурманаў бачыць свайго Чапаева і чапаеўца наскрозь. Пад акрываўленым шэрым шынелем Фурманаў намацвае чалавечае сэрца, вялікае сэрца чапаеўца—сына рэволюцыйнага працоўнага народу. Гэтыя прымітыўныя, свавольныя стэпавыя людзі маюць багацейшыя эмоцыі.

Цудоўны раздзел, які паказвае спектакль на фронце, пад самым носам у ворага. Які надзвычай прыгожы гэты парыў народа да мастацтва ў франтовай абстаноўцы!

„Малюнак цудоўны!—піша Фурманаў.—На зямлі ля самай сцэны першыя рады глядачоў ляжалі ніцма; за імі другая група сядзела як належыць, трэцяя група стаяла на каленях, нібы на малітве ў страсны чацвер; за гэтымі—і такіх была большасць—стаялі. Ззаду іх—дзесяткі два вазоў, і на вазах сядзелі зноў такі гледачы. Замыкалі гэты арыгінальна размешчаны натоўп кавалерысты на конях ва ўсеўзбраенні... Так размясцілася некалькі сот чалавек на зусім роўнай паляне—і ўсе бачылі, усе чулі“...

Шмат з гэтых гледачоў раніцой засталіся на лугах пакалечанымі, растаптанымі трупамі,—гаворыць Фурманаў.

Ці можна такому гледачу, такому чытачу, такому слухачу падаць фармалістычныя бразгалкі замест сапраўднага народнага мастацтва?

Фурманаў ведае, любіць гэтага свайго чытача, таму ён рэзка выступае супроць фармалістычнага штукарства, супроць дробнай камернай тэматыкі.

У сваім дзённіку Фурманаў піша:

„Толькі не захапляйся адной тэхнікай—яна рэч фармальная, цуд можа быць і без яе, а з другога боку яна як твань балотная, уцягвае і губіць часам з галавою, застаецца голая любоў да формы—гэта нешта нават варожае, зусім чужое паэзіі. Пішы, каб разумелі“.

Вельмі цікава ў гэтай сувязі спрэчка Фурманава з „левым“ фармалістам Пятроўскім (аб фармалістычных памылках якога гаварылі ў апошні час, у сувязі з артыкулам „Праўды“.)

Фурманаў гаворыць Пятроўскаму: „Будзь зразумелым мільёнам, а не дзесяткам літаратараў“.

Барацьбу за народнасць у літаратуры Фурманаў разумеў, як барацьбу за сур'ёзнае суровае мастацтва, якое адлюстроўвае ідэі і надзеі народных мас. Гэта павінна вызначаць і тэматыку твора. Не можа быць народным тое мастацтва, якое бадзяецца па тэматычных закутках замест таго, каб выйсці на бальшак.

„Ці ўсё можна пісаць?—пытаецца ў самаго сябе Фурманаў. І ён адказвае:—так, усё.

Аднак дадае Фурманаў:

„У буру грамадзянскіх боек пішаш пра асаблівасці грэцкіх ваз... Яны прыгожыя і вартыя, а ўсё-ж такі ты сукін сын: альбо па ідыатызму, альбо па класавасці“.

Для фармалізма, як вядома, не існуе праблемы тэматыкі: Тэма для фармаліста ёсць толькі „матывіроўка“ гульні прыёмамі. Фурманаў-жа страсна адстойвае *веліч тэматыкі.*

Сапраўды, у гісторыі совецкай літаратуры мала кніг, якія ў такой меры адрозніваліся-б веліччу тэмы, як кнігі „Чапаеў“ і „Мяцеж“.

У гэтых кнігах матэрыялу сапраўды на дзесяткі тамоў.

Фурманаў прыводзіць у сваіх дзённіках наступныя словы Бабеля аб „Чапаеве“.

„Гэта залатыя выкапні,—гаварыў Бабель.—Я *прызнаюся* адкрыта, выхватваю, чэрпаю з вашага Чапаева самым бязлітасным чынам. Вы зрабілі, можна сказаць, літаратурнае глупства: адчынілі сваю скарбніцу ўсім, каму ахвота, сказалі шчодра, бяры. Гэта раскошша“.

Такому багаццю зместа мы павінны вучыцца ў Фурманава.

Кнігі „Чапаеў“ і „Мяцеж“ належаць да першых абаронных кніг совецкай літаратуры.

У нашы дні, у дні абвостранай небяспекі вайны супроць СССР пісьменнік, які працуе над абароннай тэмай, не можа прайсці міма вялікага вопыта, накопленага ў гэтай галіне Фурманавым.

Фурманаў, як ён сам аб гэтым заяўляе, ставіў перад сабою ваенныя задачы, як у „Чапаеве“, так і ў „Мяцежы“. Асабліва ярка гэта адчуваецца ў „Мяцежы“, дзе Фурманаў, багата аперыруючы зводкамі, дакладамі Рэўвоенсавета, ставіць задачы ваеннастратэгічнага і тактычнага парадка.

Дзмітры Фурманаў-камісар, дасканала ведаючы вайсковую справу, аднак старанна вывучае матэрыял, ён паглыбляецца ў тэхніку вайсковай справы, у самую сутнасць, спалучаючы аналіз вайсковых аперацый з палітычным аналізам суадносін класаў, а ў „Мяцежы“ і з аналізам нацыянальных узаемаадносін.

Гэта сапраўднае вывучэнне матэрыяла, а не пагоня за вонкавымі эфектамі, за яркімі батальнымі сцэнамі, за прыгодамі.

„Тэма—кажа фурманаў,—павінна быць поўна цікавых калізій, пазбегаючы аднаўлення вядомага зараней. Дапусцімы нечаканасці, але не часта, каб не збіцца на крымынальшчыну, на авантурызм, сенсацыйнасць, „филигранное пустяковство“

Над гэтым павінен задумацца кожны савецкі пісьменнік. Гэтаму мы павінны вучыцца ў Фурманава, які ўхіляўся ад авантурніцкай сенсацыйнасці ў сваіх кнігах.

Суровае аблічча Дзімітрыя Фурманава —воіна рэволюцыі, пісьменніка большэвіка—заўсёды будзе жыць у нашых сэрцах, у сэрцах працоўных Совецкага Саюза.

# БІБЛІЯГРАФІЯ

## *Васіль Каваль*—Санька сігналіст

ДВБ — Юндзетсектар, стар. 80, цана 1 руб.

Невялікую аповесць Каваля „Санька сігналіст“ патрэбна расцэньваць як новае ў творчасці пісьменніка. Новае не ў сэнсе жанра, не ў сэнсе таго, што аповесць напісана для нашай дзетвары, а новае ў тым сэнсе, што „Санька сігналіст“ як мастацкі твор, напісан пад іншым кутом гледжання, з іншымі ўспрыняццямі рэчаіснасці, у параўнанні з ранейшымі творамі пісьменніка.

Аповесць „Санька сігналіст“ належыць да рэалістычнага кірунку совецкай літаратуры. Тут мы не можам Каваля, як пісьменніка, папракнуць у індывідуалістычным падыходзе да рэчаіснасці, у рамантызацыі і частай ідэалізацыі асобы, селяніна-уласніка, з яго ніўкай, хаткай, што было характэрна для ранейшых зборнікаў Каваля (1927—1929 г.г.). Адносна гэтай аповесці Каваля мы можам сказаць што тут пісьменнік твар у твар сустрэўся з новай совецкай рэчаіснасцю, з новымі працэсамі жыцця ў нашай краіне, з новымі совецкімі людзьмі.

У аповесці „Санька сігналіст“ Каваль аб'ект сваёй творчасці, вобразы людзей бярэ не статычна, не адарвана ад працэсаў развіцця рэчаіснасці, як гэта перавжала ў ранейшых яго творах, а ў сувязі з рэчаіснасцю, у сувязі з асноўнай вядучай лініяй росту і перамог соцыялістычнага будаўніцтва. Каваль тут зразумеў, што шчасце чалавеку, лепшае жыццё прыносіць не багацце зямлі, не ніўка і хатка, а перадавы клас грамадства, які будуе новае радаснае жыццё для ўсяго чалавецтва.

Галоўны герой аповесці—былы беспрытульны Санька. Вобраз Санькі праходзіць праз усе падзеі аповесці і сваім дзеяннем стварае пэўную сюжэтную лінію.

Санька пададзен аўтарам неадрыўна ад характэрных і тыповых з'яў нашага сучаснага жыцця. Усюды Санька выступае перад намі неабасоблена, а ў сувязі з тымі або іншымі дзеяннямі, у сувязі з грамадскімі з'явамі.

Каваль паказвае, як Санька, апынуўшыся ў дзяцінстве беспрытульным, у абставінах новых класавых узаемаадносін паміж людзьмі, пры дапамозе дзетдома, дзякуючы выключнай увазе да чалавека наогул і дзетвары ў прыватнасці з боку калектыва ў нашай краіне, выходзіць на шчаслівы шлях жыцця, ператвараецца ў актыўнага ўдзельніка будаўніцтва і свядомага члена нашага грамадства. Гэты шлях Санькі, ад беспрытульнага хлапчука і да свядомага члена нашага грамадства, разгортваецца ў паступовым нарастанні, у паступовым набыцці Санькам усё новых і новых псіхалагічных якасцей.

Перавыхаванне і фармаванне Санькі адбываецца галоўным чынам у абставінах калектыва Чырвонай арміі. Папаўшы, пасля некаторага прабывання ў дзетдоме, у калектыў Чырвонай арміі, Санька атрымоўвае тут усе ўмовы выхавання, усе ўмовы для свайго росту.

Трэба сказаць, што гэта лінія ў аповесці падкрэслена аўтарам найбольш ярка і пераканаўча. Пасля таго, калі Санька пападае ў калектыў Чырвонай арміі мы бачым, з якой сапраўды бацькаўскай увагай да яго адносяцца чырвонаармейцы і ваенком Іваненка. Яны сочаць за кожным крокам Санькі, дапамагаючы яму зразумець людзей, рэчы і ўсё навакольнае. Калектыў Чырвонай арміі ў гэтых адносінах у аповесці выступае прыгожай школай; выклікае ў чытача да сябе пачуцці любові і павагі.

Дзякуючы Чырвонай арміі, Санька з беспрытульнага, неарганізаванага хлапчука становіцца ў Чырвонай арміі сігналістам, свядомым маладым чырвонаармейцам. Ён вывучае зброю і як сігналіст добра выконвае свае абавязкі, за што ад камандвання атрымоўвае падзяку.

Працэс росту і перавыхавання Санькі Каваль паказвае праз паглыбленае псіхалагічнае раскрыццё, неадрываючы гэтага працэса ад канкрэтных уплываў. У гэтых адносінах з'яўляецца вельмі характэрным і тыповым момантам, калі, напрыклад, упершыню Санька пападае ў чырвонаармейскую казарму, дзе ён убачыў выключную чыстату і парадак. Гэтыя абставіны на яго зрабілі моцны псіхала-

гічны ўплыў. „Навокал у казарме была такая чыстата і такі ўзорны парадак, што хлапчуку, можа ў першы раз стала сорамна за свае брудныя рукі". Таксама характэрнымі псіхалагічнымі момантамі з'яўляюцца—калі Санька атрымоўвае абмундзіраванне: шынель, боты і іншае адзенне. У Санькі адразу з'яўляецца жаданне пайсці ў свой дзетдом і паказацца сваім таварышам: „Глядзіце, які я! Вось мой шынелішча, вось мае боцішчы, вось я сам, Санька". Або калі Санька збіраецца цішком ехаць на сваю радзіму і ў яго не хапае на білет грошай. Ён так разважае: „Можна, вядома, ехаць зайцам, пад вагонамі, але-ж у Санькі новы шынель—запэцкаеш яго. Шкада новага шынеля".

Вось гэта паглыбленае пранікненне аўтара ў псіхалагічныя адчуванні свайго героя робяць Саньку больш пераканальным і даюць магчымасць чытачу глыбей успрыняць шлях яго перавыхавання.

Аднак, мы тут павінны адносна Санькі як мастацкага вобраза, адносна яго паўнаты сказаць, што ўсётакі не гледзячы на правільны адпраўны пункт паказу, аўтар свайго героя падаў нам у недастаткова яркай паўнаце. Не хапае ў вобразе Санькі адпаведнай дынамікі, жывасці, уласцівай такому ўзросту, як Санька. У руху Санькі і навакольных яго падзеях адчуваецца залішняя павольнасць. Дзеянні Санькі з аднаго збоку зусім характэрныя і жыццёвыя, а з другога боку здаюцца нібы звычайнымі, нібы вядомымі. Санька, як асноўны вобраз, недастаткова прыкоўвае да сябе ўвагу чытача, не вядзе чытача ўслед за сабой, а неяк пакідае яго ў якасці наглядальніка, з чаканнем: што будзе з Санькам.

Аповесць напісана лёгкай, з улікам свайго чытача, мовай. Кароткія і яркія сказы, выразныя эпітэты і метафары даюць чытачу магчымасць успрымаць кожную дэталь аповесці. Гэта вельмі каштоўна для дзіцячай літаратуры.

Вельмі важна для данай аповесці з'яўляецца своеасаблівы так-званы гумарыстычны падтэкст. Кожная падзея і з'ява ў данай аповесці Каваля афарбаваны, ажыўлены лёгкім гумарам, які непрыметна прасвечваецца праз спакойны стыль аповесці. Гэта для дзіцячай літаратуры з'яўляецца асабліва важным і ў гэтым сэнсе аповесць „Санька сігналіст" мае перавагу перад многімі нашымі кнігамі напісаныя для дзетвары.

*С. Куніцкі*

## ХРОНІКА

### Дыскусія па пытаннях барацьбы з фармалізмам і натуралізмам у літаратуры.

* 6 дзён у Доме пісьменніка працягвалася абгаварэнне артыкулаў „Праўды" па пытаннях барацьбы з фармалізмам і натуралізмам у мастацтве. Ва ўступнай прамове тав. *Клімковіч* зазначыў на значнае спазненне беларускай пісьменніцкай арганізацыі ў справе абгаварэння гэтых артыкулаў. У некаторых літаратараў нават была думка, што „ў беларускай літаратуры няма небяспекі фармалізма, што гэтая праблема не актуальна для беларускай літаратуры"...

„А для беларускай літаратуры—гаворыць тав. Клімковіч,—небяспека фармалізма нават больш рэальна. чым для часткі другіх літаратур, бо фармалізм у беларускай літаратуры пераплятаўся з нацыяналізмам і фармалістычная школка з „Узвышша" з'яўлялася адначасова рассаднікам самага заядлага нацыяналізма. Мы не можам забыцца, што за фармалістычнымі выкрутасамі вельмі часта хаваліся акрэсленыя класава-варожыя мары, жаданні і надзеі нацыяналістаў, што самыя фармалістычныя выкрутасы рабіліся своеасаблівым шыфрам для збірання нацыяналістычных аднадумцаў у літаратуры.

Мы не можам таксама не бачыць, што за фармалістычныя выкрутасы хаваецца часамі не толькі бездэйнасць, але і адсутнасць таленту ў чалавека, адсутнасць ведання рэчаіснасці, адсутнасць сапраўднай сувязі э рабочым класам, з калгаснікамі, з жыццём краіны. За гэтымі-ж выкрутасамі хаваецца часамі і манернічанне, арыгінальнічанне, эпігонства ў дачыненні да раней вядомых фармалістаў, трукацтва, якое азначае або нізкую культуру аўтара, або неахайныя, зняважлівыя адносіны да чытача".

Тав. Клімковіч зазначыў і на рэалную небяспеку натуралістычнага падыходу да рэчаіснасці, на зазнайства, адсутнасць сапраўднай вучобы, сапраўднай работы над павышэннем свайго палітычнага і агульнага развіцця ў рада пісьменнікаў.

Даклад тав. *Браніштэйна*, зроблены на першым сходзе, был у большай сваёй частцы прысвечаны крытыцы прынцыпаў фармалістычнай школы.

* Тав. Лынькоў, выступіўшы пасля даклада т. Бранштэйна, паказаў на моцныя ўплывы фармалізма ў творчасці У. Хадыкі, Я. Скрыгана Некаторыя вершы Хадыкі трэба чытаць некалькі разоў, пакуль дойдзеш да таго, што хацеў сказаць аўтар. Апошні раман Цішкі Гартнага „Перагуды" абцяжараны натуралістычным апісальніцтвам. Разам з гэтым т. Лынькоў значную ўвагу аддаў крытыцы недахопаў у сваёй творчасці. Раман на „Чырвоных лядах" мае багата зрываў натуралістычнага парадку, прымітывізма.

* —У звязку з артыкуламі ў „Праўдзе" і з падрыхтоўкаю да гэтага сходу ў нас былі гутаркі пра тое, што ці варта гаварыць пра фармалізм у беларускай літаратуры, паколькі ў нас яго не было. Падобныя думкі цалкам няправільныя.—так пачаў сваю прамову *Пятро Глебка*.—Для мяне фармалістычвая тая рэч, якая пазбаўлена ідэйнасці, якая не мае ў сабе думкі, у якой аутар галоўную ўвагу канцэнтруе не на змесце, а па знешняй форме, альбо за блытанаю формаю хавае варожы змест. Людзі, не ведаючы, што сказаць, заменьвалі ідэйную глыбіню знешнім фармалістычным штукарствам.

Да фармалістычных твораў Пятро Глебка адносіць сваю „Героіку дзён", „Карменсіту", некаторым чынам „Эму".

Не вывучыўшы добра матэрыялу, паэт у гэтых сваіх творах абмежаваўся голымі штампаванымі фразамі.

У сваёй прамове Пятро Глебка паказаў і на фармалізм ў некаторых творах П. Броўкі, як напрыклад, „Прамова фактам“, (дзе ўся ўвага аддавалася знешнім рэчам, а не людзям, не іх пачуццям), у „Паэме імя вызвалення“ Андрэя Александровіча, у „Аманале“ Куляшова. Асабліва моцныя ўплывы фармалізма ў творчасці У. Хадыкі. Калі прачытаеш яго ўсе вершы падрад, то астаецца ўражанне нейкай аднастайнасці, бо правільных агульных палажэнняў Хадыка канкрэтным матэрыялам не можа сцвердзіць і сцвярджае іх выключна сваім унутраным лірызмам, выражаным у вельмі суб'ектывістычных вобразах, але гэтыя вобразы пазбаўлены канкрэтнасці.

Есць у нашай рабоце і другая небяспека — прымітывізм, схематызм. Гэта часта праяўляецца ў вершах Кляшторнага, Хведаровіча. У Хведаровіча ёсць і іншага парадку фармалістычныя моманты—некаторая надуманасць нерэальнасць, неканкрэтнасць вобразаў. Ёсць, напрыклад, у яго ў адным вершы такі вобраз: „Змрок паўзе, як падстрэлены тур на адной назе“. Гэта самы сапраўдны фармалістычны выкрутас.

* На другім сходзе, які адбыўся 22 сакавіка, выступілі тт. Кузьма Чорны, Змітрок Бядуля, Садоўскі, Шарапаў, Мікуліч, Скрыган, Паслядовіч, Зарэцкі, Куніцкі, Хведаровіч. Значная частка таварышоў абмежавалася крытыкай на ўдачу выхопленных з твораў мясцін.

* Тт. Мікуліч і Скрыган гаварылі аб фармалістычных баках сваёй творчасці, прыводзілі прыклады зрываў у пасобных сваіх творах. Крытыка твораў другіх таварышоў была неканкрэтнай і павярхоунай. М. Зарэцкі пабудаваў сваю прамову на агульных памылковых тэарэтычных развагах, зусім мала гаварыў пра сябе, аб праявах натуралізма і фармалізма ў сваёй творчасці ўспалучэнні з памылкамі нацыяналістычнага парадку..

* У сваім выступленні тав. Куніцкі зазначыў што многія вершы У. Хадыкі незразумелыя, неясныя па сваёй ідэі, таму і далёкія ад нашай рэчаіснасці. Хадыка не цікавіцца тым, якая ідэя выльецца з яго верша, не цікавіцца кампазіцыйнай цэльнасцю верша, а звяртае выключна ўсю сваю ўвагу і здольнасці на арыгінальную пабудову радка, на надбор арыгінальных эпітэтаў, метафар, слоўнага матэрыялу наогул.

Гаворачы аб некаторых апошніх вершах М. Хведаровіча напісаных на матэрыялах з паездкі ў Грузію, тав. Куніцкі звяртае ўвагу на слоўны сумбур, няўдала сплецены і ледзь—ледзь па агнаны пад рыфму і рытм радкі.

Хведаровіч, пішучы вершы, ча га не правярае сваіх радкоў логікай жыцця, логікай рэчаў, не звязвае іх ідэяй, а фармалістычна, штучна падганяе пад рытм і рыфму. Ён яшчэ не ўмее адбіраць характэрнага, тыповага з нашага жыцця, яшчэ не умее пранікнуць у глыбіню чалавечых пачуццяў.

* *Кузьма Чорны* ў сваёй прамове сказаў, што „справа ідзе не пра адзін толькі натуралізм, ці фармалізм, а наогул пра павышэнне якасці нашай літаратуры і пра звычайную граматнасць, пра літаратурную граматнасць.

Фармалістычныя моманты бываюць ад таго, што чалавеку няма чаго сказаць. Калісція,—кажа Кузьма Чорны.—напісаў аповесць „Вясна“ на тэму аб калектывізацыі. Тады яшчэ самі калгасы толькі пачыналі сваё існаванне, а я хацеў даць малюнак жыцця ў калгасах. І ясна—у мяне не было аб чым канкрэтна пісаць, я не меў матэрыялу, і таму, без мае добрае волі, аповесць напісана так, што у ёй ніякай літаратурнай формы няма. Есць устаўныя навелы, разважанні пра грамадзянскую вайну, пра дзяцей. Другая частка рамана „Трэцяе пакаленне“ канчаецца тым, што Несцяровіч выходзіць слухаць шум ветру. Ніхто с другіх герояў,—ні Зося, ні кравец—гэтага не робяць, ім я здолеў даць іншую, важнейшую работу. А Несцяровіч не быў мне да канца ясны, тут я не меў матэрыялу і я прымушан быў рабіць непатрэбнае апісанне прыроды, якое калі і выкінуць, не зменіць нічога ў рамане. Адна з вякіх слабасцей нашай літаратуры і публіцыстычнасць. Яе многа і ў маім рамане „Трэцяе пакаленне“.

Пісьменнік павінен больш вывучаць жыццё для того, каб у творы даць вобразы яго“.

* Крытыкуючы творчасць П. Глебкі, М. Хведаровіч фактычна паўтарыў тое, што сказаў пра сабе Глебка. Пра зрывы ў сваёй творчасці Хведаровіч амаль зусім не гаварыў, абмежаваўшыся нічога не значнымі словамі, што „і ў мяне ёсць недахопы“.

* Апошні раман Цішкі Гартнага „Перагуды“ абцяжаран натуралізмам. Грубая соцыялагічная схема, корпанне аўтара ў самых драбнюткіх, у большасці лішніх, псіхалагічных перажываннях герояў, вобразы комуністаў, якія больш гавораць і „сочаць узрокамі адзін за адным“, чым робяць,—усё гэта адмоўна адбілася, на творы. Замест абагулення—фатаграфія

замест суровага рэалістычнага паказу падзей—саладкавая рамантыка. Аб гэтым гаварыў на сходзе *М. Пасьлядовіч*.

* Барацьба з фармалізмам і натуралізмам—гэта барацьба за высока мастацкія творы, зразумелыя мільёнам працоўных. Ні ў адной другой краіне пісьменнік не карыстаецца такімі клопатамі і ўвагай з боку партыі і ўрада, як у краіне советаў. Партыя і ўрад далі пісьменніку ўсё і не далі толькі аднаго: права пісаць дрэнна. Трэба любіць літаратуру, глыбока паважаць тую масу людзей, для якой піша пісьменнік,—гаворыць у сваёй прамове народны паэт рэспублікі *Якуб Колас*.

Зазначыўшы на недахопы ў сваёй аповесці „Адшчапенец“, Якуб Колас заклікаў пісьменнікаў да уважлівай і ўдумлівай работы над кожным сказам, над кожным словам у мастацкім творы. Трэба бязлітасна выганяць усякія слоўныя выкрутасы.

* Кандрат Крапіва, паказваючы на залішнюю метафарычнасць і алегарычнасць у творчасці У. Хадыкі, падаў прыклады з вершаў Пушкіна, у якога вобразныя сродкі не засямняюць сэнсу, бо Пушкін цэлы рад з'яў назваў проста сваімі імёнамі. Вялікая бяда У. Хадыкі гэта тое, што ніводная рэч, ніводная з'ява не названа сваім уласным імем—замест іх—сімвалы і алегорыі. Часта замест мастацкага твору выходзіць рэбус, напісаны ўмоўнымі знакамі, якія зразумелы толькі аўтару ды паасобным, блізкім да аўтара, літаратарам.

Тав. Крапіва зазначыў і на тую беспрынцыповасць, якая была ў нас у галіне крытыкі.

У заключэнне тав. Крапіва паказаў на схематызм у апошнім рамане „Праз гады“ Платона Галавача, таксама на праявы натуралізма і фармалізма ў некаторых сваіх творах.

* Вялікай страстнасцю і самакрытычнасцю вызначалася прамова *А. Куляшова*. Аналізуючы паасобныя свае творы, паэму „Аманал“ і рад вершаў, тав. Куляшоў гаворыць, што „парэчкавыя рашчыны“ і іншыя мудрагельныя выразы, а таксама поза „шыбкай вучонасці“ ішла ад беспадстаўнага жадання 17-ці гадовага юнака напісаць вялікі і значны твор. Самае горшае для пачынаючага і маладога паэта гэта—адысці ад жыцця і замкнуцца ў сцэны фармалістычных пошукаў і так званага „наватарства“;

Тав. Куляшоў спыніўся на выступленнях Зарэцкага і П. Глебкі, якія слаба крытыкавалі сваю творчасць.

* *Платон Галавач* зрабіў аналіз сваіх памылак натуралістычнага парадку, таксама гаварыў пра фармалістычны прыём ва ўступе да „Спалоху на загонах“. Разам з гэтым тав. Галавач паказаў на нездаровае з'явішча, якое наглядаецца з боку некаторых пісьменнікаў. Калі каму гаворыш, што п'еса, або апавяданне слабае, дык аўтар адказвае, што н „пісаў гэта для вёскі, альбо для дзяцей“. Пісаць трэба аднолькава глыбока аднолькава добра і для вясковай сцэны для прафесійнага тэатра.

* Яўрэйскі советскі пісьменнік тав. *Кульбак* спыніўся на праявах фармалізма ў сваёй паэме „Чайльд Гарольд з Дзісны“. Тав. Кульбак прызнае фармалістычным і свой верш „Кастрычніцкі плакат“. Што-ж тычыцца крытыкі канкрэтных твораў таварышоў, дык тут тав. Кульбак абмежаваўся толькі пералікам прозвішчаў.

* Прамова тав. *Тэйфа* не вызначалася самакрытычнасцю. Гэта проста былі спрэчкі з тав. Бранштэйнам адносна таго, каго і як трэба было крытыкаваць.

* Мала гаварыў аб сваіх памылках і тав. *Кучар*. Уся яго прамова пра творы паасобных пісьменнікаў складалася з кароткіх заўваг на той ці іншы радок верша, або кароткіх вытрымак з празаічных твораў.

* Тав. *Юдэлевіч* зазначыў на шэраг непісьменных і блытаных артыкулаў (Ляпіч, Куніцкі, Модэль) пра драматургічныя творы. Многа яшчэ ў тэатральнай крытыцы пагаднасці і беспрынцыповасці.

* Тав. *Харык* выступіў з крытыкай твораў яўрэйскай советскай літаратуры, адзначыў недахопы, якія ёсць у паасобных творах пісьменнікаў.

* Тав. *Броўка* прыгадаў факты з нядаўняга мінулага літаратуры, калі, літаратурна-мастацкая комуна“, у якую ўваходзілі Гародня, Шукайла, Скрыган, Мікуліч, Казак і сам прамоўца, дамагаліся, каб у творах было як мага больш выкрутасаў, сумбуру. „Літаратурна-мастацкая кумуна“ адыграла шкодную ролю. Сляды ўплываў гэтай „комуны“ можна і цяпер бачыць у фармалістычных выкрутасах Скрыгана і Мікуліча. Яшчэ больш шкоднай была фармалістычная школка „Узвышша“. Пад выглядам фармальных шуканняў, зубры гэтай школкі Дубоўка, Пушча, Бабарэка працягвалі свае контррэволюцыйныя ідэі.

* З яркай прамовай выступіў на сходзе пісьменнікаў загадчык вытворча-транспартным аддзелам ЦК КП(б)Б тав. *Готфрыд*. Асабліва тав. Готфрыд спыніўся

на той шкодзе, якую прыносіць завельмі ранняя прафесіяналізацыя пісьменніка. Кінуўшы сваю асноўную прафесію, не накапіўшы вопыту, пісьменнік астаецца без грунту. Вялікае значэнне мае для пісьменніка сістэматычная вучоба, сувязь з жыццём. Толькі тады будуць жыць тэмы, з запасам якіх пісьменнік прыходзіць у літаратуру, толькі тады гэтыя тэмы будуць поўнакроўныя, не адстануць ад жыцця і ператворацца ў каштоўныя творы.

Тав. Готфрыд заваструў увагу пісьменнікаў і праўлення ССПБ на неабходнасць стварэння сапраўднага творчага асяроддзя і практычнай дапамогі пісьменніку ва ўсім працэсе яго творчае працы

* Тав. *Александровіч* у сваёй прамове адзначыў, што дыскусія аб праявах фармалізма і натуралізма ў літаратуры зусім правільна набыла характар барацьбы за новую вышэйшую якасць нашай мастацкай творчасці. Факт разгортвання смелай прынцыповай тазарыскай крытыкі і самакрытыкі—факт ідэйнага і мастацкага ўзмужання пісьменніка.

— Але ў нас яшчэ і многа недахопаў,— гаворыць т. Александровіч,—што перашкаджае смеламу і ўпартаму наступу наперад.

Звярнуўшы ўвагу схода на шэраг няверных палажэнняў у выступленнях некаторых таварышоў, тав. Александровіч паказаў на схематызм, які ёсць у яго „Паэме імя вызвалення“, а таксама фармалістычныя налеты на паасобных радках вершаў.

„Барацьба за прастату, за народнасць нашай літаратуры,—заканчвае тав. Александровіч,—гэта складаная і ганаровая задача. Мы стаім на шляху перамагання нашых недахопаў, на шляху росту. Мы ўсе сродкі мабілізуем на тое, каб кожны з нас хутчэй рос, даваў тую якасць, якую чакае узрослы чытач, новы чалавек, стаханавец. Наша дыскусія—гэта новы стымул для ўпартай працы. Нам трэба карэнным чынам перабудаваць сваю работу: работу кіраўніцтва саюза, рэдакцыі часопіса „Полымя рэволюцыі“, газеты „Літаратура і Мастацтва“.

У канцы сходу з вялікай заключнай прамовай выступіў тав. *Клімковіч*.

## „ДЗВЕ ПЯЦІГОДКІ“

17 красавіка ў габінеце старшыні праўлення ССПБ адбылася нарада па пытанню ўдзелу беларускіх пісьменнікаў і паэтаў у выданні юбілейных альманахаў „Дзве пяцігодкі“, прысвечаных 20-годдзю існавання совецкай улады.

У нарадзе прымалі ўдзел тт. Клімковіч, Галавач, Лынькоў, Крапіва, Аксельрод, Броўка, Глебка, Ц. Гартны, Камянецкі, Самуйлёнак, Кацовіч, Платнер, Куляшоў, Хведаровіч, Знаёмы, Кляшторны і інш.

## РЭАРГАНІЗАЦЫЯ РАБОТЫ ПРАЎЛЕННЯ ССПБ

На паседжанні прэзідыума праўлення ССПБ 20 красавіка абмяркоўваўся план рэарганізацыі работы праўлення ССПБ ў сувязі з новымі задачамі літаратуры. Прысутнічаў увесь актыў саюза совецкіх пісьменнікаў БССР. Каб палепшыць кіраўніцтва творчай работай і лепш арганізаваць канкрэтную, штодзённую дапамогу кожнаму пісьменніку ў яго творчасці, арганізованы секцыі пры праўленні ССПБ, у задачу якіх уваходзіць абмяркоўваць і консультаваць творы пісьменніка з першых крокаў работы над імі, наладжваць творчыя вечары, выхоўваць маладыя пісьменніцкія кадры, арганізоўваць масавыя літаратурныя вечары.

Арганізуюцца наступныя секцыі: крытыкаў—на чале з т. Бранштэйнам, паэтаў—з т. Александровічам, празаікаў—Лыньковым, дзіцячай літаратуры—Якімовічам (часова), ваенна-абаронай літаратуры—Галавачом, драматургіі—Гурскім, перакладчыкаў —К. Чорны, рускай—Броўкам. На чале яўрэйскай секцыі т. Харык, польскай—Кавальскі і літоўскай—Вайшнорас. У дапамогу кіраўніку паэтычнай секцыі для работы з маладымі вылучан т. Хведаровіч, па секцыі празаікаў—т. Бядуля, ваенна-абароннай — т. Шарапаў, драматургіі—т. Сташэўскі. Для арганізацыі літаратурнага руху ў раёнах зацверджана пасада адказнага інструктара праўлення ССПБ.

У сувязі з перанясеннем асноўнай творчай работы ў секцыі, зменен парадак работы прэзідыума і пленума праўлення ССПБ. Прэзідыум праўлення будзе збірацца два разы ў месяц для вырашэння бягучых пытанняў літаратурнага жыцця і тых пытанняў, якія будуць ўнесены на разгляд прэзідыума секцыямі, а пленум праўлення для абмеркавання пытанняў літаратурнай палітыкі і творчых пытанняў, будзе збірацца раз у чатыры месяцы.

Апрача секцый кансультацыю маладых літаратараў мяркуецца арганізаваць у ДВБ і пры рэдакцыях часопісаў і газет.

## ВЕЧАР ТВОРЧАСЦІ В. В. МАЯКОЎСКАГА

18 красавіка ў зале клуба Металістаў адбыўся вечар, арганізаваны саюзам совецкіх пісьменнікаў БССР і Беларускай Акадэмія Навук, прысвечаны 6-й гадавіне з дня смерці вялікага паэта соцыялістычнай эпохі Уладзіміра Уладзіміравіча Маякоўскага.

З дакладам аб творчасці паэта выступіў дарэктар інстытута літаратуры і мовы тав. Краснеўскі. Аўдыторыя ўважліва заслухала чытку твораў Маякоўскага ў перакладах паэтаў П. Броўкі і П. Глебкі, а таксама ўласныя творы паэтаў П. Глебкі, К. Крапівы і інш.

## ТЭАТРАЛІЗАВАНЫ ЛІТАРАТУРНЫ БАЛ—МАСКАРАД

17 красавіка ў Менскім Доме работнікаў асветы вучні 4-й школы імя Кірава наладзілі тэатралізаваны літаратурны бал-маскарад, прысвечаны X з'езду, ВЛКСМ. Бал-маскарад быў пабудован на паказе герояў твораў Пушкіна, Гогаля і Лермантава. Надзвычай цікава быў паказан бал у гараднічага з „Рэвізора" Гогаля.

Бал-маскарад зрабіў вялікае ўражанне. Да гэтага вечара вучні 4-й школы рыхтаваліся больш месяца пад кіраўніцтвам рэжысераў Белрадыёкамітэта Яворскага і Грахольскага.

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ.*
РЭДКАЛЕГІЯ: *А. Александровіч, Я. Браништэйн, М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў, І. Харык, К. Чорны.*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Совецкая, 68, Дом Пісьменніка. Тэлефон 25-394.**

ЗМЕСТ





